**Юрась Бушлякоў. Жывая мова.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2013. 294 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Шупа*
Мастак *Генадзь Мацур*

“Жывая мова” — калекцыя практычных эсэ пра тое, як гаварыць па-беларуску правільна і прыгожа. На працягу сваёй рэдактарскай працы на Радыё Свабода аўтар выяўляў складаныя, спрэчныя ці памылковыя моманты ў жывой мове, аналізаваў іх і даваў парады, якія склалі цыкль радыёперадачаў і ляглі ў аснову гэтай кнігі.

Фота Глеба Лабадзенкі.


FOL

ISBN 978-0-929849-62-1

# Зьмест

## БУДОВА СЛОВА

## ФОРМЫ СЛОВА

**Назоўнік**



**Лічэбнік**

**Дзеяслоў**

***Абвесны лад***



***Загадны лад***



**БУДОВА ФРАЗЫ**

## ВЫБАР СЛОВА

# Закаханы ў мову

Пісаць жывую кнігу — такое самае шчасьце, як кахаць і быць каханым.

Юрась любоўна ўдасканальваў свой тэкст да апошніх дзён жыцьця: удакладняў фармулёўкі, шукаў лепшыя прыклады, імкнуўся да празрыстасьці, лягічнасьці, нарматыўнасьці, якая дасягальная бадай толькі ў матэматыцы.

Гэтае імкненьнеператварала яго моўныя парады ў дыямэнты. Кароткія гутаркі ў этэры — як вымаўляць, дзе ставіць націск, якое слова выбраць, як будаваць фразу — пэрліны жанру пэдагагічнага эсэ: прыязныя, стрыманыя, нічога лішняга. Упэўненая ацэнка, цьвёрды філялягічны грунт, канкрэтная парада.

І — цеплыня аўтарскага дыханьня. Кожнае эсэ — як пацалунак.

“*Ці памятаем мы пра* ***дзяўчат і дзяўчатак****?*” — гэтак пачынаецца размова пра множны лік гэтых назоўнікаў, затым ідзе прызнаньне з прыхаванай усьмешкай: “*На жаль, не заўжды і ня кожны*”, і сканчаецца эсэ гэтак жа прыгожа: ***“дзяўчынка чытае часопіс для дзяўчатак, дзяўчына ідзе насустрач дзяўчатам”***.

“*У мінулым стагодзьдзі ўеліся ў беларускую мову калькаваныя формы дзеепрыметнікаў – і ніяк дасюль не зьвядуцца”,* — як пра кляшча, які ўеўся, ці яшчэ якіх крывасмокаў, піша так Юрась пра спадчыну сталінскіх рэформаў мовы і прапануе хірургічна дакладнае выйсьце: не “чакаемы” вынік, а — ***чаканы***.

*“Слова* ***апоўначы*** *ў нас любяць — і гэта добра. Трэба толькі ставіць яго на сваім месцы”*, — раіць аўтар тым, хто блытае гэтае прыслоўе часу з назоўнікам ***поўнач***. Блытае “*на жаль і на дзіва”,* трошкі паказвае свае эмоцыі аўтар. Але гэта — уся ацэначнасьць, далей стваральная частка – што, чаму, як.

***“Глядзець як вока, пільнаваць як вока сваё,”*** — нагадвае ён беларускія адпаведнікі царкоўнаславянскаму “*беречь как зеницу ока” (*замест калькі “як зрэнку вока”*).*

Як вока сваё глядзеў Юрась мову.

Бездакорна гучаў у этэры, надаючы інтэлігентную моўную абалонку сухім навінам, прадстаўляючы драматычныя рэпартажы, задаючы пытаньні суразмоўцам. Далікатна папраўляў чужыя памылкі, уважліва выслухоўваў аргумэнты апанэнтаў, не настойваў на сваёй манаполіі, але адстойваў сваё бачаньне. І, галоўнае, пісаў і гаварыў па-беларуску як жыў, як дыхаў, як кахаў.

Узаемна.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

## В[а]да, а не в[ъ / ы]да, за дом[а]м, а не за дом[ъ]м, трош[а]чкі, а ня тро[шч]кі

Што трэба ўлічваць пры вымаўленьні ненаціскных галосных? Згодна з нормамі беларускага літаратурнага вымаўленьня, галосныя не пад націскам гучаць прыкметна слабей, чымся ў націскным становішчы, але разам з тым захоўваюць сваю якасьць, сваё аблічча. Галосны не пад націскам мае заставацца гукам поўнага ўтварэньня. Іначай кажучы, пры літаратурным вымаўленьні ненаціскны галосны хоць і скарачаецца, але не пераходзіць у іншы гук.

Названая норма ў сучасным беларускім маўленьні даволі часта, аднак, парушаецца. Вядома, невыразны гук **[ъ]** на месцы **[а]** ў ненаціскных складох можа выдаваць чалавека з паўночна-ўсходняе Беларусі — для тамтэйшых гаворак характэрна значнае скарачэньне галосных не пад націскам, аж да зьмены імі свайго аблічча. І ўсё ж асноўная прычына адступленьняў ад нормы — гэта працяглы ўплыў расійскага літаратурнага вымаўленьня, якое характарызуецца рэдукцыяй (аслабленьнем, скарачэньнем) галосных **[о]**, **[э]**, **[а]** у другім, трэцім і іншых пераднаціскных складох, а таксама ў складох пасьля націску (напр., *м**[ъ]**локо*, *можн**[ъ]***, *выск**[ъ]**з**[ъ]**ть*).

Сьвядома і несьвядома расійскаму вымаўленьню ў нас насьледуюць, яго капіююць і — як вынік — пачынаюць глытаць цэлыя склады, абсякаць словы. Глытаньне галосных — нярэдкая, на жаль, зьява ў мове сучасных электронных мэдыяў Беларусі. Штодня і з розных беларускамоўных эфіраў чуем настолькі моцнае скарачэньне галосных, пры

якім ненаціскнога **[а]** папросту не застаецца — ён выпадае. Такога выпаданьня гуку ні ў якім разе нельга дапускаць: па-беларуску гаворым *ты**[с'а]**ча* (ня *ты[шч]а*), *дзе**[с'а]**ць* (ня *дзе[с']ць*), *тро**[шач]**кі* (ня *тро[шч]кі*), *кры**[шач]**ку* (ня *кры[шч]ку*) і г. д. У формах імёнаў па бацьку ўсе гукі таксама павінны быць захаваныя: *Іванаўна* (не *Іва[н:]а*), *Васілевіч* (не *Васіліч*), *Канстанцінаўна* (не *Канстанці[н:]а*).

Трэба старацца, каб ненаціскныя галосныя ў нашым мауленьні ня траціліся, гучалі ў цэлым выразна, захоўвалі сваю якасьць.

## [в’а]сна, [н’а] быў, [б’а]з шуму, [л’э$^{а}$]туценьне, во[с’э$^{а}$]нь

Факты нашага штодзённага маўленьня змушаюць да рэгулярнага напаміну пра два ненаціскныя галосныя ў пазыцыі пасьля мяккіх зычных — гук **[а]** і гук **[э$^{а}$]** (**[э]** з адценьнем **[а]**).

Пры літаратурным вымаўленьні ў першым складзе перад націскам пасьля мяккага зычнага маем выразны, добра праяўлены гук **[а]**: ***[в’а]***_сна_, ***[в’а]***_сельле_, ***[в’а]***_лікі_, ***[н’а]***_ма_, ***[дз’а]***_вяты_. Такі самы выразны гук **[а]** абавязковы і ў часьцінцы **не**, і ў прыназоўніку **без**, калі яны стаяць у першым складзе перад націскам: ***[н’а]*** _быў_, ***[н’а]*** _бачыў_, ***[н’а]*** _трэба_, ***[б’а]***_з зброі_, ***[б’а]***_з нашых_, ***[б’а]***_з шуму_.

Зьвяртаю ўвагу на гэтыя прапісныя ісьціны, каб яшчэ раз перасьцерагчы ад ненарматыўнага вымаўленьня. На месцы **[а]** нельга дапускаць гуку **[і]**: ні ў якім разе не *[в’і]сна*, *[н’і] быў* — толькі ***[в’а]***_сна_ і ***[н’а]*** _быў_. Дарэчы, у беларускай мове ёсьць пары словаў, якія адрозьніваюцца якраз галоснымі **[і]** ды **[а]** у першым пераднаціскным складзе: напрыклад, *вішчаць* і *вяшчаць*, *лічыць* і *лячыць*, *паліваць* і *паляваць*.

У другім і іншых пераднаціскных складох, а таксама ў складох пасьля націску літара **е** перадае гук **[э]**, у большай або меншай ступені набліжаны да **[а]**: ***[в’э$^{а}$]***_снавы_, ***[л’э$^{а}$]***_туценьне_, _во_***[с’э$^{а}$]***_нь_, _у ле_***[с’э$^{а}$]**, _чыта_***[йэ$^{а}$]***_ем_, _напера_***[дз’э$^{а}$]***. І-падобны гук на месцы **[э$^{а}$]** у гэтых пазыцыях таксама недапушчальны: вымаўленьне накшталт *[в’і]снавы*, *во[с’і]нь* нелітаратурнае.

## Кра[йі]на, [йі]сны, [Йі]ўе, перад [йі]мі

Літара **і** вельмі часта абазначае на пісьме не адзін, а два гукі: **[і]** плюс **[й]** (ёт). Рэч у тым, што для нашай мовы зьбег галосных у межах адной марфэмы — адной структурнай часткі слова — не характэрны. Такі зьбег (іначай — зеўраньне) галосных, як правіла, разьбіваецца ётам.

У сярэдзіне слова **[й]** разьвіваецца пасьля ўсякага галоснага перад **[і]**: *кра**[йі]**іна* (перад **[і]** тут абавязкова **[й]** — не *кра**[і]**на* вымаўляем, а *кра**[йі]**на*), *га**[йі]***, *ру**[йі]**на*, *хаке**[йі]**ст*, *тва**[йі]**х*, *за**[йі]**нець* і г.д.

Узьнікае ёт таксама на пачатку слова перад націскным — акцэнтую на гэтым увагу — **[і]**: ***[йі]**ней*, ***[йі]**ншы*, ***[йі]**рад*, ***[йі]**сны*, ***[йі]**ўе* (*Іўе*), ***[йі]**ндыя* (*Індыя*). У такіх выпадках заўсёды памятайма, што вымаўляем ня так, як напісана: канечне трэба прыкрываць ётам націскны **[і]**.

Ведаючы пра ёт на пачатку слова, мы не памылімся пры вымаўленьні гукаў на слоўным стыку. Ёт зьмякчае папярэдні зычны — значыць, па-беларуску скажам: ***[з'йі]**мі* (*зь імі*), ***[з'йі]**раю* (*зь Іраю*), ***[з'йі]**ншымі* (*зь іншымі*). Але ў тым разе, калі пачатковы **[і]** не знаходзіцца пад націскам, ётацыі ня будзе. Гаворым: ***[і]**голка*, ***[і]**ван*, *сустрэліся **[зы]**ванам*, *вярнуліся **[зы]**нстытуту*, *сядзелі **[зы]**нструкцыяй*.

## Мац[і-й] бацька, зьбяру[с’а-й] паеду, ё[н-ы]шоў, сьця[х-і] герб

Наступны прыпамін — пра тое, як вымаўляецца літара **і** пасьля слова на галосны і слова на зычны. Гаворка тут, натуральна, пра маўленьне без выразных паўзаў, маўленьне, пры якім мы не аддзяляем спэцыяльна паўзамі аднаго слова ад другога.

У жывой моўнай плыні ненаціскны гук **[і]** пасьля слова на галосны пераходзіць у **[й]**: *іголка*, але *ўзялі **[й]**голку*, *Іван*, але *прыйшлі **[па-й]**вана*. Дапускаецца тут і вымаўленьне зь ётам перад **[і]**: *узялі **[йі]**голку*, *прыйшлі **[па-йі]**вана*.

Вымаўляем таксама: *мац**[і-й]** бацька*, *зьбяру**[с’а-й]** паеду*, *ян**[а-й]** ня бачыла*, *м**[ы-й]** ня чулі* — пасьля слова на галосны ў ёт ператвараюцца злучнік ды часьцінка **і** (адлюстраваньне такога пераходу на пісьме характэрнае перш за ўсё для тэкстаў клясычнай правапіснай традыцыі: *мацi **й** бацька*, *зьбяруся **й** паеду*, *яна **й** ня бачыла*, *мы **й** ня чулі*).

Гук **[і]** зьмяняецца й пасьля бальшыні цьвёрдых зычных — супадае з гукам **[ы]**: *сы**[н-ы]** дачка* (*сын і дачка*), *на**[ш-ы]**нстытут* (*наш інстытут*), *ё**[н-ы]**шоў* (*ён ішоў*). І толькі пасьля словаў на зычныя **[к]** і **[х]** гук **[і]** не зьмяняе свайго характару: *сьця**[х-і]** герб* (*сьцяг і герб*), *слы**[х-і]** зрок* (*слых і зрок*), *Полаца**[к-і]** Віцебск* (*Полацак і Віцебск*).

Выходзіць, што ў залежнасьці ад пазыцыі літара **і** перадае на пісьме, апрача гуку **[і]**, спалучэньне **[і]** зь ётам, проста адзін ёт, а таксама гук **[ы]**.

## Іён, Іянічныя астравы; радыё, трыё, Антарыё, Рыё-дэ-Жанэйра

У шматтомным “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” знаходзім пазычаньні *рад**ыё*** і *тр**ыо*** — на канцы першага літара **ё**, на канцы другога — **о**. Іначай кажучы, у адным слове спалучэньне галосных падзеленае зычным гукам — ётам (**[й]**), пра што й сьведчыць **ё** на пісьме, у другім — не падзеленае. Чаму тое самае іншамоўнае гукавое спалучэньне **іо** мае ў названых словах рознае афармленьне? І ці ёсьць на такое рознае афармленьне ўнутрымоўныя прычыны?

Такіх прычын няма. Паўтаруся: для нашай мовы зьбег галосных у межах адной структурнай часткі слова — марфэмы — не характэрны. Пры беларускай адаптацыі слова такое зеўраньне зазвычай разьбіваецца ётам: у выніку на месцы, напрыклад, іншамоўнага спалучэньня **іо** выступаюць ня два, а тры гукі — паміж галоснымі разьвіваецца зычны **[й]**: *аўкц**[ыйо]**н*, *гранд**[ыйо]**зны*, *б**[ійа]**графія*, *пр**[ыйа]**рытэт* і г. д.

Упарадкавальнікі літаратурнай мовы ў першай палове мінулага стагодзьдзя не рабілі ніякіх выняткаў з правіла: незалежна ад пазыцыі іншамоўнага спалучэньня ў слове — на пачатку яно, у сярэдзіне ці на канцы — праводзілі ётацыю. У “Руска-беларускім слоўніку” 1953 г. пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі знаходзім заканамерныя формы ***іё**н, **ія**нізацыя, **ія**нійскі, **Ія**нічныя астравы, адаж**ыё**, сальфедж**ыё**, тр**ыё**.*

Чаму ж тады *тр**ыо*** ў пазьнейшых акадэмічных слоўніках? Прычына — у “Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” 1959 г. — адтуль ідуць

выняткі ў выпадках, калі спалучэньне **іо** стаіць на пачатку і ў канцы слова. З тых назоўнікаў, у якіх іншамоўнае спалучэньне **іо** канцавое, толькі слова *рад***ыё** захавала ў савецкім правапісным стандарце сваё натуральнае беларускае аблічча — бязь зеўраньня галосных. Тым часам у несавецкім, эміграцыйным моўна-правапісным стандарце выключэньняў не было: усё аднастайна — ***іё****н*, *стад***ыё***н*, *тр***ыё**, *Антар***ыё**.

У 1990-я гг., ідучы пры перадаваньні спалучэньняў галосных у пазычаньнях за моўнымі законамі, карыстальнікі беларускай мовы ў мэтраполіі — Беларусі — усё часьцей пачалі адступацца ад нормаў савецкага правапіснага зводу — афармляць з устаўным ётам спалучэньне **іо** незалежна ад яго пазыцыі ў іншамоўным слове: ***іё****н*, ***Ія****нічнае мора*, *рад***ыё**, *рац***ыё**, *тр***ыё**, *Антон***іё**, ***Рыё****-дэ-Жанэйра*. Канец канцоў такі падыход здабыў падтрымку й прадстаўнікоў афіцыйнага мовазнаўства — у рыхтаванай імі больш за дзесяцігодзьдзе новай рэдакцыі артаграфічнага зводу былі зьнятыя асноўныя выняткі з правіла перадачы спалучэньня **іо** ў пазычаньнях. На жаль, на заключным этапе рэдагаваньня гэтага зводу верх узялі іншы густ і менш сыстэмныя ўяўленьні — новая рабочая група зноў нармалізавала ў афіцыйным стандарце зьбег галосных, увёўшы заразом аканьне ў канцы слова: ***іо****н*, ***Іа****нічнае мора*, *тр***ыа**, *Ток***іа**.

Вынікам такога кроку застаецца працяг канкурэнцыі формаў. На гэтым раздарожжы мы робім выбар паміж непасьлядоўным, ускладненым выняткамі асваеньнем і сыстэмным падыходам асьвечанай аўтарытэтамі моўнай традыцыі.

## У агні — [увагн’і], у Адама — [увадама]; у органах — [уворганах], у Омску — [увомску]

Нярэдка, ідучы за напісаньнямі, чытаючы і вымаўляючы палітарна, забываюцца ў нас на прыстаўны гук **[в]** у спалучэньнях прыназоўніка **у** з наступным словам, якое пачынаецца з гукаў **[а]** або **[о]**. Бярэм, да прыкладу, колькі словаў на **а-**: *агонь*, *адзеньне*, *асоба*, *Амэрыка*. Калі гэтыя словы стаяць у форме меснага склону пасьля прыназоўніка **у**, тады перад гукам **[а]** абавязкова павінен разьвіцца прыстаўны зычны: *[у**в**агн’і]*, *[у**в**адзен’:і]*, *[у**в**асоб’э*$^{а}$*]*, *[у**в**амэрыцы]*. Тое самае адбываецца, калі на пачатку слова за прыназоўнікам **у** — гук **[о]** (такіх словаў у нас няшмат, і, з малымі выняткамі, гэта пазычаньні). Гаворым: *орган* — але *[у**в**органах]*, *ордэн* — *[у**в**ордэнах]*, *Омск* — *[у**в**омску]*, *Осака* — *[у**в**осацы]* і г. д.

Прыстаўны **[в]** у паказанай тут пазыцыі прадухіляе зьбег галосных. Варта прыпомніць, што напісаньне літары **в** перад **а** наступнага за прыназоўнікам **у** слова было ў XX ст. нормаю клясычнага (дарэформавага) беларускага правапісу. Згодна з вымаўленьнем — *у **в**агні*, *у **в**асобе* — пачалі пісаць у міжваеннай Заходняй Беларусі (ініцыяваў перадачу на пісьме прыстаўнога **[в]** пасьля прыназоўніка **у** Янка Станкевіч). У постсавецкай Беларусі такія напісаньні не прыняліся: няма сёньня тэндэнцыі на іх нармалізацыю ці хаця б проста пашырэньне. Але нам канечне трэба ў гэтым выпадку памятаць аб прыстаўным гуку **[в]** — не ігнараваць яго ў сваім маўленьні: *убачылі [ў**в**акн’э]*, *сустрэліся [ў**в**англ’ійі]*, *па акуляры [ў**в**оптыку]*, *працуе [ў**в**органах]*.

## Выбухны [ґ] у беларускім маўленьні

У лісьце на “Свабоду” слухач Яўген Крыкун задаў пытаньне пра ўжываньне выбухнога гуку **[ґ]** у беларускім маўленьні. Як, прытрымліваючыся літаратурнае нормы, трэба вымаўляць: *маз[г’]і* ці *маз[ґ’]і*, *[г]анак* ці *[ґ]анак*? На што можна арыентавацца пры вымаўленьні? Ці шмат у нас уласнабеларускіх словаў з выбухным **[ґ]**? Ці выпадае кожнае этымалягічнае **[g]** у пазычаньнях перадаваць праз выбухны **[ґ]**?

Найперш заўважу, што ўва ўласнабеларускіх словах выбухныя гукі **[ґ]** і **[ґ’]** вымаўляюцца ў каранёвых спалучэньнях **[зґ]**, **[зґ’]**, **[дзґ]** і **[джґ]**: *абрыз[ґ]лы*, *браз[ґ]аць*, *маз[ґ’]і*, *роз[ґ’]і*, *вэдз[ґ]аць*, *дж[ґ]аць* і інш. У непазычанай лексыцы **[ґ]** і **[ґ’]** здараюцца і ў іншых пазыцыях (напрыклад, *[ґ]уз*, *ня[ґ’]е[ґ]лы*).

Ёсьць таксама група пазычаньняў (гэта прынамсі колькі дзясяткаў словаў), у якіх ужываньне выбухных **[ґ]** і **[ґ’]** носіць традыцыйны характар. Пералічу найбольш частотныя з такіх пазычаньняў: *а[ґ]рэст*, *[ґ]аза*, *[ґ]анак*, *[ґ]арсэт*, *[ґ]валт*, *[ґ’]ільза*, *[ґ’]іпс*, *[ґ]онта*, *[ґ]узік*, *джы[ґ’]іт*, *смара[ґ]д*, *цу[ґ]лі*, *цэ[ґ]ла*, *шва[ґ’]ер*, *шва[ґ’]ерка*.

Улічвайма, што выбухныя гукі захоўваюцца і ў вытворных словах: скажам, раз *маз[ґ’]і*, то й *маз[ґ]авы*, *абмаз[ґ]аваць*, як *[ґ]аза*, так і *[ґ]азьніца*, як *[ґ]валт*, так і *[ґ]валтоўны*, *[ґ]валтаўнік* і г. д.

У сваім лісьце сп. Крыкун піша, што стараецца вымаўляць **[ґ]** пасьлядоўна ў словах іншамоўнага паходжаньня, ды ілюструе гэта, напрыклад, словам *пра[ґ]рама*. Беручы пад увагу, што пераважная бальшыня агульнаўжывальных пазычаньняў тры-

вала замацавалася ў літаратурным вымаўленьні з тыповым беларускім шчылінным **[г]**, вымаўленчы варыянт *пра**[ґ]**рама* наўрад ці можна прызнаць за апраўданы і пэрспэктыўны.

Іншая сытуацыя з уласнымі назовамі, якія маюць неславянскую лексычную аснову: тут ёсьць падставы шырэй дапускаць захаваньне этымалягічнага выбухнога **[g]**. Іначай кажучы, калі мы ставім за мэту больш карэктную перадачу ўласных назоваў, ня варта кваліфікаваць вымаўленьня ў іх выбухнога **[ґ]** як парушэньня артаэпічнай нормы: да прыкладу, ***[г]**арыбальдзі* і ***[ґ]**арыбальдзі*, ***[г]**лаз**[г]**а* і *[ґ]лаз[ґ]а*, ***[г]**рым* і ***[ґ]**рым*, ***[г]**рынвіч* і ***[ґ]**рынвіч*, ***[г]**элап* і ***[ґ]**элап*.

## Ва[дж]у, ха[дж]у, [дж]ала, [дж]аз, [дж]ынсы

Калі літары **д** і **ж** не стаяць на стыку прыстаўкі і кораня, яны абазначаюць на пісьме адзін гук **[дж]**. Ён складаецца з двух зьлітых у адно цэлае элемэнтаў — выбухнога і шчыліннага, прычым шчылінны элемэнт тут вельмі кароткі. Гук **[дж]** — звонкі, у пары зь ім глухі **[ч]**.

Як пісаў у зводзе правілаў літаратурнага вымаўленьня Фёдар Янкоўскі, *“вымавіць **[ч]** з голасам — значыць атрымаць афрыкату **[дж]**”*. (*Афрыката* — тэрмін лацінскага паходжаньня; у нашай мове шэсьць змычна-шчылінных гукаў, або, іначай, афрыкат: **[дз’]**, **[дз]**, **[дж]**, **[ц’]**, **[ц]**, **[ч]**.)

***Дж**ала*, *ура**дж**ай*, *нала**дж**ваць*, *ва**дж**у*, *гля**дж**у* — заўсёды памятаем, што спалучэньне літар **дж** у такіх словах перадае адзін гук. Няможна, ідучы за напісаньнямі, вымаўляць на месцы змычна-шчыліннага **[дж]** двух гукаў, нельга таксама “зацягваць” **[дж]**, бо тады атрымаем спалучэньне **[дж]** з гукам **[ж]**.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на пазычаньні — і ў іх трэба вымаўляць **[дж]**, не пераносіць двухгукавога расійскага вымаўленьня. Гаворым карэктна па-беларуску: ***[дж]**аз*, ***[дж]**унглі*, ***[дж]**ыгіт*, ***[дж]**ын*, ***[дж]**ынсы*, ***[дж]**ып*, *Азэрбай**[дж]**ан*.

Гук **[дж]** рэгулярна выступае ў дзеясловах і аддзеяслоўных назоўніках — не забываймася на гэта. На месцы **[дж]** не павінна быць гуку **[ж]**: не *агле[ж]у*, *нала[ж]у*, *зацьвер[ж]аньне*, а *агле**[дж]**у*, *нала**[дж]**у*, *зацьвер**[дж]**аньне*. Прыпомню яшчэ, што ў нашай мове ёсьць выпадкі, калі **[дж]**, проціпастаўляючыся іншым гукам, служыць на адрозьненьне словаў: напрыклад, ***важу*** (ад *вазіць*) і ***ваджу*** (ад *вадзіць*), ***жала*** (ад *жаць*) і ***джала*** (назоўнік).

## Про[з’]вішча, [с’]нег, [дз’]веры, [ц’]вік

*Сьнег*, *прозьвішча*, *цьвік*, *дзьверы* — у гэтых беларускіх словах гучаць мяккія, крыху з адценьнем шапялявасьці гукі. Падкрэсьлена мяккія **[з’]**, **[с’]**, **[дз’]**, **[ц’]** — яскравая рыса гукавой сыстэмы нашае мовы.

Пры карэктным беларускім вымаўленьні зычныя абавязкова прыкметна памякчаюцца перад наступнымі мяккімі гукамі: *ба**[з’’]**людзьдзе*, *ла**[з’’]**ня*, ***[з’’н’]**інаю*, *пе**[с’’]**ня*, ***[с’’]**лёзы*, *бе**[с’’ц’’]**ябе*, ***[дз’’]**ве*, *мя**[дз’’]**ведзь*, *ба**[ц’’]**віньне*, *дран**[ц’’]**вець*, ***[ц’’]**вяліць* і г. д. (каб выразьней адлюстраваць зьяву, скарыстоўваю ў транскрыпцыі два знакі памякчэньня).

Як вядома, савецкая моўная рэформа 1933 году касавала перадачу на пісьме асыміляцыйнай мяккасьці сьвісьцячых гукаў. Шмат хто ў нас цяпер вымаўляе па літарах, як напісана згодна з афіцыйным стандартам, амаль не памякчаючы зычных. Ясна, што напісаньне мяккага знака паміж мяккімі зычнымі акцэнтуе ўвагу на мяккасьці і, як вынік, дапамагае стабілізаваць вымаўленьне.

З правіла памякчэньня зычных пад уплывам суседніх зь імі мяккіх гукаў ёсьць, вядома, выняткі. Трэба найперш памятаць, што пры літаратурным вымаўленьні гукі **[з]** і **[с]** не зьмякчаюцца перад мяккімі заднеязычнымі — **[г’]**, **[к’]** і **[х’]**: ***[з]**гінуць*, ***[с]**кінуць*, ***[с]**хітраваць*. Не памякчаюцца, натуральна ж, перад мяккімі й гукі **[д]** і **[т]** прыставак або прыназоўнікаў: *па**[д]**бегчы*, *па**[д]**весьці*, *па**[т]**пісаць*, *па**[т]** Пінскам*. Таксама, згодна з агульнапрынятым цяпер вымаўленьнем, гук **[т]** не зьмяняецца на мяккі ў формах назоўнікаў на **-тва** і **-тво**: *у Лі**тв**е*, *на бры**тв**е*, *у грамадз**тв**е*, *пры таварыс**тв**е* (формы

*у Лі**цьв**е*, *тавары**сьцьв**е* ня сталі нарматыўнымі ў літаратурнай мове, хоць у XX ст. паасобныя нарматворцы рабілі для гэтага захады — папулярызавалі такія формы).

І яшчэ адна пазыцыя, якая з прычыны вымаўленчай варыянтнасьці вымагае асобнага разгляду: сьвісьцячыя перад мяккімі губнымі **[б’]**, **[п’]** і **[м’]** на канцы асновы. *На пры**[з]**бе* ці *на пры**[з’’]**бе*, *на вы**[с]**пе* або *на вы**[с’’]**пе*, *у па**[с]**ме валасоў* або *ў па**[с’’]**ме*, *у аргані**[з]**ме* ці *аргані**[з’’]**ме* — цьвёрда ці мякка? Перавага тут за мяккім варыянтам — ён сыстэмна апраўданы. Трэба аднолькава памякчаць сьвісьцячыя перад мяккімі губнымі незалежна ад месца гэтых сьвісьцячых — ці яны на пачатку, ці ў канцы слова: *на пры**[з’’б’]**е*, як *па**[з’’б’]**егчы*, *на вы**[с’’п’]**е*, як *по**[с’’п’]**ех*, *у па**[с’’м’]**е*, як ***[с’’м’]**елы*, *у аргані**[з’’м’]**е*, як ***[з’’м’]**ена.*

## Нясьві[с]кі, зьбірае[сʼ:]я, на рэ[ц:]ы, праба[цʼ:]е / праба[чцʼ]е

Сярод адступленьняў ад артаэпічных нормаў ня рэдкія тыя, што вынікаюць з палітарнага трактаваньня спалучэньняў шыпячага гуку зь сьвісьцячым.

Згодна з нормамі літаратурнага вымаўленьня, папярэдні шыпячы мае прыпадабняцца да наступнага сьвісьцячага. Па-беларуску трэба гаварыць: *латы**[с]**кі*, *нясьві**[с]**кі*, *чэ**[с]**кі*, таксама, як гаворым, напрыклад, *тавары**[с]**кі*. Савецкая рэформа беларускай мовы ўвяла ў 1933 г. нефанэтычныя напісаньні геаграфічных і этнічных найменьняў. У выніку раз-пораз, ідучы за напісаньнямі паводле афіцыйнага правапісу (*латышскі*, *нясвіжскі*, *чэшскі* і г. д.), робяць у нас памылкі ў вымаўленьні. Вымаўляюць: *ры[шс]кі* або *сура[шс]кі*. Такога зьбегу зычных нельга дапускаць. Гэты зьбег павінен нэўтралізавацца, зьнікнуць, на стыку кораня і суфікса застаецца толькі адзін гук **[с]**: скажам, *белаве**[с]**кі*, *вол**[с]**кі*, *пары**[с]**кі*, *пецярбур**[с]**кі*, *сура**[с]**кі*.

Падоўжаны мяккі **[сʼ:]** абавязкова павінен выступаць пры вымаўленьні дзеясловаў у форме другой асобы адзіночнага ліку: *ты зьбірае**сься***, *пытае**сься***, *рыхтуе**сься***. Дарма што напісаньне **-сся** (**-сься**, **-ssia**) у такіх словаформах практыкавалася ў беларускіх тэкстах яшчэ ў XIX стагодзьдзі, нарматыўным у пару кадыфікацыі новай беларускай артаграфіі яно ня стала. Да 1990-х дзеяслоўныя формы другой асобы амаль выключна пісаліся праз **шс**, не фанэтычна, ня так, як гучыць. Пісаць *зьбірае**сься*** і *пытае**сься*** фанэтычна прапаноўваў у сярэдзіне 1920-х Язэп Лёсік — прапановы не прынялі. Зь

лёгкай рукі Вінцука Вячоркі згаданыя фанэтычныя напісаньні пашырыліся ў 1990-х у бальшыні выданьняў, якія прытрымліваюцца несавецкага беларускага правапісу. У кожным разе, як бы мы ні пісалі, заўжды вымаўляем мяккі падоўжаны **[с':]**: *вучы**[с':]**я*, *гадуе**[с':]**я*, *клапоці**[с':]**я*.

Далей — пра іншыя выпадкі прыпадабненьня шыпячага гуку да сьвісьцячага. Пісьмовае спалучэньне **чц**, у якім **ц** абазначае цьвёрды гук, вымаўляецца па-беларуску як падоўжаны зацьвярдзелы **[ц:]**: *бавіліся на рэ**[ц:]**ы*, *езьдзілі там на лода**[ц:]**ы*, *хадзілі па клада**[ц:]**ы*.

На месцы пісьмовых спалучэньняў **жц** і **шц**, дзе за літараю **ц** таксама стаіць цьвёрды гук, вымаўляем зычныя **[сц]**: *спаткаліся на даро**[сц]**ы* (*дарожцы*), *рашчынілі муку ў дзе**[сц]**ы* (*дзежцы*), *узялі па пля**[сц]**ы* (*пляшцы*). Трэба, праўда, дадаць, што ў гэтым выпадку акадэмічнае савецкае мовазнаўства санкцыянавала адступленьне ад асыміляцыі шыпячага — у сваіх публікацыях Аляксандар Падлужны і яго наступнікі рэкамэндавалі захоўваць гук **[ш]** у поўным стылі вымаўленьня, то бо пры выкарыстаньні мовы ў афіцыйных абставінах: *напісалі на до**[шц]**ы*, *пакінулі ў лы**[шц]**ы*.

У сучасным літаратурным маўленьні закон прыпадабненьня рэгулярна не рэалізуецца ў спалучэньнях **чц**, **шц** і **жц**, дзе літара **ц** перадае мяккі **[ц']**: *вы нам праба**[чц']**е*; *нарэ**[ш]**це прыйшлі*; *хлеба, калі ласка, нарэ**[ш]**це*. Тут маем дачыненьне з трывалаю традыцыяй палітарнага вымаўленьня. Пры гэтым паралельна ў моўнай прасторы назіраецца й тэндэнцыя на збольшага пасьлядоўную рэалізацыю закону прыпадабненьня ў памянёных спалучэньнях — гэты падыход абапіраецца на факты

народна-дыялектнага маўленьня і, дарэчы, не супярэчыць нормам, устаноўленым акадэмічнымі мовазнаўцамі для размоўнага стылю вымаўленьня. У такой сытуацыі формы з падоўжаным **[ц’:]** і прыпадобненым **[с’]** трэба разглядаць як сыстэмна апраўданыя вымаўленчыя варыянты, прыдатныя для культываваньня ў літаратурным маўленьні: *забясьпе**[ц’:]**е ўсім патрэбным*; *зазна**[ц’:]**е, што трэба прачытаць*; *нарэ**[с’]**це зрабіў*; *мяса ўзва**[с’]**це*; *шынкі адрэ**[с’]**це.*

## Була[чн]ы, пшані[чн]ы, ру[чн']ік, сма[чн]ы, яе[чн]ы, яе[чн']я

Рукі выціраем *ру**[шн']**ікам* ці *ру**[чн']**ікам*, гатуем *яе**[шн']**ю* ці *яе**[чн']**ю*? Як вымаўляем спалучэньне літар **чн**? Правілы беларускай артаэпіі абавязваюць нас у гэтым выпадку да нязьменнага вымаўленьня — на стыку кораня і суфікса перад гукамі **[н]** або **[н']** застаецца **[ч]**: *була**[чн]**ы*, *мало**[чн]**ы*, *пшані**[чн]**ы*, *сма**[чн]**ы*, *слане**[чн']**ік*, *суні**[чн']**ік* і г. д.

Ёсьць, аднак, словы, літаратурнае вымаўленьне якіх нельга прызнаць стабільным. Маю на ўвазе найперш памянёныя *ручнік* і *яечню*. Разьбярэм па чарзе. У дыялектнай беларускай мове пераважае форма *ру**[шн']**ік* — з гукам **[ш]** перад суфіксам. Але на пісьме ў XX ст. гэты назоўнік перадаваўся, як правіла, з захаваньнем спалучэньня літар **ч** і **н**. Устанаўляючы ў пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі нарматыўнае вымаўленьне, лінгвісты ішлі за традыцыйным напісаньнем. Такім чынам, вымаўленчая норма тут — *ру**[чн']**ік*.

*Яе**[шн']**я* ці *яе**[чн']**я*? На пісьме дамінуе форма *яечня*. Кіруючыся ёю, маем падставы прызнаць за асноўны вымаўленчы варыянт *яе**[чн']**ю* зь нязьменным **[чн']**. Зьвярну, аднак, увагу, што шэраг даведнікаў зь беларускай артаэпіі дапускае паралельна з формаю *яе**[чн']**я* варыянт *яе**[шн']**я* як другі нарматыўны (такое дапусканьне падтрымліваецца, відавочна, і фіксаваным у акадэмічных слоўніках напісаньнем *яешня*). І ўсё ж, выбіраючы паміж варыянтамі, трэба ўлічыць, што *яе**[шн']**я* з сыстэмных меркаваньняў менш апраўданая ў літаратурным ужытку: вымаўленчая норма ў прыметніку *яе**[чн]**ы* дыктуе заканамерную норму — *яе**[чн']**я*.

## Ансамб[а]ль, дуб[а]ль, жан[а]р, кад[а]р, мэт[а]р, спэктак[а]ль

Для беларускай мовы канцавыя спалучэньні двух, трох або чатырох зычных гукаў, апошні зь якіх санорны **[р]** або **[л']**, не характэрныя. Такіх нетыповых спалучэньняў мова пазбаўляецца двума спосабамі: або перад гукамі **[р]** і **[л']** узьнікае галосны **[а]** (*ансамб**[а]**ль*, *монст**[а]**р*, *тэат**[а]**р*), або словы набываюць канчатак **-а** (напрыклад, *каляндр**а***, *лотр**а***, *майстр**а***). У сучаснай літаратурнай мове пераважная бальшыня словаў з канцавымі спалучэньнямі зычных афармляецца паводле першага з названых спосабаў. Згодна з вымаўленчымі нормамі, паміж зычным / зычнымі (**[б]**, **[г]**, **[д]**, **[к]**, **[м]**, **[н]**, **[п]**, **[т]**, **[ф]**, **[кт]**, **[мб]**, **[нд]**, **[нт]**, **[ст]** ды інш.), з аднаго боку, і гукамі **[р]** або **[л']**, з другога, павінна гучаць галосная ўстаўка — кароткі **[а]**: *бінок**[а]**ль*, *дуб**[а]**ль*, *жан**[а]**р*, *зуб**[а]**р*, *кад**[а]**р*, *крэм**[а]**ль*, *літ**[а]**р*, *тыг**[а]**р*, *фільт**[а]**р*, *шыф**[а]**р*, *Аляксанд**[а]**р* і г. д. Калі пры зьмене слова або ў вытворных словах спалучэньні апынаюцца перад галосным гукам, устаўны, натуральна, зьнікае: *жан**[а]**р — у жа**[нр]**ы*, *мэт**[а]**р — сто мэ**[тр]**аў*, *фільт**[а]**р — філь**[тр]**аваць*.

Як вядома, адпаведна нормам афіцыйнага беларускага правапісу ўстаўны гук у разьбіраных тут спалучэньнях на пісьме не адлюстроўваецца. Іншы падыход рэалізаваны ў клясычным (дарэформавым) беларускім правапісе: паводле яго ўстанаўленьняў, літара **а** заўсёды мае пісацца ў спалучэньнях **-тар**, **-дар** на месцы канцавых **tr**, **dr** у пазычаньнях (напрыклад, *аркест**ар***, *монст**ар***, *скафанд**ар***, *цылінд**ар***, *цэнт**ар***; з выняткам нетрадыцыйных уласных на-

зоваў, дзе спалучэньні **tr**, **dr** пішуцца нязьменна: *Но**тр**-Дам*, *Сар**тр***).

Але як бы мы ні пісалі, якой бы правапіснай традыцыі ні прытрымліваліся, памятайма пра вымаўленьне: ні ў якім разе няможна глытаць, “зьядаць” спалучэньні ‘зычны + галосны + **[р]** або **[л’]**’. Канцавыя гукі павінны прагаворвацца выразна, незалежна ад тэмпу нашага маўленьня.

## Мале́нькі, пусьце́нькі, до́бранькі, ці́хенькі

Дзе паставіць націск — *су́хенькі* ці *сухе́нькі*, *ху́дзенькі* ці *худзе́нькі*? Якая тут норма? Ад чаго залежыць месца націску ў такіх памяншальна-ласкальных формах прыметнікаў?

Правіла ў гэтым выпадку простае: трэба зважаць на націск у прыметніку, ад якога памяншальная форма ўтвораная. Калі ў прыметніку націскны канчатак, то ў вытворнай памяншальнай форме націск будзе на суфіксальным галосным: *дараг**і́*** — *даражэ́нькі*, *залат**ы́*** — *залаце́нькі*, *мал**ы́*** — *мал**е́**нькі*, *пуст**ы́*** — *пусьц**е́**нькі*, *руд**ы́*** — *рудз**е́**нькі*. Калі ж у прыметніка націск на галосным асновы, тамсама ён застаецца і ў вытворнай форме: *в**о**стры* — *в**о**странькі*, *д**о**бры* — *д**о**бранькі*, *ках**а́**ны* — *ках**а́**ненькі*, *ц**і**хі* — *ц**і**хенькі*.

Ня маючы пэўнасьці што да націску ў тым або іншым памяншальна-ласкальным прыметніку, заўсёды зьвяраймася па слове, ад якога гэты прыметнік утвораны. У прыведзеных на пачатку тэмы словах націск падае на галосны суфікса — *сух**е́**нькі* і *худз**е́**нькі* — бо *сух**і́*** і *худ**ы́***.

## Берац(é/ё), ясьц(é/ё), несяц(é/ё)

Часам памыляюцца ў нас пры ўжываньні формаў дзеяслова. Кажуць, напрыклад: *навошта вы гэта бярэце*, *куды вы ідзеце*, *калі вы прынясеце*. У гэтых ілюстрацыях дзеясловы выкарыстоўваюцца ў значэньні цяперашняга і будучага часу. Таму патрэбная нам іншая форма — з націскам на канцы слова: *берацé* або *берацё*, *ідзяцé* або *ідзяцё*, *прынесяцé* ці *прынесяцё*.

Правільныя дзеяслоўныя формы другой асобы множнага ліку выводзіла была зь літаратурнае мовы рэформа 1933 году. І гэта пры тым, што *бярэце* і *нясеце* як формы 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу ўжываліся толькі ў шэрагу заходніх гаворак (скажам, пад Лідаю і Шчучынам), то бо на значна меншым абшары, чымся *бераце* і *берацё*, *несяце* і *несяцё*. Мяркуючы з усяго, выбар рэфарматараў у гэтым выпадку быў абумоўлены фактарам расійскае формы — бліжэйшай суаднесенасьцю, скажам, расійскага *берёте* і беларускага *бярэце*.

У 1957-м, папраўляючы некаторыя памылкі той рэформы, мовазнаўцы ў Савецкай Беларусі рэабілітавалі й формы тыпу *ідзяцé* (*ідзяцё*). Сёньня абедзьве формы — і з канцавым **-е**, і з канцавым **-ё** — нарматыўныя. Можам сказаць: і *маўчыцé*, і *маўчыцё*; і *гледзіцé*, і *гледзіцё*, і *дасьцé*, і *дасьцё*. Пры гэтым як у літаратурным маўленьні, так і на пісьме пераважаюць формы зь **-е** на канцы. Часьцей чуем: *вы везяцé*, *несяцé*, *бежыцé*.

Каб не памыліцца і ўжыць правільную форму другой асобы множнага ліку, можна арыентавацца на іншыя формы дзеяслова. *Я нясý*, *мы нясём* ці *нясéм*, *ты нясéш*, *ён нясé*, *яны нясýць* — ува ўсіх

названых формах націск на апошнім складзе. Значыць, тамсама ён застанецца і ў форме другой асобы множнага ліку: *несяц**é*** (*несяц**ё***). Гаворым па-беларуску: *што вы ясьц(**é**/**ё**)*, *п'яц(**é**/**ё**)*, *каго ведзяц(**é**/**ё**)*, *што гледзіц(**é**/**ё**)*.

## Везьці — везла, вёз; церці — церла, цёр; легчы — легла / лягла, лёг

Яна *не́сла*, а ён *нёс*; яна *трэ́сла*, а ён *трос*: разьбіраем формы прошлага часу шэрагу дзеясловаў — тыя формы, пры ўжываньні якіх дапускаюць памылкі.

Трэба зьвярнуць увагу на тое, што ў нашай мове ёсьць цэлая група дзеясловаў на **-ці** і **-чы**, кожны зь якіх у пачатковай форме — інфінітыве — мае націск на першым складзе: *ве́зьці*, *грэ́бці*, *ме́рці*, *не́сьці*, *пе́рці*, *скрэ́бці*, *трэ́сьці*, *це́рці*, *ле́гчы*, *прэ́гчы* і колькі іншых. У формах прошлага часу адзіночнага і множнага ліку гэтых дзеясловаў націск застаецца на галосным гуку кораня: *ве́зьці* — *ве́зла* і *ве́зьлі*, *скрэ́бці* — *скрэ́бла* і *скрэ́блі*, *це́рці* — *це́рла* і *це́рлі* і г.д. У выпадку дзеяслова *ле́гчы* нарматыўныя слоўнікі дапускаюць варыянтныя формы прошлага часу: *ле́гла*, *ле́глі* і *лягла́*, *ляглó*, *ляглí*.

Таксама памятайма, што мінулачасавыя формы жаночага і ніякага родаў, з аднаго боку, і мужчынскага роду, з другога, разьбіраных дзеясловаў адрозьніваюцца характарам галоснага ў корані: у формах мужчынскага роду гук **[э]** пераходзіць у **[о]**: *яна не́сла — ён нёс ([н’эсла — н’ос])*, *це́рла — цёр*, *ле́гла — лёг*. Такім самым чынам спрагаюцца й дзеясловы, вытворныя ад названых (апрача тых, што маюць прыстаўку **вы-**): *даве́зьці — давёз*, *даве́зла*, *даве́зьлі*; *паме́рці — памёр* (ні ў якім разе не *памер*!), *паме́рла*, *паме́рлі*; *растрэ́сьці — растрос*, *растрэ́сла*, *растрэ́сьлі*; *зале́гчы — залёг*, *зале́гла*, *зале́глі*, але, напрыклад, *вы́несьці — вы́нес*, *вы́несла*, *вы́несьлі*.

Не забываймася, аднак, што паказанага вышэй каранёвага чаргаваньня **[э]** — **[о]** няма пры літаратурным спражэньні дзеясловаў *б**е́**гчы* і *с**е́**кчы / сяч**ы́***, а таксама вытворных ад іх — *б**е**г*, *б**е́**гла*, *б**е́**глі*; *с**е**к*, *с**е́**кла*, *с**е́**клі*.

## Разьвіла́, разьвіло́, разьвілí; бра́ла, бра́лі

Часта чуваць у нашым маўленьні ненарматыўныя формы дзеясловаў прошлага часу: там, дзе згодна з нормаю націск павінен быць на канцы, ставяць яго ў сярэдзіне слова, і наадварот. Паспрабуем зразумець і засвоіць норму.

Канцавы націск у формах прошлага часу мае значная частка аднаскладовых дзеясловаў: *быць* — *был**á**, был**ó*** і *был**í***, *віць* — *віл**á***, *віл**ó***, *віл**í***; *даць* — *дал**á***, *дал**ó***, *дал**í***; *ліць* — *ліл**á***, *ліл**ó***, *ліл**í***. Пры спражэньні дзеясловаў, вытворных ад названых і ад аналягічных названым, націск таксама застаецца на канцы: *збыл**á*** і *збыл**í***; *разьвіл**á***, *разьвіл**ó*** і *разьвіл**í***; *дадал**á***, *дадал**ó*** і *дадал**í***; *наліл**á*** і *наліл**í***. Калі, аднак, вытворны дзеяслоў гэтае групы мае прыстаўку *вы-*, націск захаваецца на ёй: *в**ы́**была* і *в**ы́**былі*; *в**ы́**дала* і *в**ы́**далі*. З канцавым націскам ужываюцца формы дзеясловаў *пачаць* і *узяць*, а таксама бальшыні дзеясловаў на *-няць*: *заняць, падняць, прыняць* і г. д.: *узял**á***, *узял**ó***, *узял**í***; *прынял**á***, *прынял**ó***, *прынял**í***.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на дзеясловы *браць, зваць, ірваць* і *спаць*, а таксама на ўсе вытворныя ад іх. У формах прошлага часу такіх дзеясловаў націск ніколі не пераходзіць на апошні склад: *бр**á**ла* і *бр**á**лі*; *сабр**á**лася* і *сабр**á**ліся*; *назв**á**ла*, *назв**á**лі*; *уварв**á**лася*, *уварв**á**ліся*; *сп**á**ла* і *сп**á**лі*.

Названыя вышэй формы падаюць як адзіныя нарматыўныя ўсе беларускія слоўнікі. Гаворым: *мама наліл**á** малака*, *мне дал**í** кнігу*, *нас узял**í** ў вандроўку*, *яны прадал**í** машыну*, *партыя бр**á**ла ўладу*, *войскі ўварв**á**ліся ў краіну*, *журы назв**á**ла найлепшых*, *калегі сабр**á**ліся на сустрэчу*.

## Абвясьціць, завяршыць

Вынікі выбараў *абвясьц**і**лі* ці *абв**е**сьцілі* — якая зь дзьвюх ужываных у сёньняшнім маўленьні формаў нарматыўная? Вядома ж, першая.

*Абвясьц**і**лі* — форма прошлага часу ад дзеяслова *абвясьц**і**ць*. Я *абвяшч**у***, ён *абвясьц**і**ў*, яна *абвясьц**і**ла*, мы ці яны *абвясьц**і**лі* — у названых формах нарматыўны націск на трэцім складзе, таксама як і ў пачатковай форме — інфінітыве. У будучым часе, з выняткам формы першай асобы адзіночнага ліку, націск пераходзіць на другі склад: ты *абв**е**сьціш*, ён або яна *абв**е**сьціць*, мы *абв**е**сьцім*, вы *абв**е**сьціце*, а яны *абв**е**сьцяць*.

Таксама паводзіць сябе націск і ў такіх, напрыклад, дзеясловах, як *апрануць*, *вярнуць*, *дасягнуць*, *завяршыць*. Мы *завярш**ы**лі*, а ён пазьней *зав**е**ршыць*, я *вярн**у*** сёньня, а яны *в**е**рнуць* заўтра, мы *дасягн**у**лі*, а ён ці *дас**я**гне*, я *апран**у***, а ты не *апр**а**неш*. Праілюстраваныя і шматлікія аналягічныя ім дзеясловы маюць рухомы націск.

Ненарматыўныя формы тыпу *абв**е**сьціў*, *зав**е**ршылі* — ня што іншае, як вынік перанясеньня на ўсе іншыя формы (у тым ліку на інфінітыў) націску формаў будучага часу. Пры такім перанясеньні парушаецца традыцыйнае формаўжываньне дзеясловаў. Не замахваючыся на яго, скажам па-беларуску: *суд завярш**ы**ў разгляд справы*, *асуджаны палітык абвясьц**і**ў галадоўку*, *акруговыя камісіі зав**е**ршаць рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты*, *Цэнтравыбаркам абв**е**сьціць вынікі рэгістрацыі*.

## Ні да кога, ні да чога, нікому, нічому; ні ў якага, ніякаму

Як будзе па-беларуску правільна: *не зьвяртаўся ні да кагó* ці *ні да кóга*, *не пакінулі ніякíх шанцаў* або *ніякіх шанцаў*? Гаворка — пра націск у формах адмоўных займеньнікаў *ніхто*, *нішто* і *ніякі*.

Словы *ніхто* і *нішто* ў родным і давальным склонах маюць націскныя склады **ко-** і **чо-**: *нік**ó**га ня бачыў*, *ні ў к**ó**га ніч**ó**га ня браў*, *ні да к**ó**га не заходзіў*, *ні на к**ó**га не крыўдаваў*, *нік**ó**му не казаў*, *ніч**ó**му ня верыў*. Памятайма, што ў выпадках, калі займеньнік разьдзелены прыназоўнікам, месца націску ніколі не зьмяняецца: як *нік**ó**га*, так і *ні ў к**ó**га*, *ні ад к**ó**га*; як *ніч**ó**га*, так і *ні да ч**ó**га*.

І яшчэ крыху пра займеньнік *ніякі*. Гэтае слова мае заўсёдны націск на **я**: *не прычыніў ні**я́**кага клопату*, *ні**я́**кім спосабам не дапамог*, *ня меў ні**я́**кіх ілюзіяў*, *ні ў **я́**кага чалавека не спытаўся*. Ведаем таксама беларускую фразэму *безь нічога ні**я́**кага*. Можам, прыкладам, пачуць, што нехта зрабіў нешта *безь нічога ніякага* — значыць, бяз дай прычыны, раптам, неўспадзеўкі.

## Ва́цлаў ці Вацла́ў?

Як гучыць па-беларуску мужчынскае імя — *Ва́цлаў* ці *Вацла́ў*? У адной зь перадач я ўспамінаў пра моўныя пошукі *Вацлава* Ластоўскага. Адзін з слухачоў “Свабоды” адрэагаваў на форму *Вацла́ў* — з націскам на другім складзе — пазваніўшы на радыё:

*“Спадар Бушлякоў гаворыць пра Вацла́ва Ластоўскага. Зьвярнеце ўвагу: Вацла́ва Ластоўскага. Мы ж ведаем, што калі мужчына, то Ва́цлаў, Зьдзі́слаў, а калі жанчына — Вацла́ва, Зьдзісла́ва”.*

*Václav* — чэская форма старажытнага славянскага імя. У Беларусі гэтае імя нячастае — праўдападобна, яно прыйшло да нас праз польскае пасярэдніцтва. У беларускай моўнай прасторы поруч з формаю *Ва́цлаў* (з націскам на першым складзе) замацавалася акцэнталягічна адаптаваная форма *Вацла́ў*. Замацавалася, несумненна, пад уплывам і на ўзор цэлай групы імёнаў з часткаю *-слаў*: *Вячасла́ў*, *Ізясла́ў*, *Мірасла́ў*, *Станісла́ў*, *Усясла́ў*, *Часла́ў* і г. д. Зазнала адаптацыі й перанесенае з польскамоўнае прасторы імя *Zdzisław*: у нашай моўнай прасторы форма *Зьдзі́слаў* суіснуе з адаптаванай формаю *Зьдзісла́ў*. І якраз-такі акцэнталягічна адаптаваныя формы *Вацла́ў* і *Зьдзісла́ў* замацаваныя ў нашай літаратурнай мове як нарматыўныя.

І ўсё ж якой з формаў — *Ва́цлаў* ці *Вацла́ў* — прытрымліваўся сам Ластоўскі, якую з формаў ужывалі, зьвяртаючыся да яго? Думаю, паказальны тут паэтычны зварот Максіма Багдановіча. *“Усё ж такі пішу да вас,* ***Вацла́ве****, словы нясьмелага ліста”*, — зьвяртаўся Багдановіч да свайго паплечніка

*Вацла́ва* Ластоўскага. *Вацла́ве* — клічная форма імя *Вацла́ў*.

Такім парадкам, пры называньні беларуса дарэчы будзе адаптаваная форма *Вацла́ў*. Форму з націскам на першым складзе — *Ва́цлаў* — як правіла, ужываем, захоўваючы асаблівасьці гучаньня чэскага, славацкага або польскага імя. Гаворым, напрыклад: *Вацла́ў Ластоўскі*, *Ва́цлаў Гавэл*.

## Украíна, украíнец, украíнскі

Дасюль у маўленьні суіснуюць формы *ўкраíнскі* і *ўкрáінскі*. Варыянт *укрáінскі* — з націскам на *а* — застарэлы і не адпавядае сучаснай моўнай норме.

Слова *ўкрáіна* ўзьнікла ад назоўніка *ўкрáй*, праўдападобна, у пэрыяд пасьля распаду праславянскае моўнае супольнасьці. Першапачатна *ўкрáіна* азначала аддзелены кавалак зямлі, аддзелены абшар, аддзеленую частку тэрыторыі племя. Зь цягам часу назоўнік *укрáіна* пачаў ужывацца ў значэньні асобнага, самастойнага княства: былі, напрыклад, Галіцкая *ўкрáіна*, Кіеўская *ўкрáіна*.

Паводле лінгвістаў, з XV стагодзьдзя ў слове *ўкрáіна* адбываўся пераход націску з кораня на суфікс, замена *укрáіны* на *ўкраíну*. Гэты працэс і прычыніўся да суіснаваньня на працягу стагодзьдзяў акцэнталягічных варыянтаў *Укрáіна* і *Ўкраíна*. У Тараса Шаўчэнкі, напрыклад, знаходзім абедзьве формы: *“Свою Укрáїну любіть”* і *“В Украї́ну ідіть, діти, В нашу Украї́ну”*.

У XX стагодзьдзі як у ўкраінскай, так і ў нашай літаратурнай мове замацавалася, стала нормаю навейшая форма з націскам на трэцім складзе — *Украíна*. Такі самы нарматыўны націск і ў вытворных ад *Украíны* словах *украíнец* і *ўкраíнскі*.

## Абавязацельства ці (з)абавязаньне?

*Вытворчыя абавязацельствы*, *узаемныя абавязацельствы* — у беларускім маўленьні нярэдка ўжываюць назоўнік *абавязацельства*. Пры тым, што яго фіксуюць савецкія і постсавецкія нарматыўныя слоўнікі, ён быў і застаецца аб'ектам крытыкі ў культурамоўных публікацыях. Крытыка тут — з прычыны калькаванасьці слова.

Станіслаў Станкевіч, пішучы на пачатку 1960-х пра русіцызмы ў нашай мове, трактаваў *абавязацельства* як слова *"з расейскай структурай"*. У расійскай мове, як вядома, мноства назоўнікаў на ***-тельство***: *вмешательство, обязательство*, *строительство* і г. д. Для нашай жа мовы словы на ***-цельства*** не характэрныя: у адрозьненьне ад расійскай, беларуская не ўспадкавала з царкоўнаславянскае мовы такой словаўтваральнай схемы.

Ідзем проста ад дзеяслова *абавязаць*. Як ад *збудаваць* маем *збудаваньне*, ад *пасьведчыць* — *пасьведчаньне*, так і ад *абавязаць* — *абавязаньне*. Поруч зь дзеясловам закончанага трываньня *абавязаць* у сучасным маўленьні ўжываецца таксама форма *забавязаць* — з прыстаўкаю **з-**. Ад гэтай прыстаўкавай формы маем у мове паралельна з *абавязаньнем* яшчэ й *забавязаньне*.

Вось жа, калі гаворым пра тое, да чаго нехта *абавязаны*, або калі маем на ўвазе нейчае добраахвотнае абяцаньне нешта дадаткова зрабіць, карыстаемся заканамерным беларускім словам *(з) абавязаньне*: *фінансавае* ***(з)абавязаньне***, *узаемныя* ***(з)абавязаньні***, *перадсьвяточныя* ***(з)абавязаньні***.

## Адбытыя выбары; разьвіваная / разьвіцьцёвая краіна

Ёсьць рэчы, не дапушчальныя ў мове, ня згодныя зь яе законамі. Для ладу беларускае мовы, напрыклад, зусім нехарактэрныя зваротныя дзеепрыметнікі. І тым ня менш — ад моўнага няўмецтва — гавораць і пішуць у нас, скажам, пра *адбыўшыяся выбары* або *разьвіваючуюся эканоміку*. Увогуле, тэма дзеепрыметнікаў у беларускай мове — надта балесная. Часта тых дзеепрыметнікавых формаў, якія найболей нашай мове ўласьцівыя, папросту баяцца; і наадварот, формы, жыўцом узятыя з расійскага граматычнага стандарту, ужываюць без аглядкі.

Возьмем дзьве памянёныя, як пісаў пра такія Якуб Колас, "страхападобныя" формы. Вядома, можам абысьціся апісальнай формаю: *выбары, што адбыліся*; *краіна, якая разьвіваецца*, або *краіна ў стадыі разьвіцьця*. І ўсё ж лепей, каб адным словам — сьцісла ды ясна!

Ад *адбыць*, *адбыцца* беларуская мова мае дзеепрыметнік *адбыты*. У Коласавай прозе чытаем пра *"адбытую ў глухім лесе драму"*. Адзін з позьніх вершаў Максіма Лужаніна названы *"Неадбытыя паховіны"* — аўтар пісаў пра пахаваньне, якога не адбылося. Форма *адбыты* ўжывалася ня толькі ў мастацкіх творах — раз-пораз зьяўлялася, скажам, і на бачынах беларускай эміграцыйнай прэсы. Як драма ці сустрэча могуць быць *адбытыя* або, наадварот, *неадбытыя*, так і выбары могуць быць прызнаныя за *адбытыя* або *неадбытыя*.

Сытуацыя з аднаслоўным адпаведнікам на ўсё, што разьвіваецца, знаходзіцца ў стадыі разьвіцьця,

не такая адназначная. Ёсьць прэцэдэнты ўжываньня ў названым значэньні формы *разьвіваны*: напрыклад, *разьвіваная краіна* або *разьвіваная эканоміка*. Слова *разьвіваны* ўтворанае ад дзеяслова незакончанага трываньня *разьвіваць* і таму ўспрымаецца звычайна як дзеепрыметнік залежнага стану. Кажучы: *разьвіваная эканоміка*, мы тым самым фактычна падкрэсьліваем, што разьвіваецца яна не сама сабою, а ў выніку нейкага ўзьдзеяньня. У значэньні ‘той, што разьвіваецца’ поруч зь дзеепрыметнікам *разьвіваны* можа замацавацца й прыметнік *разьвіцьцёвы*. Прынамсі з такім значэньнем слова *разьвіцьцёвы* выкарыстоўваюць перакладнікі і рэдактары менскага выдавецтва “Тэхналёгія”.

А зараз падагульнім. Першае: у беларускай мове мы абыходзімся без зваротных дзеепрыметнікаў. Другое: на месцы іншамоўных зваротных дзеепрыметнікаў ужываюцца або характэрныя для беларускай мовы дзеепрыметнікі, або прыметнікі, або значэньне перадаецца апісальным спосабам (*выбары прызнаныя за* ***адбытыя***, *палітычны курс* ***разьвіваных*** / ***разьвіцьцёвых*** *краін*, *дзяржавы з стабільна* ***разьвіванай*** *эканомікаю* або *з стабільным разьвіцьцём эканомікі*).

## Адрэса ці адрас?

У беларускім маўленьні апошніх двух дзесяцігодзьдзяў паралельна з назоўнікам мужчынскага роду *адрас* ужываецца форма жаночага роду *адрэса*. Пры гэтым хто-ніхто з маладзейшых карыстальнікаў літаратурнае мовы мяркуе, што якраз-такі *адрэса* — адметная беларуская форма. У якой ступені гэтае меркаваньне апраўданае?

Пачнем з таго, што разьбіраны тут назоўнік — францускага паходжаньня. У францускай мове слова *adresse* — жаночага роду. У форме жаночага роду гэты назоўнік часта замацоўваўся ў тых мовах, куды ён прыходзіў беспасярэдне з францускай.

У беларускай літаратурнай мове новага часу агульнаўжывальнаю стала мужчынскародавая форма *адрас*. Слова *адрас* прыйшло да нас, хутчэй за ўсё, з польскай мовы, дзе раней аформілася як назоўнік мужчынскага роду. Зьвярну ўвагу, што ўсе нарматыўныя беларускія слоўнікі XX ст. фіксуюць форму мужчынскага роду *адрас*. Адносна нядаўняе зьяўленьне ў беларускім маўленьні формы *адрэса* на месцы традыцыйнага *адрас* ня зьвязана наўпрост з жаночым родам францускага назоўніка *adresse*. Прычына іншая — на беларускі грунт была перанесеная ўкраінская форма *адреса*: нехта “падглядзеў” *адресу* ў украінскай літаратурнай мове, выкарыстаў на пісьме, а далей ужо гэтую форму пачалі ўжываць, трактуючы як “сапраўдную беларускую”.

Але ж, як бачым, нічога выключна беларускага ў форме *адрэса* няма. Думаю, варта нам, выбіраючы паміж *адрэсаю* і *адрасам*, ісьці за літаратурнай традыцыяй — карыстацца формаю мужчынскага роду *адрас*.

## Бацькаў, матчын, Брылёў, Вольжын: прыналежныя прыметнікі

Важны элемэнт традыцыйнага беларускага маўленьня — прыналежныя прыметнікі: яны заўжды дарэчы, як трэба выразіць прыналежнасьць. Калі прыналежны прыметнік паходзіць ад назоўніка мужчынскага роду, у яго адна будова, калі ад назоўніка жаночага роду — другая. *Бацьк**аў**, прыяцел**еў**, сваяк**оў**, старшын**ёў*** — суфіксы **-аў**, **-еў**, **-оў**, **-ёў** паказваюць тут на прыналежнасьць некага ці нечага асобе мужчынскага полу. Іншыя сродкі пры ўтварэньні прыметнікаў ад назоўнікаў жаночага роду — суфіксы **-ін**, **-ын**: *мам**ін**, сястр**ын**, дачч**ын***.

Каб не памыліцца, утвараючы літаратурную форму прыналежнага прыметніка ад назоўніка жаночага роду, трэба памятаць пра чаргаваньні гукаў: **[к]** — **[ч]**, **[г]** — **[ж]** і **[х]** — **[ш]**. Ад слова *мат**к**а* маем прыметнік *мат**ч**ын* (*матчына мова*), ад *цёт**к**а* — *цёт**ч**ын* (*цётчына апека*), ад *ластаў**к**а* — *ластаў**ч**ын* (*ластаўчына гняздо*), ад іменнай формы *Ален**к**а* — *Ален**ч**ын* (*Аленчыны кніжкі*). Вядомую п’есу Міхаіла Булгакава называем па-беларуску *“Зой**ч**ына кватэра”*. Гук **[г]** назоўніка пры зьмененых фанэтычных умовах рэалізуецца ў гуку **[ж]** вытворнага прыметніка: напрыклад, *нябо**г**а* — *нябо**ж**ын* (*нябожын твар*), *валацу**г**а* — *валацу**ж**ын* (*валацужына доля*), *туля**г**а* — *туля**ж**ын* (*туляжын набытак*). Заканамерныя прыналежныя формы ад імёнаў *Воль**г**а, Ін**г**а, Ядзьві**г**а* — *Воль**ж**ын*, *Ін**ж**ын*, *Ядзьві**ж**ын*. Нарэшце, трэці варыянт чаргаваньня — **[х]** — **[ш]**: *краўчы**х**а* — *краўчы**ш**ын* (*краўчышын матэрыял*), *майстры**х**а* — *майстры**ш**ын* (*майстрышына ўмельства*), *зайчы**х**а* — *зайчы**ш**ын*

(*зайчышыны дзеці*). Зь беларускіх прыналежных прыметнікаў ад імёнаў і прозьвішчаў адразу відаць, пра асобу якога полу ідзе гаворка: *Алес**еў*** (ад *Алесь*), *Алес**ін*** (ад *Алеся*), *Бабох**аў*** і *Бабош**ын*** (ад *Бабоха*), *Вілюг**аў*** і *Вілюж**ын*** (ад *Вілюга*), *Лойк**аў*** і *Лойч**ын*** (ад *Лойка*).

І яшчэ адна важная асаблівасьць пры нагодзе разбору прыналежных прыметнікаў — граматычная. Ува ўсіх ускосных склонах прыналежныя прыметнікі маюць у нас прыметнікавыя канчаткі. Возьмем, напрыклад, словазлучэньне *бацькаў клопат*. Гаворым па-беларуску: *чакаць бацькав**ага** клопату*, *дзякуючы бацькав**аму** клопату*. У расійскай мове прыналежныя прыметнікі ўжываюцца ў формах роднага і давальнага склонаў з назоўнікавымі канчаткамі (*прометеев**а** огня*, *прометеев**у** огню*) — часам такое формаўжываньне ў нас пераймаюць. Каб не было памылкі, заўжды зьмяняйма прыналежныя прыметнікі паводле прыметнікавай мадэлі:

*Брылёв**ага** зборніка*, *Карлав**ага** ўнівэрсытэту*, *прамэтэев**ага** агню*;

*Брылёв**аму** зборніку*, *Карлав**аму** ўнівэрсытэту*, *прамэтэев**аму** агню.*

## Бы (зрабіў бы, зрабіла б); жа (сам жа сказаў, сама ж сказала)

Назіраньне за моваю радыё- і тэлеэфіру схіляе да напаміну пра аблічча двух службовых словаў — пра формы, у якіх выступаюць гэтыя словы ў залежнасьці ад пазыцыі ў моўнай плыні. Маю на ўвазе часьцінку *бы*, а таксама часьцінку і злучнік *жа*.

На першы погляд, усё тут максымальна проста ды ясна — згодна з маўленчымі нормамі, пасьля словаў на галосны памянёныя службовыя словы падкарочваюцца, трацяць "свой" галосны. Аднак паасобныя носьбіты літаратурнае мовы дапускаюць адступленьні ад нарматыўнага ўжываньня *бы* і *жа*.

Важна ўсьцерагчыся ад памылак. Формы накшталт *зрабіла бы*, *ты жа сказала* — з *бы* і *жа* пасьля слова на галосны — вынікаюць звычайна з практыкі небеларускага маўленьня і парушаюць законы нашае мовы. Калі папярэдняе слова канчаецца на галосны, прыпамінаныя тут часьцінкі і злучнік абавязкова зьмяняюць у моўнай плыні сваю форму — вымаўляем глухія **[п]** і **[ш]**: *насмажыла [п]*, *падрыхтавалі [п]*, *папрацавалі [п]*; *калі [ш] яны прыедуць*, *ты [ш] ведаеш*, *прыйшлі [ш] самі* і г. д. Пасьля слова на зычны захоўваем *бы* і *жа* нязьменна: *зрабіў бы, той жа, сам жа сказаў* (вымаўленьне *[ба]* і *[жэ]* на месцы *бы* і *жа* — няправільнае).

## Выканаўца абавязкаў

Як называем па-беларуску чалавека, які штонебудзь *выконвае*? Часта ў нас у гэтым выпадку проста ідуць ад расійскае формы на ***-ющ*** (*исполняющий*), капіююць яе і ўжываюць слова *выконваючы*. Прыкладам, гавораць, што нехта — *выконваючы абавязкі* старшыні або дырэктара. Пры такім ужываньні слова *выконваючы* выступае ў функцыі назоўніка. Адсюль заканамернае пытаньне: ці ня варта нам у функцыі назоўніка выкарыстаць уласна назоўнік, а ня форму дзеяслоўнай будовы?

У нашай мове ёсьць цэлы шэраг самых звычайных, традыцыйных, з тыповай структураю, назоўнікаў, якія якраз і адпавядаюць формам дзеепрыметнікавай будовы ў іншых мовах, скажам, у расійскай. Напрыклад, той, хто *верыць*, — *вернік*, хто *нападае*, — *нападнік*, хто *чакае*, — *чакальнік*. Нарматыўныя слоўнікі чалавека, які *выступае*, рэкамэндуюць называць *выступоўцам*, не *выступаючым*, а якраз-такі *выступоўцам*.

Гэта вельмі сымпатычная тэндэнцыя — на месцы ка́лек, аманімічных дзеепрыслоўям, мы скарыстоўваем адназначныя назоўнікі, рацыянальна аддаем тым самым перавагу сродкам, словаўтваральным мадэлям, якія ў большай ступені характэрныя для нашае мовы. Вось жа, тое самае трэба рабіць і ў выпадку, калі называем чалавека, які нешта выконвае. Такі чалавек — *выканаўца*. Напрыклад, ***выканаўца*** *абавязкаў* або ***выканаўца*** *жаданьняў*. Трэба проста не завужаць ужываньня слова *выканаўца*. Нашто нам калька там, дзе спраўляецца добра ўсім знаёмае, блізкае ўсім слова?

## Гістарычна-культурны, палітычна-эканамічны, рымска-каталіцкі

Як назваць спадчыну — *гісторыка-культурнай* ці *гістарычна-культурнай*? Як назваць сытуацыю — *палітыка-эканамічнай* ці *палітычна-эканамічнай*? Касьцёл, кажучы па-беларуску, *рыма-каталіцкі* ці ўсё ж *рымска-каталіцкі*? Такіх пытаньняў — пра аблічча складаных прыметнікаў — нямала.

У савецкіх і постсавецкіх слоўніках складаныя прыметнікі таго самага тыпу аформленыя па-рознаму: *гістарычна-літаратурны, гістарычна-партыйны, гістарычна-філалагічны*, але *палітыка-адміністрацыйны, палітыка-выхаваўчы, палітыка-масавы*. Вядома, хоць якіх унутрымоўных прычын на такое featурознае афармленьне няма. Ува ўсіх прыведзеных прыкладах перад намі складаныя прыметнікі, утвораныя з двух раўнапраўных простых прыметнікаў.

Бярэм словы *гістарычны* і *літаратурны*. Зь іх спалучэньня вынікае складаны прыметнік *гістарычна-літаратурны* — першая частка мае тут заканамернае адпрыметнікавае аблічча. З сыстэмных меркаваньняў у такім абліччы й варта афармляць усе складаныя прыметнікі, між раўнапраўнымі частками якіх можна паставіць злучнік **і**: *палітычны* і *эканамічны* — *палітычна-эканамічны*, *фізычны* і *матэматычны* — *фізычна-матэматычны*, *рымскі* і *каталіцкі* — *рымска-каталіцкі*, *японскі* і *беларускі* — *японска-беларускі*.

Няма сумненьняў, зь цягам часу пасьлядоўнае афармленьне складаных прыметнікаў будзе праведзенае ў нарматыўных слоўніках нашае мовы. Пакуль жа стараймася культываваць заканамерныя

формы, не зважаючы на слоўнікавы разнабой. Гаварэм і пішэм: *гістарычна-культурная спадчына, палітычна-эканамічная сытуацыя, доктар фізычна-матэматычных навук, вернікі рымска-каталіцкага касьцёлу.*

## Грэцкі, таўрыйскі

Акадэмічныя слоўнікі беларускае мовы пачынаючы з 1953 году нязьменна фіксуюць і тым самым, ведама ж, пашыраюць у нашым маўленьні прыметнік *грэчаскі*. Пашыраюць, нягледзячы на зусім не беларускае аблічча гэтага слова — для нашае мовы прыметнікі на *-часкі* не ўласьцівыя.

Чаму савецкія нармалізатары забіралі адно з значэньняў у традыцыйнага, тыпова беларускага паводле свае будовы прыметніка *грэцкі*? Няма сумневу, было ў іх жаданьне (і яно падмацоўвалася фактамі расійскае мовы) разьвесьці зьвязанае з расьлінаю *грэчкаю*, з аднаго боку, і з *грэкамі* і *Грэцыяй*, з другога. Разводзіць узяліся пры дапамозе слова, якое цалкам выбіваецца зь беларускіх прыметнікавых мадэляў, — слова *грэчаскі*. Аднак жа і назоўнік *грэчка*, і прыметнік *грэцкі* вынікаюць з таго самага слова — з назоўніка *грэк*. Як ад *каза́к* маем прыметнік *казацкі*, ад *юнак* — *юнацкі*, так і ад *грэк* — *грэцкі*. Нашто ж нам ісьці супраць законаў мовы і баяцца двухзначнасьці слова: па-беларуску і *грэцкая мова*, і *грэцкае мастацтва*, і *грэцкія крупы*, і *грэцкая каша*.

Часта, гаворачы пра валюнтарызм у дачыненьні да нашае літаратурнае мовы, прыпамінаюць “Руска-беларускі слоўнік” 1937 г. пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча. Дык вось укладальнікі таго мяшанага, поўнага беспадстаўных пазычаньняў слоўніка не рызыкнулі перанесьці з расійскае мовы формы *грэчаскі* — там толькі *грэцкі* ў двух сваіх натуральных беларускіх значэньнях.

Зрэшты, у сучасных беларускіх слоўніках прыметніку *грэчаскі* можна яшчэ й пару знайсьці

— маю на ўвазе форму *таўрычаскі*. У XVIII ст. расійцы вывелі былі з гістарычнага назову Крымскага паўвостраву *Таврия* (*Таўрыя*) прыметнік *таврический*. Ужо ў XX ст. расійскі прыметнік жыўцом перанесьлі ў нашую мову. Тым часам заканамерная беларуская прыметнікавая форма ад *Таўрыя* — *таўрыйскі* (таксама як ад *Аўстрыя* — *аўстрыйскі* або ад *Бэльгія* — *бэльгійскі*). Гэтай форме й трэба адназначна аддаць перавагу.

Знакам тым, заснаваную старажытнымі грэкамі на крымскім узьбярэжжы калёнію назавем па-беларуску *Хэрсанэсам Таўрыйскім*, архітэктурны помнік у Санкт-Пецярбурзе — *Таўрыйскім палацам*, а сёньняшні сімфэропальскі ўнівэрсытэт — *Таўрыйскім унівэрсытэтам* (*таўрыйскім* ён, дарэчы, называецца й па-ўкраінску).

## Даканчваць, зношваць, утойваць

Работу *даканчваць* ці *дакончваць*, *падскакваць* ад радасьці ці толькі *падскокваць*? Гаворка — пра даволі вялікую групу дзеясловаў незакончанага трываньня, у корані якіх перад суфіксам **-ва** выступае, узнаўляецца пад націскам першапачатны (этымалягічны) гук **[о]**.

Такія дзеясловы вытворныя. Ёсьць, скажам, прыстаўкавы дзеяслоў закончанага трываньня *дакаціць* (напрыклад, бочку або кола некуды *дакаціць*). Ад слова *дакаціць* пры дапамозе суфікса **-ва** ўтвораны ў мове другі дзеяслоў зь іншым ужо граматычным значэньнем — незакончанага трываньня і паўторнасьці. Гэты дзеяслоў — *дакочваць* (у корані тут той самы ўзноўлены гук **[о]**). Узнаўленьне першапачатнага **[о]** у дзеясловах з рознымі прыстаўкамі і суфіксам **-ва** — гэта асаблівасьць беларускае мовы і яе норма. Па-беларуску *адк**а**лоць*, але *адк**о**лваць*, *выпр**а**стаць*, але *выпр**о**стваць*, *зн**а**сіць*, але *зн**о**шваць*, *сп**а**іць*, але *сп**о**йваць*, *упр**а**сіць*, але *ўпр**о**шваць* і г. д.

У сучасных слоўніках, праўда, зафіксаваны нязначны шэраг дзеясловаў, якія паказаную тут беларускую асаблівасьць парушаюць і тым самым часткова размываюць. Трапілі, скажам, у слоўнікі формы *падскакваць* і *ўскакваць*. Вядома ж, заканамерныя ў літаратурнай мове формы — *падск**о**кваць* і *ўск**о**кваць*, бо паходзяць гэтыя дзеясловы ад *ск**о**ку*, а ў дзеяслове з суфіксам **-ва** гэты першапачатны **[о]** канечне павінен праяўляцца: *дак**о**нчваць работу*, *выпр**о**стваць сьпіну*, *ня ўт**о**йваць праўды*, *падск**о**кваць ад радасьці*.

## Дарэформавы, фірмавы, язвавы

Як павінны выглядаць беларускія прыметнікі паходжаньнем ад такіх, напрыклад, словаў, як *брытва*, *помпа* ці *фірма*, — ад словаў, аснова якіх канчаецца на зьбег зычных з губнымі **[в]**, **[м]**, **[п]**? Якому з варыянтаў аддаваць перавагу: *фірм**енн**ы* або *фірм**ав**ы*, можа, *фірм**ов**ы*?

У форме *фірменны* — суфікс **-енн-**. Гэты суфікс маюць традыцыйныя беларускія прыметнікі з значэньнем высокае меры якасьці: *вcase*, *велічэнны*, *здара**венн**ы*, *страш**энн**ы*, *таўсь**ценн**ы* і г. д. У нарматыўных слоўніках знойдзем, праўда, і тыя прыметнікі з суфіксам **-енн-**, якія ня маюць праілюстраванага значэньня, але гэта пераважна пазычаньні з расійскай або царкоўнаславянскай моваў: прыкладам, *абедзенны*, *малітвенны* (да гэтых пазычаньняў ёсьць у літаратурнай мове абсалютныя сынонімы тыповае будовы: *абедны* і *абедавы*, *малітоўны* і *малітаўны*). Зыходзячы з фактаў традыцыйнага беларускага словаўтварэньня, нельга не прызнаць, што суфікс **-енн-** нетыповы ў адносных прыметніках. Прыметнікі ад словаў *брытва*, *помпа* ці *фірма* — гэта якраз адносныя прыметнікі. Тут заканамерная іншая суфіксацыя — дадаецца суфікс **-ав-** (**-ов-**): *брытва* — *брытв**ав**ы*, *помпа* — *помп**ав**ы*, *фірма* — *фірм**ав**ы*. Поруч зь *фірм**ав**ы* ўжываецца й форма *фірм**ов**ы* — зь перанясеньнем націску (гэтае перанясеньне не дыктуецца сыстэмаю мовы, яно зусім неабавязковае, таму, думаю, перавагу варта аддаваць варыянту з націскам на першым складзе: як *фі́рма*, так і *фі́рмавы*).

Застаецца пералічыць шэраг іншых частотных прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса

**-ав-** (**-ов-**) ад назоўнікаў з асноваю на зьбег зычных з губнымі **[в]**, **[м]**, **[п]**: *воспа* — *восп**ав**ы*, *дратва* — *дратв**ав**ы*, *лямпа* — *лямп**ав**ы*, *падэшва* — *падэшв**ав**ы*, *пісьмо* — *пісьм**ов**ы*, *плязма* — *плязм**ав**ы*, *рэформа* — *дарэформ**ав**ы*, *язва* — *язв**ав**ы* (чалавек, які цярпіць ад язвы, — *язв**ав**ік*).

## Два і дзьве — двух і дзьвюх; двухтысячны і дзьвюхтысячны

Як скажам па-беларуску: ***двух**тысячны*, ***двуты**сячны* ці, можа, ***дзьвюх**тысячны*? Журналіст і паэт Глеб Лабадзенка даслаў нам ліста, у якім просіць напомніць пра беларускае скланеньне лічэбнікаў *два* і *дзьве*, а таксама пытаецца, ці захоўваецца родавая форма *дзьвюх* у тым выпадку, калі лічэбнік выступае як частка складанага слова.

Пачну з напаміну. Скланяючыся, лічэбнікі *два*, *дзьве*, а таксама *абодва*, *абедзьве* маюць родавыя формы: пры назоўніках мужчынскага і ніякага родаў аснова лічэбнікаў цьвёрдая, пры назоўніках жаночага роду — мяккая. Ёсьць, напрыклад, *два дамы* і *дзьве дзялянкі* пры іх. Зьмяняем лічэбнікі з увагаю на родавае адрозьненьне: ***двух** дамоў* і ***дзьвюх** дзялянак*, ***двум** дамом* і ***дзьвюм** дзялянкам*, ***двума** дамамі* і ***дзьвюма** дзялянкамі*, *пры **двух** дамох* і ***дзьвюх** дзялянках*. Для паўднёва-заходняга дыялекту, для цэнтральнае і паўднёвае частак сярэднебеларускіх гаворак, а таксама для палескае групы гаворак характэрныя крыху іншыя родавыя формы — з гукам **[о]** (не пад націскам **[а]**) у аснове: напрыклад, *двох* і *дзьвёх*, *двом* і *дзьвём*. Такія формы маюць гісторыю ўжываньня і ў літаратурнай мове, як старога часу, так і XIX — XX стст. Цяпер, аднак, у літаратурным маўленьні адназначна пераважаюць формы з гукам **[у]** у аснове: *двух* і *дзьвюх*, *двум* і *дзьвюм* і г. д. Галоўнае для нас — не забывацца на родавае адрозьненьне пры скланеньні разьбіраных тут лічэбнікаў. Заўсёды памятайма: формы *дзьвюх, дзьвюм, дзьвюма* могуць стаяць толькі пры назоўні-

ках жаночага роду: ***дзьвюх*** *сёстраў* (*сясьцёр*), але ***двух*** (ні ў якім разе ня *дзьвюх*!) *братоў*.

А зараз — пра тыя складаныя словы, у якіх першая частка — лічэбнікавая форма. ***Двух****галовы*, ***дзьвюх****галовы* або, нарэшце, ***дву****галовы*? Факты дыялектнае мовы сьведчаць, што часта ў складаных словах першая частка мае форму *дву*-. Што гэта за форма? *Дву* — даўняя, архаічная іменная форма роднага склону ад лічэбніка *дъва (дъве)*. Дайшла яна да нас якраз у складаных словах: ***дву****галовы*, ***дву****душны*, ***дву****ногі*, ***дву****рукі* і інш. Да прыкладу, у Насовічавым слоўніку беларускае мовы (1870), у перакладных слоўніках Сьцяпана Некрашэвіча і Міколы Байкова (1920-я гг.) зафіксавана менавіта форма ***дву****галовы*. Але сучасныя нарматыўныя слоўнікі фіксуюць ***двух****галовы*. ***Двух****галовы* — відавочна, пазьнейшы, савецкага часу, варыянт, прычым афармлены ён без уліку родавых адрозьненьняў: па-беларуску ж ***дзьвюх*** (ня *двух*!) *галоў (галоваў)*. І вось у 1990-я прыкметнаю стала тэндэнцыя афармляць складаныя словы, зважаючы на родавую форму лічэбніка: усё часьцей ужываюцца формы накшталт ***дзьвюх****галовы*, ***дзьвюх****зьменны*, ***дзьвюх****моўны*, ***дзьвюх****тысячны*.

Аб'ектыўна ацэньваючы сёньняшнюю моўную практыку, трэба пакуль што гаварыць пра варыянты складаных словаў, у якіх першай часткаю выступае форма лічэбнікаў *два* і *дзьве* (скажам, з нарматыўнай у паваенную пару формаю ***двух****тысячны* рэальна канкуруе варыянт ***дзьвюх****тысячны*, радзей у літаратурным маўленьні ўжываецца даўняя форма ***дву****тысячны*).

## Дзіцян(я/ё), зубран(я/ё), дзіцяняты, зубраняты

Ці прымальнае ў літаратурным маўленьні слова *дзіцёнак*? Такое пытаньне дыктуе моўная практыка — раз-пораз гэтае слова чуем і бачым на пісьме.

*Дзіцёнак* — форма той самай будовы, што й добра знаёмыя з савецкай пары *зубронак* ці *акцябронак*. Словы такога тыпу — з суфіксам **-онак** (**-ёнак**) — характэрныя для дыялектнага маўленьня ўсходу і часткова поўдня Беларусі, аднак у літаратурнай мове XX ст. яны ніколі не былі нарматыўнымі. З выняткам хіба што аднаго слова — цяпер ужо гістарызма *акцябронак*. *Акцябронка* жыўцом перанесьлі з той мовы, дзе ён нарадзіўся. Падпраўляць, калькаваць не рызыкнулі — і так не было ў нас *кастрычаняці* ці хаця б *акцябраняці*. Што ж да *дзіцёнка* і *зубронка*, то іх слоўнікі нашай літаратурнай мовы не фіксавалі і не фіксуюць. На месцы гэтых дыялектызмаў — магістральныя беларускія формы з канчаткамі **-я** і **-ё**: *дзіц(я/ё)*, *дзіцян(я/ё)*, *зубран(я/ё)*. Прычым формы на **-я** і на **-ё** — раўнапраўныя ў літаратурнай мове. Літаратурных формаў не падмяняем другімі і ў тых выпадках, калі найменьнем маладой істоты называем нейкую ўстанову: напрыклад, басэйн *“Арляня”*, а летнік *“Зубраня”*.

Пры канцы яшчэ маленькі граматычны нюанс. Сустраканыя часам формы накшталт *кацяты*, *галубяты* — памылковыя. У нарматыўных формах множнага ліку назоўнікаў на **-ня** (**-нё**), якія абазначаюць маладых істот, выступае складаны суфікс **-янят-** (**-анят-**). Правільна па-беларуску — *дзіцяняты*, *бусьляняты*, *ваўчаняты*, *галубяняты*, *кацяняты*.

## Ірацкі, калмыцкі, таджыцкі

Журналісты беларускай “Свабоды”, згадваючы Ірак і іракцаў, ужываюць прыметнік *ірацкі*. Адзін з слухачоў зьвярнуў на гэта ўвагу. *“Вы кажаце ‘**ірацкі**’*, — піша слухач, — *а ў слоўніку ‘**іракскі**’. Чаму так?”*

У слоўніку прыметнік *іракскі* — згодна з устанаўленьнямі правапісу 1959 году, перанесенымі і ў афіцыйны артаграфічны звод 2008-га. Тыя ўстанаўленьні пры заканамерных беларускіх формах накшталт *казацкі*, *крыжацкі*, *славацкі* праводзяць выключэньні ў прыметніках, утвораных ад асноваў неславянскага паходжаньня на **к**.

Праблема тут не правапісная, але якраз-такі выняткамі ў правапісе размываецца беларускі фанэтычны закон, паводле якога зьбег зычных на стыку частак слова нэўтралізуецца. Як ведаем, зьбег зычных гукаў **[к]** і **[с]** дае гук **[ц]**: як прыметнік ад *грэк* — *грэцкі*, ад *казак* — *казацкі*, ад *славак* — *славацкі*, так і ад *Ірак* маем *ірацкі*, ад *таджык* — *таджыцкі*, ад *узьбек* — *узьбецкі*. Вядома ж, утваральная аснова неславянскага паходжаньня — ніякая не падстава для выняткаў з правіла. Беспадстаўныя выключэньні можна патлумачыць хіба што залежнасьцю ад фактаў расійскай мовы. У акадэмічных слоўніках знаходзім утвораны ад назоўніка неславянскага паходжаньня *калмык* прыметнік *калмыцкі*: не *калмыкскі*, як дыктуюць правілы 1959-га, а менавіта *калмыцкі* (правільная беларуская форма праведзеная ў слоўніках дзякуючы таму, што ў расійскай літаратурнай мове замацаваўся прыметнік *калмыцкий*).

Неапраўданасьць выняткаў накшталт *іракскі* прызнала ў 1994 г. Дзяржаўная камісія па ўдаклад-

неньні правапісу беларускай літаратурнай мовы. Камісія рэкамэндавала *“ва ўсіх выпадках у прыметніках, у якіх канцавы зычны асновы* ***к*** *спалучаецца з суфіксальным* ***с****, спалучэнне* ***-кс-*** *перадавацьпраз* ***ц****”*. Спадзяюся, зь цягам часу гэтая бясспрэчная правапісная рэкамэндацыя будзе прынятая і ў афіцыйным артаграфічным стандарце.

Тым часам, як бы мы ні пісалі, не ігнаруйма фанэтычнага закону нэўтралізацыі зычных на стыку марфэм: *грэ****[ц]****кі*, *іра****[ц]****кі*, *каза****[ц]****кі, каракалпа****[ц]****кі*, *калмы****[ц]****кі*, *маздо****[ц]****кі*, *таджы****[ц]****кі*.

## Ільга, імша, іржа; імшара і амшара; Амсьціслаў

У нашай мове два прыстаўныя галосныя — **[і]** ды **[а]**. Выступаюць яны звычайна перад зьбегамі зычных, першы зь якіх **[л]**, **[м]** або **[р]**: ***і**лгаць*, ***і**льгота*, ***і**льняны*, ***і**мжа*, ***і**мша*, ***і**ржа*; ***а**мшара*, ***а**ржаны*.

Прыстаўны **[а]** перад названымі зьбегамі — у адрозьненьне ад **[і]** — здараецца нячаста: маем яго ў шэрагу словаў з каранямі **-мх-** (**-мш-**) і **-рж-**, а таксама ў тапоніме *Амсьціслаў*. Прычым поруч з формамі на прыстаўны **[а]** у мове ўжываюцца й варыянты з **[і]**: ***а**мшарына*, ***а**ржышча* ды ***і**мшарына*, ***і**ржышча*. У пасьляваенную пару ў БССР заканамерныя (з прыстаўным галосным) беларускія формы назову места — *Амсьціслаў* ды ***І**мсьціслаў* — у пісьмовай мове практычна не выкарыстоўваліся — дамінавала, як вядома, афіцыйная форма *Мсьціслаў*. Дамінуе яна й сёньня, аднак пры гэтым відаць і тэндэнцыя на пашырэньне як у вусным літаратурным маўленьні, так і на пісьме варыянту *Амсьціслаў* — з прыстаўным галосным **[а]**.

Ужываньне або неўжываньне прыстаўных галосных залежыць ад зьменаў у моўнай плыні. Калі папярэдняе слова канчаецца на галосны, прыстаўны гук перад групаю зычных, першы зь якіх **[л]** або **[р]**, як правіла, зьнікае: ***і**льгота — новая льгота*, ***і**льняны — на льняным абрусе*, ***і**рваць — пайсьці рваць*, ***і**ржа — бюракратычная ржа.* (У Купалы, напрыклад, чытаем: *“Не чакай, **што ржа** з гадамі паесьць ланцугі, што мінуцца сабой самі нагайкі, штыхі”*.)

У сваю чаргу калі першым у зьбегу зычных гук **[м]**, прыстаўны пасьля слова на галосны часта

захоўваецца: *п**а** **і**мшарыне*, *н**а** **і**мшу*, ***у** **і**мгле*, *ян**а** **і**мчала* (формы без прыстаўнога — *па мшарыне*, *на мшу*, *у мгле*, *яна мчала* — відавочна, радзейшыя ў сёньняшнім маўленьні).

У словах з прыстаўкаю на галосны прыстаўны **[і]** утваральнага слова звычайна зьнікае: ***і**льга — нельга, **і**льсьніцца — зальсьніцца*, ***і**мгліць — замгліць*, ***і**мчаць — замчаць*, *памчаць*, ***і**мкнуцца — памкнуцца*, ***і**ржавець — заржавець*.

Размова аб прыстаўных галосных будзе няпоўнаю, як ня ўспомнім пра выпадкі іх разьвіцьця і перад спалучэньнямі зычных, у якіх няма першых **[л]**, **[м]**, **[р]**, і проста перад адзіночнымі зычнымі. Маю на ўвазе формы агульных назоўнікаў ***і**стужка*, ***і**скрыпка*, ***а**рабіна*, уласнага імя ***А**дар'я*, а таксама формы дзеяслова *ісьці* — ***і**шоў*, ***і**шла*, ***і**шло*, ***і**шлі* (напр.: *Пальцы смыка і струн* ***іскрыпкі*** *ня краталі здаўна* (А. Салавей); *За парканам сьпелі яблыкі і* ***арабіны*** (К. Чорны)). Згаданыя дзеяслоўныя формы без прыстаўнога гуку, як вядома, не ўжываюцца, усе ж памянёныя назоўнікавыя формы суіснуюць з рэгулярнейшымі ў літаратурным маўленьні варыянтамі без прыстаўных **[і]** ды **[а]**: *стужка*, *скрыпка*, *рабіна*, *Дар'я*.

## Меркаваны, чаканы, шуканы

У мінулым стагодзьдзі ўеліся ў беларускую мову калькаваныя формы дзеепрыметнікаў — і ніяк дасюль не зьвядуцца. Штодня чуем пра *ахоўваемыя стаянкі*, *будуемыя аб'екты* і *мяркуемыя сустрэчы.*

Зялёнае сьвятло такім калькам расійскіх дзеепрыметнікаў запалілі рэфарматары нашай мовы ў 1930-я. І тады, і пазьней шмат хто забываўся, што беларуская мова і ў гэтым выпадку мае свае сродкі. Адпаведнікамі расійскіх аддзеяслоўных формаў на ***-емый***, ***-имый*** і ***-омый*** выступаюць, як правіла, беларускія з суфіксам ***-н-***: *жаданы*, *паважаны*, *рыхтаваны*, *чаканы*. *Жаданы* — той, якога жадаюць, *паважаны* — якога паважаюць, *рыхтаваны* — які некім рыхтуецца, нарэшце, *чаканы* — той, якога чакаюць.

*“Песьні... духамі зораў* ***ствараныя****”*, — чытаем у Купалы. *Ствара́ныя* — значыць цяпер ствараюцца, пакуль што ня створаныя. Скажам правільна: ***будаваныя*** *дамы*, ***ведзены*** *самалёт*, ***выдаваная*** *літаратура*, ***кіраваная*** *эканоміка*, ***меркаваныя*** *вынікі*, ***падазраваная*** *асоба,* ***шуканыя (вышукваныя)*** *злачынцы* — рэальны граматычны час названых і аналягічных ім беларускіх дзеепрыметнікаў такі, які час асноўнага дзеяньня ў сказе. Часам у ролі беларускіх адпаведнікаў расійскіх формаў на ***-емый*** ды ***-имый*** выступаюць звычайныя прыметнікі: напрыклад, прыпамінаную аўтастаянку пад аховаю называем *падахоўнаю*, а чалавека, абаранянага ў судзе, *падабаронным*.

## Мітынгоўцы, страйкоўцы

Падчас Аранжавай рэвалюцыі беларускія мэдыі апавядалі пра *мітынгоўцаў* на кіеўскім пляцы Незалежнасьці, наагул ува ўсёй Украіне. Добрае, патрэбнае слова *мітынговец*. Той, хто выйшаў на мітынг, хто мітынгуе, — *мітынговец*. Таксама як, скажам, удзельнік страйку — *страйковец*. Аднак часам прыназываньні па-беларуску чалавека, што *мітынгуе* або *страйкуе*, ідуць ад расійскіх формаў на ***-ющ***, капіююць іх і ўжываюць у назоўнікавай ролі словы *мітынгуючы*, *страйкуючы*.

Ня варта так рабіць. У нашай мове ёсьць цэлы шэраг традыцыйных назоўнікаў, якія якраз і адпавядаюць формам дзеепрыметнікавай будовы ў іншых мовах (гл. таксама нататку пра *выканаўцу абавязкаў*). Менавіта назоўнікам *мітынговец* акадэмічны расійскі-беларускі слоўнік перакладае расійскае *митингующий*.

Поруч зь *мітынгоўцам* у сучасным маўленьні здараюцца словы *мітынгоўшчык*, *мітынгоўнік* і *мітынгант*. У адрозьненьне ад нэўтральнага *мітынгоўца*, прынамсі два з названых сынонімаў — *мітынгоўшчык* і *мітынгант* — нярэдка нясуць ацэнку, крытычна-асуджальнае адценьне. Калі ж мы проста канстатуем, што той або іншы чалавек бярэ ўдзел у мітынгу, варта выбіраць назоўнік *мітынговец*.

## Моладзевы, маладзёвы, маладзёжны

Які прыметнік ужываем, каб назваць тое, што мае дачыненьне да моладзі? Доўгі час у літаратурным маўленьні пераважала лексэма *маладзёжны*. Якога яна паходжаньня? Ці ад *моладзі маладзёжны*?

Відавочна, што не ад *моладзі* — ня мае беларуская мова такога суфікса ***-ёжн-***. Прыметнікам *маладзёжны* папоўнілі нашую мову ў 30-я гг. мінулага стагодзьдзя — жыўцом узялі яго з расійскае мовы. Пра тое, што пазычанае слова не стасуецца з назоўнікам *моладзь,* ніхто тады не падумаў. Падумалі пра гэта людзі беларускае мовы ўжо лепшым часам. У 1980 — 90-я ў маўленчую і пісьмовую практыкі прыйшлі нарэшце суадносныя з назоўнікам *моладзь* словы *моладзевы* і *маладзёвы*. Гэтыя прыметнікі ўтварыліся паводле вельмі актыўнае ў беларускай мове мадэлі: да асновы назоўніка далучыўся тыповы суфікс.

Вось жа, як ад слова *дэталь* маем прыметнік *дэталёвы*, ад *хваля — хвалевы*, ад *фірма — фірмавы* і *фірмовы*, так і ад *моладзі — моладзевы* і *маладзёвы*. Абедзьве формы паходжаньнем ад слова *моладзь* сёньня суіснуюць у маўленьні і на пісьме, яшчэ чакаючы пасьлядоўнай фіксацыі ў рознага тыпу слоўніках. Пры гэтым паступова, на працягу 2000-х, форма з захаваньнем націску на корані пачала пераважаць над формаю з суфіксальным націскам: усё часьцей чуем, гаворым, чытаем і пішам *моладзевы*.

## **Неадпавядаючы ці неадпаведны**?

Праз колькі дзён пасьля абвяшчэньня рэфэрэндуму аб не абмежаваным тэрмінамі прэзыдэнцтве Аляксандра Лукашэнкі айчынныя праваабаронцы выступілі з заявaю. Друкуючы яе па-беларуску, “Народная воля” напісала, што *“праваабаронцы лічаць указ Лукашэнкі аб прызначэнні рэферэндуму не адпавядаючым Канстытуцыі”*.

Ці добра назваць нешта па-беларуску *неадпавядаючым*? Пытаньне тут, вядома, пра форму слова, якое выступае ў функцыі прыметніка. Адкуль *неадпавядаючы*, хіба ёсьць у нас прыметнік *адпавядаючы*? Чарговым разам прычына выпадковага слова — у калькаваньні. Перакладнік заявы проста пайшоў за расійскай формаю на ***-ющ*** (*несоответствующий*). Форма дзеяслоўнай будовы *неадпавядаючы* нам без патрэбы — значэньне нязьменнай у часе прыкметы перадае ўласна прыметнік.

Знакам тым, усё тое, што адпавядае, называем *адпаведным*, у сваю чаргу тое, што не адпавядае, — *неадпаведнае*. Гэта цьвёрдая слоўнікавая норма — няможна яе ігнараваць. У памянёным тэксьце трэба было напісаць, што *айчынныя праваабаронцы лічаць указ аб прызначэньні рэфэрэндуму* ***неадпаведным*** *Канстытуцыі*.

## Палавінкавы, расплывісты, ступеневы

Раз-пораз здараюцца ў маўленьні і на пісьме прыметнікі з суфіксам **-чат-** — чуем пра *палавінчатыя пастановы*, *расплыўчатыя ўяўленьні* або, скажам, *шматступеньчатую сыстэму адукацыі*. *Палавінчаты*, *расплыўчаты*, *ступеньчаты* — такія прыметнікавыя ўтварэньні ў нашай літаратурнай мове не традыцыйныя: у савецкую пару зайшлі яны з расійскага маўленьня, а пасьля трапілі ў беларускія слоўнікі. Расійскія прыметнікі з суфіксам **-чат-** ніякіх новых сэнсавых адценьняў нам не прынесьлі — значэньні гэтых пазычаньняў у беларускай мове перадаюцца словамі іншай будовы — з суфіксамі **-ав-**, **-ев-**, **-ават-**, **-іст-**, **-аст-**.

Па-беларуску тое, што складаецца зь дзьвюх палавінак, — *палавінк**ав**ае*, з розных частак, — *частк**ав**ае*, з долек, — *дольк**ав**ае* (напрыклад, цэгла з палавінак — ***палавінкавая*** *цэгла*, плод з долькамі — ***долькавы*** *плод*). Пастанова, захады могуць быць пазбаўленыя пасьлядоўнасьці, адназначнасьці — мы называем іх *палавін**іст**ымі*. Такі самы суфікс **-іст-** і ў беларускім слове *расплыв**іст**ы*. Недаволі выразнае, няпэўнае ўяўленьне пра некага або пра нешта — гэта ***расплывістае*** *уяўленьне*. Бульба, кажучы па-беларуску, бывае *рассып**іст**ая*, *рассыпч**аст**ая* ці — яшчэ — *сопкая*. Гума, падобная да губкі, — *губк**ават**ая*, вужака, пакрытая лускою, — *луск**ават**ая*, а матэрыял з мноствам складак — *складк**ават**ы*. Сыстэма адукацыі складаецца з колькіх ступеняў — яна *шматступен**ев**ая* ці *многаступен**ев**ая*.

Такім парадкам, на месцы пазычаных прыметнікаў з суфіксам **-чат-** ужываем словы тыповай

будовы: ***палавіністая*** *пастанова*, ***пералівісты*** *колер*, ***расплывістыя*** *абрысы*, ***зубчастае*** *кола*, ***клятчастая*** *кашуля*, ***палавінкавая*** *цэгла*, ***каленцавы*** *вал*, ***шматступеневая*** *ракета*, ***сеткаватая*** *абалонка*.

## Пасярэднік, беспасярэдні, беспасярэдне

*Пасрэднік* ці *пасярэднік*, *непасрэдны* ці *беспасярэдні* — якія з названых формаў для нашае мовы заканамерныя?

Гаворым: *серада*, *сярэдзіна*, *сярэдні*, *пасярод*, *пасярэдзіне* — у кожным слове тут поўнагалосьсе (спалучэньні **-ера-**, **-ярэ-**, **-яро-** паміж двума зычнымі). Чаму ж тады *пасрэднік*, ён жа *пас**я**род*, *пас**я**рэдзіне* некага? Прычына на паверхні — форма *пасрэднік* перанесеная з расійскае літаратурнае мовы, дзе, як ведама, няпоўнагалосныя, успадкаваныя з царкоўнаславяншчыны формы — рэгулярная зьява. Ідучы за сыстэмаю нашае мовы, мы адназначна прыходзім да поўнагалоснага, з гукам **[а]** у корані, варыянту *пас**я**рэднік* і вытворных прыметніка *пас**я**рэдніцкі* і назоўніка *пас**я**рэдніцтва*.

У такім разе як назавем, напрыклад, размову без *пасярэднікаў*, бязь нейчага *пасярэдніцтва*? Моўная сыстэма выводзіць нас на прыметнікавую форму *беспасярэдні* — зь мяккай асноваю, бо вытокі гэтага слова ў прыметніку *сярэдні* (*сярэдні* — *пасярэдні* — *беспасярэдні*). Адкуль жа *непасрэдны*? Хіба можна вывесьці *непасрэдны* ад *сярэдні*? Нельга, проста немагчыма. Форма *непасрэдны* — ня што іншае, як прадукт перайначаньня, кабінэтнага падпраўленьня расійскага прыметніка *непосредственный*. У савецкую пару “падпраўкі” *непасрэдны* і *непасрэдна* моцна, як ведаем, укараніліся ў нашай мове. У выніку заканамерныя беларускія словы — прыметнік *беспасярэдні* і прыслоўе *беспасярэдне* — пакуль што значна радзейшыя ў маўленьні. Але іх варта, думаю, пашыраць, што, уласна, і робяць паасобныя сучасныя беларускія аўтары.

*“Няма **беспасярэдніх** крыніцаў, зь якіх можна было б даведацца пра ўсходнеславянскія дыялекты прыкладна IX — X стагодзьдзяў”*, — чытаем у кнізе “Гісторыя і міты” Валянціна Грыцкевіча. *“... Вітаўт быў сярод свайго войска і **беспасярэдне** кіраваў ім у сечы”*, — пішуць у бэстсэлеры “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі” Ўладзімер Арлоў і Генадзь Сагановіч.

***Пасярэднік***, ***пасярэдніца***, ***пасярэдніцкія** функцыі*, *зрабіць нешта пры нейчым **пасярэдніцтве***, *мець **беспасярэдні** кантакт*, ***беспасярэдне** ўдзельнічаць* — выбіраем сыстэмныя поўнагалосныя формы назоўнікаў, прыметнікаў і прыслоўя.

## Паўгадзіны, паўгоду

Складаныя словы зь першай часткаю **поў- / паў-**. Здаецца, з афармленьнем такіх словаў не павінна ўзьнікаць абсалютна ніякіх праблем, аднак жа часам чуем у беларускім маўленьні то *п[о]ўгадзіны*, то *п[о]ўмесяца*.

Асноўная прычына названых ненарматыўных формаў — у перанясеньні на беларускі моўны грунт асаблівасьцяў вымаўленьня расійскіх словаў з часткаю **пол-**: *п[о]лчаса*, *п[о]лмесяца*, *п[о]лтоны* (у расійскай мове частка **пол-** мае на сабе, як правіла, пабочны націск). У 30-40-я гады мінулага стагодзьдзя зьявіліся на пісьме й формы накшталт *поўгадзіны* і *поўмесяца*. Людзі, якія ведалі жывую, беларускую мову, такія формы крытыкавалі.

Вось жа, у нашай мове ў складаных словах з часткаю **поў-** / **паў-** заўсёды адзін націск, другога, пабочнага націску няма. Як на названую тут частку слова падае націск, тады ў ёй выступае гук [о]: *п**о**ўдзень*, *п**о**ўнач*. Калі націск на другой частцы складанага слова, у першай заўсёды маем **[а]**: *п**а**ўгадзіны*, *п**а**ўмесяца*, *п**а**ўтоны*, *п**а**ўтысячы* і г. д.

Пры нагодзе разбору часткі **паў-** у складаных словах дазволю сабе яшчэ малую граматычную рэпліку. Формы тыпу *паўгады*, *паўмесяцы*, *паўмільёны*, якія таксама раз-пораз чуем у літаратурным маўленьні, памылковыя. Мы гаворым: *палова* / *палавіна* (чаго?) *год**у*** або (у савецкай граматычнай традыцыі) *год**а***, *палова месяц**а***, *палова мільён**а***. Адкуль жа *паўгады*, пры чым тут форма множнага ліку *гады*? З часткаю **паў-** спалучаецца форма роднага склону: *ня бачыліся паўгод**у***, *прыедзе праз паўмесяц**а***, *заробім паўмільён**а***.

## Пэнсійны, сэсійны, камісійка, тэлевізійнік

Пасьведчаньне *пэнсіённае* ці *пэнсійнае* — якая з формаў у нашай мове заканамерная? На пасьведчаньні ў беларускіх пэнсіянэраў выдрукавана, што яно — *пенсіённае*. Але адкуль такі прыметнік?

Па-беларуску тое, прыкладам, што мае дачыненьне да *камісіі* — *камісійнае*, да *канвэрсіі* — *канвэрсійнае*, а да *экскурсіі* — *экскурсійнае*. Вось жа, прыметнікі ад назоўнікаў на **-ія** (**-ыя**) маюць кароткі суфікс **-н-** — ён далучаецца да асновы ўтваральнага слова. Беручы гэта пад увагу, нельга слова *пэнсіённы* вывесьці ад *пэнсіі*. Выглядае, як бы *пэнсіённы* быў ад *пэнсіёну*, але такога слова сучасная літаратурная мова ня ведае — ёсьць толькі *пансіён*. Усё прасьцей: зафіксаваны ў савецкіх слоўніках прыметнік *пенсіённы* перанесены з расійскае мовы. Таксама адтуль і слова *сесіённы* — ніяк нельга ўтварыць яго ад *сесіі*. Замест названых пазычаньняў трэба ўжываць сваё: прыметнікі *пэнсійны* і *сэсійны* (у савецкай правапіснай традыцыі — *пенсійны* і *сесійны*).

І ў працяг перасьцярог яшчэ пра два некрытычна перайманыя назоўнікі — *камісіёнку* і *тэлевізіёншчыка*. Краму па-беларуску называюць не *камісіённай*, а *камісійнаю* — то ж і просіцца для аднаслоўнага яе называньня *камісійка*. Па-беларуску няма *тэлевізіённага работніка* — ёсьць *тэлевізійны*. Адсюль і заканамерная аднаслоўная форма *тэлевізійнік*.

Ня варта культываваць у мове словы нетыповае будовы, калі пад рукою ёсьць свае: ***пэнсійнае*** *пасьведчаньне*, ***сэсійная*** *пара*, *камісійная крама* — ***камісійка***, *супрацоўнік тэлевізіі* — ***тэлевізійнік***.

## Разбор, разьбіраньне; умяшаньне, умешваньне

*Разьбіральніцтва* і *ўмяшальніцтва* — ніводзін слоўнік беларускай літаратурнай мовы не фіксуе гэтых назоўнікаў, аднак часам яны здараюцца ў моўнай практыцы. Пры гэтым карыстальнікі мовы арыентуюцца, абапіраюцца, відавочна, на расійскія словы *разбирательство* і *вмешательство*, проста падпраўляюць іх. Але ж замена суфіксаў — у нашым выпадку ***-тель*** на ***-нік*** — сама па сабе ня робіць слова беларускім.

Праблема тут у нетыповай мадэлі слова. Назоўнікі дзеяньня ў беларускай мове звычайна ўтвараюцца адразу ад дзеясловаў: *будаваць* — *будаваньне*, *вітаць* — *вітаньне*, *сьведчыць* — *сьведчаньне*. Няма ніякай патрэбы адступацца ад такой мадэлі, утвараючы назоўнікі ад дзеясловаў *разьбіраць* і *ўмешвацца* ці *ўмяшацца*. Ад *разьбіраць* маем вытворныя *разьбіраньне* і *разбор*. Скажам, да прыкладу, што *правялі* ***разбор*** *справы*, *запрасілі некага на* ***разьбіраньне*** *сытуацыі*. У ролі сыноніма да *разбору* і *разьбіраньня* выступае традыцыйны *разгляд* (гаворым: ***разбор*** *пазову* і ***разгляд*** *пазову*).

Ад дзеяслова незакончанага трываньня *ўмешвацца* ёсьць назоўнік *умешваньне* — з адценьнем незакончанасьці дзеяньня. У сваю чаргу ад дзеяслова *ўмяшацца* маем рэкамэндаванае нарматыўнымі слоўнікамі *ўмяшаньне* (напрыклад, *вайсковае* ***ўмяшаньне***, *хірургічнае* ***ўмяшаньне***, ***умяшаньне*** *ў чужое жыцьцё*).

## Разгорнуты, расьперазаны, расьсьмяяны

І ў акадэмічнай граматыцы, і ў школьным падручніку ясна сказана: зваротныя дзеепрыметнікі для беларускай літаратурнай мовы не характэрныя (гл. таксама нататку “Адбытыя выбары; разьвіваная / разьвіцьцёвая краіна”). Ці заўсёды мы памятаем пра гэта?

Вярнуцца да тэмы я наважыў, пачуўшы па радыё пра *разгарнуўшуюся дыскусію*, а ў газэце прачытаўшы пра кандыдата ў дэпутаты, які *“апусьціў на зямлю” зарваўшуюся ў паліцэйскім запале адміністрацыю рынку”*. У абодвух выпадках, каб фраза, сказ загучалі па-беларуску, можна скарыстаць і дзеепрыметнікі — толькі не калькаваныя, а тыя, якія ў нашай мове традыцыйныя і шырока ўжываюцца.

Па-беларуску той, які адбыўся, — *адбыты*, які завяршыўся, — *завершаны*, той, што лопнуў, — *лопнуты*, што расьсьмяяўся, — *расьсьмяяны*. У Брыля, напрыклад, чытаем пра *“**расьсьмяянае** дзіця”*, а ў Скрыгана — пра *“**лопнутую**, пачарнелую бочку”*. Бачым тут, што беларускія дзеепрыметнікі з суфіксамі -н- і -т- перадаюць значэньне іншамоўных зваротных дзеепрыметнікаў.

І цяпер заменім прыведзеныя на пачатку калькі. Нехта пачынае, разгортвае дыскусію — па-беларуску можам сказаць пра *пачатую*, *распачатую* або *разгорнутую дыскусію*. Вось жа, ад *разгарнуць* — дзеепрыметнік *разгорнуты*, з усімі яго шматлікімі, пазнавальнымі ў кантэксьце значэньнямі.

А як назваць тых, хто *зарываецца* — заходзіць у нечым задалёка, пераходзіць усякія межы? Ці пазнавальны ў гэтым сэнсе вытворны ад *зарвацца* дзеепрыметнік *зарваны*? Здаецца, пакуль што

ня вельмі: спалучэньне *зарваная адміністрацыя* гучыць аказіянальна. Думаю, лепш аддаць перавагу формам ад дзеясловаў *расьперазацца*, *распусьціцца*: *расьперазаны* і *распушчаны*. Уладзімер Караткевіч пісаў пра Мэфістофэля, створанага людзьмі, каб *“апраўдаць сваё поўзаньне на жываце перад уладамі,* ***расьперазанымі*** *хамамі-ваякамі і сьветам гвалту”*.

## Рокерша ці рокерка?

Газэта “Звязда”. Рубрыка “Крымінал”. Артыкульчык пад загалоўкам *“Рокерша з падлеткамі апаганьвалі магілы”*. З матэрыялу вынікае, што тая *рокерша* — 24-гадовая *касірка* Барысаўскага чыгуначнага вакзалу.

Жанчыну-касіра натуральна па-беларуску назвалі ў газэце *касіркаю*, пры гэтым зьвярнулі ўвагу, што яна аматарка рок-музыкі, адным словам, *рокерша*. Апошняе слова — не зь беларускай моўнай практыкі. Для нашай літаратурнай мовы словы на **-ш-а** з значэньнем асобы жаночага полу не характэрныя. Жанчыну-доктара, напрыклад, можам зваць *доктаркаю* ці *дакторкаю*, а жонку доктара — *доктарыхай*. Словамі жаночага роду на **-к-а** называем жанчыну паводле роду яе дзейнасьці, сфэры зацікаўленьняў, займанага ёю становішча: *бібліятэкарка*, *бухгальтарка*, *дырэктарка, паэтка*, *рэдактарка*, *сакратарка*.

Вядома, не ад кожнага назоўніка з значэньнем асобы мужчынскага полу ўтвараецца такі жаночы адпаведнік. У афіцыйна-канцылярскай мове назовы пасадаў функцыянуюць амаль заўсёды ў сваіх першасных, мужчынскіх формах (напрыклад, *жанчына-міністар*, *прэм’ер* або *пасол*). Пры гэтым у неафіцыйным маўленьні, а часам і ў мове мэдыяў культывуюцца формы жаночага роду й для такіх “мужчынскіх” пасадаў (*“амбасадарку ЗША ў Беларусі адклікалі ў Вашынгтон”*, *“міністарку фінансаў Францыі абралі кіраўніцай МВФ”*, *“экс-прэм’ерку Украіны этапавалі ў калёнію”* і г. д.).

Але вернемся да назову жанчыны-рокера. Тут, відавочна, тыповая беларуская мадэль абсалютна

прыдатная. Як жанчына-касір — *касірка*, так жанчына-рокер — *рокерка*.

Стараймася не размываць словаўтваральных нормаў нашае мовы. Гаворым па-беларуску: *аптэкарка*, *кандуктарка*, *лектарка*. Жонак генэрала, дырэктара, міністра можам назваць *генэраліхай*, *дырэктарыхай*, *міністрыхай* (формы тыпу *генэральша*, *дырэктарша*, *міністэрша* — нелітаратурныя).

## Сагнаць / выкрасьці самалёт, згон / выкраданьне самалёта

У мове мэдыяў праскокваюць часам дзеяслоў *угнаць* і назоўнік *угон*, прычым праскокваюць не ў беларускім значэньні. Можам, прыкладам, пачуць, што нехта *ўгнаў самалёт*. Як гэта можна зразумець па-беларуску?

У нашай мове прыстаўка **у-** перадае між іншага скіраванасьць дзеяньня ў сярэдзіну нечага: ***у**бегчы ў дом*, ***у**біць у сьценку*, ***у**везьці ў краіну*, ***у**ехаць у двор*. Выходзіць, што ***ў**гнаць самалёт* — гэта загнаць, паставіць яго некуды, скажам, у ангар. Нам жа трэба перадаць адваротнае дзеяньне.

Акадэмічныя слоўнікі рэкамэндуюць абыходзіцца ў гэтым выпадку дзеясловамі *красьці* або *выкрадаць* і аддзеяслоўнымі назоўнікамі *выкраданьне* і *крадзеж*. Беларуская маўленчая практыка гэтым не абышлася: у разьбіраным значэньні ўжываюцца й формы ад дзеяслова *гнаць*, але з заканамернай прыстаўкаю **з-/са-**: *зганяць, сагнаць* і *згон*. Рэч у тым, што *ўкрасьці* або *выкрасьці* можна ўсё, што хочаш, а вось *гнаць* — толькі тое, што само ці ў выніку ўзьдзеяньня рухаецца ў прасторы. Аўтамабіль або самалёт выкрадаюць, гонячы іх некуды. Такім чынам, можна сказаць па-беларуску, што *самалёт быў **выкрадзены** злачынцамі*, што *адбылося **выкраданьне** самалёта*, але можна — і, думаю, варта — падкрэсьліць, што яго *гналі*: *злачынцы **сагналі** самалёт*, *быў учынены **згон** самалёта*. Таго, хто ўчыняе *згон*, назавем ня проста *злодзеем*, гэты чалавек — *згоньнік* або — з другім суфіксам — *згонца*.

## Спансараваць, фундаваць

Што робіць *спонсар* — *спансіруе* або *спансаруе*? Раз-пораз у сучасным маўленьні здараецца не фіксаваны слоўнікамі дзеяслоў *спансіраваць*.

Як вядома, формы дзеясловаў з суфіксам **-ірава-** не тыповыя для беларускае мовы. У нашай літаратурнай мове няма ніводнага прыкладу, каб ад беларускай ці хай сабе іншамоўнай асновы быў утвораны ўласнабеларускі дзеяслоў з суфіксам **-ірава-**. Дзеяслоў *спансіраваць* перанесены з расійскай моўнай практыкі. Адначасна ў беларускім маўленьні на базе англіцызма *спонсар* узьнік дзеяслоў тыповай будовы з суфіксам **-ава-** — *спансараваць*. Гэтаму сэнсава празрыстаму наватвору варта, думаю, аддаць перавагу перад пазычаньнем.

Пры гэтым памятайма, што ў дзеяслова *спансараваць* ёсьць стагодзьдзямі ўжываны ў нашай мове сынонім — слова *фундаваць*. Яно лацінскага паходжаньня — ад дзеяслоўнай формы *fundo* ‘закладаю асновы, даю пачатак’. Нехта дае сродкі, грошы на будоўлю, разьвіцьцё нечага — тым самым *фундуе*, *спансаруе*, выступае *фундатарам*, *спонсарам*. Па-беларуску *фундаваць* — гэта яшчэ й проста частаваць некага за свой кошт, купляць нешта некаму ў падарунак.

*Спонсар* і *фундатар*, *спансараваць* і *фундаваць* — маем выбар з раўнапраўных сынонімаў. Фінансуючы праект у якасьці *спонсараў*, *фундатараў*, мы тым самым *спансаруем*, *фундуем*, займаемся *спансараваньнем*, *фундаваньнем* праекту.

## Старшыня, старшыняваць, старшыняваньне, старшынёўства

*Старшына* і *старшыня* — два зусім блізкія з гучаньня словы. Носьбіты літаратурнае мовы адрозьніваюць іх паводле значэньня: добра ведаем, хто такі *старшына* і чым займаецца *старшыня*. Часам, аднак, узьнікаюць пытаньні, зьвязаныя з утварэньнем словаў ад згаданых назоўнікаў, у першую чаргу ад слова *старшыня*. Пытаюцца, да прыкладу, што робіць *старшыня* — *старшынствуе* ці *старшынюе*, як называць выкананьне *старшынём* абавязкаў — *старшынствам* або *старшынёўствам*?

Для нашае мовы дзеясловы з суфіксальнай часткаю **-ствава-** ў цэлым не характэрныя. Як ад назоўніка *пан* маем дзеяслоў *панаваць*, ад *цар* — *цараваць*, так і ад *старшыня* будзе *старшыняваць*. У слове *старшыня* мяккая аснова, таму й дзеяслоў канчаецца на **-няваць**. У сваю чаргу назоўнік зь цьвёрдай асноваю — *старшына* — дае дзеяслоў на **-наваць** — *старшынаваць*. *Старшыня* на судовым, напрыклад, паседжаньні *старшынюе*, а *старшына* ў вайсковым падразьдзяленьні *старшынуе*.

Зь дзеясловаў *старшыняваць* і *старшынаваць* вынікаюць заканамерныя назоўнікі *старшыняваньне* і *старшынаваньне*. Скажам па-беларуску: *за часам яго* ***старшыняваньня*** *гаспадарка была адной з найлепшых*, *братава* ***старшынаваньне*** *ў войску працягвалася доўгі час*. Гаворачы пра выкананьне *старшынём* сваіх абавязкаў, поруч з назоўнікам *старшыняваньне* ўжываюць і слова *старшынёўства* (да прыкладу: *за гады* ***старшынёўства*** *ў выканкаме ён шмат чаго навучыўся*).

Зыходзячы з формы *старшынёўства* ў дачыненьні да *старшыні*, можна вывесьці назоўнік

*старшыноўства* як сынонім да слова *старшынаваньне*. Праўда, калі *старшынёўства* — жывое слова, факт сёньняшняга маўленьня, то памянёнае *старшыноўства* — аказіяналізм: так у нас не гавораць. Акадэмічныя слоўнікі беларускае мовы з значэньнем знаходжаньня ў годнасьці *старшыны* падаюць назоўнік *старшынства* (нельга, аднак, не заўважыць, што гэтае слова — крайне рэдкае ў літаратурным маўленьні).

Напомню яшчэ, што для беларускае мовы значна больш характэрныя назоўнікі з значэньнем дзеяньня на **-ньне**, чымся на **-ства** (іначай кажучы, назоўнікі накшталт *старшыняваньня* больш рэгулярныя ў мове за словы тыпу *старшынёўства*).

## Суаўтар, сувыканаўца, суўдзельнік

Як афармляем словы з значэньнем супольнасьці дзеяньня? У акадэмічных слоўніках беларускае мовы поруч, скажам, з ***су**заснавальнікам* і ***су**наймальнікам* зафіксаваныя ***са**аўтар* і ***са**ўдзельнік*. Як тут разабрацца: чаму ў першым выпадку прыстаўка су-, а ў другім са-?

Традыцыйна ў нашай мове значэньне сумеснасьці, супольнасьці надае словам прыстаўка су-: ***су**выканаўца*, ***су**грамадзянін*, ***су**працоўнік*, ***су**родзіч*. Афармленьне словаў такога тыпу з прыстаўкаю са- — вынік перанясеньня адпаведных фактаў расійскае мовы. У сучаснай моўнай практыцы відаць, аднак, тэндэнцыя на сыстэмнасьць — лексыку, якая мае значэньне супольнасьці дзеяньня, больш пасьлядоўна афармляюць паводле беларускай мадэлі з прыстаўкаю су-: ***су**аўтар*, ***су**выдавец*, ***су**даклад*, ***су**дружнасьць*, ***су**ўдзельнік*.

Зьвярну яшчэ ўвагу, што ў ролі адпаведнікаў паасобным расійскім словам на со- выступаюць беларускія іншай будовы. Напрыклад, расійскім словам *сокурсник, сослуживец* адпавядаюць беларускія *аднакурсьнік* і *таварыш* / *калега па службе* (*з службы*). А, скажам, на месцы некрытычна пазычанага *саіскальніка* або крыху падпраўленага *суіскальніка* варта выкарыстаць беларускага *спаборніка*. Дарэчы, чалавека, які прэтэндуе на атрыманьне званьня, ступені, пачынаючы з 1990-х часам называюць яшчэ й *спашукальнікам*.

***Су**аўтар, **су**выканаўца, **су**кватарант, **су**мяшчальнік, **су**ўдзельнік, **су**ўладальнік* — у абсалютнай большасьці выпадкаў значэньне супольнасьці дзеяньня можам перадаць словамі з прыстаўкаю су-.

## Узгадаць ці згадаць?

У сучасным маўленьні і на пісьме суіснуюць дзеясловы *ўзгадаць*, *узгадваць* і *згадаць*, *згадваць*, назоўнікі *ўзгадка* і *згадка*. Якія з гэтых формаў, зь якой прыстаўкаю, больш апраўданыя ў літаратурным маўленьні?

Нарматыўныя слоўнікі фіксуюць толькі словы з прыстаўкавым **з-**: *згадаць* і *згадваць*, *згадацца* і *згадвацца*, *згаданы*, *згадваньне*, *згадка*. Такі падыход несумненна слушны, бо формы з прыстаўкаю **уз-** (*узгадаць*, *узгадка* ды інш.) у прасторы жывой народнай мовы былі і застаюцца вузкарэгіянальнымі, а ў кантэксьце літаратурнай мовы могуць разглядацца як кантамінаваныя, мяшаныя (напрыклад, форма *ўзгадаць* успрымаецца як вынік афармленьня слова *згадаць* на ўзор дзеяслова *ўспомніць*). *Згадаць* — у Багдановіча і Купалы, Куляшова і Караткевіча, Быкава і Брыля.

І яшчэ трохі — пра значэньні дзеяслова *згадаць*. У сучасным літаратурным маўленьні *згадаць* ужываюць звычайна толькі ў сэнсе ‘ўспомніць’, ня ведаючы або забываючыся пра другое, традыцыйнае і рэгулярнае ў аўтэнтычнай мове, значэньне. *“Дзяўчына... ведама, дзяўчына — хто там* ***згадаў****, што ў ёй сядзіць”*, — пісаў Купала. *“Ім ня сьцяць маіх думак і сэрца, не* ***згадаць*** *іх жыцьцёвы сакрэт”*, — гэта ўжо радкі з паэзіі Алеся Салаўя. У прыведзеных ілюстрацыях *згадаць* значыць ‘угадаць’.

То ж памятайма: дзеяслоў *згадаць* мае ў літаратурнай мове два значэньні: ‘успомніць’ і ‘ўгадаць’ (напрыклад, ***згадаць*** *былое* ‘ўспомніць былое’ і ***згадаць*** *загадку* ‘ўгадаць загадку’).

## Фармаваць, фармаваньне

Характар *фарміраваць* ці *фармаваць*, вайсковае *фарміраваньне* або *фармаваньне* — што ўжываць — формы з элемэнтам **-ір-** або безь яго? Пра гэта ў сваім лісьце папытаўся сталы слухач “Свабоды” Юры Эпштэйн.

Формы дзеясловаў з суфіксам **-ірава-**, не тыповыя для беларускай мовы — гэта агульнавядома і канстатавалася і ў нашай кнізе (гл. таксама нататку “Спансараваць, фундаваць”). Формы кшталту *апэрыраваць*, *камандзірав**а**ць* або *фарміраv**а**ць* — ня што іншае, як калькі аналягічных расійскіх дзеясловаў. Пэўне ж, некаторыя з гэтых калек трывала замацаваліся ў нашай мове — без элемэнта **-ір-** сэнс такіх, напрыклад, словаў, як *лавіраваць* або *парыраваць* сапраўды зацямняецца або ўзьнікае непажаданая аманімія.

Але ці ёсьць такая небясьпека ў выпадку слова *фармаваць*? Відавочна, што няма. Фіксаваныя савецкімі слоўнікамі дзеясловы *фармаваць* і *фарміраваць* маюць вытокі ў лацінскім слове *formāre* і нясуць у цэлым тое самае шырокае значэньне надаваньня формы, устанаўленьня, стварэньня або пераўтварэньня нечага. Да рэвізіі 1930-х гадоў нашая мова абыходзілася адным тыповым словам — *фармаваць*. Пазьней палічылі, што яго замала, і дапісалі расійскае *формировать*. Некаторыя айчынныя аўтары ўзяліся тады папраўляць у сваіх раней напісаных творах *фармаваць* на *фарміраваць* — напрыклад, у арыгінале Крапівовых “Мядзьведзічаў” бачым *фармаваць*, а ў паваенных перавыданьнях раману — *фарміраваць*.

З 1980-х дзеяслоў *фармаваць* і ўтвораны ад яго назоўнік *фармаваньне* вяртаюць сабе забраныя пазычаньнямі значэньні. Усё часьцей карыстальнікі мовы ўсьведамляюць збыткоўнасьць дзеяслова *фарміраваць* і ўсіх вытворных. Гаворым па-беларуску: ***фармаваць*** *узор*, ***фармаваць*** *характар*, ***сфармаваць*** *урад*, ***сфармаваць*** *каманду*, *стварыць вайсковае* ***фармаваньне***.

# НАЗОЎНІК

## Род слова: дзякуй — вялікі, шчыры, сардэчны

Да якога роду назоўніка *дзякуй* схіліцца? Паваенным часам бальшыня выдадзеных у БССР слоўнікаў арыентавала на ніякі род. Тым часам у штодзённым маўленьні і ў мастацкай мове *дзякуй* шырока культывавалі як слова мужчынскага роду.

Форма *дзякуй* — ад дзеяслова *дзякаваць*, у якога нямецкія вытокі (*dank* 'падзяка, удзячнасьць', *danken* 'дзякаваць'). Сьпярша форма *дзякуй* ужывалася ў ролі часьцінкі (*дзякуй вам за ўсё*, *дзякуй на добрым слове*), а пасьля *дзякуй* стаў яшчэ й назоўнікам.

Ці ёсьць у нашай мове назоўнікі ніякага роду, якія канчаюцца на **[й]**? Глядзеце: *гай*, *рай*, *край*, *ручай*, *бой*, *набой*, *сырадой* і гэтак далей — усе чыста словы з канцавым ётам мужчынскага роду. У жывой беларускай мове *дзякуй*, пачынаючы функцыянаваць у ролі назоўніка, афармляўся, як правіла, на ўзор шматлікіх уласнабеларускіх словаў зь ётам на канцы — значыць, як слова мужчынскага роду. Калі мы, вызначаючы род, зыходзім з фактаў традыцыйнага беларускага маўленьня, тады ня можам не прызнаць, што *дзякуй* у беларускай мове — мужчынскага роду. А вось ужываньне слова *дзякуй* як назоўніка ніякага роду ў вялікай ступені абумоўлена ўплывам адпаведнае расійскае формы (*спасибо — большое, огромное* і г. д.).

Насуперак маўленчай практыцы, нарматыўныя слоўнікі фіксуюць яшчэ, што назоўнік *дзякуй* не скланяецца. Першае пацьверджаньне, што скланяецца, у нас пад рукою, у добра знанай прыказцы:

*дзякуем не адбыць — трэба заплаціць*. Мовазнаўца Яўген Рапановіч, пішучы пра слова *дзякуй*, паказваў, як лёгка яно зьмяняецца ў аўтэнтычным беларускім маўленьні: *“А што мне з твайго дзякуя? Якая цана яму, гэтаму дзякую? Зь дзякуем, брат, у краму ня пойдзеш. І на дзякуі не пражывеш...”*.

Не скланяючы ў літаратурным ужытку назоўніка *дзякуй*, мы зьмярцьвяем яго, адбіраем долю жыцьця. Памятайма пра гэта, а яшчэ абавязкова й пра тое, што слова *дзякуй* — такі самы назоўнік мужчынскага роду, як *бой*, *гай* або *рай*: *вялікі дзякуй*, *сардэчны дзякуй*, *шчыры дзякуй*, *сыноўскі дзякуй*, *наш дзякуй*, *адзін дзякуй*.

## Адзіночны лік: бяліла, чарніла

Ёсьць два беларускія назоўнікі — *чарніла* і *бяліла*. Зрэшты, як ісьці за акадэмічнымі слоўнікамі, то *бялі́л**а*** нібыта й няма — у тых слоўніках толькі *бялі́л**ы***, толькі множналікавая форма. Некалі на гэтую слоўнікавую памылку браў увагу ў сваіх кніжках Фёдар Янкоўскі. Слоўнікі, аднак, перавыдаюцца, паўтараючы памылку...

*Чарніла* і *бяліла* — назоўнікі той самай будовы, структурна аднолькавыя. Гэтаксама як і *чарніла*, у народнай мове *бяліла* ня ведае множнага ліку. *“Я й сініла, я й бяліла. Бяліла ўсякім **бялілам**, болей ручкамі бяліла, сваімі белымі бяліла”*, — гэтыя песенныя сказы Фёдар Янкоўскі запісаў пад Глускам. Нашто ж пераносіць у беларускую літаратурную мову граматычныя характарыстыкі расійскага слова *белила*, якое ня мае адзіночнага ліку? У нашай мове іначай — граматычна *бяліла* ня розьніцца ад *чарніла* — абодва словы ніякага роду і ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку: *белае **бяліла***, *чорнае **чарніла***, *пісаў **чарнілам***, *бяліў **бялілам***.

Сярод лексычных рэзэрваў мовы ў *бяліла* і *чарніла* ёсьць, вядома ж, сынонімы. Белую мінэральную фарбу па-беларуску могуць назваць не адно *бялілам* — гэта яшчэ й *бель* ці *пабела*. Апрача як *чарнілам*, раствор пісаць называюць словам лацінскага паходжаньня — *атрамэ́нт* або (з націскам, абумоўленым польскім пасярэдніцтвам пры пазычэньні) *атра́мант*. *“Змачу пёрка ў **атрамэнту** ды як чыркну на паперы”*, — пісаў Купала.

## Множны лік: бярвёны, зьвёны, камяні

У маўленьні і на пісьме здараюцца формы множнага ліку тыпу *бярвеньні*, *зьвеньні*, *каменьні*, *карэньні*. Як узьніклі такія формы і ці адпавядаюць яны нормам літаратурнае мовы?

Для нашае мовы не характэрны суфіксальны спосаб утварэньня множналікавых формаў назоўнікаў. Форма множнага ліку назоўнага склону характарызуеццаканчаткам **-і** (**-ы**), пры гэтым дадатковай суфіксацыі — далучэньня яшчэ нейкага суфікса — няма: *волас — валасы*, *зуб — зубы*, *ліст — лісты*, *крыло — крылы* і г. д. У формах тыпу *карэньні*, *каменьні* накладаюцца адна на адну, крыжуюцца беларускія і расійскія формы (*коренья* + *карані* — *карэньні*).

Вось жа, на месцы скрыжаваных ненарматыўных формаў маем ужываць або звычайныя, тыповыя формы множнага ліку на **-і** (**-ы**), або зборныя назоўнікі. Як ад *вясло* форма множнага ліку *вёслы*, ад *гняздо — гнёзды*, так, скажам, ад *бервяно — бярвёны*, а ад *зьвяно* (зьвяртаю на гэта асаблівую ўвагу) — *зьвёны* (ня *зьвеньні*, а якраз-такі *зьвёны*).

У сваю чаргу зборныя назоўнікі ўтвараюцца ад асновы формы адзіночнага ліку далучэньнем суфікса **[й]** і канчатка **[э]** (пры гэтым канцавыя гукі асновы, апрача губных і **[р]**, падаўжаюцца): *брус — брусьсе*, *дуб — дуб'ё*, *камень — каменьне*, *крыло — крыльле*, *ліст — лісьце*, *пяро — пер'е*.

Пры канцы паправім адзін сказ з памылковаю формаю: *Дрэва глыбока пусьціла карэньні*. Замест формы *карэньні* трэба ўжыць або правільную форму множнага ліку назоўніка *карань*, або зборны назоўнік *карэньне*: *Дрэва глыбока пусьціла* ***карані*** або *Дрэва глыбока пусьціла* ***карэньне***.

## Множны лік: дзяўчаты, дзяўчаткі

Ці памятаем мы пра *дзяўчат* і *дзяўчатак* — пра традыцыйныя і абавязковыя для беларускай мовы формы множнага ліку назоўнікаў *дзяўчына* і *дзяўчынка*? На жаль, не заўжды і ня кожны. Запрашаюць, напрыклад, на перадачу хлопчыкаў і *дзяўчынак* або, скажам, выдаюць часопіс для *дзяўчынак*.

Замест формы *дзяўчынак* у такіх выпадках трэба ўжыць другую — *дзяўчатак*. У множным ліку назоўнік *дзяўчынка* мае форму *дзяўчаткі*, назоўнік *дзяўчына* — *дзяўчаты*.

Згодна з нормамі літаратурнай мовы, формы *дзяўчынкі* і *дзяўчыны* маем ужываць толькі ў спалучэньні зь лічэбнікамі *дзьве*, *тры* і *чатыры*: *у залі былі* ***дзьве дзяўчынкі****, у двары мы пабачылі* ***трох дзяўчын***, але *для ўдзелу ў перадачы запрасілі* ***дзяўчатак***, ***дзяўчаты*** *сабраліся на сустрэчу.*

Трэба памятаць, што ў множным ліку словы *дзяўчынка* і *дзяўчына* крыху зьмяняюць сваё аблічча: ***дзяўчынка*** *чытае часопіс для* ***дзяўчатак***, ***дзяўчына*** *ідзе насустрач* ***дзяўчатам***.

## Устаўны гук: Зьміцер — да Зьмітрá, Полацак — у Полацку, воцат — купілі воцту

Часта задаюць пытаньне, як правільна скланяць імя *Зьміцер*: *Зьміц**е**ра* ці *Зьмі**тр**á*? Галосны **[э]** у беларускай форме *Зьміц**е**р* — устаўны: ён разьвіўся ў канцавой групе зычных. Такое самае паходжаньне маюць гукі **[э]**, **[о]** у цэлым шэрагу нашых словаў: напрыклад, *вец**е**р*, *вуз**е**л*, *журав**е**ль*, *караб**е**ль*, *баб**ё**р*, *віх**о**р*. Калі спалучэньне зычных апынаецца перад галосным, устаўны зьнікае: *вец**е**р*, але *пры ве**тр**ы*, *караб**е**ль — на кара**бл**і*, *баб**ё**р — з ба**бр**ом*, *руб**е**ль — з ру**бл**ём*. Значыць, і ў выпадку імя *Зьміц**е**р* заканамерным пры скланеньні будзе выпаданьне ўстаўнога гуку (адбываецца тут і зьмена націску): *Зьміц**е**р* — але *не было Зьмі**тр**á*, *сустрэліся зь Зьмі**тр**ом*, *селі пры Зьмі**тр**ý*.

У беларускіх назовах гарадоў *Полац**а**к*, *Клец**а**к*, *Слуц**а**к* і аналягічных ім гук **[а]** у канцавым спалучэньні — таксама ўстаўны. *Полац**а**к* — але *бачыліся ў Пола**цк**у*, *успаміны, зьвязаныя з Пола**цк**ам*, і г. д.

І яшчэ пра адно слова — назоўнік лацінскага паходжаньня *воцат*. Сёньня ў асноўным скланяюць яго, захоўваючы галосны **[а]**: *воц**а**ту*, *воц**а**там* і г. д. Але хацеў бы нагадаць, што сказаў пра гэта знаўца аўтэнтычнай беларускай мовы Максім Лужанін. *“Цяпер... робіцца несусьвеціца*, — лічыў Лужанін, — *пішуць* ***воцату****... замест* ***воцту****”*. Пісьменьнік апэляваў, натуральна, да фактаў дыялектнае мовы, дзе *воцат*, як правіла, зьмяняўся з выпаданьнем галоснага **[а]**: *во**цт**у, во**цт**ам*. Варта запомніць: пры традыцыйным беларускім скланеньні галосны **[а]** у слове *воцат* беглы — зьнікае пры зьмене слова.

## Беглы гук: сустракаўся зь Сьвёнткам, чытаў Гашка

Выдатную ролю ў станаўленьні Каталіцкай царквы ў незалежнай Беларусі адыграў кардынал Казімір Сьвёнтак. І за жыцьця кардынала, і па ягонай сьмерці апавядалі і апавядаюць, пісалі і пішуць то пра *Сьвёнтака*, то пра *Сьвёнтка*. Які з варыянтаў заканамерны, як скланяем па-беларуску названае ды аналягічныя яму ўласныя імёны?

У заходнеславянскіх імёнах і прозьвішчах тыпу *Збышак*, *Здэнек*, *Марак*, *Гашак*, *Мрожак*, *Сьвёнтак* (падаю ў формах згодна з энцыкляпэдычнай традыцыяй асваеньня) суфіксальныя гукі **[а]**, **[э]** беглыя — пры зьмене слова яны чаргуюцца з нулём гуку.

Бегласьць галосных — звычайная зьява для нашай мовы: *акра**е**ц* — *акрайца*, *дадат**а**к* — *дадатку*, *маёнт**а**к* — *маёнтку*, *Франціш**а**к* — *Францішка*. Няма ніякіх падставаў пры беларускім скланеньні славянскіх імёнаў ігнараваць зыходную бегласьць галоснага. Вось жа, як *Францішка*, так і *Збышка*, *Здэнька*, *Лешка*, *Марка*, *Гашка*, *Герэмка*, *Мрожка*, *Чапка*.

*“Празарліўства Яраслава **Гашка** добра відаць у праскім музэі васковых фігураў”*, — чытаем у запісах Адама Глобуса. *“Адначасна са сьмерцяй **Яцка** Кураня закончыўся час і эпоха змагароў за ідэю”*, — напісаў Сакрат Яновіч з выпадку сьмерці знанага польскага палітыка.

Як бачым, будзе правільна, калі скажам, што ведаем пра ахвярнае служэньне кардынала Казіміра *Сьвён**тка***, што сустракаліся зь *Сьвён**ткам***, шмат чулі аб *Сьвён**тку***.

## Месны склон: пры сыну, брату, пры Івану, Паўлу

Сядзець пры *сыне* ці пры *сыну*, жыць пры *Іване* ці пры *Івану* — якую з формаў меснага склону ўжываць?

Формы асабовых назоўнікаў мужчынскага роду з канчаткам **-у** — *пры сыну*, *мужу*, *гаспадару* — крыніцы дыялектнай беларускай мовы фіксуюць фактычна на ўсёй тэрыторыі краіны. У гэтым лёгка пераканацца — даволі, скажам, узяць “Дыялекталагічны атлас беларускай мовы” (Мн., 1963). З названых фактаў жывой народнай мовы вынікала й тэндэнцыя ў літаратурнай мове XX стагодзьдзя: канчатак **-у** (**-ю**) прызнаваўся за нарматыўны ў месным склоне адзіночнага ліку асабовых назоўнікаў — прычым незалежна ад характару асновы такога назоўніка (як *пры гаспадар**у***, *байц**у***, *кавал**ю***, так і *пры дзед**у***, *брат**у***, *салдат**у***).

Праўда, падчас паваеннага ўпарадкаваньня мовы ў БССР не абышліся бяз выняткаў. Акадэмічная “Граматыка беларускай мовы” 1962 году ўстанаўляла канчатак **-е** для мужчынскіх імёнаў і прозьвішчаў на цьвёрды зычны: *аб Максім**е***, *Тарас**е***, *Колас**е***. Выходзіла — *пры сын**у** Максім**е***, *пры паэт**у** Куляшов**е***. Такое рознае скланеньне агульных і ўласных асабовых назоўнікаў ня мае ніякага лінгвістычнага абгрунтаваньня — відавочна, тут прычыняліся нелінгвістычныя фактары. Яшчэ далей пайшла акадэмічная граматыка 1985-га, пашыраючы канчатак **-е** на ўсе асабовыя назоўнікі, што канчаюцца на цьвёрды зычны (ня толькі *аб сын**е***, *брац**е***, але й, напрыклад, *аб дзедз**е***).

*Сын*, *брат*, *Іван*, *Павел*, *Колас*, *Куляшоў* — усе гэтыя назоўнікі аднаго тыпу — на цьвёрды зычны

— і ўсе яны абазначаюць асобу мужчынскага полу. То й зьмяняцца ў мове павінны аднастайна: *пры сын**у**, брат**у**, пры Іван**у**, Паўл**у**, Якуб**у** Калас**у**, Аркадз**ю** Куляшов**у***. Памятайма, што за назоўнікамі, якія выражаюць асобу мужчынскага полу, свая сыстэма канчаткаў. *Сядзець пры сын**у**, жыць пры Іван**у*** — канчатак **-у** сыгналізуе, што мы гаворым пра асобу мужчынскага полу.

## Месны склон: у руках, на нагах

Калі-нікалі ў сучаснай мове здараюцца формы тыпу *ў рукох, на нагох* — назоўнікі жаночага роду на **-а** (*рука*, *нага*) ужываюць з націскным канчаткам **-ох**. Пачуць гэтыя формы можна ад людзей, якія стараюцца культываваць у сваёй мове беларускія граматычныя асаблівасьці, рэпрэсаваныя савецкай моўнай рэформаю 1933-га. Тады зь літаратурнага ўжытку было загадана "выключыць" і формы меснага склону на **-ох** (-**ёх**): *у лясох*, *на палёх*, *на плячох* і г. д.

Такія формы — зусім ня "вузкарэгіянальныя", як пра іх часам пісалі савецкія лінгвісты. "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" засьведчыў пашыранасьць формаў на **-ох** (-**ёх**) у цэнтральных і паўднёва-заходніх беларускіх гаворках. Аднак жа і ў тых гаворках, і ў дарэформавым стандарце літаратурнай мовы формаў накшталт *у рукох* няма. Рэч у тым, што націскны канчатак **-ох** (-**ёх**) у месным склоне множнага ліку не ўнівэрсальны. Яго ня маюць назоўнікі жаночага роду на **-а** (**-я**) — у памянёнай форме яны заўсёды выступаюць з канчаткам **-ах** (**-ях**) — па-беларуску толькі *ў рук**ах*** і *на наг**ах***.

Няцяжка зразумець жаданьне часткі карыстальнікаў літаратурнай мовы ўсё ж такі ахаваць ад забыцьця адметныя формы на **-ох** (-**ёх**) назоўнікаў мужчынскага і ніякага родаў, а таксама множналікавых назоўнікаў: *у сад**ох***, *на пал**ёх***, *на ляч**ох***, *у дзьвяр**ох***. Запомнем толькі пры гэтым, што словы жаночага роду на **-а** (**-я**) у месным склоне множнага ліку маюць іншую форму: *трымалі ў рук**ах***, *стаялі на наг**ах***.

## Клічны склон: сыне, браце, Максіме, спадару, краю, народзе

Да нашых дзён беларуская мова захавала клічную форму назоўніка — *Іва́не*, *Васілю*, *хлопча*, *дружа*. Такіх беларускіх формаў паменела ў пасьляваеннай моўнай практыцы — жывучы другой мовою, савецкія граматысты выводзілі былі клічныя формы за рамкі літаратурнае нормы.

Апошнімі дзесяцігодзьдзямі клічныя формы памалу ажываюць, вяртаюцца. Утварыць такую форму можам ад кожнага назоўніка мужчынскага роду з канцавым зычным.

Калі ўтвараем ад назоўніка на цьвёрды зычны, які чаргуецца зь мяккім, маем клічную форму на **-е**: *брат — браце*, *сусед — суседзе*, *Максім — Максіме*, *Павел — Паўле*, *народ — народзе*.

Калі на канцы пачатковай формы мяккі зычны, клічная будзе на **-ю**: *Алесь — Алесю*, *Мікалай — Мікалаю*, *гай — гаю*, *край — краю*.

Ад слова *дзед* клічная форма — *дзеду*. Літара **у** таксама на канцы ў назоўніках з асноваю на **-р**, **-ж**, **-дж**, **-ч**, **-ш**, а таксама **-г**, **-х** і **-к** (што ў складзе суфіксаў **-ік** (**-ык**), **-ак**, **-ок**): *гаспадар — гаспада́ру*, *вецер — ветру*, *муж — мужу*, *Джордж — Джорджу*, *глядач — гляда́чу*, *таварыш — таварышу*, *Тамаш — Тамашу*, *хірург — хірургу*, *птах — птаху*, *Яўстах — Яўстаху*, *каханак — каханку*, *палітык — палітыку*, *панок — па́нку*, *Францішак — Францішку*. Ужываючы ветлы зварот *спадар*, не забываймася на магчымасьць клічнае формы і ў гэтым выпадку: *спада́ру міністар* ці — з абодвума словамі ў клічным склоне — *спада́ру міністру*.

Адносна невялікая група назоўнікаў (з суфіксам **-ец** і з канцавымі **-г**, **-к**, што чаргуюцца з **-ж-** і **-ч-**)

мае клічную форму на **-а**: *айцец — войча*, *маладзец — малойча*, *хлопец — хлопча*, *чалавек — чалавеча*, *друг — дружа*, *казак — казача*. Форму клічнага склону на **-а** мае й назоўнік *князь*. Памятаем Купалаў радок: *“Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў”*.

У клічнага склону ў нашай мове — вялікі патэнцыял. Зьвяртаючыся да хлопца ці мужчыны, у розных абставінах можна ўшанаваць яго клічным склонам: *сыне*, *Антоне*, *дабрадзею*, *Міха́сю*, *дзеду*, *рэдактару*, *спада́ру*...

## Скланеньне прозьвішчаў: Валянціна Муха, Валянціны Мухі, Валянціне Мусе…

Студэнтка прынесла курсавую работу. Гляджу на тытульным лісьце, чыя работа. Напісана, што *Валянціны Муха*. Пытаюся, чаму курсавая ня *Мух**і***, а *Мух**а***. Студэнтка адказвае, што яе прозьвішча не скланяецца. Задаю пытаньне, чаму не скланяецца. *“Не скланяецца, і ўсё”*, — студэнтка не спрабуе аргумэнтаваць. Такі добра вядомы стэрэатып — раз жаночае прозьвішча на **-а** (**-я**), то не зьмяняецца.

Гэты стэрэатып у нашай моўнай сытуацыі вельмі моцна падтрымліваюць факты нескланеньня аналягічных паводле будовы жаночых прозьвішчаў у расійскай літаратурнай мове. Павел Сьцяцко ў кнізе “Культура мовы” прыпамінае нараду для “нармалізацыі” беларускай мовы — яе ў 1972-м праводзілі з ініцыятывы ЦК КПБ. Выступаючы на той нарадзе, Сьцяцко перасьцерагаў ад нескланеньня беларускіх жаночых прозьвішчаў на **-а** (**-я**). На гэта была рэпліка тагачаснага дырэктара Інстытуту мовазнаўства Міхаіла Судніка. *“У рускай мове*, — гаварыў Суднік, — *такія прозьвішчы (на -ко, -енко) не скланяюцца, дык нашто іх скланяць у беларускай, руская ж мова для нас узор”*.

А калі ўсё ж адступіцца ад названага Суднікам узору — проста ісьці за фактамі жывой беларускай мовы. Тады ўсё становіцца на свае месцы: жаночыя прозьвішчы на **-а** (**-я**) функцыянуюць у нашай мове, як і іншыя беларускія назоўнікі, гэта значыць зьмяняючыся.

Бярэм, да прыкладу, прозьвішчы на **-ха**, **-га**, **-ка** — *Муха*, *Вілюга*, *Глебка*. Гаворым па-беларуску, што бачыліся з *Валянцінаю Мухаю*, *Людмілаю Вілюгаю*,

*Нінаю Глебкаю*, гаварылі нешта *Валянціне Мусе*, *Людміле Вілюзе*, *Ніне Глебцы*. Абыходзімся бяз вынятак — рэгулярна скланяем жаночыя прозьвішчы на **-а** (**-я**): вучыліся ў *Ірыны Шкрабы*, прысьвяцілі *Ўладзіславе Купале*, раіліся зь *Зінаідаю Бандарэнкаю*, ліставаліся зь *Вераю Бядуляю*.

# ЛІЧЭБНІК

## Адзін аднаго, адна адну, адно аднаго

*Адзін аднаго*, *адна адну*, *адно аднаго* — ці заўсёды правільна мы ўжываем гэтыя спалучэньні? На жаль, забываемся часам, што выбар адной з названых формаў залежыць ад полу асобаў, пра якіх ідзе гаворка.

*“Цягне нешта адно да аднаго кіраўнікоў Беларусі і Судану”*, — напісаў аўтар інтэрнэт-выданьня. Абодва памянёныя кіраўнікі — мужчыны. То ж, характарызуючы іхныя стасункі, можна ўжыць толькі “мужчынскую” форму спалучэньня — *адзін да аднаго*. Браты, кажучы па-беларуску, дапамагаюць *адзін аднаму*, клапоцяцца *адзін пра аднаго*, рэгулярна сустракаюцца *адзін з адным*.

Форма *адно аднаго* на месцы тады, калі гаворым адначасна пра мужчынаў і жанчын, хлопцаў і дзяўчат, калі гаворка пра маладых істот, а таксама пра зьявы, прадметы ніякага роду або розных родаў. Маладыя кахаюць *адно аднаго*, дзеці бавяцца *адно з адным*, брат зь сястрою жывуць *адно пры адным*.

І яшчэ адзін штрышок у рамках тэмы. Поруч з формамі *адзін аднаго*, *адна адну*, *адно аднаго* здараюцца ў маўленьні ды тэкстах і варыянты *адзін другога*, *адна другую*, *адно другога*. У дыялектнай нашай мове такія варыянты несумненна радзейшыя — заканамерна, што не асноўныя яны і ў літаратурным маўленьні. Гаворым па-беларуску: мужчыны паразумеліся *адзін з адным*, жанчыны пыталіся *адна ў адной*, ён і яна выйшлі *адно за адным*.

## Дзьве тысячы трынаццаты, дзьве тысячы трынаццатага...

З памылак пры ўжываньні лічэбнікаў вылучу яшчэ адну — яна здараецца пры скланеньні складзеных зь некалькіх словаў парадкавых лічэбнікаў.

Возьмем для ілюстрацыі год, у якім пабачыў сьвет наш даведнік — *дзьве тысячы трынаццаты* (не *дзьвюхтысячны трынаццаты*, а *дзьве тысячы трынаццаты*). Скланяючы састаўны парадкавы лічэбнік, мы зьмяняем толькі апошняе слова (формы накшталт *да дзьвюх тысяч трынаццатага*, *да дзьвюхтысячнага трынаццатага* памылковыя).

Па-беларуску гаворым: *служба доўжылася да* ***дзьве тысячы трынаццатага*** *году*; *к* ***дзьве тысячы трынаццатаму*** *году скончылі навучаньне*; *твор, датаваны* ***дзьве тысячы трынаццатым*** *годам, выйшаў у сьвет*; *у* ***дзьве тысячы трынаццатым*** *годзе нямала пасьпелі*.

Зьвяртаю ўвагу на гэтыя найпрасьцейшыя моўныя факты, рэагуючы тым самым на памылку, якая ў дзьвюхтысячныя гады пашырылася. Не зьмяняйма тых частак парадкавага лічэбніка, якія традыцыйна ў нас не зьмяняюцца.

# ДЗЕЯСЛОЎ

## *Абвесны лад*

### Дасі, дамо / дадзім, дасьц(е/ё); ясі, ямо / ядзім, ясьц(е/ё)

***Даць*** і ***есьці*** — да цяперашняга часу гэтыя два дзеясловы ў асноўным захавалі свае старажытныя формы: *я **дам***, *ты **дасі***, *ён **есьць***, *мы **ямо***, *вы **ясьце***.

Нарматыўнасьці формаў другой асобы *дасі*, *ясьце* або *ясьцё* пад сумнеў ня ставілі і ня ставяць — як вынік, гэтыя формы адносна стабільна ўжываюцца ў сучасным маўленьні. А вось формы першай асобы множнага ліку *ямо* і *дамо* ў савецкую пару выціскаліся на пэрыфэрыю літаратурнае мовы. Акадэмічныя граматыкі зводзілі іх да рэгіянальных.

Вядома, у XX стагодзьдзі формы *ямо* і *дамо* ўжо не былі характэрныя для ўсёй прасторы беларускай народна-дыялектнай мовы, арэал іх ужываньня звузіўся да паўднёва-заходняга дыялектнага масіву, а таксама — фрагмэнтарна — сярэднебеларускіх гаворак. Тым ня менш у нашай маладой на пачатку мінулага стагодзьдзя новай літаратурнай мове такія формы сталі рэгулярнаю зьяваю. Згадаю хаця б добра знаёмую Цётчыну “Прысягу над крывавымі разорамі”. *“Мы — **дамо**! Мы — сіла! Мы — права!”* — гучыць сыноўскае прысяганьне старому Мацею. Ёсьць форма ***дамо*** ў Коласа і Купалы, у Брыля і Быкава, у Адамчыка і Гілевіча... Хіба ж можна пасьля гэтага залічаць форму да дыялектных, ігнараваць яе ў нарматыўных слоўніках?

Вось жа, запомнем: поруч з пазьнейшымі формамі першай асобы множнага ліку *ядзім* і *дадзім*

ёсьць паўнапраўныя, сьцьверджаныя традыцыяй літаратурнага ўжываньня *ямо* і *дамо*. Ня баймася таксама ўжываць старажытныя формы і ў дзеясловах, вытворных ад *даць* і *есьці*: *мы* ***ямо***, ***даямо***, ***зьямо***, ***пад’ямо***, ***паямо***; *мы* ***дамо***, ***аддамо***, ***дадамо***.

## Сабра́ўся быў, сабра́лася была, сабра́ліся былі

У нашай мове ёсьць дзьве формы прошлага часу — простая і складаная. *Узяўся быў*, *была ўзялася*, *узяліся былі* — так выглядае складаная форма, або, іначай кажучы, плюсквампэрфэкт (ад лац. *plusquamperfectum*).

Вядомы ў мове з глыбокае старажытнасьці, плюсквампэрфэкт прайшоў эвалюцыю і ператварыўся ў форму з двух кампанэнтаў — асноўнага дзеяслова і дапаможнага дзеяслова *быць*. Складаная форма прошлага часу перадавала і цяпер перадае даўномінулае дзеяньне. Іншымі словамі, мы скарыстоўваем плюсквампэрфэкт, каб абазначыць тое мінулае дзеяньне, якое адбылося ці адбывалася раней за нейкае другое дзеяньне. *“А коли она **была прышла**... было Трышчану сем летъ”*, — у старабеларускім перакладзе “Аповесьці пра Трышчана” плюсквампэрфэкт ужо мае такое самае, як і цяпер, двухскладнікавае аблічча (*была прышла*).

Ужываючы плюсквампэрфэкт, трэба памятаць, што дапаможны дзеяслоў *быць* заўсёды ставіцца ў той родавай і лікавай форме, што й асноўны дзеяслоў: *зрабіў быў*, *зрабіла была*, *зрабіла было*, *зрабілі былі*. *“Доўга людзі цешыліся з цудаў, што **зрабіў быў** Люцыян Таполя”*, — гэты паэтычны сказ я выпісаў у Максіма Танка. Зьвярну ўвагу, што ў сучаснай літаратурнай мове формы складанага прошлага часу абсалютна нарматыўныя, паўнапраўныя.

Скажам, напрыклад: *мы **пачалі былі** работу, але дождж змусіў нас перапыніць яе*; *яна **сабралася была** выходзіць з дому, але нечаканы званок перамяніў яе намеры*.

## *Загадны лад*

## Гаварэм, пішэм, будзьма, сядайма

Як па-беларуску заклікаць да супольнага дзеяньня, заклікаць сябе ды іншых адначасна? Ці можна абысьціся ў гэтым выпадку адным словам і, калі ўсё ж можна, то ў якой форме будзе гэтае слова? З такімі, у прынцыпе, нескладанымі для носьбіта мовы пытаньнямі ня кожны ў нас дае рады. Таму прыпомнім асноўнае.

Каб выказаць заклік, пабудку да супольнага дзеяньня, нам даволі аднаго дзеяслова. І гэты дзеяслоў трэба паставіць, у форме загаднага ладу. Мы заклікаем сябе ды іншых: *будзь**ма**, глянь**ма**, хадз**ем**, бяр**эм***. У адным выпадку на канцы **-ма**, у другім — **-ем (-эм)**: як тут разабрацца? Усё проста: калі загадная форма 2-й асобы адзіночнага ліку канчаецца на галосны, у форме 1-й асобы множнага будзе канчатак **-ем (-эм)**: *жыв**і** — жыв**ем**, лав**і** — лав**ем**, піш**ы** — піш**эм***. І наадварот: калі ў форме 2-й асобы адзіночнага ліку на канцы зычны, тады форма 1-й асобы множнага ліку канчаецца на  **-ма**: *дава**й** — давай**ма**, е**ж** — еж**ма**, працу**й** — працуй**ма***.

Савецкім часам акадэмічныя граматыкі звужалі сфэру ўжываньня загадных формаў на **-ма** — санкцыянавалі іх толькі для мовы мастацкае літаратуры. Формы, на шчасьце, перажылі гэты ўціск і апошнімі дзесяцігодзьдзямі пашыраюцца ў літаратурнай мове.

Застаецца праілюстраваць формы, заклікаючы, заахвочваючы: *будзь**ма** ўважлівыя да свайго, гавар**эм**, піш**эм** па-беларуску, старай**ма**ся рабіць гэта правільна, не хавай**ма**ся ад праблем, працуй**ма** над сабою.*

## Бярэце, гаварэце, леце, нясеце

*“**Беце** ў сэрцы іх — **беце** мячамі”*, — у такой рэдакцыі — з загаднай формаю ***беце*** — зьмешчаны радок “Пагоні” на плякаце, які Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку выпусьціў на пачатку 1990-х да Багдановічавага стагодзьдзя. У самога Багдановіча ў першым друкаваным варыянце “Пагоні” было: ***бійце***.

У 10—20-я гады мінулага стагодзьдзя, калі крышталізаваліся нормы нашае літаратурнае мовы, ніхто ня ставіў пад сумнеў нарматыўнасьці загадных формаў з канчаткам **-еце (-эце)**: *бяр**эце***, *глядз**еце***, *няс**еце***, *піш**эце***. Была агульная думка, што гэтым адмысловым беларускім формам трэба аднаначна аддаваць перавагу. Савецкія рэфарматары 1933-га меркавалі ўжо іначай — у якасьці абавязковых былі ўведзеныя формы на **-і-це (-ы-це)**: *няс**іце***, *раб**іце***. Гэта таксама формы беларускія — толькі што менш адметныя, агульныя з расійскімі. Таму ў несавецкім літаратурным ужытку на працягу паваенных дзесяцігодзьдзяў формаў на **-і-це (-ы-це)** стараліся высьцерагацца, пераважна гаварылі і пісалі: *вазьм**еце***, *жыв**еце***, *л**еце***, *п**еце***, *скаж**эце***.

Формы з канчаткам **-еце (-эце)** у паўднёва-заходнім беларускім дыялекце жывуць да сёньняшняга дня. Зважаючы на адметнасьць гэтых формаў, думаю, варта нам аджыўляць іх і ў літаратурнай мове, хаця б у якасьці граматычных варыянтаў.

Такім чынам, ставячы дзеясловы ў загадным ладзе (2-й асобе множнага ліку), можам скарыстаць форму на **-еце (-эце)**: *зраб**еце** нам ласку*; *прыняс**еце**, як вам ня цяжка*; *вазьм**еце** — гэта ад сэрца*; *калі будзе час, напіш**эце** нам*; *будзьце ласкавыя, нал**еце** кавы*; *запрас**еце** іх да сябе*; *раскаж**эце** ім праўду.*

## Больш за тое, даўжэй за тыдзень; вышэй за нуль

Законы нашае мовы парушаюцца ў злучэньнях *больш тыдня*, *больш таго*, *не пазьней сёньняшняга дня* ды шматлікіх іншых такога тыпу. У школьным курсе граматыкі мы вучым, але пасьля не заўжды памятаем, што пры формах вышэйшай ступені параўнаньня прыметнікаў і прыслоўяў трэба ўжываць канструкцыі з прыназоўнікам.

Найчасьцей гэта прыназоўнік *за*: *ня бачыліся больш **за** месяц*, *кот меншы **за** сабаку*, *зрабілі раней **за** вызначаны тэрмін*. Радзей побач з названай ужываецца ў літаратурным маўленьні канструкцыя з прыназоўнікам *ад*: *мацней **ад** грому*, *глыбейшы **ад** акіяну*. Нароўні з памянёнымі канструкцыямі цалкам натуральныя ў мове й параўнальныя звароты. Можам сказаць: *больш **за** палову*, *больш **як** палова*, *больш **чым** палова*, *больш **чымся** палова*.

Савецкім часам зьявілася ў беларускай мове крыху падпраўленае расійскае злучэньне *больш таго*. З граматычнага ладу нашае мовы яно выбіваецца, таму варта на яго месцы ўжываць беларускія адпаведнікі: *больш **за** тое*, *яшчэ больш* або *мала таго*.

Вышэйшая ступень параўнаньня прыметніка або прыслоўя павінна быць для нас сыгналам на тое, каб скарыстаць канструкцыю з прыназоўнікам або параўнальны зварот. Гаворым правільна: *удзел у выбарах узяла больш **як** палова грамадзянаў краіны*, *тэмпэратура паветра вышэйшая **за** норму*, *праўда даражэйшая **за** золата*.

## Вада піць, машынка шыць, прылада лічыць

У 20-я гг. мінулага стагодзьдзя Язэп Лёсік, мовазнаўца, пісаў пра адметнасьць беларускага інфінітыва. Інфінітыў, напомню, — нязьменная, “слоўнікавая” форма дзеяслова.

Лёсік прыпамінаў, што ў нашай мове інфінітыў можа называць прызначэньне прадмета: *машынка шыць*, *вада піць*, *патэльня смажыць*. Сёньня пераважна скажуць: *мяч для гульні*, *крэм для галеньня*, *акуляры для чытаньня*. З пункту гледжаньня сучасных нормаў тут няма ніякае памылкі. Варта, аднак, не забывацца й на іншыя магчымасьці — на адметныя канструкцыі ў мове.

Калі прадмет служыць для нейкага працэсу, дзеяньня, абсалютна прыдатны нам згаданы інфінітыў. Можна сказаць: *мяч гуляць*, *крэм галіцца*, *акуляры чытаць*. У тым выпадку, калі адзін прадмет прызначаны для другога, дарэчы будзе канструкцыя з прыназоўнікам *на*: *скрыня на капусту*, *паліца на кніжкі*, *шафа на адзеньне*. Прыназоўнік *на* можа быць і пры называньні дзеяньня: *прылада на лічэньне*, *акуляры на чытаньне*, *ключ на адмыканьне*.

Ёсьць, як бачым, розныя спосабы выразіць прызначэньне рэчы, прыстасаваньня, матэрыялу, словам, таго ці іншага прадмета. Можам сказаць: *гэтыя ягады на продаж*, *гэтыя ягады прадаваць*, *гэтыя ягады для продажу*; *вада піць*, *пітная вада*, *вада для піцьця*; *крэм галіцца*, *крэм на галеньне*, *крэм для галеньня*.

## Даглядаць дзіця, расьліны; догляд дзіцяці, расьлін

Ці можа быць, кажучы па-беларуску, *догляд за некім ці нечым*? Сапраўды, зусім нярэдка ў нас гавораць і пішуць, напрыклад, пра *догляд за дзіцем* або *догляд за вазонамі* — скарыстоўваюць тым самым канструкцыю з прыназоўнікам *за* пры словах *догляд* або *дагляд*.

Абодва гэтыя назоўнікі — і часьцейшы ў літаратурным маўленьні *догляд*, і менш рэгулярны *дагляд* — ад *даглядаць*. Пры дзеяслове *даглядаць* залежны назоўнік заўсёды стаіць у форме роднага склону: *даглядаць дзіця*, *даглядаць хворага*, *даглядаць валасы* або, скажам, *даглядаць вазоны*. Характар сувязі паміж словамі застаецца такі самы, калі на месцы дзеяслова *даглядаць* вытворны ад яго *догляд*. Па-беларуску трэба сказаць: *догляд* (**каго?**) *дзіцяці*, *пацыента*, *догляд* (**чаго?**) *рук*, *твару*, *валасоў*, *скуры*, *догляд расьлін*, *вазонаў*. Такім чынам, прыназоўніка *за* пры словах *догляд* або *дагляд* не павінна быць, ён лішні, яго зьяўленьне тут — гэта вынік калькаваньня расійскай канструкцыі з словам *уход*.

Не калькуйма! Яшчэ раз ілюструю граматычна правільнае ўжываньне — каб мы з вамі не памыляліся: *даглядаем дзяцей*, *сямейнікаў*, *блізкіх людзей*, *даглядаем сваю гаспадарку*, *знаходзім час на догляд дзіцяці*, *догляд хворага*, *атрымліваем грашовую дапамогу для догляду дзяцей*, *не забываемся на догляд цела*, *займаемся доглядам кветак*.

## Дата: сёньня — першага студзеня

Сёньня — *перша**е** студзеня* ці *перша**га** студзеня*? Абедзьве названыя формы парадкавых лічэбнікаў — *перша**е*** і *перша**га*** — ужываюць у сёньняшняй мове пры абазначэньні даты. У сувязі з гэтым частае пытаньне — якая зь дзьвюх формаў найбольш апраўданая ў беларускай мове?

У старабеларускую пару дамінавала форма роднага склону: парадкавыя лічэбнікі выступалі, як правіла, у спалучэньні з назоўнікам *дзень*: *шостого дня месяца серпня*, *дня 28 месяца липца.* У літаратурным ужытку ў XX стагодзьдзі адступіліся былі ад традыцыйнага называньня. Зважаючы на расійскую мову, увялі мадэль з словам *чысло* ў назоўным склоне: *перша**е** чысло студзеня.* Адсюль — як не было назоўніка *чысло* — выходзіла: *перша**е** студзеня.* Злучэньні з родным склонам парадкавага лічэбніка пры называньні канкрэтнай даты некаторыя мовазнаўцы абвяшчалі нават памылковымі.

Нельга з гэтым пагадзіцца. Наша мова да сёньня захавала часавыя канструкцыі з назоўнікам у родным склоне: *мінулае ночы*, *пагоднага дня*, *наступнага году.* Злучэньне *перша**га** студзеня* — такой самай тыповай будовы. Можам сказаць: *сёньня — сьцюдзёна**га** дня — нам не ўдалося ўбачыцца*, *заўтра — друго**га** студзеня — мы сустрэнемся.*

Злучэньні тыпу *перша**га** студзеня*, *дваццаць пята**га** сакавіка* або *шоста**га** жніўня* прыдатныя нам і ў тым разе, калі называем час дзеяньня, і ў тым, калі толькі канстатуем канкрэтную дату. Скажам, да прыкладу: *учора быў апошні дзень году* — (каторага дня?) *трыццаць перша**га** сьнежня*; *сёньня — перша**га** студзеня*; *заўтра — друго**га** студзеня.*

## Два, тры, чатыры вялікія дамы

Часам памыляюцца ў нас, выбіраючы форму залежнага ад лічэбнікаў *два*, *тры* і *чатыры* слова — можам пачуць пра *два высокіх будынкі* або *тры доўгіх гадзіны*. Пры такім хібным ужываньні прыметнікі ставяць у форме роднага склону.

Каб было правільна, прыметнікі, залежныя ад лічэбнікаў *два*, *тры* і *чатыры*, трэба ўжываць толькі ў форме назоўнага склону множнага ліку: *два высок**ія** будынкі*, *тры доўг**ія** гадзіны*. На гэтую граматычную норму нельга забывацца, чытаючы, называючы дробавыя лічэбнікі. Гаворым: *дзьве трэц**ія***, *тры пят**ыя***, *чатыры сём**ыя***, але *пяць шост**ых***, *шэсьць восьм**ых*** — пры лічэбніках *пяць*, *шэсьць* і далейшых залежнае слова ставіцца ўжо ў форме роднага склону.

Спалучаючыся зь лічэбнікамі *два*, *тры* і *чатыры*, шэраг назоўнікаў захоўвае націск даўняй формы парнага ліку: *дзьве сястр**ы́***, *тры акн**ы́***. Перасьцерагаю ад памылак у спалучэньнях з назоўнікамі ніякага роду — пры лічэбніках *два*, *тры* і *чатыры* яны заўсёды маюць канчатак множнага ліку: *два ясл**ы***, *тры вядр**ы***, *чатыры палатн**ы***.

## Ёсьць дзіцем, ня ёсьць клопатам

Адзін з слухачоў у лісьце на “Свабоду” выказаў сумнеў у правільнасьці, беларускасьці выказьніка, у складзе якога — службовае слова *ёсьць* і назоўнік у форме творнага склону. На думку аўтара ліста, беларускую мову нявечаць такія сказы, як *“увага Захаду да справы палітвязьняў ня ёсьць часовай акцыяй*; *Беларусь ёсьць праблемным дзіцем Эўропы”*.

Здаецца, наш слухач ня ведае, што пакрытыкаваныя ім формы — не навіна ў беларускай мове. Вось, да прыкладу, колькі ілюстрацыяў з помнікаў старабеларускага пісьменства (XV — XVI стст.): *всему злому* ***причиною есть*** *пыха*; ***фундаментом*** *и* ***головою*** *всехъ цнот* ***есть*** *любов*; *мы убачили, иж то* ***есть шкодою****, а не* ***пожитъкомъ*** *господарини.* Трэба прызнаць, што ў старабеларускую пару канструкцыя зь зьвязкі *ёсьць* і назоўніка ў творным склоне выкарыстоўвалася даволі часта. Што да паходжаньня гэтай канструкцыі, тут меркаваньні гісторыкаў мовы розныя: адны лічаць, што названыя формы абумоўленыя польскім уплывам, другія схіляюцца да думкі, што канструкцыя магла разьвіцца беспасярэдне на беларускім грунце.

У беларускай літаратурнай мове савецкага часу формы накшталт *гэта ёсьць прычынаю* практычна не ўжываліся. Таму для многіх людзей, прычым далёка ня толькі тых з пасіўнымі ведамі беларускае мовы, але й для часткі актыўных носьбітаў мовы, такія формы сёньня нязвыклыя. Затое звыклая выказьнікавая канструкцыя, дзе на месцы *ёсьць* выступае слова *зьяўляецца*: напрыклад, *гэта зьяўляецца прычынаю.* Няма сумневу, такая канструкцыя зь зьвязкаю *зьяўляецца* ня носіць у беларускай мове

традыцыйнага характару: яна замацавалася ў XX ст. як вынік асваеньня расійскай канструкцыі зь зьвязкаю *являться* і назоўнікам у форме творнага склону.

Думаю, нам трэба часьцей выбіраць тыповую для аўтэнтычнае беларускае мовы выказьнікавую канструкцыю, у якой зьвязка папросту апускаецца, яе няма, і выказьнік ужываецца або ў форме назоўнага склону, або творнага. Памятаеце Купалаў верш "Спадчына"? Назоўнік ужыты там якраз у творным склоне, а зьвязка апушчаная: *"... паміж сваіх і чужакоў* ***яна*** *мне* ***ласкай*** *матчынай"*.

Зьвязка ў выказьніку надае сказу кніжнасьці. Ці ня варта часьцей апускаць зьвязку? Натуральна гучаць прыведзеныя нашым слухачом сказы, калі мы проста апусьцім зьвязку: *"Увага Захаду да справы палітвязьняў — не часовая акцыя*; *Беларусь — праблемнае дзіця Эўропы"*.

Такім парадкам, ня баймася канструкцыі з словам *ёсьць*, але ня злоўжывайма ёю. Часам варта сказаць прасьцей.

## З ініцыятывы, на жаданьне, паводле загаду

*Па патрабаваньню*, *па жаданьню*, *па загаду* — такіх і падобных да іх спалучэньняў у нашай мове па-ранейшаму шмат: тым самым гавораць і пішуць як бы й па-беларуску, але на расійскі лад. Кніжная канструкцыя, у якой пры слове *па* назоўнік ставіцца ў давальным склоне, у савецкія дзесяцігодзьдзі разьляцелася была па газэтна-часопіснай беларускай мове, заглушаючы традыцыйныя сынтаксычныя сродкі. І сёньня шмат каму з нас нялёгка даецца разуменьне, што прыназоўнік *па* спалучаецца ў нашай мове з назоўнікам пераважна ў месным, а не ў давальным склоне. Тры прыведзеныя на пачатку спалучэньні — калькі з расійскае мовы. У сучаснай маўленчай практыцы ўсё часьцей іх адаптоўваюць — замяняюць давальны склон назоўніка на месны. Выходзіць крыху самастойней: *па патрабаваньні*, *жаданьні*, *па загадзе*. Шкада, аднак, што за спалучэньнямі з прыназоўнікам *па* часта ня бачаць іншых, гістарычна засьведчаных канструкцыяў, цалкам прыдатных, каб выказаць па-беларуску значэньне прычыны, падставы.

*“**На жеданье** пана воеводы Виленского то чинячи, ствержаемъ и змоцняемъ тотъ листъ продажный”*, — гэты сказ другой паловы XVI стагодзьдзя я выпісаў з “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы”. *На жаданьне*, *на просьбу*, *на загад* — даўнія прычынныя канструкцыі з прыназоўнікам *на* абсалютна дарэчы ў сучаснай мове. *“Не паўзеце, сыны, мурашкамі па зямлі **на** чужы **загад**!”* — заклікала ў сваёй паэзіі Ларыса Геніюш.

Тое самае значэньне, што канструкцыі з словам *на*, выражаюць і спалучэньні зь некалькімі іншымі

прыназоўнікамі. *“Сустрэча* ***з ініцыятывы*** *беларускіх уладаў была адкладзеная”*, — паведаміла “Наша ніва”. Поруч з канструкцыямі *з ініцыятывы*, *на ініцыятыву* можам ужыць сынанімічныя *паводле ініцыятывы*, *праз ініцыятыву*, магчымая тут і беспрыназоўнікавая форма *ініцыятываю*.

Памятайма пра магчымасьць выбару — не здавольваймася аднымі спалучэньнямі з прыназоўнікам *па*. Скажам па-беларуску, што *зьявіліся* ***на патрабаваньне*** *кіраўніцтва*, *напісалі* ***з даручэньня*** *партыйных органаў*, *выдалі* ***з ініцыятывы*** *сяброў*, *зрабілі* ***паводле жаданьня*** *кліента*.

## За колькі крокаў ад..., група зь пяці чалавек, штраф трыста тысяч, дом на тры паверхі

Адметнасьць кожнае мовы значна праяўляецца ў сынтаксе — будове фразы. Нярэдка чалавек старанна высьцерагаецца лексычных пазычаньняў, ня робіць памылак вымаўленчых, дае рады з канчаткамі, а фраза гучыць не па-беларуску. Чуем то пра *шайбу ў некалькіх сантымэтрах ад брамкі*, то пра *суполку ў пяць чалавек*. Тут і *брамка*, і *суполка*, а ўсё адно нядобра. Прычына — у недасканалай зь беларускага гледзішча будове фразы: не на месцы ў названых канструкцыях прыназоўнік *у*.

Калі гаворым пра адлегласьць, дыстанцыю ад нечага, патрэбная нам канструкцыя з словам *за* — гэты прыназоўнік пазначае прасторавую мяжу. Гаворым правільна: ***за** некалькі крокаў ад дому*, ***за** 20 кілямэтраў ад Пінску*, ***за** мэтраў 40 ад мосту.*

Калі ж расказваем пра колькасьць удзельнікаў, на месцы будзе прыназоўнік *з*. Па-беларуску *суполка, група, аддзел — **зь** пяці чалавек.* Можна тут і ўвогуле абысьціся без прыназоўніка: напрыклад, *наша каманда — сем гульцоў — выбрала капітана*.

Беспрыназоўнікавай канструкцыі варта, здаецца, аддаваць перавагу й пры называньні памеру чагонебудзь. Скажам: *дошка даўжынёю два мэтры*, *прызавы фонд турніру сто тысяч эўра*, *пакараны штрафам трыста тысяч рублёў*. Пры адзінках меры можам ужыць у злучэньні й слова *на*: *лямпачка **на** 100 ватаў*, *рыбіна **на** кілю*, *штраф **на** трыста тысяч.* Прыназоўнік ***на*** ўжываем і тады, калі адзначаем, з колькіх частак складаецца нешта цэлае: *дом **на** тры паверхі*, *драма **на** тры акты*.

## Звыш году, звыш меры, звыш таго

Як выглядаюць у нашай мове канструкцыі з прыназоўнікам *звыш*? Як правільна: *зрабіў звыш за норму* ці проста *зрабіў звыш нормы*? Інакш кажучы, ці патрэбнае нам пры слове *звыш* яшчэ якое службовае слова — прыназоўнік *за* або злучнікі *як*, *чым*, *чымся*?

Факты і старабеларускай мовы, і жывой дыялектнай мовы XIX — XX стст. не пакідаюць сумневу: у спалучэньнях з словам *звыш* назоўнік, займеньнік або лічэбнік павінен стаяць у форме роднага склону (*ня бачыліся звыш году*, *заплацілі звыш меры*, *звыш гэтага ўсяго*, *звыш трох*).

Сёньня, аднак, частка карыстальнікаў мовы падстаўляе да слова *звыш* яшчэ нешта службовае — такія выпадкі здараюцца ад зьмяшэньня канструкцыяў. Як вядома, службовае слова абавязковае ў беларускай мове пры формах вышэйшай ступені параўнаньня прыслоўяў: *чакалі даўжэй за месяц*, *зрабілі раней за вызначаны тэрмін*, *сабралася больш як / чым / чымся палова ўдзельнікаў*. На гэты ўзор і афармляюць часам спалучэньні з прыназоўнікам *звыш*. Выходзіць нетрадыцыйна (напрыклад, *звыш за меру* замест правільнага *звыш меры*). Каб не дапускаць памылак, трэба ўлічыць, што *звыш* — гэта службовая часьціна мовы, і пры ёй лішняе, збыткоўнае яшчэ адно службовае слова.

Такім чынам, па-беларуску скажам: *зрабілі больш за норму* і *зрабілі звыш нормы*; *удзел у выбарах узяла больш як палова грамадзянаў* і *ўдзел у выбарах узяло звыш паловы грамадзянаў*; *больш за тое* і *звыш таго.*

## Зьвярнуцца па даведку, ехаць у ягады / па ягады, плысьці за вадою

За кожнай канструкцыяй у мове — сваё значэньне. Калі называем па-беларуску мэту руху, перамяшчэньня, пры дзеяслове ўжываем прыназоўнікі *па* або — радзей — *у*. Гаворым, напрыклад: *пайшоў **па** ваду* — значыць, пайшоў яе прынесьці.

Раз-пораз прарываецца ў тым самым значэньні канструкцыя з словам *за*: *пайшоў **за** вадою*. Кажучы так, ня ведаюць або забываюцца, што злучэньне *за вадою* мае ў нашай мове іншы сэнс. *За вадою* значыць ‘сьледам за ёю’. Можам, да прыкладу, сказаць, што *плысьці **за** вадою лягчэй, чым проці вады*. Заўжды памятайма пра розьніцу значэньняў. Калі гаворым, што *ідзем **па** сябра*, маем на ўвазе, што ідзем яго прывесьці, калі ж *ідзем **за** сябрам*, тады проста ідзем яго дарогаю, сьледам за ім.

Пры называньні мэты дзеяньня скажам: *зьвярнуліся **па** даведку*, *прыехалі **па** адказ*, *пабеглі **па** дапамогу*. Выбіраючыся ў лес, на прыроду зьбіраць ягады, грыбы, нарыхтоўваць дровы, нават лавіць рыбу, гаворым, як правіла, іначай — ужываем прыназоўнік *у*: *пайсьці **ў** суніцы*, *маліны*, ***у** масьлякі*, *сьпяшацца **ў** дровы*, *прыехаць **у** рыбу*. Вядома, пайсьці ў лес можна ня толькі ***ў** суніцы*, але й ***па** суніцы*. Калі ж мы купляем або атрымліваем ад каго назьбіраныя ўжо ягады, грыбы або й нарыхтываныя дровы, тады абавязковы для нас прыназоўнік *па*: *заехаў да брата **па** чарніцы*, *выйшаў у дрывотню **па** дровы*.

І яшчэ адна заўвага. Нельга, пішучы па-беларуску, *запрашаць **за** пакупкамі*. Нехта, не адчуваючы мовы, санкцыянаваў на пачатку 2000-х такое

“запрашэньне”: езьдзячы па Менску, бясконца можна было бачыць калькаваную фразу на прыпынках грамадзкага транспарту. Трэ было б напісаць: “Запрашаем купіць!”, або “Купляйце, калі ласка!”, ці яшчэ як іначай, толькі ня так, як гэта зрабілі.

Кожны з трох памянёных прыназоўнікаў — *па*, *у* і *за* — павінен быць у мове на сваім месцы. Мы ходзім *па* даведкі, езьдзім *у* ягады і грыбы, можам калі заскочыць да бацькоў *па* рыбу, а ў чоўне на рацэ палягчаем сабе рух, паплыўшы *за* вадою.

## Зьдзекавацца зь людзей — зьдзек зь людзей

*Зьдзек над чалавекам, над асобаю* — канструкцыя з прыназоўнікам *над* пры слове *зьдзек* праскоквае часам у мове беларускіх СМІ. Ці можа быць *зьдзек над некім* ці *нечым*?

*Зьдзек* — ад *зьдзекавацца*. Пры дзеяслове *зьдзекавацца* прыназоўнік *над* не ўжываецца, а залежнае слова ставіцца ў форме роднага склону: *зьдзекавацца* ***зь*** *людзей*, *зьдзекавацца* ***зь*** *сьвятыні*. Маем цэлую групу дзеясловаў з такім кіраваньнем: *сьмяяцца*, *насьміхацца*, *жартаваць*, *кпіць*, *рагатаць*, *глуміцца*, *дзівіцца*, *цешыцца*.

У дыялектнай мове некаторыя зь пералічаных дзеясловаў спалучаюцца, вядома, і зь іншымі прыназоўнікамі, ня толькі з прыназоўнікам *з*. Напрыклад, на ўсходзе Беларусі, а таксама ў цэнтральным і заходнім Палесьсі дасюль жыве канструкцыя, у якой дзеяслоў *сьмяяцца* спалучаецца з словам *каля*: напрыклад, *сьмяяцца каля няўмекі*, *сьмяяцца каля праўды*. У XX ст. у літаратурным ужытку такія формы здараліся вельмі рэдка — была і застаецца стабільная норма: *сьмяяцца*, *жартаваць*, *кпіць*, *зьдзекавацца* ***зь*** *некага* ці ***зь*** *нечага*.

Вось жа, раз *зьдзекавацца* можна толькі ***зь*** *некага* ці ***зь*** *нечага*, то й *зьдзек* будзе ***зь*** *некага* ці ***зь*** *нечага*. Скажам: *зьдзек* ***з*** *чалавека*, *зьдзек* ***з*** *асобы*, *зьдзек* ***зь*** *сьвятыні*.

## Зьлітавацца з нас ці зьлітавацца над намі?

Павал зь Менску ў лісьце на “Свабоду” папрасіў пракамэнтаваць ужываньне ў літаратурнай мове канструкцыі *зьлітавацца зь некага*, *нечага* — з прыназоўнікам *з* пры дзеяслове *зьлітавацца*.

Спалучэньне *зьлітуйцеся зь мяне* аўтар ліста выпісаў зь Бібліі ў перакладзе Васіля Сёмухі. Як вядома, у нашай мове ёсьць вышэйадзначаная група дзеясловаў, пры якіх залежнае слова ставіцца ў форме роднага склону (гл. нататку “Зьдзекавацца зь людзей — зьдзек зь людзей”): *зь некага* або *зь нечага* можам *дзівіцца*, *жартаваць, кпіць*, *сьмяяцца*...

Традыцыйна дзеясловы *літавацца*, *зьлітавацца*, *зьмілавацца* да гэтае групы не адносіліся: і ў старабеларускай мове, і ў беларускай літаратурнай мове новага часу тут другое кіраваньне — залежнае слова стаіць у форме творнага склону: напр., *зьлітавацца над чалавекам*.

Цяпер, праўда, можна заўважыць тэндэнцыю афармляць спалучэньне зь дзеясловам *зьлітавацца* на ўзор спалучэньняў зь *сьмяяцца* або, да прыкладу, *зьдзекавацца*. Аднак пакуль што гэта толькі тэндэнцыя. Паўтараюся: слоўнікавая форма ў гэтым выпадку не пярэчыць гістарычным фактам — *зьлітавацца* (як і *зьмілавацца*) ***над** намі*.

## Лічыць абавязкам / лічыць за абавязак

Пошта "Жывой мовы" прынесла пытаньне пра выбар канструкцыі пры дзеяслове *лічыць*, калі гэты дзеяслоў мае значэньне 'ўспрымаць, расцэньваць нейкім чынам некага або нешта': *лічыць спэцыялістам* ці *лічыць **за** спэцыяліста*.

У сучасным маўленьні і на пісьме, відавочна, дамінуе канструкцыя без прыназоўніка: *лічыць добрым*, *лічыць вартым увагі*, *лічыць спэцыялістам*. Ніхто фактычна ня ставіць сёньня пад сумнеў нарматыўнасьці такіх формаў.

Разам з тым, зважаючы на гістарычныя факты, на факты аўтэнтычнага беларускага маўленьня і мовы мастацкай літаратуры, нельга ігнараваць канструкцыі з прыназоўнікам *за*. У сярэдзіне 1920-х Язэп Лёсік зьвяртаў увагу, што *"пабеларуску лепш сказаць: "Лічу **за** свой абавязак", а не "сваім абавязкам"*. Лёсікавы словы выяўна пацьвярджае выбар вартых моўнага даверу аўтараў. У апавяданьні Максіма Гарэцкага "Рунь" чытаем: *"Я думаю, што маю права і нават лічу **за** абавязак падаць у друк усё, што можна..."* Дарэчы, традыцыйнасьць канструкцыі 'лічыць + за' ілюструе і рэгулярнае ў сёньняшняй мове спалучэньне *лічыць за лепшае*.

Сказанае вышэй не дазваляе ставіць пытаньня пра непрымальнасьць адной з канструкцыяў — можам ужываць абедзьве: *лічылі іх **за** сваіх сяброў* і *лічылі іх сваімі сябрамі*, *лічылі чалавека **за** добрага* і *лічылі чалавека добрым*, *лічым **за** абавязак* і *лічым абавязкам*.

## Паляваць на зьвера, на птушку

Як кіруе залежнымі словамі дзеяслоў *паляваць*? У беларускім друку пракідаюцца словазлучэньні, у якіх *паляваць* зводзяць з прыназоўнікам *за* (прыкладам, *паляваць за зьверам*, *паляваць за тэрарыстамі*). Такое ўжываньне памылковае.

У літаратурнай мове дзеяслоў *паляваць* звычайна спалучаецца з прыназоўнікам *на*: *паляваць **на** зьвера*, ***на** птушку*, ***на** тэрарыстаў*. Таксама, маючы на ўвазе ловы зьвяроў і птушак, можна ўжыць і нарматыўную беспрыназоўнікавую канструкцыю, у якой назоўнік, залежны ад дзеяслова *паляваць*, ставіцца ў форме вінавальнага склону: *паляваць дзіка*, *глушца*. Вытворны ад *паляваць* назоўнік *паляваньне* спалучаецца з прыназоўнікам *на*: *паляваньне* не *за мядзьведзем* ці *качкаю*, а ***на** мядзьведзя*, ***на** качку*.

Характар канструкцыі не зьмяняецца ад ужываньня дзеяслова *паляваць* і назоўніка *паляваньне* ў пераносным сэнсе. Раз *палюем **на** зьвера*, значыць, *палюем* і ***на** рарытэты*, і, скажам, ***на** памылкі*, як у выпадку “Жывой мовы”.

Гаворым правільна: *былі на паляваньні*, *палявалі зайцоў*, *цецерукоў* або *палявалі **на** зайцоў*, ***на** цецерукоў*; часта шукаем прыгодаў — *палюем **на** іх*, *палюем*, напрыклад, ***на** кніжныя навінкі*, выкараняем моўныя памылкі — *палюем **на** памылкі*.

## Пры саветах / за саветамі / за саветаў / за саветы

У лісьце на адрас “Жывой мовы” адзін з нашых слухачоў пацікавіўся, як правільна па-беларуску: *жылі **пры** саветах* або ***за** саветамі*?

Паводле сучасных нормаў, правільна і так, і так: паказваючы на эпоху, час, пэрыяд, на працягу якіх нешта адбывалася або адбываецца, выкарыстоўваем канструкцыі як з прыназоўнікам *пры*, так і з прыназоўнікам *за*. Можам сказаць, што Грунвальдзкая бітва адбылася *пры Вітаўту* або *за Вітаўтам*.

На спалучэньнях з словам *за* трэба спыніцца падрабязьней — тут магчымае рознае кіраваньне. Найчасьцейшая сёньня — нарматыўная канструкцыя, у якой з прыназоўнікам *за* спалучаецца форма творнага склону назоўніка: *за Вітаўтам*, *за каралём*, *за царом*, *за саветамі*. Гавораць па-беларуску: *не за намі гэта сталася, не за намі й перастане*.

Паралельна з спалучэньнем *за саветамі* — каб выразіць тое самае значэньне — магчымыя, хоць і даволі рэдкія ў літаратурным маўленьні, яшчэ дзьве канструкцыі. У іх назоўнік пры слове *за* стаіць у формах роднага і вінавальнага склонаў: *за саветаў* і *за саветы*. *За жывата свайго добра чыні*, — гэты сказ з кітабаў — помнікаў беларускай мовы, пісаных арабіцаю. *За Польшчу яны тут добра жылі, а цяпер выехалі*; *за маю памяць гэтага не было* — тут ужо ілюстрацыі з “Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча”.

Пры канцы вяртаюся да цытаванага на пачатку пытаньня. Па-беларуску можам сказаць, што жылі *пры саветах* або *за саветамі*, магчымыя таксама спалучэньні *за саветаў* і *за саветы*.

## У Беларусі — на Беларусі

*Жывем* ***у*** *Беларусі* або ***на*** *Беларусі* — якой канструкцыі аддаваць перавагу? Увогуле, ці раўнапраўныя і раўназначныя пры называньні месца канструкцыі з прыназоўнікамі *у* і *на*?

У маўленчай практыцы форма ***ў*** *Беларусі* відавочна дамінуе — выразна сьведчыць пра гэта сярод іншага фіксацыя памянёных спалучэньняў у інтэрнэце. Пры гэтым частка карыстальнікаў мовы пасьлядоўна выбірае канструкцыю з словам *на*, уважаючы яе за больш адметную беларускую. Ці не ігнаруюцца пры такой ацэнцы першасныя сэнсавыя адценьні формы ***на*** *Беларусі*?

Выбіраючы зь дзьвюх канструкцыяў, трэба ўлічваць, што прыназоўнік *на* рэгулярна выкарыстоўваўся і выкарыстоўваецца ў нашай мове пры называньні тэрыторыяў, мясцовасьцяў, якія ня маюць, як правіла, статусу самастойнага дзяржаўнага ўтварэньня: ***на*** *Случчыне*, ***на*** *Палесьсі*, ***на*** *Каўказе*. Спалучэньні з *на* ўжываем таксама пры назовах астравоў і паўастравоў (якія могуць мець асобны дзяржаўны статус): ***на*** *Кіпры*, ***на*** *Кубе*, ***на*** *Алясцы*. Але наўрад ці хто скажа сёньня: ***на*** *Нямеччыне* або ***на*** *Літве*. *Нямеччына* і *Літва* — дзяржавы, а пры назовах дзяржаваў заўсёды заканамерны прыназоўнік *у*: *былі* ***ў*** *Нямеччыне*, ***у*** *Літве*.

Беларусь — ня востраў, ня проста тэрыторыя, а самастойная дзяржава. У канструкцыі з прыназоўнікам *на* — ***на*** *Беларусі* — толькі абазначана месца, тэрыторыя. Спалучэньне ж ***у*** *Беларусі* падкрэсьлівае статус Беларусі як краіны. Маючы на выбар дзьве паралельныя канструкцыі, памятайма пра тыя сэнсавыя адценьні, якія нясе кожная зь іх.

## У чацьвер / чацьвяргамі; чарговы раз / чарговым разам / чарговага разу

Раз-пораз вынікае патрэба напомніць пра некаторыя тыповыя беларускія канструкцыі з часавым значэньнем. Памыляюцца, калі пішуць, што *крама не працуе **па** выхадных днях*, а *сябры сустракаюцца **па** сьвятах*. ***Па** выхадных (выходных)*, ***па** сьвятах* значыць па-беларуску ‘пасьля іх’.

Пры называньні часу, цягам якога нешта адбываецца, трэба ўжываць або прыназоўнік *у*, або канструкцыю наагул без прыназоўніка. Гаворым правільна: *газэта выходзіць **у** чацьвер* або, іначай, *чацьвяргамі*, *аўтобус прыяжджае аўторкамі і суботамі* ці, па-іншаму, ***у** аўторкі і суботы*.

Канструкцыя выражаць час, у якой назоўнік стаіць у форме творнага склону, вельмі частая ў нашай мове. Кожны скажа: *ня бачыўся **тыднямі***, *патэлефаную **днямі***, *прыйду **другім разам*** або ***іншым часам***. Тыповыя для беларускай мовы й часавыя канструкцыі з назоўнікам у родным склоне: *мінулае **ночы***, *пагоднага **дня***, *наступнага **году***. Побач з злучэньнямі ***чарговага разу*** і ***чарговым разам*** можам, натуральна, сказаць і проста ***чарговы раз***: ***чарговы раз** зьвярнуліся з просьбаю*. Маем: ***першы раз***, ***чарговы раз***, ***апошні раз*** — абыходзімся тут без прыназоўніка.

Называючы час па-беларуску, скажам ці напішам: *“Наша ніва” выходзіць **у серады***; *у лазьню ходзім **чацьвяргамі***; ***чарговы раз***, ***чарговым разам*** або ***чарговага разу** дасканалім сваю мову.*

## Хварэць на грып, на кішэнь, на пана

*Ён даўно нічым не хварэў* ці ўсё ж *даўно ні на што не хварэў*? Часам у вуснай мове і на пісьме бачым беспрыназоўнікавую канструкцыю, у якой залежныя ад дзеяслова *хварэць* назоўнік або займеньнік ставяцца ў творным склоне (напрыклад, *хварэць грыпам*). Гэтая дапушчаная паваеннымі акадэмічнымі слоўнікамі канструкцыя размывае граматычную спэцыфіку нашае літаратурнае мовы.

Дыялектныя крыніцы не пакідаюць сумневу: у традыцыйнай беларускамоўнай прасторы дамінуе канструкцыя з прыназоўнікам *на* пры дзеяслове *хварэць*. *"Ня так даўно **захварэў на** гаручку"*, — гэты сказ з слоўніка Івана Насовіча. Гэтай канструкцыі аддавалі перавагу і аўтарытэтныя носьбіты літаратурнае мовы. *"Ужо дзён чатыры, як **хварэю на** грып. Хвароба пагоршвае настрой"*, — чытаем у дзёньніку Кузьмы Чорнага.

У беларускіх устойлівых спалучэньнях — фразэмах — пры слове *хварэць* таксама прыназоўнік: *хварэць (захварэць) на кішэнь (кішэню)*, *хварэць на кішаньковыя сухоты*. *Хварэе на кішэнь*, *на кішаньковыя сухоты* — значыць, ня мае грошай, жыве ў безграшоўі. З Коласавай "Новай зямлі" паходзіць фразэма *хварэць на пана*. *Хварэе на пана* — так кажуць пра чалавека, які паводзіць сябе высакамерна, фанабэрыста або проста доўга сьпіць, вылежваецца, унікае работы.

Размаўляючы па-беларуску, не адступайма ад правільнае канструкцыі. Скажам, што нехта *захварэў на грып*, *на сэрца*, прызнаем, што сёй-той *хварэе на кішэнь*, *на кішаньковыя сухоты*, пажадаем усім *ні на што не хварэць*.

## Абшчына ці грамада, супольня?

Нярэдка ў XX стагодзьдзі пазычэньне ў нашую літаратурную мову таго ці іншага слова вяло да забыцьця або, прынамсі, частага ігнараваньня традыцыйных словаў. Прыўнесьлі, напрыклад, у беларускую мову з расійскае старaславянізм *абшчына* разам з вытворнымі ад яго словамі. *Абшчына* спатрэбілася, каб назваць форму аб'яднаньня людзей, для якой характэрныя калектыўная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, супольная праца і самакіраваньне.

Вякамі *абшчына* звалася па-беларуску *грамадою*. Нашто ж нам чужое, калі ёсьць сваё слова? Ад яго, як вядома, шмат вытворных. Называючы нешта зьвязанае з *грамадою*, скарыстоўваем прыметнік *грамáдавы*. Скажам: ***грамадавая*** *маёмасьць*, ***грамадавая*** *тэорыя*, ***першабытнаграмадавы*** *лад*. Ужываем слова *грамада* й пры называньні рэлігійнае суполкі, брацтва: да прыкладу, ***хрысьціянская*** *грамада*. Дарэчы яшчэ *грамада* і ў назове ніжніх палат брытанскага і канадзкага парлямэнтаў: замест *палата абшчын(аў)* скажам па-беларуску: *палата* ***грамад(аў)***. Увогуле, не забывaймася, што *грамадою* можна называць усякую групу людзей, а таксама групу прадметаў, прыкладам, дрэваў: ***грамада*** *хлопцаў*, *дубоў* ***грамада***.

Каторага разу бачым, як лёгка можна абысьціся ў мове без збыткоўных пазычаньняў: *радавая* ***грамада***, *сялянская* ***грамада***, *хрысьціянская* ***грамада***, ***грамадавая*** *маёмасьць, палата* ***грамадаў***.

## Адзець, надзець, апрануць — разьдзець, распрануць

Гаворачы і пішучы па-беларуску, нярэдка ня бачаць розьніцы паміж дзеясловамі *апрануць* і *адзець*, *распрануцца* і *разьдзецца*. Можам пачуць, як нехта *апрануў* майку або, *распрануўшыся*, загараў на сонцы. І *апранаць*, і *распранацца* тут недарэчы: майка — ня *вопратка*, а для загару аднаго *распрананьня* замала, трэба яшчэ й *разьдзецца*.

Дзеясловы *апранаць*, *распранаць* і іншыя аднакаранёвыя зь імі будуць ужытыя правільна, калі размова пойдзе пра *вопратку*, або, іначай, *верхняе адзеньне*. Так, *апранаем* ці *распранаем* паліто, футра, куртку, пінжак або, скажам, сукенку. Майку (інакш — *саколку*), трусы (іначай — *майткí*) і ўсякае іншае *сподняе адзеньне адзяваем* або *надзяваем*. Нельга толькі *адзець* абутку або галаўнога ўбору — і чаравікі, і капялюш *надзяваем*. *Надзяваем* таксама вушнікі (слухаўкі) і наручнікі — ні ў якім разе іх не *апранаем*. Чаравікі — абутак, таму, натуральна, іх яшчэ й *абуваем*. *Вопратку*, апрача як *апрануць*, можна й *адзець* або *надзець*, а вось *адзеньне* — яшчэ раз падкрэсьлю — толькі *адзець* або *надзець*.

Памяшканьне, дзе *распранаюцца* і пакідаюць *вопратку*, называем або французскім словам *гардэроб*, або беларускімі — *распранальня* ці *апранальня*. Сярод рэсурсаў мовы ёсьць яшчэ ў гэтым значэньні й слова *вопратня* — назоўнік зь лексыкону 1920-х. Што да *разьдзявальні*, то яна дарэчы ў дачыненьні да месца, дзе здымаюць і *надзяваюць сподняе адзеньне* — напрыклад, *разьдзявальня* ў лазьні.

Абутак *абуваем* або *надзяваем*, *адзеньне* і *адзяваем*, і *надзяваем*, а *вопратку апранаем*.

## Адмысловы, адмысловец

*Адмысловы*, *адмыслова*, *адмысловец* — мы рэгулярна гаворым і чуем гэтыя словы ў нашай мове. Іх прыкметная экспансія адбылася за апошніх гадоў дваццаць пяць: названыя прыметнік, прыслоўе і назоўнік пачалі ўсё болей ужывацца ў ролі абсалютных сынонімаў да лацінізмаў *спэцыяльны*, *спэцыяльна*, *спэцыяліст*.

На пачатку мінулага стагодзьдзя прыметнік *адмысловы* ўвайшоў у літаратурную мову зь некалькімі значэньнямі. У першую чаргу *адмысловы* — гэта ‘адметны, своеасаблівы, арыгінальны’: ***адмысловая** песьня*, ***адмысловы** творца*. *“Рыбак быў дзядзька наш Антоні, як і работнік, **адмысловы**”*, — пісаў Колас. Тут *адмысловы* значыць ‘выдатны, цудоўны’.

Яшчэ адно значэньне *адмысловага* — ‘спэцыяльны, прызначаны выключна для нечага ці некага’: ***адмысловае** заданьне*, ***адмысловыя** сродкі*. Адсюль той, хто мае *адмысловыя*, то бо *спэцыяльныя*, веды ў нейкай галіне, — *адмысловец* або *адмыслоўца*; калі гаворка пра жанчыну, то *адмыслоўка*.

Поруч з прыслоўем *адмыслова* ў значэньні ‘спэцыяльна’ здараецца ў маўленьні й добрае беларускае слова *адумы́сьля*: ***адумысьля** прыйшоў, **адумысьля** глядзеў, **адумысьля** сустрэліся*. Ёсьць у разгляданай лексычнай групе й назоўнік *адмысловасьць* — сынонім *асаблівасьці*, *адметнасьці*. Скажуць: ***адмысловасьць** душы* або ***адмысловасьць** праекту*.

Пры канцы тэмы — маленькая перасьцярога. Кожнае слова, нават найлепшае сваё, ад празьмернага ўжываньня траціць бліск. Гаворачы па-

беларуску *адмысловы, адмыслова*, *адмысловец* і *адмыслоўка*, не забывaймася, што раз-пораз варта ўжыць заменьнік, сынонім, уразнастаіць сваю мову іншымі, таксама беларускімі, словамі. Можам сказаць: *адмысловы ліст*, *асаблівы ліст* і *спэцыяльны ліст*, *адмыслова для прэсы*, *адумысьля для прэсы* і *спэцыяльна для прэсы*, *добры адмыслоўца* і *добры спэцыяліст*.

## Адчыніць дзьверы, адкрыць выкапні, адкрыць / распачаць сход, разгарнуць кніжку, расплюшчыць вочы…

*Адкрыць* і *адчыніць*, *закрыць* і *зачыніць* — гэтыя дзеясловы ўжываем у літаратурнай мове не адвольна, зважаем на значэньні.

Заўжды ***адчыняюць*** і ***зачыняюць*** *вокны*, *дзьверы*, *скрыні*, іначай кажучы, усё, да чаго можна даць беспасярэдні доступ або яго перакрыць. Апавядаючы пра тое, што знойдзена ў выніку пошукаў або пра тое, што сталася вядомым, хоць доўга ўтойвалася, скарыстаем дзеяслоў *адкрыць*: ***адкрыць*** *радовішча*, ***адкрыць*** *Амэрыку*, ***адкрыць*** *таямніцу*. *Адкрываем* таксама *сход*, *паседжаньне* — абвяшчаем пра яго пачатак. У гэтым выпадку дарэчы й словы *пачаць* і *распачаць*: *зьезд*, такім чынам, можам ня толькі *адкрыць*, але й *распачаць*. Калі размова ідзе пра арганізаваньне, стварэньне якой структуры або, наадварот, пра спыненьне яе дзейнасьці, часьцей ужываюцца дзеясловы *адкрыць* і *закрыць*: ***адкрыць*** *студыю*, ***закрыць*** *фабрыку*. Тут, праўда, магчымая й пара *адчыніць* — *зачыніць*. Усё болей сёньня такога пераноснага ўжываньня: гавораць, што ***адчынілі*** *фірму* або *школу*, ***зачынілі*** *партыю* або *газэту*.

Далёка не заўсёды абыходзімся *адкрыцьцём* — *закрыцьцём* і *адчыненьнем* — *зачыненьнем*. *Кніжку*, *сшытак* можна *разгарнуць* і *загарнуць*, *парасон* — таксама *разгарнуць*, а пасьля ўжо *згарнуць* або *скласьці*. *Вочы* можам *заплюшчыць*, а затым *расплюшчыць*. *Твар* стараемся *затуліць* ад ветру, але *адтуляем* яго на сонца. *Рот* не адно *раскрываем*, таксама й *разяўляем* — апошні дзеяслоў, праўда, гутарковага характару.

Памятаем пра адценьні кожнага слова. Скажам па-беларуску: ***адчыніць*** *фортку*, ***адкрыць*** *карысныя выкапні*, *школу* ***адкрыць*** або ***адчыніць***, *дыскусію* ***распачаць***, *кніжку* ***разгарнуць***, ***расплюшчыць*** *вочы*.

## Асабісты і асабовы

Два беларускія прыметнікі — *асабісты* і *асабовы* — у мове ў кожнага зь іх сваё месца.

*Асабісты* — той, які належыць канкрэтнай асобе, зьвязаны з гэтай асобаю, закранае яе, для яе прызначаны. Падбіраючы сынонімы, можам сказаць, што *асабісты* — гэта *пэрсанальны*, *уласны*, *індывідуальны*. Гаворым, напрыклад, пра ***асабістую** ўласнасьць*, ***асабістага** прадстаўніка*, ***асабісты** клопат*, ***асабістую** думку*, ***асабісты** лёс*.

Прыметнік *асабовы* большыні з нас добра знаёмы з школьнай граматыкі: памятаем пра ***асабовыя** займеньнікі*, ***асабовыя** сказы*, ***асабовыя** канчаткі* — ніхто не назаве іх *асабістымі*. Другое значэньне слова ***асабовы*** рэалізуецца ў такіх, скажам, спалучэньнях, як ***асабовы** лісток*, ***асабовы** склад*, ***асабовы** рахунак*. Тут *асабовы*, бо мае дачыненьне да асобы ўвогуле, да шматлікіх людзей. ***Асабовы** лісток* — дакумэнт, запаўняны асобаю пры ўліку кадраў, ***асабовы*** рахунак — той, які адкрываецца на асобу, нарэшце, ***асабовы** склад* — склад асобаў нейкай установы, арганізацыі. Яшчэ адзін ўстойлівы беларускі выраз — ***асабовая** справа* — тэчка ці, іначай, папка з дакумэнтамі канкрэтнай асобы, дакумэнтамі, якія характарызуюць асобу. Вось жа, *асабовы* — гэта таксама й той, які асобу характарызуе.

На завяршэньне жменька ілюстрацыяў, каб ня блыталі мы *асабістага* з *асабовым*: ***асабістыя** рэчы*, ***асабісты** досьвед*, ***асабістае** жыцьцё*, ***асабовы** склад ураду*, ***асабовая** справа супрацоўніка*, ***асабовыя** якасьці прэтэндэнта*.

## Асадка, ручка, самапіска

Як называем па-беларуску тую прыладу, якой пішам? Відавочна, найчасьцей ужываны сёньня назоў — *ручка*, радзейшыя — *самапіска* і *асадка*.

Чаму менавіта *асадка*? Вякамі пісалі палачкаю зь пяром на канцы. Палачку назвалі *асадкаю*: яна “садзілася”, асаджвалася на пяро. У літаратурнай мове новага часу слова *асадка* ў значэньні пісьмовае прылады зазнала і прызнаньня, і забыцьця. У першай траціне XX ст. *асадка* трывала ўвайшла ў літаратурны лексыкон. Беларускія слоўнікі 1920-х гг. на абазначэньне прылады пісаць рэкамэндавалі толькі *асадку*. Маем дзясяткі фіксацыяў гэтага слова ў мастацкай літаратуры, у творах аўтарытэтных літаратараў — ад Коласа з Гарэцкім да Куляшова з Скрыганом.

Замах на *асадку* як назоў пісьмовае прылады адбыўся ў 1930-я гг.: *асадцы* дасталося разам з шматлікімі іншымі адметнымі на расійскім фоне беларускімі словамі. Паступова *асадку* выціснулі былі на пэрыфэрыю мовы: некаторыя мовазнаўцы ў пасьляваеннай БССР ужо нават характарызавалі гэтае слова як архаічны назоў *ручкі*. Аднак у 1980 — 90-я гг. *асадка* з значэньнем прылады пісаць усё ж вярнулася ў актыўны ўжытак прынамсі часткі карыстальнікаў літаратурнае мовы — сёньня *асадкаю*, як правіла, называюць аўтаматычную, шарыкавую *ручку*.

Застаецца пажадаць не забывацца на тое, што сярод лексычных рэсурсаў — поруч з *ручкаю* і *самапіскаю* — ёсьць традыцыйнае беларускае слова *асадка*. Пішам *асадкаю*.

## Багатыр і асілак, волат

Паказальнік на менскай станцыі мэтро “Пушкінская” па-беларуску паказвае кірунак да магазыну “Багатыр”. На самой краме вялікімі літарамі шыльда па-расійску “Богатырь”. Можна падумаць, што беларускі *багатыр* і расійскі *богатырь* — тое самае.

У беларускай як народнай, так і літаратурнай мове слова *багатыр* азначае, як правіла, багатага чалавека, багача, багацея. Назоўнік *багатыр* — ад прыметніка *багаты*. *“Усі нашы **багатыры** паехалі на кірмаш”*, — гэтым сказам беларускае ўжываньне слова *багатыр* ілюструе ў слоўніку 1870 году Іван Насовіч. *“**Багатыр**, як кажуць у нас на багатага чалавека, Хведар, вядома, бальшавікоў не любіў”*, — тут ужо сучасная ілюстрацыя з прозы Вячаслава Адамчыка. Поруч з словам *багатыр* ёсьць у нас і *багатырка* — багатая жанчына.

У расійскай мове *богатырь* — старое пазычаньне зь цюрскага **bayatur*. З значэньнем дужага, магутнага чалавека, якое па-расійску перадаецца словам *богатырь*, у беларускай літаратурнай мове ўжываюцца звычайна назоўнікі *асілак* і *волат*. Падмена ў беларускім тэксьце *асілка* або *волата багатыром* размывае правільнае разуменьне ўласнабеларускага слова *багатыр*.

Тую менскую краму, што спэцыялізавалася і цяпер яшчэ часткова спэцыялізуецца на продажы адзеньня, вопраткі, абутку вялікіх памераў — для фізычна вялікіх людзей, па-беларуску, вядома, варта было б назваць інакш.

Добра запамятаем: *багатыр* і *багатырка* — багатыя людзі.

## Бескарысны і бескарысьлівы, бескарысна і бескарысьліва

Чытаючы літаратурны тыднёвік, натыкнуўся на сказ у тэксьце прызнанага аўтара. Як пісаў той аўтар, *“нарэшце сярод беларускіх пісьменнікаў з’явіўся чалавек, які адкрыта і бескарысна заступіўся за чалавека”*. *“Бескарысна заступіўся”* — як гэта разумець па-беларуску?

Натуральна, аўтар хацеў падкрэсьліць, што той чалавек заступаўся шчыра, ня думаючы пры гэтым адразу пра ўласную выгаду, пра свой пажытак. Але, ужываючы слова *бескарысна*, аўтар дапусьціў памылку. Зрабіць нешта *бескарысна* значыць па-беларуску ‘зрабіць без карысьці, дарэмна, марна’. Поруч з прыслоўем *бескарысна* — прыметнік *бескарысны*. Скажам, напрыклад: *бескарысная работа* — пра тую работу, ад якой няма ніякае карысьці, якая ідзе намарна. Калі ж характарызуем чалавека, які не імкнецца перадусім да свае выгады, або калі ацэньваем шчырыя, не абумоўленыя прагаю да выгады ўчынкі ці паводзіны, ужываем другое беларускае слова — *бескарысьлівы*. *Бескарысьлівым* можам, да прыкладу, назваць шчырае, добрае сяброўства — сяброўства не для нейкае выгады.

Такім чынам, у цытаваным на пачатку сказе павінна было стаяць другое слова — *бескарысьліва*. Мела быць так: *“зьявіўся чалавек, які* ***бескарысьліва*** *заступіўся за чалавека”*.

Памятайма, што ёсьць у нашай мове два прыметнікі і два прыслоўі — *бескарысны* і *бескарысьлівы*, *бескарысна* і *бескарысьліва* — і гэтыя словы маюць розныя значэньні.

## Вайсковы і ваенны

Два штодзённыя словы нашай мовы — *войска* і *вайна*. Ад іх маем прыметнікі — *вайсковы* і *ваенны*. Слова *вайсковы* на месцы *ваенны* амаль не ўжываюць, а вось *ваенны* замест *вайсковага* здараецца ў сучасным маўленьні даволі часта.

Тлумачэньне простае: у расійскай мове замацавалася ўжываньне прыметніка *ваенны* ня толькі ў сэнсе таго, што мае дачыненьне да *вайны*, але таксама ў значэньні ўсяго, зьвязанага з *войскам*. Акадэмічныя беларускія слоўнікі — прынамсі часткова — пайшлі былі за расійскімі фактамі: санкцыяналі ў літаратурнай мове такія, напрыклад, спалучэньні, як *ваенная служба*, *ваеннае вучылішча*, *ваенны парад*, *ваенная форма*. Думаю, нам варта крытычна паставіцца да такога санкцыянаваньня. Нашто ісьці за расійскай моваю, забываючыся на ўнутраную форму слова? *Ваенны* — значыць, зьвязаны з *вайною*. ***Ваенны** час*, ***ваеннае** становішча*, ***ваенны** канфлікт*, ***ваенныя** падзеі* — у гэтых ілюстрацыях прыметнік *ваенны* стаіць на сваім месцы. У тым жа разе, калі гаворым пра *войска*, *армію*, трэба ўжываць слова *вайсковы*: ***вайсковая** служба*, ***вайсковая** падрыхтова*, ***вайсковы** білет*, ***вайскова-паветраныя** сілы*.

Зьвярну яшчэ ўвагу на такое сабранае з частак слова, як *ваенкамат*. Назоўнік *ваенкамат* — з словазлучэньня *ваенны камісарыят*. Чаму *ваенны*? Камісарыят жа гэты функцыянуе і ў мірны час, займаецца камплектаваньнем *войска*. Лягічна было б сказаць *вайсковы камісарыят*. Калі з гэтага злучэньня словаў зрабіць абрэвіятуру, атрымаем *вайскамат*. Паглядзім, ці зможа гэтае слова скласьці

канкурэнцыю так трывала аселаму ў нашай мове за савецкім часам *ваенкамату*.

Як бы там ні было, стараймася ня зьмешваць двух прыметнікаў: там, дзе пра *войска*, заўсёды скажам *вайсковы*, дзе пра *вайну* — *ваенны* (***вайсковая*** *прысяга*, ***вайсковая*** *часьць*, ***вайсковая*** *акадэмія*, але ***ваенны*** *ўспамін*, ***ваенная*** *перамога*).

## Верталёт і гелікоптэр

У 1990-я гг. пачалі былі вяртаць да жыцьця ў нашай мове слова *гелікоптэр*. У пару, калі распрацоўваліся, вынаходзіліся першыя мадэлі *верталётаў*, у мовы сьвету прыйшло на абазначэньне новага апарата слова францускага паходжаньня. Французы стварылі свой *hélicoptère*, злучыўшы ў адно два грэцкія словы — *helix* і *pteron*, у перакладзе — ‘шрубу, сьпіраль’ і ‘крыло’. Пакуль верталёты заставаліся экзотыкаю, у нас іх называлі *гелікаптэрамі* — пераважна захоўвалі францускі націск.

У 30-я гады мінулага стагодзьдзя ў расійскай мове паводле аналёгіі з *самалётам* стварылі назоўнік *вертолёт*. Ня маючы яўных прыкмет пазычаньня, гэтае слова лёгка прынялося беларускаю моваю. Дарэчы, пазычылі яго таксама і ўкраінцы з баўгарамі. На мяжы 1980-90-х у беларускай прэсе першы раз прамільгнула слова *шрубалёт*. Канструюючы новы назоўнік, яго аўтар проста замяніў першую частку *верталёта* — зыходзіў з малаўжывальнасьці ў нашай літаратурнай мове дзеяслова *вярцець*. *Шрубалёт*, аднак, дасюль не прыжыўся, нярэдка ўспрымаецца з іроніяй.

Рэальна маем сёньня на выбар два пазычаньні: звыклы *верталёт* і вяртаны з пэрыфэрыі мовы *гелікоптэр*. Думаю, *верталёт* як слова для кожнага матываванае, празрыстае, лягічнае ў пары з *самалётам* застанецца ў нас асноўным найменьнем прыпомненага тут лятальнага апарата.

## Відаць плошча, чуваць песьня

У цяперашнім маўленьні раз-пораз чуем фразы з словам *бачна* (напрыклад, *добра было бачна*, або *з гэтага бачна*, або — яшчэ — *зь цягам часу будзе бачна*). Хіба дарэчы тут слова *бачна*?

Нарматыўныя даведнікі дапускаюць яго ў такіх фразах, аднак ці добра, ці натуральна гэта гучыць па-беларуску? Ці няма тут якой падмены, калькаваньня? Бяру першы том “Слоўніка мовы “Нашай нівы” — у слоўніку сабралі лексыку зь легендарнай газэты “Наша ніва” пачатку XX ст. Шукаю ў першым томе слова *бачна* — яго там няма. У “Нашай ніве” дамінавала жывая аўтэнтычная мова, а ў ёй традыцыйна ўжывалася канструкцыя з другім словам — *відаць*: *было **відаць***, *будзе **відаць***, *з гэтага **відаць***. Пазьней, у савецкія дзесяцігодзьдзі, хто-ніхто, ня ведаючы жывое беларускае мовы або памалу на яе забываючыся, замест *відаць* звыкаўся гаварыць *бачна* (лёгіка ў нашай моўнай сытуацыі простая: раз *видеть* — гэта па-беларуску *бачыць*, значыць, *видно* — гэта *бачна*). Але ў мовах ня ўсё так проста — няма такой “люстэркавасьці”, за кожнай моваю стаіць свая арыгінальная сыстэма сродкаў выражэньня. Увогуле, само слова *бачна* было і ёсьць у беларускай мове — пытаньне толькі ў тым, дзе яно дарэчы. Іван Насовіч, скажам, фіксаваў прыслоўе *бачна* ў значэньні ‘разважліва, абачліва, асьцярожна’ (напр., ***бачна*** *зрабіў, што ўстрымаўся*).

Выкарыстоўваючы слова *відаць* (а таксама й слова *чуваць*), трэба ўлічваць важную беларускую асаблівасьць: назоўнік спалучаецца з гэтымі словамі ў форме назоўнага склону (*адсюль **відаць** цэлая **плошча***, ***відаць хаціна*** *на пагорку*, ***чуваць песьня***

*з залі*). Калі ж пры *відаць* і *чуваць* ёсьць адмоўе *не*, тады назоўнік стаіць, натуральна, у форме роднага склону: *праз туман* ***дому не відаць***, *ад шуму* ***песьні не чуваць***. Фёдар Янкоўскі некалі перасьцерагаў, што *“будзе недарэчнаю памылкаю, калі сказаць або напісаць: відаць усю дарог**у**, чуваць прыгожую песьн**ю**”*.

Запамятайма правільныя беларускія формы: ***відаць*** *уся* ***дарога***, ***чуваць*** *прыгожая* ***песьня***; *усё добра было* ***відаць***, *зь цягам часу будзе* ***відаць***, *з гэтага* ***відаць***, *канца-краю* ***не відаць***.

## Вінаваты, вінны і павінен, мае, мусіць

Газэта напісала пра пошукі тых, хто *“павінен у здарэньні”*. Такое недарэчнае — у расійскім значэньні — ужываньне слова *павінен* нячаста, але, на жаль, па-ранейшаму здараецца ў беларускім маўленьні.

Вядома ж, у здарэньні нехта можа быць *вінаваты*, *вінны*. Слова *павінен* тут зусім не падыходзіць — у нашай мове яно выражае абавязанасьць асобы, а таксама магчымасьць, праўдападобнасьць нечага, адпаведнасьць нечага пэўнай умове: *ён **павінен** гэта зрабіць*, *сустрэча **павінна** адбыцца*, *яна **павінна** зьявіцца*, *спэктакль **павінен** быць добры*.

У слова *павінен* ёсьць сынонімы, у кожнага зь іх свае адценьні, на якія мы часам забываемся. Выражаючы нешта чаканае, тое, што прадбачым, або проста нешта задуманае, імавернае, варта ўжываць спалучэньні з асабовымі формамі дзеясловаў *мець* і *мецца*: ***маю** хутка вярнуцца*, ***мелася** даўно пазваніць*, ***мелі** сустрэцца, але разьмінуліся*. ***Мелася** пазваніць* — зусім ня тое, што ***мусіла** пазваніць*: проста зьбіралася, яе званка спадзяваліся, але ніхто не абавязваў, нішто не змушала яе званіць. *Мусіла* — значыць не магла рабіць іначай, ня мела на тое магчымасьці, была як бы зьняволеная абавязкам, болей нават — павіннасьцю. Калі кажам, што ***мусілі** нешта зрабіць*, тым самым паказваем, што ня мелі выбару, былі змушаныя.

Гаворым, зважаючы на нюансы значэньняў: *быў **вінаваты***, ***вінны** ў здарэньні*, ***меў** завітаць у госьці*, ***павінен** быў прынесьці кніжкі*, *але **мусіў** тэрмінова ад’ехаць*.

## Вобыск ціператрус?

Сучасныя беларускія слоўнікі фіксуюць назоўнік *вобыск*, аднак карыстальнікі мовы гэтага слова ўсё часьцей унікаюць. Сярод сучасных лексычных сродкаў *вобыск* выглядае на несыстэмнае, неабавязковае слова. Чаму *вобыск*, калі нечага шукаюць?

Каб знайсьці нешта хаванае, памяшканьне, напрыклад, можна *абшукаць*, *абшукваць*. Ад гэтых дзеясловаў ёсьць у мове назоўнікі *абшукваньне* і *вобшук*. Назоўнік *вобшук* — факт літаратурнага маўленьня, вынік сьвядомых уцёкаў ад *вобыску*, “не падмацаванага” беларускімі дзеясловамі *шукаць* і *абшукваць*.

Зрэшты, апрача *вобшуку*, маем і больш традыцыйнае для нашае моўнае прасторы слова — назоўнік *ператрус*. *Ператрус* — ад дзеяслова *ператрусіць*, сынанімічнага літаратурнаму *ператрэсьці* (кажуць, напрыклад, што ***ператрусілі*** *адзеньне*). Дарэчы, *ператрэсьці* і *трэсьці* — шматзначныя дзеясловы, і адно зь іх значэньняў зьвязанае з *вобшукам*, *ператрусам*. Па-беларуску можам, да прыкладу, сказаць, што міліцыя *трэсла* або *ператрэсла* кватэру — значыць, зрабіла, правяла ў кватэры *ператрус*.

Называючы сьледчае дзеяньне, скіраванае на атрыманьне довадаў у крымінальнай справе, аддаем перавагу празрыстым беларускім словам *вобшук* і *ператрус* — ня злоўжываем несыстэмным назоўнікам *вобыск*.

## Востраў, выспа, атока, абток

Слухач “Свабоды” Юры Эпштэйн папрасіў пракамэнтаваць факты ўжываньня ў беларускай мове слова *выспа*. *“Гэта ж польскае слова*, — піша спадар Эпштэйн, — *але ўсё-такі яго ў нас ужываюць. Як гэта растлумачыць?”*

Назоўнік *выспа* — не навіна ў нашай мове. Выкарыстоўвалася гэтае слова ў старабеларускую пару, характэрнае яно й для нашае мовы апошніх стагодзьдзяў. *Выспа* — ад дзеяслова *высыпаць*. *Выспа* сапраўды магла прыйсьці да нас з польскае мовы, аднак, як бы там ні было, гэтае слова даўно і трывала замацавалася ў беларускім лексыконе. Як правіла, *выспа* не ўспрымаецца як пазычанае слова — ня мае, здаецца, для носьбіта нашае мовы прыкмет пазычаньня. “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” раскрывае *выспу* як ‘невялікі востраў, часьцей пяшчаны’. Пры гэтым у сучаснай літаратурнай мове *выспа* нярэдка ўжываецца шырэй, фактычна як абсалютны сынонім *востраву*. *Выспамі* могуць назваць і вялікія, абкружаныя з усіх бакоў вадою, масівы сушы. Можна, напрыклад, пачуць па-беларуску пра *Брытанскія* ***выспы*** або ***выспу*** *Мадагаскар*.

Карыстаючыся нагодаю, мне ўсё ж хочацца перасьцерагчы ад безагляднай замены *выспаю* традыцыйнага ў нашай мове слова *востраў*. Беларускі *востраў* — усё тое, што абцякаецца, а яшчэ тое, што проста нечым вылучаецца ў навакольлі.

*Востраву* і *высьпе* сынанімічныя яшчэ прынамсі два беларускія словы, якія пакуль што ў рэзэрве мовы, — *атока* і *абток*. *Абток* даволі шырока ўжываўся ў мове беларускай паваеннай эміграцыі.

*“Я... тут пачуваўся паміж чужым густым народам больш адзінокі, як Рабінзон на бязьлюдным* ***аб-току****”*, — пісаў у ўспамінах “Кітай-Сібір-Масква” айцец Язэп Германовіч.

*Востраў*, *выспа*, *атока*, *абток* — беларускія назовы сухазем’я, абкружанага вадою.

## Вынаходка, вынаходзтва, вынаходніцтва

Як называем тое, што *вынайдзена*, што стала вынікам творчай працы *вынаходніка*? У сучаснай моўнай практыцы раз-пораз чуем, напрыклад, пра новыя *вынаходніцтвы*, але ці правільна гэта, ці выпадае менаваць нешта вынайдзенае *вынаходніцтвам*?

Беручы пад увагу слоўнікавыя нормы, не выпадае. *Вынаходніцтва* — гэта дзейнасьць *вынаходнікаў*. І вынікам такой дзейнасьці становяцца *вынаходкі*. Прыкладам, друкарскі станок — *вынаходка* немца Ёгана Гутэнбэрга, а шматступеневая ракета — *вынаходка* беларуса Казіміра Семяновіча. Дакладней кажучы, Семяновіч у XVII стагодзьдзі апісаў тую ракету, займаўся яе *вынаходзтвам*. *Вынаходзтвам* называем па-беларуску працэс, які вядзе да зьяўленьня *вынаходкі*: скажам, *вынаходзтва* праса, ровара, тэлевізара. Слова *вынаходзтва* ўжываецца ў сучаснай мове й як сынонім *вынаходкі* — такое ўжываньне санкцыянаванае слоўнікамі.

Стараймася толькі ня блытаць *вынаходкі* з *вынаходніцтвам*. *Вынаходка* — вынік *вынаходзтва* нечага, *вынаходніцтва* — тое, чым *вынаходнікі* (*вынаходцы*) займаюцца. Гаворым, напрыклад, пра новыя важныя *вынаходкі*, пра гісторыю разьвіцьця *вынаходніцтва*.

## Выгада і выгода

Ёсьць два словы — *выгада* і *выгода*. Кожнае зь іх мае ў літаратурнай мове свой асноўны сэнс. *Выгада* азначае, як правіла, *карысьць*, *пажытак*, *прыбытак*. Мы пытаемся, напрыклад, якая нам *выгада* тое ці іншае рабіць. Усё тое, што дае *выгаду*, прыносіць карысьць, — *выгаднае*: скажам, ***выгадная** сытуацыя*, ***выгаднае** пагадненьне*.

Тым часам *выгода* ў літаратурнай мове называе найперш тое, што здавальняе нашыя патрэбы, дае камфорт. Часта, гаворачы пра кватэру, мы падкрэсьліваем, што яна — з усімі *выгодамі*. *Выгода* натуральная таксама як сынонім *прывольля*, умоваў, якія даюць поўную свабоду, магчымасьць напоўніцу жыць, нешта рабіць. Можам сказаць: *гэты лес — **выгода** для грыбнікоў*, *тут **выгода** для забавы*.

Поруч з *выгодаю* ёсьць яшчэ й слова *выгодзьдзе* — з тымі самымі значэньнямі: напрыклад, *свой дом — **выгодзьдзе** для душы*. Ад *выгода* маем прыметнік *выгодны*. *Канапа **выгодная***, *аўто **выгоднае***, калі нам зручна імі карыстацца. *Выгодным* можа быць і жыцьцё — вельмі добрае, нічым асабліва ня ўскладненае, не абмежаванае.

Апошнімі дзесяцігодзьдзямі, бывае, ужываюць у маўленьні і на пісьме слова *выгода* ў значэньні *выгады*, проста высьцерагаюцца *выгады*. Ня думаю, што такія “ўцёкі” ад *выгады* апраўданыя. Маючы *выгаду* і *выгоду*, два традыцыйныя ў літаратурнай мове словы, ня варта пазбывацца аднаго зь іх. Па-беларуску скажам: ***выгада** ад дамоўленасьці*, *атрымаць вялікую **выгаду***, але *дом з **выгодамі***, *жыцьцё, поўнае **выгодаў***.

## Выцек, працёк, выцяканьне, працяканьне, адток

Паліва з бака *ўцякае* ці *выцякае*? На першы погляд, пытаньне бессэнсоўнае: паліва — не чалавек, *уцякаць* ня можа, яно *выцякае* або *працякае*. І ўсё ж пытаньне невыпадковае: яно ў сувязі з назоўнікам *уцечка*, які да сёньня ў нашай мове ўжываецца як у простым, так і ў пераносным значэньнях.

*Уцечку* перанесьлі ў беларускую мову з расійскае — там яна дарэчы, у нас — калі толькі ўдумацца — недарэчы. Ці можам абысьціся без *уцечкі*, замяніць яе заканамерным беларускім словам? Без праблем. Тэрміналягічныя слоўнікі 1990-х гадоў падаюць з значэньнем *уцечкі* назоўнікі *выцек* і *працёк*: *выцек* — ад дзеяслова *выцякаць*, *працёк* — ад *працякаць*. Называючы працэс, можна ўжываць таксама аддзеяслоўныя формы на *-ньне*: *выцяканьне* і *працяканьне*. Скажам: ***выцяканьне***, ***працяканьне*** *вадкасьці* або ***працёк***, ***выцек*** *вадкасьці*. Але газ, напрыклад, не *выцякае* і не *працякае*, ён *выходзіць* — у гэтым выпадку *ўцечку* лепш замяніць на слова *выхад*. Значыць, будзе па-беларуску ня *ўцечка*, а ***выхад*** *газу*.

Увогуле, пры замене *ўцечкі*, ужытай у пераносным значэньні, можам скарыстаць — залежна ад сэнсавых нюансаў — словы *страта* і *адток*. Напрыклад, ***страта*** *збожжа*, ***адток*** *мазгоў*, ***адток*** *капіталу*. Зрэшты, і *выцек*, і *працёк* у прынцыпе прыдатныя нам для пераносных значэньняў: трэба трохі часу на прызвычаеньне.

Карацей, можам справіцца без расійскага слова *ўцечка*. Гаворым: ***выцяканьне*** *вады*, ***працёк*** *паліва*, ***выхад*** *газу*, ***страта*** *току*, ***выцек*** *рэсурсаў*, ***працёк*** *інфармацыі*, ***адток*** *рабочае сілы*.

## Вялікдзень, Пасха

*Вялікдзень* — традыцыйнае беларускае слова, каб назваць “сьвята сьватаў”. У глыбокай старажытнасьці на *Вялікдзень* цешыліся з уваскрэсеньня сонечнага боства, і гэтае сьвята ў гонар абуджэньня прыроды пачынала каляндарны год. У пару хрысьціянства і для хрысьціянаў *Вялікдзень* — гэта сьвята ў гонар уваскрэсеньня ўкрыжаванага Ісуса Хрыста. У нашай мове слова *Вялікдзень* убірае ў сябе і хрысьціянскі, і язычніцкі зьмест сьвята. *Вялікдзень* — *Вялікі дзень*. *Вялікі* значыць тут — *сьвяты*. У дыялектнай мове поруч з формаю *Вялікдзень* ёсьць *Вялікадне* і *Вялікаднік*, а яшчэ — *Вялічка*.

Царква ў Беларусі *Вялікдзень* называла і называе *Пасхаю* — ад габрайскага слова *пэсах* (даслоўна — ‘пераход’). Першапачатна *пэсахам* габраі звалі веснавую ахвяру ў гонар Бога — ягнё. Пазьней, у VII стагодзьдзі да Нараджэньня Хрыстовага, сьвята *Пэсах* (*Пэйсах*) пачалі тлумачыць як дзень памяці, успаміну пра выхад габраяў з Эгіпту. Сучаснаеназываньне ўваскрэсеньня Хрыстовага *Пасхаю* нясе глыбокі тэалягічны сэнс, акцэнтуе хрысьціянскі зьмест сьвята. А яшчэ па-беларуску *пасхаю* або *паскаю* называем, як вядома, пасьвячоныя на *Вялікдзень* прадукты, а таксама салодкую *велікодную* страву з тварагу, звычайна ў форме чатырохграннай піраміды.

На заканчэньне тэмы — кароткі напамін. Па-беларуску скажам, што чакаем *Вялік**а**дня*, посьцім перад *Вялік**а**днем* — пры зьмене слова *Вялікдзень* разьвіваецца ўстаўны **а**. Усё тое, што зьвязана зь *Вялікаднем*, — *велікоднае*.

## Гуляць, гульня, гулец

Як называем па-беларуску ўдзельніка *гульні*? І ў сэнсе забавы, забаўляньня, і таксама ў значэньні суперніцтва, якое вядзем паводле пэўных правілаў, рэгулярна ўжываецца ў нас назоўнік *гульня*, тым ня менш удзельніка *гульні* часта мянуюць *іграком* — забываюцца на слова *гулец*.

Ёсьць, здаецца, нават комплекс боязі назоўніка *гулец* — нібыта ён нечым нядобры. Баяцца ў гэтым разе ня трэба: *гулец* — заканамернае ўтварэньне ад дзеяслова *гуляць*. Той, хто нешта *выдае*, — *выдавец*, хто *косіць* — *касец*, той, хто *курыць*, — *курэц*, хто *плыве* — *плывец*, хто *прадае* — *прадавец*. Такую ж самую форму мае й назоўнік з значэньнем чалавека, які *гуляе*: гэты чалавек — *гулец*. У цяперашнім літаратурным маўленьні, калі маюць на ўвазе суперніцтва, канкурэнцыю, ужываюць, як правіла, дзеяслоў *гуляць* (а не *іграць* (*граць*)): *гуляць у тэніс*, *гуляць у карты*, *гуляць у хованкі*. Раз мы *гуляем*, значыцца, мы *гульцы*. Зьвярну яшчэ ўвагу, што *гульца* нязьменна фіксуюць нарматыўныя слоўнікі нашай мовы.

*Ігрок*, як і формы *іграч*, *ігрэц*, дарэчы, калі гаворка ідзе пра *ігру*, *ігран ьне* (*граньне*), найперш, вядома, *іграньне* на музычным інструмэнце. Словамі *ігрок*, *іграч*, *ігрэц* у народнай беларускай мове называлі і называюць музыку. Гавораць у нас: *і жнец, і шавец, і на дудзе ігрэц*; або — амаль тое самае — *і шавец, і кравец, і ў дуду ігрэц*.

Стараймася быць больш пасьлядоўныя ў сваёй мове — не забываймася на добрае беларускае слова *гулец*. Вось жа, *у гульні гуляюць гульцы*.

## Дах і страха

Слухач, пазваніўшы на “Свабоду”, папрасіў удакладніць ужываньне словаў *дах* і *страха*:

*“Калі слова **дах** сустракаецца, то гэта, відаць, любая верхняя частка будынку, а **страха** неяк асацыюецца толькі з саламянай абаронаю ад дажджу і ветру. А як будзе, калі на версе будынку шыфэр ці дахоўка?”*

Гаворачы па-беларуску, мы, як правіла, ужываем абодва названыя словы — і спаконвечную нашую *страху*, і вельмі даўняе пазычаньне зь нямецкай *дах*. У жывой народнай мове крытую саломай *страху* вясковае хаты могуць назваць і *дахам*, а, скажам, двухсхільны чарапічны *дах* камяніцы — *страхою*. Ніколі не назавуць *страхою* хіба толькі плоскі *дах*, прыкладам, *дах* гарадзкога шматпавярховіка.

Нельга не прызнаць, што многія носьбіты беларускай літаратурнай мовы звычайна асацыююць *страху* толькі з саламяным пакрыцьцём, называючы кожную інакшую верхнюю частку будынку *дахам*. Такое вузкае разуменьне *страхі* дыктуюць акадэмічныя расійска-беларускія слоўнікі: чытаем там, што *страха* — гэта тое, што з саломы або чароту. Іншыя нарматыўныя даведнікі, да прыкладу тлумачальныя слоўнікі, у большай ступені ўлічваюць факты аўтэнтычнай беларускай мовы, дапускаючы ўжываньне слова *страха* таксама й на абазначэньне *даху*, крытага шыфэрам або, скажам, чарапіцаю (дахоўкаю).

Падагульняю сказанае. Вось жа, у літаратурным маўленьні вельмі шырока можна выкарыстоўваць назоўнік *дах* — называць гэтым словам самыя розныя паводле формы і матэрыялу верхнія час-

ткі будынкаў. *Страхою* можам назваць няплоскі *дах* — ня толькі вясковае хаты, а, скажам, і сучаснага катэджу. Гаворым па-беларуску: ***дах*** *гаража*, ***дах*** *палацу, шыфэрны* ***дах*** або *шыфэрная* ***страха***, *двухсхільны* ***дах*** *мураванкі* або *двухсхільная* ***страха*** *мураванкі*, *саламяная* ***страха***.

## Двор і вуліца

Часам можна пачуць ад людзей, якія гавораць па-беларуску: *былі на **вуліцы**, вярнуліся з **вуліцы**, горача сёньня на **вуліцы***. У такіх і падобных фразах слова ***вуліца*** ўжываюць у нетрадыцыйным для беларускае мовы значэньні — у сэнсе прасторы пад голым небам, прасторы па-за памяшканьнем (домам, кватэраю і г. д.).

У аўтэнтычнай беларускай мове *вуліца*, як правіла, — гэта ўсяго толькі праход, праезд, прастора паміж двума радамі дамоў. *"Дзе хочаш гуляй, толькі на **вуліцу** не хадзі!"* — так ці прыблізна так мацеркі ў нас перасьцерагаюць сваіх дзяцей ад бяды, якая надарыцца можа *на вуліцы*. Значэньне месца, проціпастаўленага памяшканьню, перадае ў нашай мове другое слова — назоўнік *двор*. Горача ня толькі *на вуліцы* — горача й па-за ёю, таму скажам, што горача *на дварэ*. Нас не было дома, гулялі ў парку — вярнуўшыся, мы скажам, што былі *на дварэ*. Спалучэньне *на вуліцы* выкарыстоўваем, калі гаворым пра тое, што сапраўды адбываецца на нейкай *вуліцы*: *на **вуліцы** — дэманстрацыя, а на **дварэ** — дождж.*

Такім чынам, ужываем слова ***вуліца*** толькі зь яго першасным, праславянскім значэньнем. Гаворым традыцыйна: *вярнуліся з праходкі — былі на **дварэ**, на **дварэ** цёпла, на **вуліцы** шумна*.

Паралельна з формаю *на дварэ* выступае ў мове й форма *на двары*. Мяжа між імі праходзіць там, дзе канчаецца падворак, канчаецца зьвязаная з канкрэтнымі домам ці хатаю прастора. *Я правёў **на дварэ** некалькі гадзін; вяртаючыся дадому, спаткаўся **на двары** з суседам. Правёў **на дварэ*** (з **-э** на канцы)

— быў увогуле па-за домам, памяшканьнем. *Спаткаўся **на двары*** (канцавое **-ы**) — сустрэча, значыць, была каля дому, ля пад’езду. Запамятайма: форма з канчаткам **-ы** абазначае блізкую да нашага жытла прастору, скажам, тэрыторыю паміж нашым домам і домам суседнім.

## Для і дзеля

Кожны ведае два беларускія словы, два прыназоўнікі — ***для*** і ***дзеля***. Аднымі сваімі значэньнямі яны супадаюць, другімі адрозьніваюцца.

Слова ***дзеля*** заўсёды дарэчы, калі гаворым, што робім нешта для дабра, у імя некага або нечага. Напрыклад: ***дзеля*** *цябе пастараюся*, *прыйду* ***дзеля*** *вас*, ***дзеля*** *справы гатовы на ўсё*. Скарыстаць слова ***дзеля*** можам таксама, называючы мэту дзеяньня: *сказалі* ***дзеля*** *сьмеху*, *працуюць* ***дзеля*** *славы*. У гэтым значэньні, праўда, паралельна зь ***дзеля*** і, відавочна, часьцей за ***дзеля*** ўжываецца прыназоўнік ***для***. Як правіла, гаворым, што *сабраліся* ***для*** *работы*, але, паўтаруся, *сабрацца* можна й ***дзеля*** *работы*, то бо з мэтаю яе выканаць. Яшчэ слова ***дзеля*** магчымае ў прычынным значэньні: да прыкладу, ***дзеля*** *сьпёкі не расьце*, ***дзеля*** *транспарту спазьніўся*. Такія фразы часьцей можна пачуць сёньня ў дыялектнай мове, перш за ўсё ў цэнтральнай і паўночна-заходняй Беларусі, тады як у цяперашнім літаратурным маўленьні ***дзеля*** з прычынным значэньнем — даволі рэдкая зьява. Напомню й пра слова *дзеля* ў складзе адметнага беларускага злучэньня. Можам сказаць: ***дзеля ўсяго дзеля*** *мы забралі іх з сабою*. ***Дзеля ўсяго дзеля*** значыць ‘на ўсякі выпадак’.

А зараз — пра пару выпадкаў, калі слова ***дзеля*** нам не падыходзіць. Называючы прызначэньне рэчы, прылады, карыстаемся словамі ***для*** або ***на***: па-беларуску *вядро* ***на*** *ваду* або ***для*** *вады*. Прыназоўнік ***для*** ўжываем таксама, кажучы пра тое, што мае для некага ці нечага значэньне, сілу: прыкладам, ***для*** *мяне гэта важнае пытаньне*, ***для*** *яго гэта малы клопат.*

Ёсьць у мове дзялянка толькі для слова *дзеля*, ёсьць выпадкі, калі ўжыць можна толькі *для*, ёсьць, нарэшце, і супольная абодвум словам прастора. Завяршаючы, яшчэ раз ілюструю сказанае: *працаваць **дзеля** сябе*, *партнэрства **дзеля** міру*, *пайсьці **дзеля ўсяго дзеля***, *не пасьпець **дзеля** дажджу*, *сустрэцца **для** перамоваў*, *месца **для** стаянкі*, *добра выглядаць **для** свайго ўзросту.*

## Дзейны і дзейсны

*Дзейны* і *дзейсны* — два беларускія прыметнікі, пры ўжываньні якіх часам памыляюцца: блытаюць значэньні. Хацелася б перасьцерагчы ад памылкі, прыпомніць, які ж сэнс стаіць за кожным з памянёных словаў.

Фактычна *дзейны* — гэты той, для якога характэрная дзейнасьць. Калі кажам, што нейкі чалавек *дзейны*, маем на думцы, што ён актыўны, энэргічны, яго характарызуе дзейнасьць. За апошнія дзесяцігодзьдзі прыметнік *дзейны* пашырыўся ў мове: рэгулярна ўжываецца цяпер на месцы традыцыйнай у савецкую пару формы *дзеючы*. Мы гаворым пра ***дзейнае*** *заканадаўства*, ***дзейную*** *армію*, нарэшце, пра ***дзейных*** *асобаў* у п’есе. Вось жа, яшчэ раз, *дзейны* — той, хто проста дзее, функцыянуе, бывае, з эфэктам, а бывае, і безь яго.

Тым часам *дзейсны* — гэта ўжо ня проста той, якога характарызуе дзейнасьць, *дзейсны* — той, які абавязкова дзее эфэктыўна, плённа. Можам сказаць: ***дзейсныя*** *сродкі*, ***дзейсная*** *праграма*, калі гэтыя сродкі ці праграма даюць рэальны вынік, актыўна ўплываюць на нешта.

Усё тут вельмі проста. Запомнем раз і назаўсёды: ***дзейны*** *ўдзел*, ***дзейны*** *закон*, ***дзейная*** *асоба*, але — падкрэсьліваючы эфэктыўнасьць — ***дзейсныя*** *захады*, ***дзейсны*** *спосаб*, ***дзейсныя*** *лекі*.

## Досьвед, дасьведчаньне, практыка, дазнаньне, даведаньне; дасьведчаны, спрактыкаваны

Часам пытаюцца, ці дарэчы ў беларускай мове словы *вопыт* і *вопытны*, цікавяцца, як найлепей акрэсьліць суму, лучнасьць набытых ведаў і навыкаў?

У старабеларускай мове быў *вопыт* (*опытъ*), але слова гэтае ўжывалася ў зусім іншых значэньнях — як ‘апытаньне’ і як ‘допыт, выпыты’. У 1930-я ў нашай літаратурнай мове замацавалі *вопыт* у яго расійскім значэньні. Тым самым пацярпелі словы, звычайныя датуль пры называньні сумы ведаў: прыкладам, амаль выйшаў з ужытку назоўнік *дасьведчаньне*.

У 1980-я ў беларускіх тэкстах пачала зьяўляцца форма *досьвед*. Крыніцаю-падказкаю выступіла тут украінскае слова *досвід*. *Досьвед* — тое, што *дасьведчана*, значыць тое, што зьведана, зазнана, паспытана. Ужываецца ў значэньні *досьведу* й слова *практыка*: гаворым, што ведаем пра нешта *з уласнае **практыкі***. Таго, хто мае *досьвед*, практычныя веды ў нечым, называем чалавекам *дасьведчаным* або *спрактыкаваным*.

Сярод рэзэрваў мовы застаюцца пакуль яшчэ два ўласнабеларускія сынонімы *досьведу* — *дазнаньне* і *даведаньне*. *“**Дазнаньнем** навучысься”*, — знаходзім фразу ў слоўніку Івана Насовіча.

Як відаць, маем, з чаго выбіраць. І можам абысьціся бяз *вопыту* ў яго небеларускім значэньні. Скажам: *ён здабыў працоўны **досьвед***, *мае пэдагагічную **практыку***, *без **дазнаньня** ня справіцца*, *работнік **дасьведчаны** і **спрактыкаваны***.

## Жуйка, жвака, жвачка

Гумку, якую жуюць, даволі часта называюць цяпер па-беларуску *жуйкаю*. Вярнуўшыся за колькі апошніх дзесяцігодзьдзяў у літаратурную мову, *жуйка* суіснуе з традыцыйнай у лексыконе савецкага часу *жвачкаю*. Гучаць, праўда, часам галасы крытыкаў, што *жуйка* — слова пазычанае. Крытыкі знаходзяць *жуйку* ў сучасных польскіх і ўкраінскіх слоўніках і забываюцца пры гэтым зазірнуць у даведнікі жывое беларускае мовы.

Назоўнік *жуйка* — ад дзеяслова *жаваць*, дакладней, ад асновы цяперашняга часу гэтага дзеяслова — *жуй-*. У другой палове мінулага стагодзьдзя *жуйка* была звычайным словам у Лідзе і Слоніме, пад Клецкам і Лунінцам, амаль скрозь у Заходняй Беларусі. У цэнтральных беларускіх гаворках на месцы *жуйкі* пераважала і дасюль ўжываецца *жвака*. У сваю чаргу *жвачка* — найбольш тыповая форма на ўсходзе Беларусі. І ніводны зь пералічаных назоўнікаў ні ў кога не пазычаны!

Нярэдка ў сёньняшняй моўнай практыцы выбіраюць менавіта *жуйку*, зважаючы на адметнасьць гэтага слова на фоне аднолькавага з расійскім назоўніка *жвачка*. Тэрміналягічныя слоўнікі 1990-х падаюць прыметнік *жуйкавы* — напрыклад, *жуйкавая жывёла*. Пра таго, хто гаворыць нудна і бяз ладу аб тым самым, скажам, што *жуе жуйку*. Зрэшты, ужываючы *жуйку*, не забываймася, што *жваць* (*жаваць*) па-беларуску можна і *жваку*, і *жвачку*. Маем пад рукою жменю беларускіх словаў — *жуйка, жвака, жвачка*.

## Завесьці / распачаць / завязаць справу

Калегі-журналісты папрасілі пракамэнтаваць раз-пораз ужыванае ў беларускіх тэкстах злучэньне *ўзбудзіць справу*. Можам *узбудзіць* чалавека, перарваўшы ягоны сон, можна таксама *ўзбудзіць* у чалавеку розныя пачуцьці, думкі, эмоцыі. А вось *справу* (судовую, крымінальную) ці можна *ўзбудзіць*?

Шмат каго з носьбітаў беларускае мовы *ўзбуджэньне* ў гэтым сэнсе бянтэжыць. Дзеяслоў старраславянскага паходжаньня *ўзбудзіць* у значэньні 'вынесьці, прапанаваць нешта на разгляд' — ілюстрацыя таго, як папаўняліся расійскімі значэньнямі агульныя з расійскімі беларускія словы. Як жа сказаць пра *ўзбуджэньне справы*, абыходзячыся без суседзкіх знаходак? Абсалютна прыдатныя нам дзеясловы *завесьці*, *распачаць* і *пачаць*. У судзе бяруцца за разгляд *справы* — значыць, *заводзяць* або *распачынаюць* (*пачынаюць*) яе.

Апрача як *завесьці* ці *распачаць*, *працэс*, *справу* можна яшчэ, кажучы па-беларуску, *завязаць*. Такі варыянт рэкамэндавалі ў 1920-я лексыкографы Сьцяпан Некрашэвіч і Мікола Байкоў. Чаму *завязаць*? Адно з значэньняў слова *завязаць* — 'даць пачатак, нешта распачаць': можна *завязаць размову* або *завязаць сяброўства*. Мы даем пачатак судоваму разбору, — тым самым мы *завязваем справу*.

Ад памянёных дзеясловаў ёсьць назоўнікі на абазначэньне дзеяньня: *завядзеньне*, *распачынаньне*, *пачынаньне*, *пачатак*, *завяз(в)аньне*. Скажам па-беларуску: *суд **завёў** / **распачаў** / **завязаў** крымінальную справу*; *пастанова аб **завядзеньні** / **пачатку** / **распачынаньні** / **завязаньні** судовае справы*.

## Задушыць / здушыць паўстаньне, заглушыць / стрымаць / угамаваць жаданьні

*Паўстаньне падавіць* ці *задушыць*, *здушыць*: якому дзеяслову аддаць перавагу? Агульнавядома, што слова *давіць* у нашай літаратурнай мове амаль не ўжываецца. Значэньні, якія ў іншых мовах перадаюцца формамі ад дужа даўняга, праславянскага слова **daviti*, у беларускай абслугоўваюцца іншымі дзеясловамі. Мы, як правіла, гаворым, што *чаравік* нам ***цісьне***, *прамоклае адзеньне* ***гняце***, *кашаль* ***душыць*** і *туга* ***душыць*** або ***гняце***. Раз літаратурная мова фактычна абыходзіцца бяз слова *давіць*, адкуль жа ў ёй два дзеясловы, вытворныя ад *давіць* — *падавіць* і *раздавіць*?

Несумненна, ужываньне *падавіць* і *раздавіць* у пераносных значэньнях спрычыненае фактамі расійскае мовы. Не шукалі беларускіх адпаведнікаў — пераносілі словы. Адсюль: *падавіць паўстаньне* або *падавіць агонь праціўніка*, нават *падавіць нерашучасьць*. Называлася газэта сьпярша па-расійску: *“Раздавим фашистскую гадину”*. Пачалі выдаваць па-беларуску і загаловак перапісалі: *“Раздавім фашысцкую гадзіну”*. А калі ўсё ж не пераносіць і не перапісваць, а скарыстаць традыцыйныя словы?

Не даючы разьвіцца, перашкаджаючы нейкаму працэсу, яго тым самым *душаць*, *задушваюць*. Значыць, *бунт*, *паўстаньне* можна ***задушыць*** або ***здушыць***. Пазбаўляючы праціўніка магчымасьці страляць, мы ***змагаем*** *агонь*. *Жаданьне* або *абурэньне* — ***заглушаем***, ***прыглушаем*** або ***стрымліваем***, ***гамуем*** (***угамоўваем***). У сваю чаргу *гáдзіну* — ***раздушваем*** або проста ***зьнішчаем***.

Замяняючы пазычаньні, ня трэба баяцца пераносных значэньняў у самых звычайных, добра знаёмых словах. Паўторым разабранае: ***ціснуць*** *на тармазы*, ***ціснуць*** *сок*, ***душыць*** або ***расьціскаць*** *ягады*, ***душыць*** *сьмех у сабе*, ***душыць*** *бунт*, ***раздушыць*** *гáдзіну*, ***гнесьці*** *суперніка*, ***прыгнесьці*** *душу*, ***прыглушыць*** *ініцыятыву*, ***стрымаць*** або ***ўгамаваць*** *жаданьні*.

## Заручыцца падтрымкаю, займець / здабыць падтрымку; гарантаваць бясьпеку

*Атрымаць падтрымку*, *забясьпечыць бясьпеку* — кожны з нас ня раз чуў такое па-беларуску. У гэтых словазлучэньнях — непажаданы паўтор аднакаранёвых словаў. Паўтор ідзе, несумненна, ад паслоўнага перакладу з расійскае мовы. Думаюць: *получить поддержку*, *обеспечить безопасность*, а тады слова за словам перакладаюць, і выходзіць, што *падтрымку* ў нас *атрымліваюць*, а *бясьпеку забясьпечваюць*. На дзіва, перакладныя расійска-беларускія слоўнікі ігнаруюць тыя цяжкасьці, якія ў гэтым выпадку можа мець ня вельмі ўпэўнены ў беларускай мове чалавек, — не падаюць у расійскай частцы названых частотных словазлучэньняў.

Разьбярэмся па парадку. *Падтрымку*, *падтрыманьне* зь нейчага боку можна *мець*. Калі ж мы ня *маем* падтрымкі, можам спрабаваць яе *займець* або, іначай кажучы, ёю *заручыцца*. Прыкладаючы намаганьні, праяўляючы настойлівасьць, *падтрымку* таксама *здабываем*. А вось *бясьпеку* — *гарантуем* або проста *даем*. Можам, напрыклад, сказаць, што новыя тэхналёгіі *даюць* большую *бясьпеку* ў вытворчым працэсе. Да злучэньня *гарантаваць / даць бясьпеку* набліжаецца значэньнем беларускі дзеяслоў *засьцерагчы*: часам можам абысьціся ім.

Зараз папрактыкуем яшчэ раз, засьцерагаючы сябе ад ка́лек з паўторамі: *нам удалося* ***заручыцца падтрымкаю***, ***займець падтрымку***, *пасьля доўгіх пераконваньняў мы* ***здабылі падтрымку***, ***гарантавалі бясьпеку*** *краіны*.

## Захады, рабіць захады

Якога атачэньня патрабуе слова *захады*? Як гаварыць: *прымаць захады* ці *рабіць захады*? Пракамэнтаваць ужываньне назоўніка *захады* папрасіла адна з слухачак “Свабоды”.

Заканамернае і традыцыйнае ў літаратурнай мове спалучэньне *рабіць захады*. Як мы *робім* нейкія *хады*, так *робім* і нейкія *захады*, значыць, дзеяньні, скіраваныя на дасягненьне пэўнай мэты. Сустраканае ў сучасным маўленьні словазлучэньне *прымаць захады* другаснае: зьявілася яно ў выніку зьмяшэньня двух роўных паводле сэнсу канструкцыяў — *рабіць захады* і *прымаць меры*. Пераважна ў пісьмовай, кніжнай мове здараюцца яшчэ прынамсі тры спалучэньні з разьбіраным тут словам *захады*: *ажыцьцяўляць захады*, *зьдзяйсьняць захады* і *ўжываць захады*.

Нашая слухачка ўдакладняе, ці заўсёды выпадае выкарыстоўваць назоўнік *захады* як абсалютны сынонім да слова *меры*. Здаецца, у бальшыні выпадкаў *захады* дарэчы ў ролі *мераў*. Можам сказаць пра *надзвычайныя захады*, пра *захады для бясьпекі*, *засьцярогі* або, скажам, *спагнаньня*. Зьвярну яшчэ ўвагу, што ў значэньні *захадаў*, *мераў* можна таксама ўжыць словы *спосабы* і *сродкі* (напрыклад, *спосабы засьцярогі*, *спосабы стрыманьня*, *сродкі ўзьдзеяньня*).

На заканчэньне яшчэ раз напамінаю, што назоўнік *захады*, як правіла, спалучаецца ў нашай мове з унівэрсальным дзеясловам *рабіць*: мы *робім захады для* нечага або *на* нешта.

## Здаць справу / лічбу, зрабіць справаздачу…

Вышэй мы разабралі пару выпадкаў, калі пры паслоўным перакладзе словазлучэньняў з расійскае мовы ў беларускіх адпаведніках здараецца непажаданы паўтор каранёў (гл. нататку "Заручыцца падтрымкаю, займець / здабыць падтрымку; гарантаваць бясьпеку").

Наш сталы слухач Аляксандар Алесік зь Вялейкі прапанаваў зьвярнуць увагу на некаторыя іншыя скалькаваныя спалучэньні аднакаранёвых словаў. Часам, напрыклад, гавораць і пішуць у нас, што *здалі справаздачу.* Ёсьць некалькі спосабаў, каб выказаць гэтую думку па-іншаму, не дублюючы кораня. Найпрасьцейшы спосаб — паставіць пры слове *справаздача* дзеяслоў *зрабіць* (*зрабіць справаздачу*). Таксама можам сказаць: *здаць справу* — з гэтага словазлучэньня, уласна, і вынікае назоўнік *справаздача*. У старабеларускую пару ў значэньні *справаздачы* выкарыстоўвалі слова *лічба*. Было тады: *здаць лічбу* (*здати личбу*). Можа, варта паспрабаваць ажывіць такое спалучэньне?

А зараз коратка пра іншыя выпадкі каранёвага паўтору, на якія зьвярнуў увагу наш слухач. *Вызначыць прызначэньне* — дзеяслоў *вызначыць* у гэтым выпадку лёгка замяняецца. *Прызначэньне*, да прыкладу, нейкай прылады мы *ўстанаўляем* або *выяўляем*, яшчэ — *высьвятляем*. Дзеяслоў *устанавіць* ужываем таксама, каб не паўтараць каранёў у спалучэньні *усталяваць абсталяваньне*. *Абсталяваньне* — *устанавіць* або *паставіць*. *Выканаць наканаваньне* — тут таксама трэба замяніць дзеяслоў. Поруч з назоўнікам *наканаваньне* дарэчы дзеясловы *спраўдзіць* і *зьдзейсьніць*.

## Зьвяз і саюз

*Саюз*, *хаўрус*, *зьвяз* — ці аднолькавыя гэтыя словы значэньнем? Ці заўсёды на месцы стараславянскага назоўніка *саюз* можам ужыць блізказначнікі *зьвяз* або *хаўрус*?

Слова *хаўрус* прыйшло да нас зь ідышу. У беларускай літаратурнай мове XX ст. *хаўрус* — гэта перадусім ‘кампанія, сябрына, група людзей, блізкіх паводле сваёй дзейнасьці, мэтаў або зацікаўленьняў’. Скажам, *хаўрус* машыны рамантаваць. Такі *хаўрус* можа мець агульную маёмасьць, іначай кажучы, *хаўрусны* інструмэнт. Супольнікі ў *хаўрусе* — *хаўрусьнікі*. У XX ст. *хаўрус* рэдка выходзіў за межы бытавога ўжытку — *хаўрусамі* амаль не называлі грамадзкіх арганізацыяў, таварыстваў або партыяў. Сярод беларускіх суполак усяго сьвету па II сусьветнай вайне была, здаецца, толькі адна з *хаўрусам* у назове — *Беларускі хаўрус у Францыі*.

Рэальную канкурэнцыю слову *саюз* пры называньні рознага тыпу аб’яднаньняў і пагадненьняў складае цяпер назоўнік *зьвяз*. У традыцыйнай беларускай мове былі словы *зьвязаць*, *зьвязак*, *повязь*, у мінулым стагодзьдзі да іх дадалося яшчэ адно ўтварэньне з коранем *вяз-* — назоўнік *зьвяз*. Усё часьцей чуем пра *вайсковы зьвяз* або *сямейны зьвяз*. *Зьвязамі* без усякіх засьцярог называем замежныя арганізацыі і партыі, беларускія тым часам, як правіла, мянуем *саюзамі* — зважаем на афіцыйны назоў. Скажам, *Эўрапейскі Зьвяз*, але *Саюз беларускіх пісьменьнікаў*. Такое разьмежаваньне, хутчэй за ўсё, часовае — пашыраючыся, слова *зьвяз* раней ці пазьней трапіць і ў афіцыйныя назовы беларускіх арганізацыяў.

## Зьвяно

*Зьвяно* — што гэта за слова? Ці ўжываць яго сьмела, ці шукаць якога заменьніка? Вось меркаваньне аднаго з нашых слухачоў.

(Слухач:) *“У адной зь перадач пачуў пра **зьвёны** — **зьвеньні**. Мне здаецца, тут больш слушна было б ужываць беларускае слова **цугі**. **Цуг** — частка **ланцуга**. Слова **цуг** больш адпавядае беларускай мове. А **зьвёны** — яны быццам з рускай мовы...”*

У лінгвістычнай літаратуры можна прачытаць пра цёмнае паходжаньне *зьвяна*. Праўда, поруч з даволі складанымі, але малапераканаўчымі тлумачэньнямі ёсьць і зусім простае, празрыстае, прапанаванае Ўладзімерам Далем. Даль выводзіў *звено* ад дзеяслова *звенеть*. Колца ў ланцугу *зьвініць* — таму й маглі яго назваць *зьвяном*. Дарэчы, пры такім тлумачэньні *зьвяна* можна было б афармляць яго па-беларуску праз **[і]**, ісьці за нашым дзеясловам *зьвінець*, аднак дасюль ніхто такога афармленьня не практыкаваў.

У “Гістарычным слоўніку беларускай мовы” *звено* ёсьць — у значэньні часткі валу або агароджы, а таксама ў значэньні часткі кола. *Подле Олейной брамы отвалилося **звено** валу, наняли двохъ поденныхъ закидать бервенемъ новымъ*, — гэта ілюстрацыя ўжываньня слова *звено* з 1691 году. На абазначэньне складовай часткі нечага цэлага *зьвяно* (*звано*) ўжывалі і ў народнай мове XIX — XX стагодзьдзяў. Няма падставаў залічаць гэтае слова да пазычаньняў. Праўда, у XX стагодзьдзі з пурыстычных меркаваньняў *зьвяно* часам абміналі, шукалі яму замены. Вядома, у многіх выпадках на месцы *зьвяна* прыдатныя й іншыя беларускія

словы, і на магчымасьць іх выкарыстаньня ня трэба забывацца. Скажам, частку ланцуга можам назваць *колцам* (*кольцам*), а частку агароджы між слупкамі — *праслам*. Арганізацыйную адзінку ў нейкім аб’яднаньні ніяк іначай, як правіла, не называем — у мінулым стагодзьдзі засела ў гэтым значэньні ў нашай мове *зьвяно* (напрыклад, *калгаснае зьвяно*).

Прапанова слухача ўжываць у значэньні *зьвяна* нямецкае з паходжаньня слова *цуг* — цікавая, але чыста наватарская. Мне, прынамсі, не ўдалося знайсьці хоць якіх фіксацыяў такога ўжываньня. Здаецца, у гэтым выпадку гаварыць можна адно пра жаданьне надаць *цугу* новае значэньне. У XX стагодзьдзі беларускія словы *вязьмо* й *злучво*, спрабаваныя на ролю паўнацэнных заменьнікаў *зьвяна*, з шэрагу прычын такімі ня сталі. Ня думаю, што ў назоўніка *цуг* тут большыя шанцы. Дый увогуле, ці варта шукаць спосабаў, каб пазбавіцца *зьвяна* — традыцыйнага, з такой працяглай гісторыяй у мове слова?

## Зьвярнуць (забраць) увагу, залучыць інвэстыцыі, далучыць да гульні, прывабіць кліента

***Прыцягнуць*** *увагу,* ***прыцягнуць*** *інвэстыцыі,* ***прыцягнуць*** *дзяцей да гульні* — многія з нас гавораць так па-беларуску без аніякіх сумневаў, аўтаматычна. Фармальна ўсё ў такіх словазлучэньнях быццам правільна: акадэмічныя слоўнікі санкцыянуюць ужываньне дзеяслова ***прыцягнуць*** у пераносных значэньнях. Сумневы, аднак, узьнікаюць, калі падумаць пра стылістыку фразы, узяць пад увагу нюансы значэньня слова, асацыяцыі, якія гэтае слова выклікае.

У натуральным першасным ужываньні ***прыцягнуць*** — значыць даставіць нешта ці некага, даставіць цягнучы, нярэдка цяжкае й зь цяжкасьцю. Калі скажам, што ***прыцягнулі*** *кагось у госьці*, будзе ясна, што прыклалі намаганьні, сілу слова ці рук, а той, каго ***прыцягвалі***, сам, можа, і не прыйшоў бы. Таму цалкам дарэчы ў нашай мове злучэньне ***прыцягваць*** *да адказнасьці* — мы змушаем кагосьці адказваць за свае ўчынкі, тым самым ***цягнем*** яго да адказнасьці. Зусім іначай, калі прапануем некаму забаву ці гульню: мы проста спрабуем заахвоціць, выклікаць цікавасьць, і ніхто, ясна, не абавязаны прымаць нашай прапановы. У гэтым выпадку мы ***далучаем*** або ***залучаем***, яшчэ ***схіляем***. Шукаючы інвэстыцыяў, мы, як правіла, толькі заахвочваем, запрашаем з карысьцю ўкласьці некуды капітал. Раз няма прымусу, то й тут можна аддаць перавагу дзеяслову ***залучаць***. Калі нешта само сабою зацікавіла нас, выклікала нейкія намеры й памкненьні, можам сказаць, што яно ***забрала***, ***зьвярнула*** на сябе

нашую *ўвагу*: мы ня мусілі гэтым цікавіцца, але ж трапіла нешта на вочы, прынесла новыя ўражаньні. І яшчэ адзін выпадак недарэчнага ***прыцягненьня***. Вырабляючы прадукцыю або прадаючы яе, не выпадае ***прыцягваць*** *кліентаў*, лепей пастарацца іх ***прывабіць***.

Гаворачы па-беларуску, нам трэба не баяцца адступіцца ад штапмаў і памятаць пра рэзэрвы мовы. Скажам карэктна: *бацькі* ***далучылі*** *дзяцей да гульні, дзяржава* ***залучыла*** *інвэстыцыі, карціна* ***забрала*** *нашую ўвагу, фірма* ***прывабіла*** *кліентаў.*

## Зьдзейсьніцца ці адбыцца: ці можа адбыцца парлямэнт?

Адна з цэнтральных газэт, перадаючы па-беларуску думку старшыні Палаты прадстаўнікоў, напісала, што *“прафесіянальны парламент у Беларусі адбыўся”*.

На беларускае вуха такі сказ дзіўны. Парлямэнт — гэта не падзея. *Адбыцца* — значыць прайсьці або быць праведзеным, здарыцца — орган улады, вядома ж, ня можа. Журналіст у гэтым выпадку пераклаў словы свайго суразмоўцы аўтаматычна, не зважаючы на тое, што дзеяслоў *адбыцца* ня тоесны расійскаму *состояться*. Калі маем на ўвазе рэалізацыю, рэалізаванасьць нечага, беларускае слова *адбыцца* не ўжываецца. У гэтым значэньні ў нас іншыя дзеясловы — *зьдзейсьніцца*, *рэалізавацца*. Творца напоўніцу праявіў свой патэнцыял — тым самым ён *зьдзейсьніўся* або *рэалізаваўся*. Калі орган улады аформіўся, змог выкарыстаць свае паўнамоцтвы, добра зарэкамэндаваў сябе — значыць, ён *зьдзейсьніўся*.

Так што запомнім: парлямэнт не адбываецца, адбываецца, напрыклад, паседжаньне парлямэнту, сам ён можа *зьдзейсьніцца*.

## Зьдзейсьніць гераічны ўчынак; зрабіць / учыніць злачынства

Часам без аглядкі, ня вельмі зважаючы на стылістыку слова, ужываюць дзеяслоў ***зьдзейсьніць***. Ставяць, напрыклад, ***зьдзейсьніць*** поруч з назоўнікам *злачынства* — тым самым як бы ўзвышаюць гэтае *злачынства*, надаюць яму вагі, значэньня.

Рэч у тым, што ў традыцыйным літаратурным ужытку за словам ***зьдзейсьніць*** замацаваўся пазытыўны сэнс. Прыклаўшы намаганьні, зрабіўшы нешта рэальнасьцю, можна ***зьдзейсьніць***, скажам, *задуму, мрою, жаданьне, мэту*. ***Зьдзяйсьняюць*** таксама нешта вельмі адметнае, незвычайнае. Ня кожнага дня здараецца *гераічны ўчынак, вычын*: яго ня проста *робяць* — яго ***зьдзяйсьняюць***. А вось *злачынства* — зьява адмоўнага характару. Пры *злачынстве* ўзвышаная лексыка недарэчы, тут нам даволі звыклых рабочых словаў — ***рабіць*** і ***чыніць***. Знакам тым, *злачынства*, кажучы па-беларуску, могуць ***рабіць*** і ***зрабіць***, ***чыніць*** і ***ўчыніць***. Аналягічна ў выпадку з *нападам* і *замахам*: іх таксама ***робяць***, ***чыняць***, яшчэ — ***праводзяць***.

Такім парадкам, дзеяслоў ***зьдзейсьніць*** — не ўнівэрсальны, яго выкарыстаньне абмежаванае пэўнымі рамкамі. Пільнуючыся стылістычнае нормы, скажам: ***зрабіць*** або ***ўчыніць*** *злачынства*, ***учыніць*** *забойства*, ***правесьці***, ***учыніць*** ці ***зрабіць*** *дывэрсію*, але ***зьдзейсьніць*** *намеры*, ***зьдзейсьніць*** *гераічны ўчынак*.

## Зьдзелка ці ўгода, пагадненьне, умова

Сярод словаў, якія без агляднкі былі перапісаныя ў XX ст. у беларускую мову з расійскае, ёсьць назоўнік *зьдзелка*. Чуем цяпер па-беларуску, напрыклад, пра *гандлёвыя зьдзелкі* або *зьдзелкі з сумленьнем*.

Для нашае мовы *зьдзелка* — слова зусім ненатуральнае, яму няма з чаго вынікнуць, разьвіцца, бо няма ў нас дзеяслова *дзелаць*. На месцы пазычанае *зьдзелкі* добра, па-мойму, глядзіцца жывое беларускае слова ***ўгода***. Гэты назоўнік з таго самага аднакаранёвага раду, што *выгада* й *выгода, дагода, згода, нагода, пагода, прыгода, пагадненьне*. Як адпаведнік расійскаму слову *сделка* фіксаваў ***угоду*** ў “Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку” Вацлаў Ластоўскі. *“Зрабілі паміж сабой **угоду**”*, — гэта ілюстрацыя з слоўніка Ластоўскага. Крытыкуючы *зьдзелку* як факт русіфікацыі нашае мовы, слова ***ўгода*** рэкамэндаваў Станіслаў Станкевіч. У першай палове 1990-ых ***угода*** трапіла ў слоўнікі спэцыяльнае лексыкі — ёсьць гэтае слова між іншага ў кнізе Алеся Каўруса “Дакумент па-беларуску”. Вось жа, высьцерагаючыся пазычанае *зьдзелкі*, ня боймася скарыстаць патрэбнага беларускага слова — назоўніка ***ўгода***. Скажам: *гандлёвая **ўгода**, зрабілі* або *ўчынілі **ўгоду**, не пайшлі на **ўгоду** з сумленьнем.* На месцы ***ўгоды*** — у ролі яе сынонімаў — магчымыя таксама два частотныя беларускія словы — ***умова*** й ***пагадненьне***. Прыпомню й яшчэ два радзейшыя ў літаратурным ужытку, але добра знаныя ў дыялектнай мове назоўнікі (абодва германізмы) — ***гешэфт*** і ***каншахты***. ***Гешэфтам*** можам у размове назваць прыбытковую ўгоду, выгадны інтэрас, прычым

часта інтэрас авантурны, на мяжы з афэраю. Ну а ***каншахтамі***, як правіла, завуць нейкае таемнае й падазронае пагадненьне. У Івана Насовіча ў слоўніку ёсьць гэтыя ***каншахты*** й сказ пры іх: *“**Каншахты** вашы я вам пераб’ю”*.

Такім чынам, ***угода, пагадненьне, умова, гешэфты, каншахты*** — пяць словаў на ўсе адценьні патрэбнага нам значэньня. Іх і будзем ужываць — аддамо перавагу традыцыйнаму.

## Зьнешні ці вонкавы, знадворны, навакольны, замежны?

Сярод фактаў сучаснага беларускага маўленьня ёсьць словы *зьнешні, зьнешне* й *зьнешнасьць*. Часам, аднак, акуратныя ў мове людзі зьвяртаюць увагу на нетрадыцыйнасьць гэтых словаў. У прыватнасьці, Павел Сьцяцко ў кнізе "Культура мовы" перасьцерагае ад ужываньня прыметніка *зьнешні* — на думку знанага мовазнаўца, гэта *"штучнае слова"*.

Ёсьць падставы меркаваць, што прыметнік *зьнешні* — з словатворчае практыкі Вацлава Ластоўскага. Невядомае ў дыялектавай мове, слова *зьнешні* зьяўляецца ў тэкстах 1920-ых гг., ці ня ў першую чаргу на бачынах рэдагаванага Ластоўскім у Коўне месячніка "Крывіч". Першым беларускім слоўнікам, які зафіксаваў прыметнік *зьнешні*, быў выдадзены ў Коўне ў 1924 годзе "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" Ластоўскага. Аўтар слова *зьнешні* ў сваёй творчасьці ішоў, відавочна, ад расійскага прыметніка *внешний*, можна сказаць, падпраўляў яго. Для нашае мовы прыслоўе *зьне*, зь якога магло б вынікнуць слова *зьнешні*, нехарактэрнае — адсюль і выснова пра штучнасьць лексычнае вынаходкі Ластоўскага (прафэсар Сьцяцко бачыць у форме *зьнешні* зьмяшэньне беларускага слова *знадворны* й памянёнага расійскага *внешний*). Да прыметніка *зьнешні* й вытворных ад яго словаў беларускія лексыкографы доўгі час ставіліся скептычна: не ўключалі ў нарматыўныя слоўнікі. Цікава, што слова *зьнешні* няма нават у такім перапоўненым выпадковымі, небеларускімі моўнымі фактамі прадукце 1930-ых гг., як "Руска-беларускі слоўнік" пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча.

Ці можам абысьціся сёньня бяз словаў *зьнешні, зьнешне* й *зьнешнасьць*? Несумненна, можам. І ў вусным маўленьні, і на пісьме перавагу варта аддаваць традыцыйнай беларускай лексыцы — прыметнікам *вонкавы, знадворны, навакольны, замежны*, прыслоўям *вонкава, звонку, знадворку*, а таксама назоўніку *выгляд.* Усё, што месьціцца, знаходзіцца *звонку*, *знадворку*, за межамі нечага, называем *вонкавым* або *знадворным* (напрыклад, *вонкавая паверхня, знадворныя дзьверы*). *Выгляд* некага або нечага таксама можа быць *вонкавы* або *знадворны*. У сваю чаргу прастора вакол нас — *навакольная*. Гаворым: *навакольны сьвет, навакольнае асяродзьдзе*. У значэньні таго, што мае дачыненьне да стасункаў з замежжам, ужываем прыметнік *замежны*: скажам, *замежны гандаль, замежная палітыка*. Называючы нешта, зьвязанае з *замежным гандлем*, *палітыкаю*, скарыстоўваем заканамерныя беларускія формы — *замежнагандлёвы* й *замежнапалітычны* (замест *зьнешнегандлёвы* й *зьнешнепалітычны*): *замежнагандлёвыя апэрацыі, замежнапалітычны курс дзяржавы*.

## Зьняпраўдзіць, зьняпраўджаньне

У савецкую пару ў нашай літаратурнай мове замацаваліся дзеясловы *абвяргаць* і *абвергнуць*, вытворны ад іх назоўнік *абвяржэньне*. Гэтыя словы — частковыя калькі з расійскіх *опровергать*, *опровергнуть*, *опровержение*. Названыя калькі пашыраліся з 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя, выціскаючы на моўную пэрыфэрыю некаторыя традыцыйныя беларускія словы.

Абсалютны сынонім да калькі *абвергнуць* — празрысты беларускі дзеяслоў *зьняпраўдзіць*. Шматтомны тлумачальны слоўнік ілюструе ўжываньне слова *зьняпраўдзіць* ілюстрацыямі з мовы двух клясыкаў нашае літаратуры. *“Крушынскі стараўся рознымі спосабамі **зьняпраўдзіць** гэтыя чуткі”*, — чытаем у рамане Зьмітрака Бядулі. *“Адбылося ў жыцьці нешта такое, што ўсё зыначыла й **зьняпраўдзіла**”*, — гэты сказ з прозы Кузьмы Чорнага. Дзеяслоў *зьняпраўдзіць* памалу вяртае сабе месца ў літаратурным лексыконе. *“Рэальнасьць зьняпраўдзіла ўсе прагнозы”*, — тут ужо сучасная ілюстрацыя з мовы тыднёвіка “Наша ніва”. Поруч з словамі *зьняпраўдзіць* і *зьняпраўджваць* ёсьць і аддзеяслоўны назоўнік *зьняпраўджаньне*: можам, прыкладам, сказаць, што нехта выступіў зь *зьняпраўджаньнем*, то бо паказаў няпраўдзівасьць тых ці іншых зьвестак.

Памятайма пра магчымасьць лексычнага выбару. Гаворым па-беларуску, што ***зьняпраўдзілі*** *недакладную інфармацыю*, ***давялі няпраўдзівасьць*** *зьвестак*, ***запярэчылі*** *чуткам*, ***зьбілі*** *памылковае цьверджаньне*, *выступілі з* ***запярэчаньнем***, *надрукавалі ў газэце* ***зьняпраўджаньне***.

## Імавернасьць і верагоднасьць

Адзін наш слухач запытаўся па тэлефоне: *“Якая розьніца паміж словамі **імавернасьць** і **верагоднасьць**? І як правільна называць галіну матэматыкі: **тэорыя верагоднасьцяў** або **тэорыя імавернасьцяў**?”*

Аб’ектыўна беручы, замацаваная слоўнікамі розьніца ў значэньнях назоўнікаў *імавернасьць* і *верагоднасьць* рэгулярна ў нас ігнаруецца. Рэч у тым, што слова *верагоднасьць* ужываюць проста на ўзор фармальна блізкага зь ім расійскага назоўніка *вероятность* — і гэтым размываюць спэцыфіку беларускай *верагоднасьці*. Ідучы ў маўленьні за слоўнікам, мы зможам захаваць гэтую спэцыфіку.

Пачну з прыметніка. *Верагодны* — гэты той, які *годны веры*, заслугоўвае на веру, іншымі словамі, *пэўны*, *дакладны*. Можам, напрыклад, сказаць, што *нашая інфармацыя **верагодная**, узятая зь **верагодных** крыніц*. Уласьцівасьць *верагоднага* — *верагоднасьць* (напрыклад, ***верагоднасьць** высноваў*, ***верагоднасьць** сьведчаньняў*).

Як бачым, беларуская *верагоднасьць* сынанімічная *дакладнасьці*, *пэўнасьці*. А вось *імавернасьць* не сынанімічная. *Імаверны* — гэта *праўдападобны*, *магчымы*, *дапушчальны*. Гаворым, напрыклад, пра ***імавернасьць** падзеяў*, ***імавернасьць** разьвіцьця сытуацыі*. Навуку, якая вывучае матэматычныя мадэлі выпадковых экспэрымэнтаў, называем *тэорыяй **імавернасьцяў***.

Ідучы за слоўнікавай нормаю, запомнім, што *верагоднасьць* ня тоесная *імавернасьці*. *Верагодны* — той, якому верым, пэўны, дакладны. *Імаверны* — падобны да праўды, толькі магчымы.

## Іспыт, экзамэн, выпыты

У сёньняшняй беларускай мове поруч з словам лацінскага паходжаньня *экзамен* раз-пораз ужываецца й назоўнік *іспыт*. Нярэдка *іспыт* трактуюць як слова адметна беларускае й стараюцца аддаваць яму перавагу. Ці ёсьць на тое падставы?

У слоўніках народнай беларускай мовы *іспыту* няма, гэта кніжны назоўнік, утвораны ў старaславянскую пару ад дзеяслова *испытати*. "Гістарычны слоўнік беларускай мовы" *испыту*, праўда, таксама не падае — у расьпісанай на карткі лексыцы старабеларускага пісьменства *испыту* не аказалася. *Іспыт* быў узяты ў нашую літаратурную мову ў XX ст., узяты адзін, без аднакаранёвых словаў. У *іспыце* — нехарактэрная для беларускіх назоўнікаў прыстаўка *іс*-. Мы не гаворым сёньня па-беларуску *іспытаць* або *іспытваць, іспытны* або *іспытальны*, маем беларускія іншакаранёвыя словы — *выпрабоўваць, выпрабавальны, выпрабавальнік*.

Уводзячы на пачатку мінулага стагодзьдзя ў нашую мову *іспыт*, нехта з айчынных аўтараў выбраў яго на фоне ўласьцівага расійскай мове назоўніка *испытание*. Пасьляваенныя акадэмічныя слоўнікі фіксавалі *іспыт* у двух значэньнях: як 'праверку ведаў' і проста як 'выпрабаваньне'. Пішучы пра русіфікацыю беларускае мовы ў БССР, крытыкаваў ужываньне назоўніка *іспыт* Станіслаў Станкевіч. На месцы *іспыту* Станкевіч раіў ня толькі агульнаўжывальны лацінізм *экзамен*, але й жывое беларускае слова *в**ы**пыты*. Зрэшты, *в**ы**пыты* рэкамэндавалі беларускія мовазнаўцы й значна раней — знаходзім гэты назоўнік у слоўніках Сьцяпана Некрашэвіча й Міколы Байкова.

*Выпыты*, аднак, застаюцца пакуль у рэзэрве мовы. Мы выбіраем паміж *экзаменам* і *іспытам*, паміж двума пазычаньнямі. Выбіраючы, ня варта ўнікаць *экзамену*, пагатоў што слова гэтае мае ў нашай мове багатае лексычнае гняздо. Гаворым: *экзамен, экзаменаваць, экзаменатар, экзаменацыйны, экзаменацыйнік*.

## Кальвы, ляшчоткі, шляга, беларуннае адзеньне

Наш слухач папрасіў патлумачыць паасобныя словы з Коласавай паэмы “Новая зямля”. Гаворка тут пра лексыку, якой слухач не знайшоў у даступных яму слоўніках:

*“У 14-ым разьдзеле Колас піша: “...скрозь **беларуннае** адзеньне”. Няясны мне колер. Як гэта — **беларуннае**? Далей у 8-ым разьдзеле: “Як бы каваў ён словы **шлягай**”. Тут слова **шляга** для мяне няяснае — не знаходжу ў сваіх слоўніках. У 7-ым разьдзеле: “У зубы клёцку, бы ў **ляшчоткі**”. Што гэта — **ляшчоткі**? У 25-ым разьдзеле: “Па струнах-**кальвах** пальцы граюць”. Тут няяснае слова **кальвы**. Калі ласка, патлумачце”.*

У Коласавай паэме *“скрозь **беларуннае** адзеньне / У багне неба ясна-сіняй / Ступае сонца, як багіня”*. У першасным значэньні ***беларуннае*** *адзеньне* — тое, якое зь белага *руна*, белай *руны*. *Руном, рунаю* або яшчэ *руньню* называюць авечую шэрсьць — воўну.

Слова нямецкага паходжаньня *шляга* (*Schlägel*) абазначае прыладу, пры дапамозе якой трамбуюць глебу, выраўноўваюць паверхню. *Шляга* ня раз уплеценая ў Коласаву паэтычную мову. У “Новай зямлі” *“Міхал сьпяваў баском спавагу, / Як бы каваў ён словы **шлягай**”*. Назоўнік *шляга* падаюць сучасныя слоўнікі літаратурнай мовы — можам сьмела ўжываць яго ў сваім маўленьні.

*Ляшчоткі* — гэта раздвоеная з аднаго канца дошчачка або тонкія дашчаныя накладкі. *Ляшчоткамі* нешта зацісկаем, фіксуем. Пры пераломе руку або, скажам, нагу бралі ў *ляшчоткі*, ці, іначай

кажучы, *лубкі*. Дзядзька Антось, *“бы ў ляшчоткі”*, браў у зубы клёцку.

І, нарэшце, колькі словаў пра ўжываны Коласам назоўнік *кальва*. *Кальва* — тое самае, што й *каліва* — асобна ўзятая расьліна, сьцябліна, зернейка або проста малая колькасьць нечага. Сьцябліны жыта ўбачыўшы як струны, Колас напісаў: *“Па струнах-кальвах пальцы граюць...”*

Пры канцы згадаю яшчэ пра слоўнік, карысны пад рукою чытачу Коласавых, дый ня толькі Коласавых, твораў — “Тлумачальны слоўнік адметнай лексікі ў творах Якуба Коласа”. Побач з фактамі літаратурнай мовы, а таксама зь відавочнымі русіцызмамі й палянізмамі аўтаркі слоўніка Ганна Арашонкава й Надзея Чабатар зьмясьцілі нямала сапраўды адметнай беларускай лексыкі. Так што кожнаму, хто хоча глыбей ведаць нашую мову, гэты слоўнік прыдасца.

## Кірунак, напрамак, прасьцінак

Ёсьць сярод нашае лексыкі даўняе пазычаньне зь нямецкае мовы — слова *кірунак*. Апошнімі дзесяцігодзьдзямі ў пару да *кірунку* прабіваецца ў тым самым значэньні форма з прыстаўкаю — *накірунак*. Як да гэтага ставіцца, ці варта ўжываць форму *накірунак* на месцы традыцыйнага *кірунку*?

Думаю, што ня варта — новая форма другасная, яна не прыўносіць анічога новага, папросту дублюе значэньні арыгінальнага слова. *Накірунак* — гэта такі лексычны мяшанец: некалькі словаў — *кірунак, накіраваньне, напрамак*, расійскае *направление* — скрыжаваліся й спарадзілі новае слова. Людзі, якія добра ведаюць, адчуваюць беларускую мову, формы *накірунак*, як правіла, не ўжываюць. Гавораць: *кірунак* або *напрамак*.

Слова *напрамак* зьявілася ў нас на пачатку мінулага стагодзьдзя — хутчэй за ўсё, гэта беларускае асваеньне ўкраінскае формы *на́прямок*. *Напрамак* — асабліва на самым пачатку яго быцьця ў нашай мове — крытыкавалі. Напрыклад, Янка Станкевіч у 1919 годзе, маючы на ўвазе якраз-такі *напрамак*, пісаў у газэце “Беларусь”: *“Ёсь у нашай літаратуры некаторые словы, пазычаные ў чужынцаў, з каторымі нашы літаратары ніяк разстацца ня могуць”*. З словам *напрамак* носьбіты беларускае мовы так і не рассталіся: амаль за стагодзьдзе жыцьця ў мове гэты назоўнік прыжыўся.

І раз я ўзяўся пералічаць тут сынонімы *кірунку*, нашыя рэсурсы для называньня лініі руху, шляху разьвіцьця нечага, то яшчэ прыпомню адно ўласнабеларускае слоўца, якое пакуль што ў запасе. Маю на ўвазе назоўнік *прасьці́нак*. Гэта ня штучнае

слова, не лябараторная прыдумка. *Прасьцінак* — з таго шэрагу аднакаранёвых словаў, што й *просты, праставаць, прастаць, наўпрост, напрасткі, напрасьцяк*... На пачатку 1950-ых у Нью-Ёрку праходзілі "зборкі пазнаньня беларускае мовы". Удзельнікі тых зборак, паклікаючыся на ўжываньне слова *прасьцінак* на Барысаўшчыне й Лепельшчыне, раілі пашыраць яго ў літаратурнай мове. Але трэба прызнаць, што дасюль мала хто ўжываў у літаратурнай мове гэтае арыгінальнае слова.

Застаецца зрабіць маленькае падагульненьне. Гаворым па-беларуску: *кірунак* або *напрамак*. Ведаем, што сярод лексычных рэзэрваў мовы ёсьць слова *прасьцінак*.

## Кропка і пункт

Слухаючы й чытаючы, раз-пораз трапляеш у мове на *гандлёвыя* ***кропкі***, ***кропкі*** *агнявыя* й *чыгуначныя,* ***кропкі*** *апоры* ці *адліку.* Такое пераноснае ўжываньне ***кропкі*** ў беларускай мове нетрадыцыйнае, наўрад ці апраўданае.

Што такое ***кропка***? Найперш гэта нейкі знак, сьлядок, нешта маленькае, ледзьве прыкметнае: скажам, ***кропка*** *ад цьвічка ў сьценцы* або ***кропкі*** *самалётаў высока ў небе.* Звычайная таксама ***кропка*** і як знак, што аддзяляе сказы на пісьме, і як графічны значок, напрыклад, на мапах, у матэматычным і нотным запісах. А вось *гандлёвая* ***кропка*** — вынік непатрэбнага калькаваньня.

Шмат хто думае: раз па-расійску, называючы месца, аб'ект, гавораць ***точка***, дык па-беларуску будзе ***кропка***. Ня будзе — у гэтым выпадку нам служыць слова лацінскага паходжаньня ***пункт***: *гандлёвы* ***пункт****, агнявы* ***пункт****, найвышэйшы* ***пункт***. ***Пункт*** заўсёды ўжываем па-беларуску ў матэматычным, фізычным значэньнях, а таксама пры называньні мяжы нечага: ***пункт*** *апоры,* ***пункт*** *разрыву,* ***пункт*** *кіпеньня, мёртвы* ***пункт****.*

***Кропка*** й ***пункт*** суіснуюць у нашай мове, кожнае слова на сваім месцы. Пры канцы яшчэ раз папрактыкуем выбар ***кропкі*** й ***пункту***: *на белым фоне відаць чырвоная* ***кропка****, расстаўляем* ***кропкі*** *ў тэксьце, ставім* ***кропкі*** *над "і", ствараем новыя гандлёвыя* ***пункты****, выбіраем* ***пункт*** *апоры й* ***пункт*** *адліку, дасягаем найвышэйшага* ***пункту*** *краіны, зрушваем сытуацыю зь мёртвага* ***пункту****, перамагаем па ўсіх* ***пунктах****.*

## Кружэлка

*Пласьцінка*, *плы́та* з *плыткаю* ці *кружэлка* —якому слову аддаць перавагу, называючы дыск з аўдыязапісам? Ці ўсе пералічаныя словы дарэчы ў нашай мове?

Найперш — пра *пласьцінку*. Зь некалькімі значэньнямі гэтае арыгінальнае расійскае ўтварэньне ад слова *пласт* пачало замацоўвацца ў беларускай мове ў 1930-я. Мала хто падазрае сёньня, што ў першай траціне мінулага стагодзьдзя беларускія слоўнікі не фіксавалі ані *пласьціны*, ані *пласьцінкі*. Ня маючы, аднак, прыкмет пазычаньня, *пласьцінка* лёгка прыжылася ў літаратурнай мове савецкай пары.

Паралельна ў несавецкай моўнай практыцы зьявілася ў значэньні грамафоннага дыска *кружэлка*. Узялі яе з слоўніка Івана Насовіча — там гэта проста найменьне круглявага прадмета — і надалі новае значэньне. Выйшаў уласнабеларускі назоў прайгравальнага дыска.

Часткова зь няведаньня пра *кружэлку*, а часткова праз моўную непераборлівасьць і сымпатыю да польскіх словаў у беларускую мову 1980 — 90-х занесьлі былі *плы́ту* з *плыткаю*. На беларускае вуха *плы́та* асацыюецца хутчэй з *плытом* плысьці. Польскія *płyta*, *płytka* — ня што іншае, як нашыя *пліта* й *плітка*. У ранейшых беларускіх тэкстах знаходзім, дарэчы, і асвоеную польскую *плытку* ў значэньні *кружэлкі* — мюнхэнскі тыднёвік “Бацькаўшчына” ня раз пісаў пра “грамафонныя *плiткі* зь беларускімі песьнямі”. Нашыя сёньняшнія выданьні так — прынамсі пакуль — ня пішуць.

Вось жа, калі адсеяць непажаданыя польскія формы, застаюцца нам два сынонімы — шмат для каго ўсё яшчэ новая *кружэлка* й традыцыйная *пласьцінка*. Усё часьцей мы выбіраем сёньня *кружэлку* — выбіраем сваё слова.

## Крыць, адкрыць, закрыць, накрыць…

Адзін з нашых слухачоў папрасіў пракамэнтаваць ужываньне трох беларускіх словаў: ***адкрыць***, ***закрыць*** і ***накрыць***. Слухача цікавіла, ці не падмяняем мы названымі дзеясловамі якіх іншых беларускіх словаў?

У нашай мове ёсьць цэлы шэраг вытворных ад агульнаславянскага паходжаньнем дзеяслова ***крыць***: апроч згаданых, маем, скажам, такія рэгулярна ўжываныя словы, як ***выкрыць***, ***пакрыць***, ***перакрыць, раскрыць*** і ***скрыць***. ***Выкрываем***, напрыклад, *змову*, ***пакрываем*** *дом дахоўкаю*, ***перакрываем*** *ваду*, ***раскрываем*** *душу*, ***скрываем*** *таямніцу*. Выкарыстоўваючы ў сваёй мове вытворныя ад дзеяслова ***крыць***, не забываймася й на іх сынонімы: *туман* ***накрывае***, або — яшчэ — ***ахінае, атуляе, ахутвае*** *зямлю*; *злодзея* ***накрылі***, або ***злавілі***, ***засьпелі*** *на месцы злачынства — на гарачым учынку.*

А зараз — да значэньняў дзеясловаў ***адкрыць*** і ***закрыць*** — разьбярэм колькі выпадкаў, калі нам патрэбныя акурат гэтыя словы. Апавядаючы пра тое, што знойдзена ў выніку пошукаў або пра тое, што стала вядомым, хоць доўга ўтойвалася, скарыстоўваем дзеяслоў ***адкрыць***: ***адкрыць*** *радовішча,* ***адкрыць*** *Амэрыку,* ***адкрыць*** *таямніцу.* ***Адкрываем*** і ***закрываем*** таксама *сход*, *паседжаньне* — абвяшчаем пра яго пачатак ці канец. У гэтым выпадку дарэчы й словы ***пачаць***, ***распачаць*** і ***скончыць***, ***закончыць***: *зьезд*, такім чынам, можам ня толькі ***адкрыць***, але й ***распачаць***.

Калі размова ідзе пра арганізаваньне, стварэньне якой структуры або, наадварот, пра спыненьне яе

дзейнасьці, часьцей ужываюцца дзеясловы ***адкрыць*** і ***закрыць***: ***адкрыць*** *студыю,* ***закрыць*** *фабрыку.* Тут, праўда, магчымая й пара ***адчыніць*** — ***зачыніць***. Усё болей сёньня такога пераноснага ўжываньня: гавораць, што ***адчынілі*** *фірму* або *школу*, ***зачынілі*** *партыю* або *газэту.* Далёка не заўсёды абыходзімся ***адкрыцьцём*** — ***закрыцьцём*** і ***адчыненьнем*** — ***зачыненьнем***. *Кніжку, сшытак* можна ***разгарнуць*** і ***загарнуць***, *парасон* — таксама ***разгарнуць***, а пасьля ўжо ***згарнуць*** або ***скласьці***. Вочы можам ***заплюшчыць***, а затым ***расплюшчыць***. Твар стараемся ***затуліць*** ад ветру, але ***адтуляем*** яго на сонца.

Вось так зважаем на адценьні кожнага слова. Гаворым па-беларуску: ***адчыніць*** *фортку,* ***адкрыць*** *карысныя выкапні, школу* ***адкрыць*** або ***адчыніць,*** ***накрыць*** *хусткаю плечы,* ***распачаць*** *дыскусію,* ***закрыць*** *нараду, кніжку* ***разгарнуць,*** ***расплюшчыць*** *вочы.*

## Курыць і паліць

Як больш натуральна па-беларуску: цыгарэту, люльку *курыць* ці *паліць*? Відавочна, і ў народна-дыялектнай нашай мове, і ў літаратурнай у гэтым выпадку часьцейшае, звычнейшае даўняе, з інда-эўрапейскім коранем, слова *курыць*. *“Гаспадар, пад’еўшы, не сьпяшаючы,* ***закурыў люльку****, сказаў цану, катора панічу проці гарадзкіх паказалася зусім малой”*, — чытаем у абразку Каруся Каганца. *“Пакуль* ***курылі****, грэліся, жартавалі — буран заціх, спыніўся”*, — гэта ўжо сказ з успамінаў Уладзімера Дубоўкі.

Шматзначны дзеяслоў *паліць* у значэньні ‘курыць’ пачаў ужывацца ў беларускай мове на ўзор польскага *palić*. У сучасным маўленьні такое ўжываньне даволі частае, прычым сёй-той з карыстальнікаў мовы шчыра думае, што якраз так лепей па-беларуску. Вядома, так можна гаварыць па-беларуску, але няма ніякае патрэбы высьцерагацца традыцыйнага беларускага слова *курыць*: ***курыць*** *цыгарэту*, *цыгарку*, *люльку* ***курыць***. Той, хто *курыць*, — *курэц*. Сыноніма *курцу* ад дзеяслова *паліць* у агульнаўжывальнай мове няма, а гэта таксама сьведчаньне большай традыцыйнасьці ўжываньня ў разгляданым значэньні слова *курыць*. Ад *курца* ёсьць і прыметнік *курэцкі*. *“Кончыў дзед сваё сьнеданьне*, — чытаем у Коласа, — *і дастаў* ***курэцкія*** *прылады — па ядзе добра й закурыць”*.

І пры канцы яшчэ жменя сынонімаў. Пра чалавека, які *курыць*, можам часам сказаць эмацыйна, з ацэнкаю — цыгарэты і *смаляць*, і *смокчуць*, імі *дымяць*, люльку *пацягваюць*, *смокчуць*, *папыхваюць* ёю.

## Лодка і човен

У нашай мове ёсьць назоўнікі *лодка* й *човен*. Часам паўстае пытаньне: ці выпадае кожную *лодку* называць *чоўнам*?

Доўгія вякі ў жывой беларускай мове *човен* абазначаў *лодку*, высечаную з аднаго дрэва — дуба, ліпы або, скажам, ясеня. У мінулым стагодзьдзі традыцыйныя *чаўны-аднадрэўкі* амаль выйшлі з ужытку. Слова *човен*, асабліва ў мове мастацкай літаратуры, усё часьцей ужывалася для называньня ўсякае *лодкі*, незалежна ад яе формы й прызначэньня. Акадэмічныя слоўнікі такое ўжываньне ўзялі пад увагу, фіксуючы, што *човен* — ня толькі ‘лёгкая лодка з аднаго дрэва’, але й ‘лодка наагул’.

Сёньня ў беларускім маўленьні й тэкстах можна заўважыць *маторныя, спартовыя, гоначныя, ратавальныя*, нават *падводныя чаўны*. “Мая свабода — *човен падводны* паміж Сцылаю ды Харыбдай”, — напісаў у вершы, прасьпяваным Касяй Камоцкаю, Міхал Анемпадыстаў. У цяперашняй беларускай мове маем, такім чынам, абсалютныя сынонімы — *лодку* й *човен.* А значыць, можам сказаць: *турыстычны човен*, *падводны човен*, як і *турыстычная лодка*, *падводная лодка*.

## Лю́дзкі й людзкі́

*Лю́дзкі* й *людзкі́* — два беларускія словы: аднолькава пішуцца, але па-рознаму вымаўляюцца й рознае азначаюць. Каб дзе не сказаць *лю́дзкі* замест *людзкі́* і наадварот, давайма сьцісла прыпомнім значэньні гэтых прыметнікаў.

Калі проста называем тое, што мае дачыненьне да людзей, уласьцівае людзём або ім належыць, ужываем слова з націскам на канцы — *людзкі́*: скажам, *людзкі́ род, людзко́е паселішча, людзка́я мова, людзка́я памяць, людзкі́ лёс, людзкі́я турботы.* Калі ж мы характарызуем некага або нешта, падкрэсьліваючы добрую якасьць — чалавечнасьць, прыстойнасьць, гуманнасьць, тады карыстаемся словам з націскам на пачатку — *лю́дзкі*. Напрыклад, *лю́дзкі чалавек, лю́дзкае стаўленьне*: прыметнік *лю́дзкі* тут роўны значэньнем словам *чалавечны, прыстойны*. А яшчэ *лю́дзкі* ўжываецца проста як сынонім да слова *добры*: *лю́дзкая рэч, лю́дзкая работа.*

Яшчэ раз паўторым, каб не засталося сумневаў: *людзкі́ розум, людзка́я прырода, людзка́я памяць, людзкі́ абавязак* і *лю́дзкае абыходжаньне, лю́дзкія ўмовы, лю́дзкія суседзі, лю́дзкі гарнітур.*

## Масла, алей, аліва

Створаны ў 1990-ыя аднатомны “Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы” патлумачыў слова ***масла*** як *“харчовы тлушч, прыгатаваны з рэчываў жывёльнага, расліннага або мінеральнага паходжання”*. Хіба мае ***масла*** ў нашай літаратурнай мове такое шырокае значэньне? Слоўнік, відавочна, перабольшвае, і прычына такога перабольшваньня ў тым, што працытаваная дэфініцыя амаль даслоўна перанесеная з “Слоўніка расійскае мовы” (“Словарь русского языка”) Сяргея Ожагава.

Традыцыйна па-беларуску ***маслам*** называлі й называюць прадукт, тлушч, які гатуюць зьбіваньнем сьмятаны або вяршкоў. Называючы ***масла***, не прынята ў нас дадаваць, што яно *сьметанковае* — гэта само сабою зразумела. Прыметнікавае ўдакладненьне тут лішняе, яно — вынік калькаваньня.

На ўсякае тлушчавае рэчыва, якое мае расьліннае паходжаньне, выраблена з расьліннага насеньня, ёсьць у нас слова лацінскага паходжаньня ***алей***. *Алей* бывае *льняны*, *канапляны, сланечнікавы, макавы, гарчычны, какосавы* й г. д. На ***алеі*** расьціраюцца фарбы, таму гаворым, што *мастак піша* ***алеем****, працуе ў* ***алейным*** *жывапісе.*

Поруч з ***алеем*** маем яшчэ адзін лацінізм — слова ***аліва***. ***Аліва*** — гэта ня толькі субтрапічнае дрэва й плод такога дрэва, ня толькі аліўкавы алей. Назоўнік ***аліва*** ў беларускай мове ўжываўся й ужываецца таксама для называньня таго тлушчавага рэчыва, якое ідзе на тэхнічныя патрэбы. Можа быць, напрыклад, *машынная* ***аліва***. У Максіма Лужаніна чытаем: *“... машына тая адменна гула,*

*і пабразгвала, і нязвыкла пахла* ***аліваю****”*. ***Аліва*** — даўняе, традыцыйнае ў нашай мове слова. Па-беларуску перасьцерагаюць: *“Хлусьня, як* ***аліва****, — заўсёды выйдзе наверх”*.

Пры канцы папрактыкуем ужываньне трох словаў: *масла, алей, аліва. Масла* можам намазаць на батон, робячы сабе, да прыкладу, бутэрброд, на *алеі* смажым, *алеем* запраўляем салату, *аліваю* змазваем дэталі, *аліву* можам заліць у машыну.

## Мела быць, мае быць…

Сёньня — крыху пра спалучэньні з асабовымі формамі дзеясловаў ***мець*** і ***мецца***. Нагодаю вярнуцца да гэтай тэмы — нядаўні званок слухача:

*“Хацелася б запытацца, ці не зьяўляецца калькаваным і наколькі прыдатны для беларускай мовы такі сказ: “Сёньня мае быць 10 градусаў”. Ці ня калька гэта, напрыклад, з ангельскага* ***have to be*** *або нямецкага* ***haben****? Ці добры выраз* ***мае быць*** *для беларускай мовы? Ці нельга сказаць прасьцей? Дзякуй”.*

Вядома, можна сказаць прасьцей, але ці тое самае скажам прасьцей? Калі гаворым, што *будзе* 10 градусаў, у гэтых 10 градусах, як правіла, не сумняемся. Калі ж *мае быць* 10 градусаў, то ці яшчэ будзе? Тут *мае быць* — значыць, прадбачыцца, прагназуецца. *Мае* тут зусім ня лішняе слова — яно нясе значэньне імавернасьці, магчымасьці. *Мае быць* — ня калька: проста ў ангельскай і нямецкай, напрыклад, мовах аналягічныя сродкі выказваньня.

Спалучэньні з асабовымі формамі дзеясловаў *мець* і *мецца* — вельмі даўнія ў нашай мове. З “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы” я выпісаў фразу *“маетъ быти каранъ”* — яна датаваная 1388 годам. *Маетъ быти* — значыць, павінен, тут ужо значэньне абавязковасьці. У сучаснай і дыялектнай, і літаратурнай мове канструкцыі з формамі дзеясловаў *мець* і *мецца* — рэгулярная зьява. *“**Мела быць** больш выканаўцаў, ды не даехалі”*, — чытаем у беластоцкай “Ніве”. *“Гэта быў толькі ўступ да вялікага шчасьця, што мела прыйсьці...”* — тут сказ зь літаратуры, з прозы Янкі Брыля.

Такім парадкам, выражаючы нешта чаканае, тое, што прадбачым, або проста нешта задуманае, імавернае, варта ўжываць спалучэньні з асабовымі формамі дзеясловаў ***мець*** і ***мецца***: ***маю*** *хутка вярнуцца*, ***мелася*** *даўно пазваніць*, ***меў*** *зрабіць, але не зрабіў,* ***мелі*** *сустрэцца, але разьмінуліся*.

## Гулец, нападнік, кутні ўдар

“Як быць з каляфутбольнай тэрміналёгіяй? — пытаецца ў лісьце на адрас “Жывой мовы” адзін з нашых слухачоў і працягвае: Ці варта ўжываць пабеларуску словы *ігрок*, *нападаючы*, словазлучэньне *вуглавы ўдар*?”

Пра іграка і тое, дзе гэтая лексэма нам дарэчы, гаворка ідзе ў нататцы “Гуляць, гульня, гулец”.

У цяперашнім літаратурным маўленьні, калі маюць на ўвазе суперніцтва, канкурэнцыю, ужываюць, як правіла, дзеяслоў *гуляць* (а не *іграць* (*граць*)): *гуляць у карты*, *гуляць у хованкі*, *гуляць у футбол*. Чалавек, які *гуляе*, — вядома ж, *гулец*. *Ігрок* у гэтым значэньні не патрэбны. Словамі *ігрок*, *ігрэч*, *ігрэц* у народнай беларускай мове называлі й называюць музыку. Гавораць: *і жнец, і шавец, і на дудзе ігрэц*. То ж запомнім: на дудзе — *ігрок*, *ігрэц*, а ў гульні — *гулец*.

Называньне гульца нападу *нападаючым* — ня што іншае, як вынік калькаваньня расійскага слова на **-ющ-** (*нападающий*). У функцыі назоўніка нам варта выкарыстоўваць уласна назоўнік, а ня форму дзеяслоўнай будовы. У маўленчай практыцы апошніх дзесяцігодзьдзяў памалу замацоўваецца слова *нап**а**днік*. *Нападнік*, дарэчы, ня толькі той, хто гуляе ў нападзе. Гэтым беларускім словам можам называць і кожнага, хто ўчыняе напад. Скажам, на месцы злачынства затрыманы не *нападаўшы*, як калькуюць нашыя газэты, а *нападнік* або — яшчэ — *нападальнік* ці *нападач*.

Нарэшце, пра *вуглавы ўдар*. Месца, зь якога наносіцца гэты ўдар, знаходзіцца ў межах поля, у куце поля. Адсюль і цалкам заканамерны вары-

янт *кутні ўдар*: з кута поля футбаліст падае *кутні ўдар.* Дарэчы, выдадзены ў сярэдзіне 1990-х слоўнік спартовых тэрмінаў аўтарства Зьмітра Паўлаўца і Ўладзімера Старчанкі расійскае *угловой удар* перадае беларускім *кутні ўдар.*

## Нацыянальны фонд, агульнацыянальны (усебеларускі) форум, айчынная гаспадарка

У савецкую пару ўсё агульнабеларускае прызвычаіліся ў нас называць ***рэспубліканскім***. Паказвалі тым самым, што яно — дачыннае толькі да адной з ***рэспублік*** СССР, не ўсесаюзнае. Няма й ня будзе таго Саюзу, застаецца, аднак, інэрцыя называньня: да сёньня чуем пра ***рэспубліканскія*** *фонды*, *форумы* ці *страйкі*. Ня маем пры такім ужываньні на думцы ні ***рэспублікі*** як формы дзяржаўнага кіраваньня, ні ***рэспубліканцаў*** як прыхільнікаў ***рэспублікі*** — проста гаворым пра тое, што створана, дзее або адбываецца ў межах краіны, дзяржавы.

Патрэбныя тут іншыя словы. Раз дзейнасьць *фонду* ахоплівае ўсю Беларусь — значыць, ён ***усебеларускі*** або ***нацыянальны***, калі *форум* агульны для нацыі, зьбірае пасланцоў з усяе краіны, ён ***агульнанацыянальны***. Таксама й пра *страйк*: як далучаюцца да яго скрозь у краіне, ён — ***усебеларускі, агульнанацыянальны*** або проста ***агульны***. У сваю чаргу, скажам, *прадукцыя*, створаная ў Беларусі, — ***айчынная***. Прыметнік ***рэспубліканскі*** дарэчы, калі характарызуем форму кіраваньня: напрыклад, ***рэспубліканскі*** *лад* або ***рэспубліканскі*** *ўрад.*

Нам варта паказваць у сваёй мове, што Беларусь — самастойная краіна, дзяржава. Зробім гэта, кажучы: ***нацыянальны*** *ліцэй,* ***агульнанацыянальны*** *конкурс,* ***усебеларускі*** *страйк,* ***айчынная*** *гаспадарка.*

## Некалькі больш ці трохі / крыху больш?

Якое значэньне мае ў нашай мове слова *некалькі*? Натуральна, гэта звыклы лічэбнік: ***некалькі*** *чалавек*, ***некалькі*** *словаў* й г. д. Часам, аднак, ад карыстальнікаў літаратурнае мовы можна пачуць фразы, у якіх *некалькі* — не лічэбнік, але прыслоўе (да прыкладу: *ягоны тон быў* ***некалькі*** *стрыманы; гэта* ***некалькі*** *паўплывала на нас*). Як ставіцца да такога ўжываньня?

Падрыхтаваны ў 1990-ыя гг. аднатомны акадэмічны "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" поруч з натуральным для нас лічэбнікам *некалькі* санкцыянуе ўжо й прыслоўе *некалькі*, ілюструючы яго сказам: *Зрабіць* ***некалькі*** *больш*. Хіба ня штучна гэта гучыць па-беларуску? Названы слоўнік ідзе за калькаваным маўленьнем — надае нарматыўны статус ужываньню, жыўцом перанесенаму з расійскае моўнае практыкі.

Па-беларуску ў такім выпадку гавораць інача — выкарыстоўваюць традыцыйныя прыслоўі *трохі* або *крыху*: *зрабіць* ***трохі*** / ***крыху*** *больш*. Паказальна, дарэчы, што шматтомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (1977 — 1985), дзе таксама хапае выпадковае лексыкі, прыслоўя *некалькі* як факту літаратурнае мовы не падае: ёсьць там фіксацыя толькі неазначальна-колькаснага лічэбніка *некалькі*.

Маючы свае сродкі, ня варта, вядома ж, насьледаваць чужому — ня варта падмяняць прыслоўяў *трохі* й *крыху*. Скажам па-беларуску: *ягоны тон быў* ***трохі*** / ***крыху*** *стрыманы*, *гэта* ***трохі*** / ***крыху*** *паўплывала на нас*.

## Падобны ці такі?

Здараецца, што, гаворачы або пішучы па-беларуску, не на сваім месцы, няясна ўжываюць слова *падобны*. Як, да прыкладу, разумець такі сказ: *“На падобныя кнігі быў вялікі попыт”*? Што гэта за *падобныя кнігі*, да чаго яны *падобныя*?

Прыметнік *падобныя* зацямняе сэнс прыведзенага сказу: думка траціць адназначнасьць. Калі мы нічога не параўноўваем, а проста адзначаем прадметы або зьявы аднаго тыпу, дарэчы будзе займеньнік *такі*. Для яснасьці скажам: *“На такія кнігі быў вялікі попыт”*. Слова *падобны* патрэбнае пры параўнаньні, у тым разе, калі гаворым пра падабенства, напрыклад, нечага зь нечым. *“На кнігі, падобныя да названай, быў вялікі попыт”*, — тут ужо слова *падобны* выглядае цалкам натуральна, яно на месцы.

У слова *падобны* свае асноўныя функцыі ў мове, тое самае можам сказаць і пра займеньнік *такі*. Возьмем для ілюстрацыі два словазлучэньні: *падобныя памылкі* й *такія памылкі*. Хіба можна лічыць, што гэтыя словазлучэньні абсалютна аднолькавыя паводле значэньня? Вядома, няможна. *Падобныя памылкі* характарызуюцца падабенствам да нейкіх іншых памылак, але ж гэта ня тыя самыя памылкі. Па-беларуску можна сказаць: *такой самай памылкі мы ўжо не зрабілі, аднак падобныя памылкі, на жаль, у нас яшчэ здараліся*.

Вось жа, для адназначнасьці той ці іншай думкі ня варта ўжываць слова *падобны* замест *такі*. Гаворым: *ніколі не сустракаў **такіх** людзей, **такіх** прыкладаў назьбіраецца шмат, на **такія** кнігі вялікі попыт.*

## Пазбавіцца ці страціць?

Якое значэньне мае дзеяслоў *пазбавіцца*? Напомніць пра гэтае слова варта: той-сёй з нас лічыць беларускае *пазбавіцца* тоесным расійскаму *лишиться*. *“У маладыя гады ён пазбавіўся бацькоў”*, — на такі сказ я натыкнуўся ў мастацкім тэксьце. Як разумець гэта па-беларуску?

Дзеяслоў *пазбавіцца* ўводзіць у гэтым выпадку ў зман. Па-беларуску *пазбавіцца* значыць ‘вызваліцца ад некага або нечага, зрабіць так, каб непатрэбнае, непажаданае нас не абцяжвала’. Мы *пазбаўляемся* некага або нечага з уласнае ініцыятывы, волі, прыклаўшы свае сілы, намаганьні. *“Проста я **пазбавіўся** страху і адчуваю сябе вольным чалавекам”*, — гаворыць у інтэрвію колішні дэпутат, палітычны актывіст Валеры Шчукін. Мы самі пазбаўляем сябе — тым самым мы *пазбаўляемся*, калі ж нас пазбаўляюць — мы *страчваем*, *трацім* нешта або некага, бязь нечага ці некага *застаемся*. Чалавека пазбавілі волі — у выніку, кажучы па-беларуску, ён *страціў* волю, *застаўся* бяз волі. Калега-журналіст напісаў днямі пра былога кандыдата ў дэпутаты, які пасьля выбараў *страціў* сваю працу. Дзеяслоў *страціў* тут на месцы, бо кандыдат *застаўся* бяз працы не з уласнае волі.

Гаворым па-беларуску, што *пазбавіліся*, напрыклад, нейкага цяжару, гнятлівага страху; сілы ці бацькоў не пазбаўляемся — іх можам *страціць*.

## Пазоў ці іск?

У нашай літаратурнай мове за савецкім часам быў замацаваны юрыдычны тэрмін *іск*. Паходзіць ён, несумненна, ад вельмі даўняга дзеяслова *іскаць*, вядомага і ў старабеларускай мове, і ў народнай мове новага часу, але нехарактэрнага для сучаснай літаратурнай мовы. Таму й частае пытаньне: адкуль жа гэты *іск*, калі праўды ў судзе мы *шукаем*?

*Іск* як тэрмін пазычаны быў з расійскай юрыдычнай мовы ў 1920-я гг. Апошнім дваццацігодзьдзем на месцы юрыдычнага *іску* ў беларускіх тэкстах усё часьцей бачым заменьнікі — *зыск* і *пазоў*. Назоўнік *зыск* вядомы ў нашай мове з XV ст. Традыцыйна гэтае слова азначала ‘прыбытак’ або — у пераносным сэнсе — ‘выгаду, карысьць’. У значэньні *іску* — звароту ў суд з патрабаваньнем абараніць правы — *зыск* пачаў ужывацца зусім нядаўна. А вось *пазоў* на месцы *іску* — гістарычна апраўданы, натуральны: у старой нашай мове да адказнасьці *пазывалі*. Ад назоўніка *пазоў* ёсьць прыметнік *пазоўны*. Да XX ст. у жывой беларускай мове захавалася характэрнае для старога нашага справаводзтва словазлучэньне *пазоўны ліст* — адпаведнік цяперашняй *іскавай заявы*. Пра *пазоўны ліст к пану* пачуў ад сучасьнікаў-беларусаў Іван Насовіч і запісаў у сваім знакамітым слоўніку.

Таго, хто падае *пазоўны ліст*, варта, не парушаючы сыстэмы, назваць *пазоўнікам* або *пазоўніцаю*. Як вынік, маем цэлае гняздо словаў і маем пераемнасьць паміж старою нашаю мовай і новаю: *пазываць, пазоў, пазоўны ліст, пазоўнік* з *пазоўніцаю.*

## Палова і частка

Што такое *палова*, *палавіна*? Найперш, вядома, адна зь дзьвюх роўных частак нечага цэлага: *палова году*, *палавіна кнігі*. Часам, праўда, чуем і чытаем пра *большую* й *меншую палову* таго ці іншага. *Большая палова (палавіна)*, *меншая палова (палавіна)* — як да такіх спалучэньняў ставіцца, ужываць у літаратурнай мове ці высьцерагацца іх?

Вядома, у свабодным штодзённым маўленьні словы *палова* й *палавіна* раз-пораз здараюцца ў значэньні адной зь дзьвюх супастаўных, не абсалютна роўных, а толькі блізкіх паводле велічыні частак нечага. Кажучы, напрыклад, што аддалі нечаму *палову жыцьця*, як правіла, ня маем на думцы адной зь дзьвюх абсалютна роўных частак свайго жыцьця, а проста ладную яго частку — у адрозьненьне ад другой часткі, калі аддаваліся чаму іншаму. Такое прыблізнае размоўнае ўжываньне *паловы*, *палавіны* звычайна нас не бянтэжыць, а вось спалучэньні *большая палова* й *меншая палова* ўспрымаюцца неаднназначна. Частка носьбітаў мовы адчувае ў гэтым выпадку супярэчнасьць першаснаму сэнсу *паловы*: калі ўсё ж роўная частка цэлага, то якая ж яна *большая* ці *меншая*?

Зважаючы на гэта, у літаратурным маўленьні выбіраем больш карэктныя спалучэньні: маючы на ўвазе няроўныя часткі цэлага, трэба сказаць якраз-такі пра *часткі*, а не *паловы*: *большая* ***частка*** й *меншая* ***частка***.

## Пампаваць, выпампоўваць, перапампоўваць газ

Часта асьвятляная ў навінах газавая тэма прывяла да частага ўжываньня ў мове беларускіх мэдыяў слова *качаць* і вытворных ад яго дзеясловаў і назоўнікаў. *Качаць газ, падкачаць газу, перакачка газу* — ці прымальныя такія словазлучэньні ў літаратурным маўленьні? Відавочна, непрымальныя, бо супярэчаць нормам мовы.

Дзеяслоў *качаць* і ўтвораныя ад яго словы ўжытыя ў прыведзеных прыкладах ня ў тых значэньнях, якія замацаваліся ў нашай літаратурнай мове. *Качаць*, кажучы па-беларуску, можна штось круглае, што круціцца ў розных кірунках, скажам, абруч або яблык, *качаюць* таксама цеста, разьмякчаючы, надаючы яму круглявую форму, яшчэ *качаюць* качалкаю бялізну, *качаюць*, напрыклад, рыбу ў муцэ, а чалавека ў сьнезе. А вось газ ці ваду не *качаюць*.

Гаворачы пра падачу, транспартаваньне газу, трэба ўжываць словы, утвораныя ад даўняга пазычаньня — назоўніка францускага паходжаньня *помпа*. Газ *пампуюць*, *перапампоўваюць* па газаправодзе, могуць *напампаваць* у трубы або *выпампаваць*, *адпампаваць* з трубы. Ад усіх памянёных дзеясловаў маем назоўнікі на **-ньне**: *пампаваньне, напампоўваньне, перапампоўваньне* й г. д.

Як бачым, няма ніякай патрэбы дадаваць нашым словам значэньні з другой мовы — ёсьць у нас цэлае гняздо традыцыйных словаў, якімі тыя значэньні перадаюцца. Таму не парушайма нормаў літаратурнае мовы й памятайма: газ у нас не *качаюць* — яго *пампуюць*.

## Памятны дарунак — сувэнір

У паведамленьні Беларускага тэлеграфнага агенцтва прачытаў пра *памятныя сувэніры*. Словазлучэньне *памятныя сувэніры* — з таго самага раду, што й *біяграфія жыцьця*, *патрыёт радзімы* або, скажам, *сетка Інтэрнэт*. У гэтых выпадках перад намі таўталёгія — паўтор словаў з тым самым значэньнем. *Біяграфія* — гэта й ёсьць ‘апісаньне жыцьця’, *патрыёт* — ніхто іншы, як чалавек, адданы сваёй айчыне, а Інтэрнэт — ‘міжнародная кампутарная сетка’.

Францускае з паходжаньня слова *сувэнір* азначае падарунак на памяць, рэч, зьвязаную з успамінамі пра некага або пра нешта. Часам мы забываемся на дакладнае літаратурнае значэньне *сувэніра* й дапускаем яго ў сваім штодзённым маўленьні ў шырэйшым сэнсе — называем *сувэнірам* кожны дарунак, гасьцінец. Адсюль і тыя збыткоўныя, непажаданыя ў літаратурнай мове *памятныя сувэніры* або *сувэніры на памяць*.

Стараймася быць дакладнымі: *сувэнір* можам ацэньваць, напрыклад, як добры, прыгожы ці чаканы. Гаворым правільна: *падарунак на памяць*, *памятны дарунак* або — адным словам — *сувэнір*.

## Пан ці спадар?

Неяк, пазваніўшы па менскім тэлефоне “Свабоды”, адзін з нашых слухачоў прапанаваў шырэй выкарыстоўваць пры звароце да чалавека й называньні асобы словы *пан* і *пані*:

*“У мяне ёсьць прапанова наконт звароту* ***спадар****. У нашай мове* ***спадар, гаспадар*** *— гэта пераходныя словы ад* ***таварыша*** *да* ***пана****. Таму я прапаную выкарыстоўваць спрадвечныя словы* ***пан і пані****”.*

За словамі *пан* і *пані* (*паня*) — вельмі доўгая гісторыя ўжываньня ў нашай мове ў ролі ветлых зваротаў. Аднак на пачатку XX ст., у беларускіх варунках нацыянальнага й сацыяльнага змаганьня, гэтыя звароты ўспрымаліся як клясава афарбаваныя. Таму цяжка было разьлічваць на тое, што зварот стане ў беларускай маўленчай прасторы новага часу ўнівэрсальным. Адсюль і пошукі нечага іншага, прымальнага для ўсіх і пры гэтым адметна беларускага (чыніліся спробы ўнівэрсалізаваць, напрыклад, формы *гаспадар, грамадзянін, ягомасьць* (*ягамосьць*) — зь *яго міласьць*, *васпан* — ад *ваша міласьць, пан*). У частцы Беларусі шуканьне “свайго” звароту спынілася з замацаваньнем улады бальшавікоў: дэкляраваную роўнасьць абслугоўвала слова *таварыш* — слова, гістарычна прывязанае да поля блізкіх (асабістых) дачыненьняў. Традыцыйна *таварыш, таварышка* — гэта блізкія людзі. А тут кожнага трэ было прызнаць за *таварыша*…

У міжваенную пару беларускую форму ветлага звароту працягвалі шукаць у Заходняй Беларусі. Дасьледнік мовы старабеларускіх тэкстаў Янка Станкевіч рызыкнуў актуалізаваць засьведчаныя ў помніках формы *спадар*, *спадарыня* й *спадарс-*

*тва*. Архіўныя матэрыялы дазваляюць вызначыць час пісьмовага апрабаваньня слова *спадар* — такі зварот у прыватным ліставаньні Станкевіч практыкаваў як мінімум з 1925 году (напрыклад, *вельмі паважаны* ***Спада́ру*** *Вацлаве* — у лісьце В. Ластоўскаму ад 18.07.1925 г.). У 1930-ым на бачынах віленскага часопісу “Родная мова” Станкевіч матываваў свой выбар: *“...ясна, як мы вярнулі ўжываньне* ***гаспадар****... у значэньню ‘валадар’ і пад., так трэба вярнуць ужываньне* ***спадар, -ыня, -ычна, -ства****. Гэтага вымагае арыгінальнасьць і чысьціня беларускае мовы. Апрача таго, за ўжываньне* ***спадар*** *і ͡інш. яшчэ тое прамаўляе, што з гэтымі словамі не зьвязана жаднае клясавае значэньне, але адно пашана да людзёў, да каторых зварочуемся, і душэўная незалежнасьць іхняя”*.

У 1940-ыя гг. ветлыя звароты *спадар, спадарыня, спадарства* пачалі замацоўвацца ў несавецкай беларускай маўленчай і пісьмовай практыцы. У моўнай прасторы ў БССР тэндэнцыя на пашырэньне гэтых формаў назначылася пры канцы 1980-ых. У 1990-ыя *спадар* і *спадарыня* трапілі ў акадэмічныя слоўнікі беларускае мовы.

Што да словаў *пан* і *пані*, то ў іх сёньня мы, безумоўна, не адчуваем нейкага клясавага цяжару. Праблема, аднак, у тым, што *пан* і *пані* вельмі часта ўспрымаюцца проста як знакі іншага, перш за ўсё заходнеславянскага моўнага сьвету. А вось *спадар, спадарыня, спадарства* — гэта ўжо, калі так можна сказаць, “знакавыя” беларускія словы. Карацей кажучы, было вялікае жаданьне займець на ролю ветлага звароту нешта адмыслова беларускае, чаго ня маюць іншыя, і гэтае жаданьне спраўдзілася — у ХХ ст. беларусы прыйшлі да “сваіх” зваротаў.

## Пара дзён, гадоў, словаў

***Пара*** *вачэй*, ***пара*** *рукавіц*, ***пара*** *чаравікаў* — мы рэгулярна ўжываем слова *па́ра*, называючы аднародныя прадметы, якія складаюць адно цэлае. А вось ці прымальны назоўнік *па́ра*, калі гаворым проста пра якія-небудзь два прадметы, дзьве штукі нечага або пра невялікую колькасьць чаго-колечы? Пытаньне аб прымальнасьці слова *па́ра “ў спалучэньні з словамі, якія ня маюць “пары”*, задаў наш слухач Дзьмітры Вінчэўскі.

Вытокі назоўніка *пара* ў лацінскай форме *pār*, што значыць ‘роўны’. У беларускай мове слова *па́ра* ўжываецца сама мала з XVI ст. Сёньня гэта шматзначнае слова. Ведама ж, *параю* называем ня толькі два аднолькавыя прадметы, што складаюць нешта цэлае, ня толькі дваіх людзей, якія разам, або дзьвюх жывёлін, самца й саміцу. Слова *па́ра* без абмежаваньняў выкарыстоўваецца пры гаворцы пра два аднародныя прадметы, якія аднаго цэлага не складаюць. ***Пара*** *шчанюкоў*, ***пара*** *дамоў*, ***пара*** *дзён* або ***пара*** *гадоў* — у такіх спалучэньнях назоўнік *па́ра* традыцыйны: ніякіх сумневаў у правільнасьці ўжываньня тут не павінна быць.

Гавораць па-беларуску: *госьцю чарачку, а сабе парачку. Па́ра* ў дыялектнай мове — гэта таксама й дзьве вопраткі, дзьве адзежыны, якія наверсе. За стагодзьдзі быцьця ў мове ў слове *па́ра* разьвілося яшчэ й значэньне невялікае колькасьці нечага: гаворым, напрыклад, што сустрэліся з кімсь *на* ***пару*** *словаў* (пры гэтым двума словамі, як правіла, не абыходзімся).

## Перавышаць, перасягаць, пераважаць…

Частка з нас выкарыстоўвае, гаворачы па-беларуску, дзеяслоў *пераўзыходзіць*: кажуць, напрыклад, што некага *пераўзышлі* сілаю або *пераўзышлі* колькасьцю. Ці добра так гаварыць па-беларуску? Сумневы ў дарэчнасьці ўжываньня ў нашай мове дзеясловаў *пераўзыходзіць* і *пераўзысьці* нарастаюць пасьля прагляду слоўнікаў. Аказваецца, усе даведнікі зь лексыкі беларускай літаратурнай мовы абыходзяць названыя дзеясловы ўвагаю, фіксуючы пры гэтым у значэньні ‘пераўзыходзіць’ іншыя беларускія словы.

Дзеяслоў *пераўзыходзіць* — прадукт беларускай кніжнай мовы XX ст., вынік асваеньня, падпраўленьня расійскага слова *превосходить*. Хоць гэтая “падпраўка” здараецца ў сучасным маўленьні, бальшыня лінгвістаў усё ж ня схільная ўводзіць яе ў слоўнік літаратурнай мовы. Думаю, гэта слушны падыход — з функцыямі дзеяслова *пераўзыходзіць* добра спраўляюцца беларускія словы ***перавышаць***, ***перасягаць***, яшчэ — ***пераважаць***. Дзеясловы *перавышаць* і *перавысіць* зусім дарэчы пры колькаснай характарыстыцы нечага (напр., *сёлетнія вынікі* ***перавысілі*** *леташнія*). ***Перасягаць*** нешта або некага можна і колькасьцю, і якасьцю (можам сказаць, што ***перасягнулі*** *некага сілаю й спрытам* або што ***перасягнулі*** *ў нечым саміх сябе*). ***Перасягаць*** — слова, пакуль што крыху абдзеленае нашай увагаю, але памятайма: яно добра паслужыць, калі трэба сказаць, што нешта большае за што-небудзь. *Дапытлівасьцю* ***пераважылі*** *нясьмеласьць* — тут у значэньні ‘перасягнулі’ рэгулярны ў нашай мове дзеяслоў ***пераважыць***.

Як бачым, на месцы калькі *пераўзысьці* хапае нам традыцыйных беларускіх словаў: ***перавысіць***, ***перасягнуць*** і ***пераважыць***. Пры канцы яшчэ раз праілюструю іх ужываньне: *нашыя даходы* ***перавысілі*** *выдаткі, супернікі* ***пераважалі*** *над намі колькасьцю, але мы* ***перасягнулі*** *іх у майстэрстве.*

## Піар (піяр), піа(я)раўскі, піа(я)рыць, піа(я)рнік

За апошнія гады фактам беларускае мовы стала ангельскае з паходжаньня слова *піар (піяр)*. Ангельская абрэвіятура *PR* — ад словазлучэньня *public relations*, што трэба разумець як дзейнасьць для падтрыманьня іміджу, для заахвочваньня грамадзкай цікавасьці да чалавека, ідэі, праекту, прадукту або інстытуцыі. Гэтая дзейнасьць можа быць розная — як пазытыўная, так і адмоўная, але сам па сабе ангельскамоўны *PR* дзейнасьці з добрага ці кепскага боку не характарызуе, проста называе яе.

У нашую мову *PR* прыйшоў праз расійскае пасярэдніцтва, цягнучы за сабою цэлае гняздо вытворных словаў і спэцыфіку расійскага ўжываньня. Як вынік, гаворачы па-беларуску, пра *піар* (*піяр*) сёньня часьцей успамінаюць у нэгатыўным кантэксьце. Грубы, брутальны *піар (піяр)* называюць яшчэ *чорным* або нават *крывавым*. Той, хто займаецца *піарам (піярам)*, праводзіць *піа(я)раўскія акцыі*, — *піа(я)ршчык* або — з заканамернай заменаю суфікса — *піа(я)рнік*. Функцыянуе й дзеяслоў *піа(я)рыць*.

У сёньняшняй моўнай практыцы пры беларускім асваеньні спалучэньне дзвюх ангельскіх літар **P** і **R** усё часьцей атрымлівае гукавую ўставку — ёт (**[j]**) — з мэтаю пазьбегчы нехарактэрнага для мовы зеўраньня галосных **іа**. У тым разе, калі згаданыя тут словы трывала ўвойдуць у беларускі лексыкон, перавагу, праўдападобна, аддадуць формам больш поўнага асваеньня, зь літараю **я** на пісьме: *піяр, дзейсны піяр, чорны піяр, піяраўская акцыя, піярыць, піярнік*.

## Платнік

Як лепей назваць па-беларуску чалавека, які праводзіць *выплату*, уносіць *плату*? Сучасныя акадэмічныя слоўнікі ніякага выбару нам не даюць — фіксуюць толькі пазычанага *плацельшчыка*.

У 1930 — 50-ыя гг. нашую мову папоўніла нямала расійскіх утварэньняў на *-льшчык*, і сярод іх гэты *плацельшчык*. Сёньня літаратурная мова пакрысе яго пазбаўляецца — месца *плацельшчыка* займае беларускі *платнік*. Назоўнік *платнік* — ад шматзначнага слова *плата*. Таго, хто выплачвае падаткі, называем *падаткаплатнікам* або *платнікам падаткаў*. Калі чалавек мае магчымасьць аплаціць рахункі, ён *платаздольны* або *здольны да платы*. Адзін зь відаў грашовага разьліку — *накладная плата*: у гэтым выпадку слова *плата* на месцы прыўнесенага ў XX ст. у беларускую мову назоўніка *плацеж*. Беларускі *плацеж* — фактычна крыху падкарэктаваны расійскамоўны *платёж*. Акуратныя ў мове людзі часта аддаюць перавагу беларускім сынонімам *плацяжу* — словам *плата* й *в**ы**плата*. Пры гэтым у рэзэрве мовы з значэньнямі працэсу, калі плацім грошы, а таксама сумы, якую павінны выплаціць, іначай кажучы, з значэньнямі *плацяжу*, застаюцца яшчэ дзьве беларускія формы мужчынскага роду — *плат* і *в**ы**плат.*

Скарыстоўваючы патэнцыял традыцыйных словаў, пісьмовае абавязаньне заплаціць грошы можам назваць *в**ы**платным дакумэнтам* або *дакумэнтам на плату (в**ы**плату).*

Выбіраем, такім чынам, заканамерныя беларускія словы й гаворым: *плата, выплата, платнік, падаткаплатнік* або *платнік падаткаў.*

## Помніць і памятаць, запа́мятаць і запамята́ць

Ці ёсьць якая розьніца ў ужываньні дзеясловаў *помніць* і *памятаць*, якое значэньне мае ў літаратурнай мове дзеяслоў *запа́мятаваць* — ‘запомніць’ ці ‘забыць’? Адказаць на гэтыя пытаньні папрасіў сталы слухач “Жывой мовы” Андрусь Жвір.

У нарматыўных даведніках словы *помніць* і *па́мятаць* (ці — з другім націскам — *памята́ць*) фіксуюцца як абсалютныя сынонімы — у слоўніках дасюль не абазначаны нюансы ўжываньня ў літаратурнай мове двух названых дзеясловаў. На пэўную сэнсавую й стылістычную розьніцу паміж *помніць* і *памятаць* пару дзесяцігодзьдзяў назад зьвярнуў увагу мовазнаўца Пётра Садоўскі. “***Помніць***, — пісаў Садоўскі, — *больш зьвязана з “духоўна-маральнай” памяцьцю...* ***Памятаць*** *— дзеяслоў больш “фізычнага” характару, больш празаічны”*. Па-беларуску скажуць: *век* ***помніць*** *буду*, ***помні*** *цану праўды*, ***помню****, як сьвята*, *каб цябе* ***помнілі*** *й паміналі*, *зрабіў ня* ***помнячы*** *сябе*. Для ілюстрацыі яшчэ радок з паэтычнае мовы. *“Сэрца* ***помніць*** *каханьне і попелам стаўшы з агню”*, — гэты сказ я выпісаў зь вершу Ўладзімера Караткевіча.

Цяпер — пра дзеяслоў *запа́мятаваць*. У прасторы народна-дыялектнай беларускай мовы гэтае слова вядомае ў процілеглых значэньнях: і як ‘забыць’, і як ‘запомніць’. Аднак жа для сучаснага літаратурнага маўленьня *запамятаваць* у сэнсе ‘запомніць’ малахарактэрнае, беларускія нарматыўныя слоўнікі фіксуюць гэты дзеяслоў толькі ў значэньні ‘забыць’ і характарызуюць яго як абласны. У літаратурным лексыконе поруч з агульнаўжывальным словам

*запомніць* ёсьць роўны яму значэньнем дзеяслоў *запамята́ць* — з націскам на канцавым складзе. Адрозьнівайма слова *запамята́ць* ад дзеяслова з націскам на другім складзе *запа́мятаць*, сынанімічнага дзеяслову *забыць*.

Пры канцы паўтараю, зыходзячы з слоўнікавых устанаўленьняў:

*запамята́ць* — значыць *запомніць*;

*запа́мятаць*, *запа́мятаваць* — гэта *забыць, забыцца*.

## Поўнач і апоўначы

*“На гадзіньніку мінае* ***апоўначы****”*, — я зачапіўся за гэты сказ, чытаючы прозу ў адным з нумароў “Маладосці”. Як гэта — *на гадзіньніку* ***апоўначы***? Аўтар апавяданьня зрабіў тут элемэнтарную памылку, паблытаўшы словы, а рэдактары гэтай звышкідкай памылкі не заўважылі. Каб жа гэта была разавая хіба канкрэтнага чалавека, я ня стаў бы на ёй затрымлівацца. Але, на жаль і на дзіва, два абсалютна самастойныя словы — назоўнік ***поўнач*** і прыслоўе ***апоўначы*** — мяшае ў сваёй мове далёка не адзін аўтар “Маладосці”.

Слова ***апоўначы*** ў нас любяць — і гэта добра. Трэба толькі ставіць яго на сваім месцы. ***Апоўначы*** — прыслоўе часу, адказвае на пытаньне *калі?*: *вярнуліся (калі?)* ***апоўначы***, *работу скончылі (калі?)* ***апоўначы***. Калі ж мы канстатуем час — сярэдзіну ночы, — заўсёды ўжываем назоўнік ***поўнач***: *на гадзіньніку была* ***поўнач****, калі пазванілі ў дзьверы; было за* ***поўнач****, калі скончылася гульня*. Форма роднага склону назоўніка ***поўнач*** — ***поўначы***.

Скажам: *працуем да* ***поўначы****, ня сьпім да* ***поўначы***. *Працуем да* ***поўначы*** — значыць, да канца сутак, да 12-ай гадзіны ночы.

## Прадаставіць ці даць, аддаць, падаць, саступіць, удзяліць, пакінуць, дазволіць?

Часам у размове й на пісьме не абыходзяцца бяз словаў *прадаставіць* і *прадастаўленьне* — пераносяць іх з расійскай моўнай практыкі. На месцы якіх традыцыйных сродкаў ужываюцца названыя русіцызмы?

Ёсьць цэлая група беларускіх адпаведнікаў расійскаму слову *предоставлять* — мы ўжываем іх у залежнасьці ад нюансаў значэньня. Маю на ўвазе найперш унівэрсальны дзеяслоў *даць* і вытворныя ад яго *аддаць*, *падаць* і *перадаць*. Ад усіх памянёных дзеясловаў ёсьць назоўнікі — *даваньне*, *аддаваньне*, *падача*, *перадаваньне* й некалькі іншых. Заўсёды, у кожным тэксьце названыя словы дарэчы — яны міжстылёвыя. І ўсе гэтыя словы дазваляюць нам абысьціся без пазычаньня. Гаворым па-беларуску, што *далі* некаму, напрыклад, прытулак, *аддалі*, *перадалі* ці *выдзелілі* кватэру, зьвесткі *падалі* або *перадалі*. Калі выказваем адценьне саступкі, нам падыходзяць дзеясловы *саступіць* або *пераступіць*: напрыклад, *саступіць некаму сваю маёмасьць*.

Да названых вышэй дадам яшчэ дзеяслоў *удзяліць*, які таксама можа быць прыдатны як беларускі адпаведнік расійскага *предоставить*. Мала таго, што гэтае слова зусім натуральнае ў нашай мове, яно яшчэ мае вялікі патэнцыял ужываньня. *Удзяліць* можам далёка ня толькі *час* ці *ўвагу*. Шырэйшае, першаснае значэньне слова *ўдзяліць* — ‘даць дзель, частку, долю ў нечым, нешта выдзеліць’. Можна, напрыклад, *удзяліць* некаму *зямлю, памяшканьне* або *грошы*. *“Ён нікому нічога не ўдзяліў”*, — гэты сказ я выпісаў з слоўніка Івана Насовіча.

*Нічога не ўдзяліў* — значыць, нічога ня даў. Вось жа, можам сказаць, што *далі некаму месца*, а можам, што некаму *ўдзялілі месца*.

Расійскі дзеяслоў *предоставить* мае яшчэ адно значэньне — ‘даць магчымасьць нешта зрабіць, нечым распарадзіцца’. У гэтым выпадку за беларускія адпаведнікі служаць словы *пакінуць* або *дазволіць*, ці спалучэньні словаў *даць магчымасьць*, або *права*, або *дазвол на нешта*. Напрыклад, *предоставить на чьё-либо усмотрение* — *пакінуць на нейчы суд, разгляд, вырашэньне* або *разьвязаньне*.

Карацей, няма ніякай патрэбы ісьці за расійскай кніжнасьцю ў беларускім маўленьні й пераносіць дзеяслоў *предоставлять*. Гаворым па-беларуску: *даць слова, даць* або *выдзеліць крэдыт, падаць* або *перадаць зьвесткі, аддаць* або *саступіць маёмасьць, даць права разьвязаць праблему, пакінуць на добрую волю*.

## Праць, праньнё / пра́ньне, пральня, пральная машына, пралка, прачка…

Як ужываем у літаратурнай мове дзеяслоў *праць*? Як спрагаецца гэтае слова? Наш слухач Дзьмітры Вінчэўскі папрасіў расказаць пра дзеяслоў *праць*, а таксама пра вытворную ад яго лексыку.

*Праць* — вельмі даўняе слова, выводзім яго з агульнаславянскай формы **pьrati*. Найстарэйшыя значэньні гэтага дзеяслова — ‘ціснуць’ і ‘біць’. Даўней бялізну *пралі* на рэчцы, б’ючы яе *пранікам* — драўляным бруском з ручкаю. У новы гістарычны час спосаб мыцьця бялізны зьмяніўся, але слова *праць* захавалася. Гаворым па-беларуску: *я пяру*, *ты пярэш*, *ён* ці *яна пярэ*, *мы пяром* ці *пярэм*, вы *пераце* або *перацё*, *яны пяруць*. Поруч з *праць* у народнай мове жывуць таксама формы *пе́рыць, пя́рыць* і *пяры́ць*.

У сёньняшнім літаратурным маўленьні паралельна з больш рэгулярным спалучэньнем *мыць бялізну* ўжываецца й спалучэньне *праць бялізну*. Прычым частка з нас гаворыць, што *пярэ бялізну* незалежна ад спосабу *мыцьця*. І гэта заканамерна, бо ёсьць у нас *пральня*, дзе зусім не драўляным пранікам *мыюць* бялізну. *Мыцьцё* бялізны можам назваць *праньнём* або *пра́ньнем*. *Мыючы* або *перучы* бялізну ці, іначай кажучы, хусьце, скарыстоўваем *пральны парашок*. Палягчаем сабе *мыцьцё* ці *праньнё* пры дапамозе *пральнай машыны*.

У сваім лісьце Дзьмітры Вінчэўскі задае таксама пытаньне, чаму пры спалучэньні *пральная машына* аднаслоўны вытворны сынонім мае форму *пралка*, а ня *пралька*? Увогуле, ці выпадае ўжываць гэты аднаслоўны сынонім?

Відавочна, аднаслоўная форма пры называньні *пральнай машыны* здараецца пакуль што ў беларускім літаратурным маўленьні эпізадычна. У цэлым мадэль на **-лка** пры называньні розных прыладаў працы для нашае мовы характэрная — качаюць бялізну *качалкаю*, капаюць *капалкаю*, мяшаюць — *мешалкай* або *мяшалкаю*, вось жа й прыладу *праць бялізну* можна ў прынцыпе назваць *пралкаю*. А вось *пралька* наўрад ці прымальная — у нас, здаецца, няма словаў на **-лька** (зь мяккім **[л']** у канцоўцы), якія абазначалі б якуюсь прыладу працы.

Магчымая, думаю, пры аднаслоўным называньні *пральнай машыны* й форма *прачка*. Традыцыйна *прачка* — работніца, што мые бялізну. Аднак жа ў наш час функцыі *прачкі* пераймае, як правіла, машына. То, можа, і рызыкнуць называць *пральную машыну* якраз-такі *прачкаю*. Дарэчы, такое падвойнае значэньне назоўнік *прачка* мае ў славацкай мове — *прачкаю* славакі называюць і жывую работніцу, і машыну-работніцу.

Пры ўсіх гэтых шуканьнях трэба разумець, што аднаслоўны сынонім да спалучэньня *пральная машына* — ніякая не самамэта. Нам добра служыць і памянёнае спалучэньне.

Пры канцы тэмы яшчэ раз напомню гняздо словаў, якія выйшлі з даўняга дзеяслова **pьrati*: *праць, праньнё / пра́ньне, пральны, пральня, пралка, прачка*...

## Прыгодны і прыдатны

Наш слухач Юрась у лісьце на адрас “Жывой мовы” просіць патлумачыць розьніцу ў ужываньні прыметнікаў *прыгодны* й *прыдатны*, калі маем на ўвазе прадукты й лекі. У сучаснай моўнай практыцы, называючы тэрмін, на працягу якога нейкі прадукт можа быць скарыстаны, ужываюць, як ведаем, абодва названыя словы — яны ў гэтым выпадку нясуць тое самае значэньне.

Пры гэтым частка карыстальнікаў літаратурнай мовы ставіцца да слова *прыгодны* зь недаверам. Можна прачытаць або пачуць меркаваньні, што гэта пазычаньне з расійскай мовы. Не выпадае падтрымаць тыя меркаваньні — прынамсі сам па сабе прыметнік *прыгодны* не пазычаны, хіба што характар яго ўжываньня ў сучаснай нашай мове аформіўся не без расійскага ўплыву — на ўзор таго, як функцыянуе ў расійскай літаратурнай мове слова *пригодный*. Беларускі прыметнік *прыгодны* — ад шматзначнага назоўніка *прыгода*. *Прыгодны* — той, які можа *быць* або *стаць у прыгодзе*, іначай кажучы, можа спатрэбіцца, быць карысным, здатным на нешта. Такое беларускае ўжываньне прыметніка *прыгодны* ілюструе часта цытаваны ў “Жывой мове” слоўнік Івана Насовіча: напрыклад, *прыгодны дзень к сяўбе* — значыць, добры, спрыяльны дзень для сяўбы; або — *прыгодныя каса, саха* — значыць, зручныя, добрыя для працы каса й саха.

Сынонім слова *прыгодны* — прыметнік *прыдатны* — паходзіць ад дзеяслова *прыдацца*. Усё, што можа *прыдацца*, быць патрэбным, падысьці, — *прыдатнае*: скажам, *прыдатная зямля, прыдатны тварог, прыдатнае слова*. Слова *прыдатны*

ўсё часьцейшае ў сучасным маўленьні: нярэдка носьбіты літаратурнай мовы сьвядома аддаюць яму перавагу перад прыметнікам *прыгодны* — выбіраюць слова, адметнае на фоне расійскае лексыкі. І ўсё ж, думаю, ні на адно з памянёных словаў ня варта забывацца. Маем у арсэнале мовы сынонімы — *прыдатны* й *прыгодны*.

## Прымач / прымальнік ці прыёмнік

Пачынаем раніцу. Уключаем *прымач*. Слухаем радыё. Слова *прымач* аджыло ў беларускай мове апошнімі 15 — 20 гадамі, пацясьніўшы традыцыйны ў пасьляваенную савецкую пару *прыёмнік*.

Сьцяпан Некрашэвіч і Мікола Байкоў фіксавалі ў найбольшым у 1920-ыя гг. беларускім слоўніку назоўнікі *прыймач* і *прыймальнік* — як адпаведнікі расійскай лексэме *приёмник*. Беларускі *пры(й)мач* аналягічны будоваю такім словам, як *рухач, капач, сякач* або, скажам, *цягач*. Аддзеяслоўныя назоўнікі на *-ач* называюць прадметы, прызначаныя выконваць дзеяньне: *сякач* — сячы, *цягач* — цягнуць, а *прымач* — прымаць радыёсыгналы. Слова *прымальнік* мае другі часты ў нашых словах суфікс — *-льнік*. Як *будзільнік* або *лічыльнік*. Калі *прымач* ужываецца пакуль у адным значэньні, то *прымальнік* — слова шматзначнае. *Прымальнік* — ня толькі апарат слухаць радыё, гэта яшчэ й прыстасаваньне нешта зьбіраць (напрыклад, *прымальнік для вады*), а таксама ўстанова, дзе людзей часова затрымліваюць (хто ня ведае пра менскі *прымальнік-разьмеркавальнік* на Акрэсьціна?).

Зрэшты, сёньня мы гаворым пра радыё. Пачынаем раніцу. З *прымача*, з *прымальніка*, як заўсёды, чуем знаёмыя галасы.

## Пыл і пал

Цэнтральная беларуская газэта раіць: *“Праяўляючы службовы пыл, не забывайцеся, калі ласка, на звычайныя радасці жыцця”*. Нейкі час назад на старонках той самай газэты я чытаў пра палюбоўнікаў *“у пыле кахання”*. Вядома, усе гэтыя вынаходкі — і *службовы пыл*, і *пыл каханьня* — чысты нонсэнс. Газэтныя аўтары раз-пораз лучаюць у пастку міжмоўнай аманіміі: ёсьць беларускі *пыл*, а ёсьць расійскі, але значэньнямі яны не супадаюць. Каб памянёныя сказы займелі сэнс, патрэбныя іншыя беларускія словы.

Нехта напоўніцу аддаецца рабоце, палае, гарыць жаданьнем зрабіць яе як найлепей — можам сказаць, што той чалавек працуе з *запалам*, *старанна*, *гарліва*, *заўзята*. Поруч з назоўнікам *запал* ёсьць і карацейшы *пал* — вытокі абодвух назоўнікаў у дзеяслове *палаць*. Як з *палам*, так і з *запалам*, *у запале* нешта некаму даводзім, нечага дабіваемся, нечым займаемся.

Вось жа, гаворым па-беларуску пра *службовы* ***запал***, пра ***запал***, або ***пал***, ці — яшчэ — ***жар** каханьня*.

## Работа й праца, рабіць і працаваць

*Работа* й *праца*, *рабіць* і *працаваць* — штодзённыя словы нашай мовы. Тым ня менш часам узьнікаюць пытаньні, зьвязаныя зь нюансамі іх ужываньня. Скажам, ці заўсёды на месцы слова *работа* можна скарыстаць сынонім *праца*? Ці выпадае ў літаратурным маўленьні ўжываць дзеяслоў *рабіць* у значэньні ‘працаваць’? Ліст з просьбаю разабраць значэньні памянёных словаў даслала нашая слухачка Натальля Пустаход-Завіла. *“Мая плешчаніцкая бабуля*, — піша Натальля, — *казала: “Трэ работу рабіць”; “Ён рабіў недзе тут у Плешчаніцах”; “Працавалі самі”*.

Пры называньні дзейнасьці, актыўнасьці чалавека слова *праца* ўжываецца ў літаратурнай мове часьцей, чым *работа*: гаворым, напрыклад, *разумовая* ***праца***, *фізычная* ***праца***, хоць можна сказаць і *разумовая* ***работа***, *фізычная* ***работа***. Па-беларуску — *узяцца за* ***работу*** й *узяцца за* ***працу*** — у гэтым выпадку назоўнікі на роўных правох. Ходзім на службу — *на* ***працу*** або *на* ***работу*** — і тут назоўнікі таксама раўнапраўныя.

Калі ж характарызуем функцыянаваньне органа ў арганізьме ці якой прылады, машыны, карыстаемся, як правіла, словам *работа*: ***работа*** *сэрца*, ***работа*** *рухавіка*. У значэньні канкрэтнага людзкога клопату, заданьня часьцей выкарыстоўваецца слова *работа* (напрыклад, *такой* ***работы*** *так проста ня зробіш*).

Называючы вытворчую чыннасьць або прымусовую актыўнасьць, слова *работа* рэгулярна ўжываюць у форме множнага ліку: *будаўнічыя* ***работы***, *сельскагаспадарчыя* ***работы***, *папраўчыя* ***работы***

й г.д. Выкарыстаньне ў такім значэньні множналікавай формы *працы* (*палявыя працы*) для нашай мовы малахарактэрнае: па-беларуску зазвычай скажуць або *гаспадарчая* ***праца***, або *гаспадарчыя* ***работы***.

У сваю чаргу форма *працы* дарэчы пры размове пра творы, якія сталі вынікам мысьленчай, разумовай актыўнасьці чалавека (скажам, да прыкладу, што ў сьвет выйшлі *навуковыя* ***працы***). Характарызуючы якасьць, а таксама спосаб выкананьня нечага, ужываем слова *работа*: *рэч выдатнай* ***работы***, *твор ручной* ***работы***, *замок кавальскай* ***работы*** й г. д.

У жывой народнай мове дзеяслоў *рабіць* традыцыйна выступае яшчэ і ў значэньні ‘працаваць’: *цэлы дзень* ***рабілі*** *на лузе*, *дачка* ***робіць*** *у школе;* ***рабі*** *пільна — і тут будзе Вільня*, ***рабі*** *да поту — зьясі ў ахвоту.* Вядома ж, такое словаўжываньне прымальнае й пры літаратурным мауленьні — у гутарковым стылі.

## Разгортка кнігі ці разварот

Павал зь Менску цікавіцца, ці натуральнае ў беларускай мове спалучэньне *разварот кнігі*.

Вядома, што кнігу або, скажам, сшытак мы *разгортваем*, а не *разварочваем*. Слова *разварот* у значэньні дзьвюх сумежных старонак бянтэжыць кожнага, хто аналізуе факты мовы. Чалавек спрабуе зразумець, пры чым жа тут *разварот*, калі мы нічога не *разварочваем*, іначай кажучы, нічога не развальваем, не раскідаем, не “замахваемся” на кніжку або часопіс. Усё часьцей замест хай сабе й фіксаванага слоўнікамі, але відавочна нелягічнага *развароту* ўжываюць у нас вытворны ад дзеяслова *разгортваць* назоўнік *разгортка*. Нарматыўныя слоўнікі *разгортку*, зрэшты, таксама фіксуюць, адно што ў іншым значэньні — як разгорнутую на плоскасьці паверхню геамэтрычнай фігуры і як рысунак нейкага прадмета. Маўленчая практыка на нашых вачох выносіць *разгортку* за рамкі вузкаспэцыяльнага ўжываньня, і гэтае сыстэмнае слова памалу падціскае ў мове той *разварот* у яго небеларускім значэньні.

Вось жа, заказваючы копію публікацыі, можам папрасіць скапіяваць нейкую колькасьць *разгортак* — скарыстаць назоўнік *разгортка* ў значэньні дзьвюх сумежных старонак.

## Разьдзяляльная здольнасьць / разьдзяленьне / разьдзяляльнасьць экрана

Гэтую тэму падказаў наш менскі слухач Алесь Яўдаха. Ён спытаўся, якім словам можна характарызаваць па-беларуску шчыльнасьць відарысу на экране кампутарнага манітора. Іначай кажучы, папрасіў падказаць беларускі адпаведнік такіх фізычных тэрмінаў, як, напрыклад, расійскае слова *разрешение* або ангельскае *resolution*.

Адказу на гэтае пытаньне не даюць агульнадаступныя акадэмічныя расійска-беларускія слоўнікі — іх укладальнікі па-ранейшаму выпускаюць з-пад увагі “фізычнае” значэньне расійскага *разрешения*. Гэтае значэньне даўно ўжо ня вузкаспэцыяльнае, аднак адпаведныя беларускія тэрміны пакуль што рэдка ўжываюцца па-за спэцыяльнай літаратураю.

Уласьцівая сыстэмам і прыладам здольнасьць адрозьніваць аб’екты або працэсы, блізкія ў прасторы, часе або паводле сваіх фізычных асаблівасьцяў, называецца ў сучаснай беларускай мове, як правіла, *разьдзяляльнай здольнасьцю* або проста *разьдзяленьнем*. Паводле “Беларускай энцыклапедыі”, *разьдзяляльная здольнасьць* аптычных сыстэм — гэта іх здольнасьць даваць разьдзельны відарыс двух блізкіх адзін ад аднаго пунктаў прадмета. Чым вышэйшую *разьдзяляльную здольнасьць* ці — інакш — вышэйшае *разьдзяленьне* мае экран манітора, тым больш якасны відарыс можа быць на ім выведзены.

Да названых вышэй, замацаваных у спэцыяльнай літаратуры тэрмінаў рызыкну дадаць яшчэ сынонім *разьдзяляльнасьць*. Гэтае слова, у адрозьненьне

ад шматзначнага назоўніка *разьдзяленьне*, больш дакладнае, структурна адпаведнае для характарыстыкі якасьці відарысу.

Вось жа, можам сказаць па-беларуску пра *разьдзяленьне*, ці *разьдзяляльнасьць*, або *разьдзяляльную здольнасьць* прылады, сыстэмы. Гаворым, напрыклад, што *разьдзяляльнасьць* экрана манітора — 800 на 600 пунктаў.

## Рызыкант, рызыканцтва

Сорак гадоў назад Ян Скрыган, пісьменьнік, чалавек, вельмі чуйны да беларускага слова, пісаў пра калечаньне мовы бяздумнымі перакладамі. Сярод іншага прыпамінаў, як у беларускіх абвестках інфармавалі пра фільм “Ліхія вадзіцелі”. Па-беларуску *ліхі* — гэта дрэнны, благі, нядобры, злы, той, які можа прынесьці ліха, зло: ***ліхая*** *вестка*, ***ліхі*** *час*, ***ліхі*** *сабака*, ***ліхія*** *людзі*. Кажуць у нас: *зь* ***ліхім*** *чалавекам і гадзіна векам*. Для аўтэнтычнай, традыцыйнай беларускай мовы прыметнік *ліхі* ў значэньні ‘сьмелы, удалы, зухаваты’ фактычна не характэрны. Калі памянёны Скрыганом назоў разумець сапраўды па-беларуску, выходзіць, што фільм той быў пра кепскіх шафёраў. Бяздумны пераклад прывёў у гэтым выпадку да зьмены сэнсу. Каб перадаць сэнс адэкватна, трэба напісаць, напрыклад, пра *шафёраў-****рызыкантаў***, *кіроўцаў-****зухаў***.

Маючы свае словы, наўрад ці варта было дапускаць у беларускія нарматыўныя слоўнікі перанесенага з расійскай моўнай практыкі *ліхача*. Як разумець таго *ліхача*, калі *ліхі* — гэта благі, нядобры? Па-беларуску гарачага, дзёрзкага чалавека, здатнага на сумнеўныя, небясьпечныя, часам нават шкодныя ўчынкі называюць ***рызыкантам***. Той, хто ня думае пра бясьпеку язды, — ***рызыкант*** на дарозе. Паводзіны, учынкі ***рызыканта*** на дарозе й ня толькі на ёй называем ***рызыканцтвам***.

## Самавіты гаспадар, самавітая гаспадарка, самавітае жыцьцё

Нашая слуцкая слухачка Вера Грынявецкая папрасіла патлумачыць сэнс пачутай у эфіры “Свабоды” фразы — *непрыгожая, але самавітая жанчына.* Які сэнс нясе ў гэтым выпадку прыметнік ***самавіты***?

Выглядае, што аўтар фразы хацеў падкрэсьліць паважнасьць жанчыны: непрыгожая, але салідная. Вось жа, у адным з сваіх значэньняў ***самавіты*** — гэта ‘салідны, паважны, прадстаўнічы’. *“Косьця ўдумлівы, не па гадах* ***самавіты****”*, — чытаем у прозе Міхася Зарэцкага. Тут ***самавіты*** — яшчэ й ‘самастойны’. ***Самавітым*** могуць назваць па-беларуску й чалавека мажнога, дужага: ***самавіты***, напрыклад, *асілак*. Таксама слова ***самавіты*** прыдатнае нам для характарыстыкі некага ці нечага заможнага, эканамічна моцнага: *гаспадар* ***самавіты****, і гаспадарка ягоная* ***самавітая***, *і жыцьцё ў гаспадара* ***самавітае****,* то бо поўнае дастатку, магчымасьцяў.

Ужываючы прыметнік ***самавіты*** з адмоўем ***не***, мы тым самым выказваем не найлепшую якасьць нечага: *дарога не* ***самавітая***, *лёс ня вельмі* ***самавіты***. Праілюструю такое ўжываньне яшчэ літаратурнай цытатаю — з Коласавага апавяданьня: *“Ахвотнікаў ісьці зь ім у заклад не было, а некаторыя проста раілі Антосю Дубку залажыць за губу рэч ня надта* ***самавітую****”*.

Як бачым, даволі магчымасьцяў, каб скарыстаць у мове прыметнік ***самавіты***: ***самавіты****, прадстаўнічы мужчына, невысокая, але* ***самавітая*** *жанчына,* ***самавітая*** *сядзіба,* ***самавітае*** *жыцьцё.*

## Саступіць, пераступіць, не папускацца

***Уступіць*** *месца*, ***уступіць*** *просьбам* або, скажам, *сіле* — ці прымальны ў названых спалучэньнях дзеяслоў *уступіць*?

Аўтары некаторых працаў з культуры беларускае мовы крытыкуюць такое ўжываньне, тым часам як нарматыўныя слоўнікі дапускаюць яго без усякіх абмежаваньняў. Фіксацыі ў розных даведніках — як дыялектнай, так і літаратурнай мовы (напр., у “Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча”, у “Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны” Івана Бялькевіча, у “Расійска-беларускім слоўніку” С. Некрашэвіча і М. Байкова) — здаецца, усё ж не дазваляюць адназначна заяўляць пра чужароднасьць слова *ўступіць* у разьбіраным значэньні. Пры гэтым можна дапусьціць, што аналізаванае тут ужываньне дзеяслова *ўступіць* у нашай мове мінулага стагодзьдзя было прынамсі ў нейкай ступені абумоўленае аналягічнымі паводле будовы словамі расійскай і польскай моваў (*уступить* і *ustąpić*). І так, арыентуючыся на факты суседніх моваў, у нас забываліся і, на жаль, да сёньня забываюцца на іншыя, адметна беларускія дзеясловы з значэньнем адмаўленьня ад нечага, згоды з чым-небудзь.

Найперш прыпомню тут дзеяслоў *саступіць* і вытворны ад яго назоўнік *саступка*. І *месца* можам ***саступіць***, і *сіле* ***саступіць***. У тым самым значэньні, што й слова *саступіць*, ужываецца ў беларускай мове яшчэ адзін дзеяслоў з гэтым коранем, але з прыстаўкаю *пера-* — *пераступіць*. Можна сказаць па-беларуску: *я* ***пераступіў*** *сябру свой білет* або ***пераступіў*** *старому чалавеку месца ў транспарце*.

Маем таксама ў арсэнале мовы дзеясловы *папусьціць*, *перапусьціць*, нарэшце, *папусьціцца*. Яны ўжываюцца ў значэньні ‘паддацца сіле, перастаць супраціўляцца’. Гавораць па-беларуску: *ён свайго не **папусьціць*** або *ён свайго не **перапусьціць***. А вось сказ, які я выпісаў з часта цытаванага ў “Жывой мове” слоўніка Івана Насовіча: *“Не **папускайся** яму: **папусьцісься**, блага будзе”*.

Як заўсёды, у нас ёсьць з чаго выбіраць — не адно слова *ўступіць* у нашай мове. Гаворым: *нам удалося не **саступіць** у гульні, мы **перуступілі** вучням лепшыя месцы, трэба не **папускацца** гвалту, трэба не **папускаць** свайго.*

## Авечка, трус, конь — свойскія жывёліны

Як па-беларуску называем гадаваных, прыручаных чалавекам жывых істот? Ці выпадае называць іх *хатнімі*, або *дамашнімі*, ці *дамовымі*?

Не выпадае. Такое называньне штучнае, калькаванае — ад няведаньня традыцыйных моўных сродкаў. У нашай мове ёсьць шматзначны прыметнік *свойскі* — якраз ён характарызуе кожную жывёліну, якая пры чалавеку. *Авечка*, *трус* ці *конь* — гэта, кажучы па-беларуску, *свойскія жывёліны*. *Качкі* або *козы* могуць быць *свойскія*, але бываюць і *дзікія*, не прыручаныя чалавекам. Дарэчы, *свойскімі* можам называць яшчэ й культурныя *расьліны*, якія чалавек вырошчвае, даглядае (*кветкі*, напрыклад, або *дрэвы* могуць быць *свойскія*).

Пры нагодзе гаворкі пра *свойскіх* і *дзікіх* жывых істот дадам колькі словаў пра выкарыстаньне ў літаратурным маўленьні двух назоўнікаў — *жывёла* й *жывёліна*. У дыялектнай беларускай мове слова *жывёла* абазначае, як правіла, не адну жывую істоту, а некалькі ці мноства такіх істот — ужываецца, знакам тым, як зборны назоўнік. “*Пайду пагляджу жывёлу*”, — скажа чалавек, маючы на ўвазе сваіх *жывёлін*. *Жывёліна* — гэта заўсёды адна асобіна. Думаю, варта ў літаратурнай мове ўлічваць гэтую аўтэнтычную розьніцу: выкарыстоўваць назоўнік *жывёла* ў зборным значэньні, а слова *жывёліна* — для называньня канкрэтнай жывой істоты.

Скажам па-беларуску: *на падворку поўна* ***свойскай жывёлы****: куры, гусі, козы, карова, конь; сабака —* ***свойская жывёліна****; качкі бываюць* ***свойскія*** *й* ***дзікія****; зубар —* ***дзікая жывёліна****.*

## Склеп і скляпеньне

Часам мяшаюцца ў сучасным літаратурным ужытку два аднакаранёвыя, але розныя значэньнем назоўнікі — *склеп* і *скляпеньне*. *“Першы паверх*, — піша аўтар гістарычнай манаграфіі, — *займалі збраёўня, сядлярня, жыльлё абслугі, кладоўка. Ніжэй былі скляпеньні”*. Аўтар, відавочна, меў на думцы падземныя памяшканьні, *скляпы*, але напісаў пра *скляпеньні*.

Крыніцы аўтэнтычнай беларускай мовы *скляпеньня* ў значэньні *склепу*, падзямельля, лёху не фіксуюць. Па-беларуску *скляпеньне* — гэта дугападобнае перакрыцьце, канструкцыя, якая злучае сьцены, апоры будовы. *Скляпеньні* бываюць драўляныя й цагляныя, каменныя, бэтонныя, жалезабэтонныя; высокія й нізкія; *скляпеньні* ў печы, *склепе*, бажніцы. *“Нізкае **скляпеньне** ў пограбе далі: згінацца трэба”*, — такую ілюстрацыю да назоўніка *скляпеньне* падае ў сваім слоўніку беларускай мовы Іван Насовіч. Ужываецца *скляпеньне* і ў пераносным сэнсе — як ‘небасхіл’. *“Люблю і я **скляпеньне** зор”*, — чытаем у паэзіі Алеся Гаруна. У дыялектнай мове *скляпеньне* вядомае таксама ў значэньні верхняй часткі ротавай поласьці — паднябеньня.

Варта заставацца пры традыцыйных значэньнях *скляпеньня*. Памятайма: крывалінейнае пакрыцьцё будовы называецца *скляпеньнем*, падземнае памяшканьне — *склепам*, *падвалам*, *сутарэньнем*, *лёхам (лёхаю)*. Гаворым па-беларуску, да прыкладу, пра *нізкае **скляпеньне** сутарэньня*, *падвалу*, пра *велічнае*, *узьнесенае ў неба **скляпеньне** храму.*

## Собіла зрабіць

Вучні-ліцэісты папыталіся пра незнаёмае слова ў мастацкім тэксьце — дзеяслоўную форму *собіла*. *“Ніхто яго не чакаў — і **собіла** ж яму прыйсьці”*, — што значыць *собіла*?

*Собіць* — прыйсьці ў галаву, схіліць да думкі зрабіць нешта, як правіла, непатрэбнае ці недарэчнае, нешта на шкоду сабе. Ня трэ было яму прыходзіць, а вось жа павяло туды, нешта падахвоціла прыйсьці. Інакш кажучы, *собіла* прыйсьці, а тады й ня рады быў, пашкадаваў. Па-расійску, напрыклад, скажуць *угораздило*, а па-беларуску — *собіла*. Залежнае слова пры безасабовай форме *собіла* ставіцца ў давальным склоне: *собіла яму*, *собіла табе*, *собіла нам*.

*“І дзіву чалавек даецца: што гэта **собіла** людзям у такім месцы царкву будаваць”*, — пісаў на пачатку мінулага стагодзьдзя ў віленскай “Нашай ніве” Карусь Каганец. У “Сівой легендзе” Ўладзімера Караткевіча чытаем: *“**Собіла** ж яму пярэваратнем стаць, людзей мучыць”*. З Брылёвых “Ніжніх Байдуноў” выпісаў: *“І **собіла** ж старому ледзь ня ў лоб напароцца прыцемкам на засаду”*.

Дзеяслоў *собіць* — неадымны факт сучаснае літаратурнае мовы. ***Собіла** нам зрабіць*, ***собіла** прыйсьці*, ***собіла** трапіць* — гаворым мы па-беларуску, ня радыя з таго, што зрабілі, прыйшлі або трапілі.

## Сталы чалавек, сталы твор, сталы камітэт

Нашая слухачка з Слуцку Вера Грынявецкая ў лісьце на адрас “Жывой мовы” папрасіла пракамэнтаваць ужываньне прыметніка ***сталы***. Спадарыня Грынявецкая цытуе дзьве фразы: *чалавек* ***сталага*** *веку* й ***сталы*** *жыхар Беларусі*, — і ўдакладняе, ці ў абодвух выпадках слова ***сталы*** на месцы.

Натуральна, усё на месцы. Прыметнік ***сталы*** — шматзначны. Слоўнікі нашай літаратурнай мовы фіксуюць пяць яго значэньняў. *Сталым* чалавек можа быць ня толькі сваімі гадамі. *Сталым* можна таксама назваць чалавека самастойнага, паважнага, дасьведчанага. *Сталае* яшчэ й тое, што для такога чалавека характэрнае, што пройдзе празь ягоныя рукі: напрыклад, ***сталыя*** ўчынкі або ***сталыя*** творы. Добра, грунтоўна прадуманыя *думку* ці *намер* таксама называем ***сталымі***.

Калі гаворым пра нешта нязьменнае, не часовае, разьлічанае на доўгі час, прыметнік ***сталы*** зноў нам прыдатны. Той, хто ўвесь час жыве ў Беларусі, — пэўне ж, ***сталы*** жыхар Беларусі; той, хто нязьменна працуе на тым самым месцы, мае ***сталую*** працу. Таксама й нейкія органы — камісію, скажам, ці раду, дзейнасьць якіх не перапыняецца, — можам называць ***сталымі***.

Пры канцы тэмы яшчэ раз ілюструю ўжываньне разабранага тут прыметніка. Гаворым пабеларуску: ***сталы*** *чалавек,* ***сталыя*** *гады,* ***сталы*** *паэт,* ***сталы*** *крок,* ***сталае*** *месца,* ***сталы*** *расклад,* ***сталы*** *камітэт.*

## Субяседнік і размоўца, суразмоўца / суразмоўнік

Хто такі *субяседнік* і хто *суразмоўца*? Дасюль у нашай мове здараецца недарэчнасьць: не на месцы, не ў беларускім значэньні ўжываюць раз-пораз слова *субяседнік*.

*Субяседнік* або проста *бяседнік* — гэта той, хто ўдзельнічае ў *бяседзе*. Беларуская *бяседа* не вычэрпваецца *гутаркаю*, *размоваю*, на беларускай *бяседзе* гуляюць, бавяцца, на яе зьбіраюць стол, там заўжды ядуць і, як правіла, выпіваюць. Кожная *бяседа* поўніцца *размоваю*, *гутаркаю*, тады як далёка ня кожная *размова*, *гутарка* перарастае ў *бяседу*. Вось таму й нельга называць *субяседнікам* таго, з кім толькі гутарым, гаворым, размаўляем. Патрэбнае тут іншае слова.

У сёньняшняй мове ўжываюцца вытворныя словы ад назоўніка *размова*: *размоўца*, *суразмоўца*, *суразмоўнік, суразмоўніца*. Мы гутарым, вядзем размову — значыць, мы *размоўцы* або — з падкрэсьленьнем сумеснасьці, узаемнасьці — *суразмоўцы*. Форма *суразмоўца* яўна цяпер пераважае, функцыянуе як назоўнік агульнага роду: ён — *суразмоўца* і яна — *суразмоўца*. Жаночая форма *суразмоўка* пакуль не прынялася: відаць, замінаюць асацыяцыі з малой *размоваю*.

Разам з *субяседнікам* на месцы *суразмоўцы* недарэчы выглядае ў мове яшчэ адно слова — перанесенае з расійскай *субяседаваньне*. Акадэмічныя слоўнікі цалкам апраўдана рэкамэндуюць у гэтым выпадку звычайную *гутарку*. Некаторыя карыстальнікі, праўда, імкнуцца знайсьці ці вынайсьці “вузейшы” за *гутарку* беларускі адпаведнік: сёньня

ў значэньні расійскага *собеседования* ўжываюцца, апрача *гутаркі*, яшчэ прынамсі два беларускія словы: *сумоўе* й *суразмова*.

Пра *субяседніка* з *суразмоўцам* добра, вычарпальна напісана ў кнізе Паўла Сьцяцка “Культура мовы”. Усім, хто хоча палепшыць сваю мову, я рэкамэндую гэты даведнік. Завяршаючы, паўторым сёньняшняе: *бяседнікі, субяседнікі гуляюць, ядуць, выпіваюць; размоўцы, суразмоўцы толькі размаўляюць, гутараць.*

## Вышукні́к, выведнік, сок, заку́тнік, шпег, шпік, дэтэктыў

*Сышчык* — ці беларускае гэта слова? Ці натуральнае яно ў беларускім маўленьні? Час-часам пытаньні пра месца *сышчыка* ў нашай мове паўтараюцца — паспрабуем расставіць тут акцэнты.

Няма сумневу, *сышчыка* не выпадае залічаць да традыцыйнае беларускае лексыкі. У народную мову слова *сышчык* прыходзіла разам з расійскімі парадкамі й тайнымі агентамі. Агентаў звалі *сышчыкамі*. У сучаснай літаратурнай мове дзеяслоў *сыскаць*, які мог бы падтрымліваць пазыцыі слова *сышчык*, амаль не ўжываецца ў значэньні ‘знайсьці, адшукаць’. Няма ў нас і *сыску* ў сэнсе вышуку злачынцаў. *Сышчык* апынаецца ў мове адзінцом, і адсюль у прынцыпе зразумелая, прадказальная рэакцыя на яго як на чужое, небеларускае слова. Наўрад ці знойдзем шмат тых, каму слова *сышчык* дарагое ў беларускай мове. У літаратурным ужытку гэты назоўнік трымае нашая інэртнасьць, боязь зрабіць крок ад дазволенага агульнадаступным слоўнікам.

Тым часам прыдатныя беларускія словы ляжаць проста пад рукою. Найперш маю на ўвазе форму *вышукні́к*. *Вышукнік* — той, хто займаецца *вышукам*. Называючы чалавека *вышукнікам*, мы не даем яму ніякіх ацэнак, проста канстатуем, што ягоная праца — *вышук*. *Вышукніка* можам таксама назваць *вывéднікам*. *Выведнік* — той, хто стараецца, цікуючы, высочваючы, нешта выведаць. Разам з *вышукнікам* і *выведнікам* маем яшчэ прынамсі два свае — ні ў кога не пазычаныя — словы, якія, праўда, пакуль у рэзэрвах мовы — *сок* і *заку́тнік*. *Сок* — ад

дзеяслова *сачыць*. У старабеларускую пару *сок* у значэньні *выведніка* рэгулярна ўжываўся — знойдзем гэтае слова, напрыклад, у Статуце Вялікага Княства Літоўскага. *Заку́тнік* — як правіла, яўны *вышукнік*, той, якога пасылалі абшукаць, зрабіцьператрус, “за кут паглядзець”.

Сынанімічны рад будзе няпоўны, як ня ўспомнім некалькіх часта ўжываных пазычаньняў. Два даволі даўнія й добра вядомыя ў нас імёны тайнага агента — *шпег* і *шпік* (абодва вядуць свой род ад нямецкага *Späher*). Употай цікуючы за некім, мы тым самым *шпягуем* або, іначай кажучы, *шпікуем*. Ангельскі паходжаньнем *дэтэктыў* — гэта ўжо пазьнейшае пазычаньне: прынялося й пашырылася ў нас яно ў XX ст.

Шукаючы сынонімаў *сышчыку*, мы набралі сем словаў. Гаворачы або пішучы, не забываймася, што ў нас ёсьць выбар.

## Тэлебачаньне і тэлевізія

Як ставіцца да суіснаваньня ў мове назоўнікаў *тэлебачаньне* й *тэлевізія*? Хто-ніхто сумняецца, ці не выпадковы ў нашай мове назоўнік *тэлевізія*. Невыпадковы.

*Тэлевізія* — звычайнае інтэрнацыянальнае слова: першая частка — грэцкага паходжаньня (*tēle*), другая — лацінскага (*visio*). З назоўніка *тэлевізія* вынікае прыметнік *тэлевізійны*. У расійскай мове на месцы інтэрнацыянальнай *тэлевізіі* замацавалася ў XX стагодзьдзі паўкалька *телевидение*. У 1950-ыя гады ў БССР якраз-такі на ўзор гэтай расійскай паўкалькі аформілася слова *тэлебачаньне*. Але калі ад назоўніка *тэлевізія* ў мове ёсьць вытворныя словы, то ад *тэлебачаньня* нарматыўных вытворных няма: з аднаго боку, *тэлевізія*, *тэлевізійны*, *тэлевізійнік*, *тэлевізар*, з другога, адно *тэлебачаньне*.

У сучасных акадэмічных слоўніках фігуруе толькі *тэлебачаньне*, *тэлевізіі* пакуль што няма. Пры гэтым *тэлевізія* рэгулярна ўжываецца ў сучасных тэкстах і ў жывым маўленьні. Паглядзім, як пакіруецца суіснаваньне *тэлебачаньня* й *тэлевізіі*. І, вядома, ня баймася назоўніка *тэлевізія*, арганічнага ў лексыцы нашай літаратурнай мовы.

## Увагу даваць / аддаваць / удзяляць

*Даваць*, *аддаваць* і *надаваць* — ці ўсе гэтыя аднакаранёвыя дзеясловы могуць спалучацца з назоўнікам *увага*?

Сумневаў што да першых двух — *аддаваць* і *даваць* — няма: скіроўваючы на некага ці на нешта *ўвагу*, мы тым самым яе *аддаем* або проста *даем*. А вось для дзеяслова *надаваць* спалучэньне з *увагаю* нетрадыцыйнае. *Надаюць*, як правіла, форму, якасьць, уласьцівасьць, характар. Прызнаючы важнасьць нечага, мы *надаем* яму *значэньне(я)*. Якраз пад уплывам ці на ўзор выразу *надаваць значэньне* зьявілася ў мове словазлучэньне *надаваць увагу*. Замену аднаго дзеяслова на другі можна тлумачыць іх вялікай фармальнай блізкасьцю. Часам словазлучэньні, узьніклыя ў выніку, скажам так, скрыжаваньня двух самастойных злучэньняў, замацоўваюцца ў мове. Магчыма, такі лёс будзе й у выразу *надаваць увагу*. Пакуль, аднак, варта выбраць традыцыйнае: *аддаваць* або *даваць увагу*. І яшчэ, натуральна, — *удзяляць увагу*.

Пры канцы яшчэ раз успомнім пра *ўвагу*. Гаворым па-беларуску: ***аддалі*** *новаму матэрыялу шмат увагі,* ***далі*** *калегу трохі ўвагі,* ***удзялілі*** *родным усю сваю ўвагу.*

## Унікаць, уніклівасьць, уніклівы

Наш менскі слухач Павал папрасіў пракамэнтаваць ужываньне ў літаратурнай мове дзеяслова *ўнікнуць*. Паўла найперш цікавіць, ці варта выкарыстоўваць гэтае слова ў значэньні ‘ўдумацца, пастарацца зразумець існасьць нечага’.

Нарматыўныя слоўнікі ў такім значэньні дзеяслоў *унікнуць*, вядома ж, фіксуюць, але ў літаратурным маўленьні ён часьцей ужываецца ў іншым сэнсе: кажучы, што *ўнікаюць нечага* або *некага*, маюць на ўвазе, што *ўхіляюцца*, *пазьбягаюць*, *абмінаюць*, *устрымліваюцца* (***унікаюць***, да прыкладу, *непажаданых сустрэч*, *кантактаў*, ***унікаюць*** *сварак*). Беларускія словазлучэньні *ўнікаць праблем* і *ўнікаць у праблемы* нясуць процілеглы сэнс: ‘пазьбягаць, не заўважаць праблем’ і ‘разьбірацца з праблемамі’. Дапускаючы слова *ўнікаць* у сэнсе ‘ўдумацца’, не забываймася, што з гэтым значэньнем маем у мове шэраг іншых дзеясловаў: *у праблему* можам ***заглыбляцца***, ***удавацца***, ***уваходзіць***, ***пранікаць***, *у праблеме* можам ***разьбірацца***.

Зь неадназначнасьці дзеяслова *ўнікаць* ідзе й неадназначнасьць вытворных ад яго словаў — прыметніка *ўніклівы* й назоўніка *ўніклівасьць*. Без кантэксту нельга ясна зразумець такога, напрыклад, сказу: *Ён —* ***уніклівы*** *чалавек*. Ці той чалавек ухіляецца ад нечага, не выказвае адкрыта, шчыра сваіх думак, ці проста ў нешта заглыбляецца? Несумненна, для яснасьці думкі, як хочам падкрэсьліць, што чалавек глыбока пранікае ў існасьць, варта аддаваць перавагу адназначным лексычным сродкам: ***дапытлівы***, ***праніклівы*** *чалавек*; *чалавек*, *якому ўласьцівая* ***праніклівасьць, дапытлівасьць***.

## Урэшце, нарэшце, канец канцом, канец канцоў, надосталь, наапошку

У сучасным беларускім маўленьні даволі рэгулярна чуем спалучэньне *у рэшце рэшт.* Часам, праўда, гэтае спалучэньне крытыкуюць — некаторыя аўтары зьвяртаюць увагу на яго штучнасьць, калькаванасьць, адзначаюць "перапісанасьць" названай беларускай фразэмы з расійскага ўстойлівага спалучэньня *в конце концов.* Як ставіцца да такіх ацэнак? Ужываць, нягледзячы ні на што, канструкцыю *у рэшце рэшт* ці, можа, аддаваць перавагу больш характэрным для нашае мовы сродкам?

У слоўніках беларускае дыялектнае мовы мне не ўдалося знайсьці спалучэньня *у рэшце рэшт.* Мяркуючы з усяго, гэтая фразэма — прадукт першае паловы XX ст., прадукт, які ўзьнік у прасторы літаратурнага маўленьня. У жывой народнай мове на месцы кніжнага спалучэньня *у рэшце рэшт* выступалі й выступаюць як паасобныя словы, так і словазлучэньні.

Пачаць пералік традыцыйных адпаведнікаў трэба з прыслоўяў *урэшце* (*[урэс'ц'э]*) й *нарэшце* (*[нарэс'ц'э]*) — абодва яны паходзяць ад слова *рэшта*, вытокі якога ў лацінскай мове, у дзеяслове *restare* 'заставацца'. Гаворым, напрыклад: ***урэшце*** *мы сустрэліся,* ***нарэшце*** *ён прыйшоў.* Каб падкрэсьліць, што ў канчатковым выніку мы ўсё ж сустрэліся, а ён прыйшоў, нам даволі словаў *урэшце* або *нарэшце.* Вартыя пашырэньня ў літаратурнай мове й роўныя з памянёнымі прыслоўямі паводле сэнсу спалучэньні *канец канцом* і *канец канцоў. "І ты* ***канец канцом*** *паварушы глуздамі"*, — запісаў на Меншчыне мовазнаўца Фёдар Янкоўскі. У

сваёй кнізе "Беларуская фразеалогія" (Мн., 1968) Янкоўскі падаў таксама ілюстрацыі ўжываньня названых выразаў, выбраныя з запісаў фальклярыста, этнографа Міхала Федароўскага: *"Дык ён круціў, муціў, але такі* ***канец канцом*** *мусіў прызнацца. Усё ж* ***канец канцоў*** *дадумаліся"*.

І яшчэ на два словы хацеў бы зьвярнуць увагу — каб наш сынанімічны рад быў паўнейшы. Маю на думцы прыслоўі *надосталь* (*надосталі*) і *наапошку* — ясная рэч, на сёньня яны сярод рэзэрваў літаратурнае мовы. Формы *надосталь* і *надосталі* зафіксаваў у знакамітым слоўніку беларускае мовы Іван Насовіч (да прыкладу, ***надосталь*** *прызнаўся* — значыць, ***урэшце, канец канцом*** *прызнаўся*). У сваю чаргу зусім празрыстае слова *наапошку* — з эміграцыйнае моўнае практыкі: знаходзім яго ў творах паасобных беларускіх літаратараў-эмігрантаў. *"Спачатку прабаваў Бурак кпіць з кабеты, пасьля дакараць, а* ***наапошку*** *й зусім узлаваўся.* ***Наапошку*** *не было ўжо чым плакаць: перасохлі сьлёзы"*, — гэтыя два сказы я выпісаў з трылёгіі Кастуся Акулы "Гараватка".

Такім чынам, поруч з кніжна-калькаваным *у рэшце рэшт* маем цэлы шэраг роўных значэньнем словаў і словазлучэньняў — прапанаваны тут пералік, натуральна ж, не прэтэндуе на вычарпальнасьць. Найперш не забываймася ў нашым выпадку на прыслоўі *ўрэшце* й *нарэшце* — аддавайма ім перавагу. Пры гэтым шанец у літаратурным ужытку можна, думаю, даваць і рэзэрвовым пакуль адпаведнікам: *канец канцом*, *канец канцоў*, *надосталь*, *наапошку*.

## Утаймоўная кашуля

Калегі спыталіся пра беларускі адпаведнік расійскага спалучэньня *смирительная рубашка*. На гэтае пытаньне цяжка даць адназначны адказ: няма ў нас на сёньня аднаго рэгулярна ўжыванага беларускага адпаведніка.

З ходу я сказаў калегам пра *ўціхамірвальную кашулю*. У сучасных слоўніках ёсьць рэдкі прыметнік *уціхамірвальны*, а вось спалучэньне *ўціхамірвальная кашуля* ўдалося знайсьці ўсяго ў двух слоўніках — абодва польска-беларускія (даўнейшы, 1962 году выданьня, і найнавейшы сёлетні, падрыхтаваны ў акадэмічным Інстытуце мовазнаўства). Вядома, *уціхамірвальная кашуля* — калька, мы застаемся ў каардынатах расійскага спалучэньня: адзежыну з завязванымі на сьпіне доўгімі рукавамі называем *кашуляю*, а не *капотаю*, скажам, ці *каптаном*, да таго ж скарыстоўваем яшчэ й “груваскі” кніжны прыметнік *уціхамірвальны*.

Здаецца, у яго ролі пэрспэктыўней выглядаюць прыметнікі, утвораныя ад сынанімічнага слову *ўціхамірваць* дзеяслова *ўтаймоўваць*: *утаймоўны* і *ўтаймавальны* (*утаймоўная кашуля* або *ўтаймавальная кашуля*). Зь цягам часу ўбачым, які з варыянтаў — *кашуля ўціхамірвальная*, *утаймоўная*, *утаймавальная* ці, можа, яшчэ проста *заспакаяльная* — задамінуе ў беларускім літаратурным маўленьні.

## Уціскаць чалавека — уціск чалавека

Часам гавораць і пішуць пра *ўціск на некага* ці *на нешта*, прыкладам, *уціск на выбарнікаў*, *уціск на незалежныя мэдыі*. Такія канструкцыі з прыназоўнікам *на* пры слове *ўціск* памылковыя. Іх прычынаю — афармленьне спалучэньняў з назоўнікам *уціск* на ўзор канструкцыяў з словам *ціск*. *Ціск* можа быць *на некага* або *на нешта*: беларускія ўлады, скажам, рэгулярна чыняць *ціск на* непадцэнзурныя газэты й часопісы.

З *уціскам* у граматычным пляне іначай. Назоўнік *уціск* — ад дзеяслова *ўціскаць*. Пры гэтым дзеяслове прыназоўнік *на* не ўжываецца, а залежнае слова ставіцца ў форме роднага склону: абмяжоўваючы свабоду чалавека, ягоныя правы, *яго* тым самым *уціскаюць*. Назоўнік *уціск* кіруе залежным словам гэтаксама, як і дзеяслоў *уціскаць*: як *уціскаць чалавека*, так і *ўціск чалавека*.

Адрозьнівайма канструкцыі з назоўнікамі *ціск* і *ўціск*. Гаворым правільна: *ціск на выбарнікаў*, *на апазыцыйныя партыі*, *на непадкантрольных уладзе журналістаў*, але *ўціск незалежнай прэсы*, *уціск айчынных музыкаў*, *уціск грамадзянскай супольнасьці*.

## Хвіліна і мінута

Неяк пры чарговай зьмене раскладу перадач беларускай “Свабоды” на нашым сайце было зазначана, што выпускі навінаў гучаць *“кожныя 15 мінут”*. Наш слухач Сяргей Лапуць даслаў пытаньне: чаму ў раскладзе *мінуты*, а не *хвіліны*?

Словы *хвіліна* й *мінута* раўнапраўныя ў нашай мове ў значэньні 60-тай часткі гадзіны — 60 сэкундаў. *Мінута* — назоўнік лацінскага паходжаньня, у даслоўным перакладзе — ‘маленькая, дробная’. У сярэднявечнай лаціне было спалучэньне *pars minūta prima* ‘першая малая частка (гадзіны)’. У старабеларускай мове *минута* ўжывалася ня толькі ў часавым сэнсе, але й на абазначэньне кароткай выпіскі, копіі. Да прыкладу, у тэксьце 1495 году чытаем: *“**минуту**, выписаную съ тыхъ книгъ, передъ нами вказывали”*. Для народнай беларускай мовы XIX — XX стст. *мінута* й яе фанэтычны варыянт *мінюта* характэрныя ўжо толькі ў часавым значэньні.

Бачым, што слова *мінута* мае шматвяковую традыцыю ўжываньня ў нашай мове. У нас яно, дарэчы, зьявілася на пару стагодзьдзяў раней, чымся ў расійскай мове. Тым ня менш часта ў літаратурным маўленьні мы сьвядома дыстанцыюемся ад *мінуты*, аддаем перавагу слову, якога няма ў расійскім лексыконе, — назоўніку *хвіліна*. Яго вытокі — у старажытнаверхненямецкім слове *hwīl* (*hwīla*) — даслоўна ‘час, гадзіна, імгненьне’.

Незалежна ад нашых сымпатыяў да канкрэтнага слова памятайма, што 60-ую частку гадзіны можам назваць па-беларуску як *хвілінаю*, так і *мінутаю*: навіны ў эфіры радыёстанцыі гучаць кожныя 15 *хвілін* або 15 *мінут*.

## Цяпер і зараз

Шмат хто, вывучыўшы беларускую мову з кніжак, мяркуе, што словы ***цяпер*** і ***зараз*** — абсалютныя сынонімы. Трактуюць ***зараз*** як беларускі адпаведнік расійскаму ***сейчас*** у двух яго значэньнях і гавораць: ***зараз*** *добрае надвор'е* або ***зараз*** *пяць гадзін*. З пункту гледжаньня традыцыйнай беларускай мовы такое ўжываньне проста памылковае.

Ад ***зараз*** на месцы ***цяпер*** перасьцерагалі ў XX ст. шматлікія айчынныя аўтары. Прычына ўся ў тым, што ***зараз*** — слова з прасторы будучага часу. Беларускае ***зараз*** — знак, што нешта адбудзецца неўзабаве, хутка, па малым часе, вось-вось: ***зараз*** *прыйду*, ***зараз*** *зраблю*, ***зараз*** *убачым*. Можа быць і ***зараз*** *іду* — калі дзеяслоў цяперашняга часу ўжыты ў значэньні будучага, калі маем на думцы, што празь які малы час *пойдзем*. Натуральнае ў нашай мове прыслоўе *зараз* і пры паказаньні, што нешта адбывалася, адбываецца або можа адбыцца адразу пасьля нечага: скажам, *зрабіў* ***зараз*** *жа пасьля сьвята, як прачытаў,* ***зараз*** *жа напісаў.*

Як бачым, слова ***зараз*** мае тыповыя ўласныя ролі ў мове. Як, зрэшты, і прыслоўе ***цяпер***. Нам застаецца толькі ўжываць кожнае слова на сваім месцы. Вось напрыклад: ***цяпер*** раніца, ***цяпер*** сьнедаем і слухаем радыё, а ***зараз*** ужо будзем зьбірацца, ***зараз*** пойдзем з дому.

## Чувайце, будзьце пільныя, чуйнуйце

Наш слухач пытаецца:

*“Хацелася б пачуць камэнтар наконт слова* ***чуваць****, якое ў беларускай Бібліі ўжываецца ў значэньні расійскага* ***бодрствовать****. Таксама пракамэнтуйце, калі ласка, слова* ***чутнасьць*** *— хоць яно ёсьць у слоўніках, але, мне падаецца, гучыць штучна. З прывітаньнем, пэнсіянэр Канстанцінавіч”.*

*“****Чувайце*** *і малецеся, каб не паддацца спакусе”*, — чытаем у перастворaным Васілём Сёмухам Сьвятым Дабравесьці паводле Мацьвея. *Чувайце* азначае тут — ‘будзьце чуйныя, пільныя, будзьце напагатове’. У такім самым сэнсе слова *чуваць* выкарыстоўваў у сваім перакладзе Бібліі й айцец Уладзіслаў Чарняўскі. Увогуле, у сучасных беларускіх рэлігійных тэкстах такое ўжываньне слова *чуваць* раз-пораз здараецца, хаця яго, вядома, не назавеш традыцыйным для нашае мовы. Значэньне ‘быць чуйным’ было перанесенае на беларускае *чуваць* з польскага дзеяслова *czuwać*. Ці ніяк не абысьціся нам бяз гэтага перанясеньня, без ужываньня сэмантычнае калькі з польскае мовы?

У XX стагодзьдзі бальшыня беларускіх перакладчыкаў Бібліі скарыстоўвала ў разьбіраным тут значэньні іншыя сродкі. Скажам, Антон Луцкевіч і Лявон Дзекуць-Малей перадалі сэнс будзённым *ня сьпіце*, у Янкі Станкевіча ў гэтым выпадку спалучэньне з экзатычным у літаратурнай мове прыметнікам *чукавы* — *будзьце чукавыя*, у Анатолі Клышкі — проста *будзьце чуйныя, будзьце пільныя.*

Здаецца, у ролі ўсіх названых тут сродкаў варта нам, у тым ліку і ў рэлігійнай практыцы, шырэй выкарыстоўваць беларускі дзеяслоў *чуйнаваць* —

паходжаньнем ад прыметніка *чуйны*. Мы ня сьпім, застаемся напагатове, напашэўку — значыць, *чуйнуем*. Гэтае слова пусьціла ўжо карані ў мове мастацкае літаратуры і, думаю, мае ўсе падставы зь цягам часу стаць фактам беларускіх рэлігійных тэкстаў.

*Не гаманіце, вербы, не будзіце,*
*Ня грайце, ветры, у зялёным вецьці:*
*Яна ўсю ноч* ***прачуйнавала*** *зь дзіцем*
*І задрамала толькі на дасьвецьці*, — гэтая ілюстрацыя ўжываньня дзеяслова *прачуйнаваць* — з паэтычнае мовы Ніла Гілевіча. Ад дзеяслова *чуйнаваць* ёсьць у мове і вытворны назоўнік — *чуйнаваньне*. ***Чуйнаваньне*** *ў валадарстве сну* — так гучыць загаловак аднаго з артыкулаў у газэце “Наша ніва”.

А цяпер — яшчэ колькі словаў пра назоўнік *чутнасьць*. Ён, відавочна, суадносіцца з словамі *чутны* й *чутна*. *Чутнасьць* — гэта ступень выразнасьці *чутнага*, таго, што *чутна*, што *чуваць*. Ясна, што назоўнік *чутнасьць* кніжны, адсюль і пэўны недавер да гэтага слова ў нашага слухача, аднак ня думаю, што ў гэтым выпадку магчымая нейкая замена. Бяз слова *чутнасьць* нам не абысьціся — гаворым пра добрую ці, наадварот, кепскую *чутнасьць*, вызначаем мяжу *чутнасьці*, зону *чутнасьці*.

## Чымся й чымсьці

*Чымся* й *чымсьці* — два словы з сучаснага беларускага маўленьня, прычым словы розных часьцін мовы. Здараецца, аднак, што на месцы злучніка *чымся* выкарыстоўваюць займеньнікавую форму *чымсьці*.

*Чымся* — зь **-ся** на канцы — абсалютна роўнае паводле значэньня з злучнікамі *чым*, *як*: напрыклад, *зрабіў больш, **як** / **чым** / **чымся** ён*, *разумеў дакладней, **як** / **чым** / **чымся** мы*. Злучнік *чымся* фіксуюць акадэмічныя тлумачальныя слоўнікі нашай мовы. Наагул, у літаратурным маўленьні XX ст. гэтае слова даволі рэгулярнае, на пісьме найперш у тэкстах мастацкага стылю. Знаходзім *чымся* таксама ў публіцыстычных і навуковых тэкстах. Вось, да прыкладу, ілюстрацыя зь вядомай працы Ігната Абдзіраловіча "Адвечным шляхам": *"...зьніч літоўскага князя гарэў ярчэй, **чымся** крыжы кіеўскага князя і польскага караля".*

Каб не памыліцца й ня ўжыць замест злучніка *чымся* формы *чымсьці*, памятайма, што *чымсьці* — гэта ўжо слова другой часьціны мовы — займеньнік. *Чымсьці* — ад слова *штосьці*. Гаворым: ***чымсьці** ён нам запомніўся*, ***чымсьці** нагадаў пра сябе.*

Цяпер ізноў пра *чымся*. Паасобныя беларускія слоўнікі дапускаюць як факт літаратурнай мовы слова *чымся* ў функцыі займеньніка — якраз у значэньні словаформы *чымсьці*. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" займеньнікавая форма *чымся* ілюструецца Коласавым ужываньнем з трылёгіі "На ростанях": *"Лабановіч усе гэтыя дні чуў сябе як бы **чымся** зьвязаным, як бы на ім была надзета цесная адзежына".* *Чымся* тут — варыянт

формы *чымсь*. *Чымсь* і *чымся* — гэта словаформы неазначальнага займеньніка *штось*. Заўважу, аднак, што ў сёньняшняй літаратурнай маўленчай практыцы займеньнікавы варыянт *чымся* фактычна не ўжываецца — гаворым *чымсь* або *чымсьці* (ад *штосьці*): *спыніўся на* ***чымсь*** / ***чымсьці*** *важным*.

Пры канцы тэмы яшчэ раз перасьцерагаю вас ад зьмяшэньня злучніка *чымся* з займеньнікам *чымсьці*. Скажам правільна: *мёд саладзейшы,* ***чымся*** *цукеркі; надалі большую ўвагу зьместу,* ***чымся*** *форме;* ***чымсьці*** *былі ўсьцешаныя;* ***чымсьці*** *парадавалі блізкіх.*

## Шкляначкі ці кубачкі?

У сучаснага празаіка прачытаў пра *поліэтыленавую шклянку*, а ў газэце — пра *папяровыя шкляначкі*. Цяжка прыняць такое называньне. *Шклянка* завецца *шклянкаю*, бо яна *шкляная*. Калі ж пасудзіна цыліндрычнае формы не шкляная, а выробленая зь якога іншага матэрыялу, то называць яе трэба інакш. І тое, што расійскі *стакан* прыдатны на ўсё, ня значыць, што на ўсе выпадкі прыдатная наша *шклянка*.

Пасудзіну, зь якой п’юць, па-беларуску рэгулярна называюць *кубкам*, *кубачкам*. Прычым *кубак* можа быць як з ручкаю, так і безь яе, а выробляюць *кубкі*, як вядома, з самага рознага матэрыялу. *Кубак* — слова сэнсава шырокае, таму яно абсалютна дарэчы для называньня аднаразовага посуду. Вось жа, *кубак*, *кубачак* можа быць ня толькі фарфоравы, скажам, ці гліняны, можа быць таксама поліэтыленавы, папяровы. Добрую ілюстрацыю я выпісаў з прозы Ўладзімера Арлова: *“У кавярні мы найчасьцей замаўлялі арэхавы лікёр, што, як і ўсё астатняе, там налівалі ў блакітныя* ***плястыкавыя кубачкі*** *— дакладна з такіх частавалі мінэралкаю й ліманадам стуардэсы ўнутраных авіяліній”*.

То ж запомнім: ***шклянкаю*** называем па-беларуску толькі *шкляную* пасудзіну, аднаразовы *папяровы*, *плястыкавы* посуд — гэта ***кубкі***, ***кубачкі***.

## Шлях і дарога

Ці можна сказаць па-беларуску, што нехта *сабраўся* або *выправіўся ў* ***шлях***? Ці выпадае зычыць *добрага* або *шчасьлівага* ***шляху***? Іначай кажучы, ці дарэчы ў названых спалучэньнях слова *шлях*?

Адказаць можна адназначна: *шлях* тут недарэчы. На яго месцы мае стаяць другое слова — *дарога*. Гадоў сорак назад, камэнтуючы факты літаратурнай мовы, пісьменьнік, тонкі стыліст Ян Скрыган браў увагу на выпадкі, калі словам *шлях* карыстаюцца ў нас *“супроць законаў мовы”*. *“У беларускай мове,* — пісаў Скрыган, *— разуменьне* ***шлях*** *толькі канкрэтнае. Калі мы гаворым “шлях”, то нават уяўляем сабе шырокую наежджаную дарогу. “Праедзеш палявую* ***дарогу***, *а там выедзеш на* ***шлях***”. *(...) А ў адцягненае разуменьне ў нас пераходзіць ня* ***шлях***, *а* ***дарога***”. Вось жа, мы, кажучы па-беларуску, *выбіраем сабе* ***дарогу***, *пускаемся ў* ***дарогу*** *ды ідзем сваёй* ***дарогаю***, *пракладаем сабе* ***дарогу*** *ў жыцьці, выводзім дзяцей на самастойную* ***дарогу***. Слова *дарога* і ў тым успомненым на пачатку тэмы зычэньні — зычым *добрай* або *шчасьлівай* ***дарогі***.

Вядома, зважаючы на факты нашай кніжнай мовы, няма сэнсу ставіць пад сумнеў многіх выпадкаў пераноснага ўжываньня назоўніка *шлях*. Трывала, скажам, прыжыўся *шлях* у значэньні кірунку дзейнасьці, разьвіцьця нечага, у значэньні спосабу дасягненьня чаго-небудзь.

Гэтая тэма — хутчэй перасьцярога, каб *шляхам* тым ня злоўжываць, не падмяняць ім *дарогі*. *Зьбіраемся* й *выпраўляемся ў* ***дарогу***, *зычым шчасьлівай* ***дарогі***.

## Добрай раніцы! ці ўсё ж Добры дзень!

Як мы вітаемся раніцаю? Ці традыцыйнае для беларускай моўнай традыцыі вітаньне *“Добрай раніцы!”*? Нагодаю, каб вярнуцца да гэтае тэмы , стаў званок адной з нашых слухачак. Слухачка перасьцерагае ад выкарыстаньня прывітальнага словазлучэньня *“Добрай раніцы!”*

*“**Добрай раніцы**” — гэта калька з расійскай мовы. У Беларусі няма “Добрай раніцы!”, ёсьць “**Добры дзень**!”*

Нельга не пагадзіцца, што вітаньне *“Добрай раніцы!”* ў Беларусі нетрадыцыйнае: да савецкага часу ў нас так не віталіся. Раніца, ранак — усяго толькі частка дня, яго пачатак. На дварэ раніца — значыць, адышла ноч і надышоў дзень. У беларускім моўным этыкеце не было асобнага вітаньня на ранак, таксама, як няма яго, скажам, у французаў або палякаў. Вякамі і раніцаю, і ўдзень беларусы віталіся, спраўляючыся бяз *“Добрай раніцы!”*: *“Добры дзень!”, “Дзень добры!”, “Дабр**ы**дзень!”*.

Вітаньне *“Добрай раніцы!”* скалькавалі ў мінулым стагодзьдзі. За беспасярэдні арыенцір пры калькаваньні магла служыць расійская форма *“Доброго утра!”*; магчыма, зважалі й на ўкраінскае *“Доброго ранку!”* — і выйшла *“Добрай раніцы!”*, а ня *“Добрая раніца!”*. Зрэшты, у паасобных слоўніках савецкага часу можна трапіць і на форму *“Добрая раніца!”* (напрыклад, у “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы для сярэдняй школы” А. Баханькова, І. Гайдукевіча й П. Шубы).

У літаратурным ужытку за пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі калька *“Добрай раніцы!”* збольшага, несумненна, прыжылася. Памятаю, на самым па-

чатку 1990-ых у “Самавучку беларускай мовы” на нетрадыцыйнасьць *“Добрай раніцы!”* зьвярнуў увагу пісьменьнік Анатоль Клышка. Тады шмат для каго з Клышкавых чытачоў, носьбітаў літаратурнае мовы, гэта было сапраўдным адкрыцьцём. За 1990-ыя крытычнага стаўленьня да скалькаванага вітаньня ў нас паболела — паболела людзей, якія сьвядома высьцерагаюцца *“Добрай раніцы!”*. І ўсё ж ня думаю, што ўдасца ў агляднай будучыні цалкам выкасаваць з мовы гэтае вітаньне. Але ведаць пра яго нетрадыцыйны, калькаваны характар і старацца вітацца так, як віталіся па-беларуску стагодзьдзямі, трэба.

Цяпер — раніца, пачатак дня. І я вітаю вас: *“Добры дзень!”, “Дабрыдзень!”, “Добрага вам дня!”*.

# Паказальнік словаў

### Г

**Д**

**Е**



**Ж**

## З

### І



### К

**Л**



**М**

**Н**

**Р**

**С**

**Т**



**У**

### Ф



### Х



### Ц

# Пра аўтара



Юрась Бушлякоў (1973–2013) — філёляг, пэдагог, журналіст Радыё Свабода. Пасьля заканчэньня школы з залатым мэдалём у Менску вучыўся на філфаку Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, які скончыў з чырвоным дыплёмам. У 2003 абараніў дысэртацыю на тэму "Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы)". Выкладаў у БДУ, у нацыянальным гуманітарным ліцэі ў Менску, у Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Перакладаў творы Э. По, Ч. Мілаша, Я. Сэйфэрта, З. Гэрбэрта. Журналістыкай займаўся ад 1994, працаваў у незалежных СМІ, на Радыё 101.2, Радыё Рацыя, апошнія дзесяць гадоў — на Радыё Свабода.

# Summary


Yuras Bushlyakou's “Living Language” is a collection of essays exploring the practical usage of modern vernacular Belarusian.

Based on Dr. Bushlyakou's instructional audio programs for RFE/RL's Belarus Service, where he was a longtime staffer, this is a lesson-by-lesson tutorial on speaking Belarusian correctly. Whether it's the proper choice of words or the right construction of sentences or the artful choice of idioms, all your questions about modern day Belarusian grammar, syntax and vocabulary are answered here by a leading expert in Belarusian philology.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў класіка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.



**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.



*Уладзімер Арлоў.*
Пакуль ляціць страла.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.



*Уладзімер Арлоў.*
Імёны Свабоды. Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.



*Сяргей Дубавец.*
Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




Слоўнік свабоды.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.



*Альгерд Бахарэвіч.*
Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.



*Валер Каліноўскі.*
Справа Бяляцкага.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.



*Юры Бандажэўскі.*
Турма і здароўе.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.



*Алег Грузьдзіловіч.*
Хто ўзарваў менскае мэтро?
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.